ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:

**Васіль Макарэвіч**
***Вершы***

**Валянціна Коўтун**
**ПАКЛІКАНЫЯ**
***Раман***

**Зінаіда Дудзюк**
**КОЛА СВАРОГА**
***Раман***

**Ніна Рыбік**
**“МАЛЕНЬКІ АСТРАВОК МАЁЙ ЗЯМЛІ...”**
***Нарыс***

8

**2003**



# ПОЛЫМЯ

8

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

(886)

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

2003

жнівень



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2003

## ЗМЕСТ

3 **ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ. Пра капейку. ***Ходзіш лесам... *** Гляджу на белакорую бярозу... Коні. *** Дзе цераз край... ***Не золата... Зорка. Паляшук.** Вершы.

11 **ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН. Пакліканыя.** Раман

66 **СОФ'Я ШАХ. Птах.** Вянок санетаў.

72 **ЗІНАІДА ДУДЗЮК. Кола Сварога.** Раман.

150 **НАТАЛЛЯ РУСЕЦКАЯ. ***Я іду па расталай зіме... ***Я глытала ноч... ***Будавала — парассыпалася... ***Аднастайных дзён маіх... ***Пустыя соты любых вуснаў... ***Хто мяне шукаў... ***Інквізітарка Восень.** Вершы.

152 **АДАМ ГЛОБУС. Дзед.**

156 **РАГНЕД МАЛАХОЎСКІ. Нарач. Шаснаццаць секунд. Выпрабаванне часам. Не ўмёрлі мы. Жыві, Беларусь!** Вершы. **Палымянскі дэбют.**

160 **БРАНІСЛАЎ СПРЫНЧАН. Запаветнае. Радзімы далягляды... Вочы каня. Гром на зялёнае голле. Алень. Жыта.** Вершы. **Пераклад з рускай Васіля Зуёнка.**

164 **ЛЕАНІД ГАЛУБОВІЧ. Паэты не паміраюць.**

166 **ВАСІЛЬ ГАДУЛЬКА. ***Ранкам клён зялёны... Усміхніся. Сон. ***Памяць сэрца... Смерць. Спёка. Песня. ***Чакай... ***Асенні ліст... ***Шоўк валасоў тваіх... Прыгожы верш. ***Зноў з-за хмаркі... Вертэр, Ева і Дон Жуан. Вэртумн і Памона. Гамер і Гелена. Санеты. Чорная госця.** Вершы.

174 **НІНА РЫБІК. «Маленькі астравок маёй зямлі...»**

183 **АРКАДЗЬ РУСЕЦКІ. У трывозе за Радзіму.**

191 **НАТАЛЛЯ АТРОХАВА. Факт у літаратуры, альбо Роздум над творчасцю Анатоля Бароўскага.**

198 **ГАННА МІЛЬКО. Асаблівасці лексічнай інтэрферэнцыі ва ўмовах руска-беларускага білінгвізму.**

208 **ЛАРЫСА РАМАНАВА. «Для красы павесь на куце...»**

221 **ВЕРА ХАЦКЕВІЧ. А прычына — вядомая.**

223 **ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ.**

**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

**ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ**

## ПРА КАПЕЙКУ

Хоць і сабою
Ценькая, малая,
А ўсходзіцца, бывала, — дым курыць!
Яна магла вяршыні Гімалаяў
Упартай альпіністкаю
Скарыць!

Калі краём
Было часамі трэба, —
З манаткамі, з душою заадно,
Узносіла тузоў высока ў неба
Альбо цягнула каменем
На дно.

Магчыма,
І гадаць зусім не варта, —
Часінаю разрухі, паміж тым,
Сапраўднае капейкі быў ці варты
Рубель, што ўсе лічылі
Залатым?!

Цікаўнасць
Зноў і зноў адмружыць вейка,
Ды на купецкі падміргне манер:
Без гэтае адзінае капейкі
Ці стаў бы мільянерам
Мільянер?

Мітрэнга
Надаралася такая,
Калі за нейкі неаплатны грэх
Сабой яна ахвярна затыкала
Дзяржаўны, з немай пашчаю,
Прарэх.

А ў дні дакукі,
А падчас і страху

Адчай да гордай, як асва, не лез.
Па вёсачках хадзіла пабірахай,
А ў горадзе — прынцэсаю
З прынцэс!

І восенню,
Часцей за ўсё на свята,
Як з місіяй высокай і святой,
Даляр пыхлівы да капейкі ў сваты
Слаў-засылаў з гасцінцамі
Сватоў.

Гулянкі
То галёкалі, то моўклі,
Трубілі у ражок берасцяны.
Хаця была малая, бы дзюймоўка,
Ды ёй, капейцы, не было
Цаны!

* * *

Ходзіш лесам
Ты, грыбнік і хват,
Паміж сосен і кашлатых елак.
Вынырне, як з-пад зямлі, бушлат
Ці руды паношаны
Шынелак.

Ў шэрых плямах,
Быццам у лісці,
Скажа, тут, у завадзях азону,
Нельга грыбніку далей ісці, —
Прад табою
Ядзерная зона.

Як было,
Урэшце, ведаць-знаць,
Што цябе, нібыта грыбакрада,
Неўспадзеў магла ракета ўзняць
У паднеб'е ядзерным
Зарадам.

І не здагадаўся,
Што ўпрытык
Каля шахты, спрытна ды і лоўка,
Зрэзаў свой найлепшы баравік
Па-над агнявой
Боегалоўкай!

Пойдзеш,
Гэтай стрэчы рад не рад,
Пасярод сасён і рыжых елак, —

Як скрозь дол праваліцца бушлат
Ці руды паношаны
Шынелак.

*1990*

* * *

Гляджу
На белакорую бярозу,
Далёка ад палацаў і сталіц.
Яна каля дарогі, на парозе
Майго юнацтва, у смузе
Стаіць.

Калі вішчалі
На паўсвета пілы,
І дзяцел дзюбай біў, як малатком,
Яна мяне не раз, было, паіла
Бярозавым атрутным
Малаком.

Пад гул і скогат
Гнеўнага металу,
Што ўсё крамсаць і нішчыць пагатоў,
Яна карэннем прагным усмактала
Гаркоту артналётаў
І франтоў.

Я ведаю,
Нямая, не хацела
Даваць мне вымя ўдойнага камля
Там, дзе ад гулу проста вар'яцела
І ў дыме захлыналася
Зямля.

Хоць з пядзю ростам,
Ды латак пад сэрца
Я мог у гневе глыбака ўсадзіць.
І дыму з-пад бяросты не вядзерца,
А поўную кадушку
Нацадзіць.

У нетры волкай,
На задворках тылу,
Падняўшы ўгору правае плячо,
З бярозавікам чад і дым тратылу
Смакатаў і скавытаў я,
Бы ваўчо...

А стане хмара
Небам вылачыцца,
І ўдарыць гром, і ў роце загарчыць, —

Душа мая, бы чуйная ваўчыца,
Прачнецца ды у гневе
Загірчыць.

### КОНІ

Стогнуць франты,
А на шэрым франтоне
Ў дыме рудым
З Брандэнбургскіх варот
Дыбяцца грозна жалезныя коні,
Быццам бы хочуць пусціцца
У лёт.

Грозная ява,
А ўсё, нібы ў казцы.
Там, у Берліне, на ўскрайку вайны,
Нашаму бацьку ў прастрэленай касцы
Коні-стаеннікі добра
Відны.

Крыўдна байцу, —
Ім бы ранкам у золі
Стрыгчы траву або ў полі гуляць.
Ах, каб хто-небудзь у штабе дазволіў
Хоць бы каторага з іх
Зацугляць!

Ціўкаюць кулі
Ды свішча жалеза
Там, каля сцен, нібы ўздыбленых крыг.
Толькі б асколак, як брытвай, не зрэзаў,
Доўгую грыву наўзмах
Не састрыг.

Бацька
Залёг у кювеце з сябрамі
Ды цераз дым і завалы глядзіць, —
Можа, каторы з імперскае брамы
Скокне на дол, да яго
Падляціць...

Як там было?
Толькі, помню, на ферму
Ранак сівы ў шынялі навырост
Прама з Германіі коней трафейных
Пугай прыгнаў аж за тысячы
Вёрст.

Так шчыравалі,
Што браліся пенай,

Хоць і былі яны з іншых шырот.
Можа, то быў падарунак ваенны —
Коней табун з Брандэнбургскіх
Варот...

* * *

Дзе цераз край
Нуклідаў і азону,
Каля азёр і вірлавокіх рэк,
Па тартаку чарнобыльскае зоны
Блукае ваўкалак
Ці чалавек?!

З гушчарніку
Ён вылезе на гала,
Пакінуўшы ў сырым імху сляды.
Якая пошасць ці бяда загнала
На лядзішча атрутнае, сюды?

Чаго дзівіцца!
Не любіў газоны
І, пэўна, з-за сваёй жа дураты
Змяніў драты адной калючай зоны
На гэту зону
І яе драты...

Круглее нарасць
На сасне, як бохан, —
Нямала тут пушчанскіх грозных дзіў!
Хто ведае: ці ў сэрцы носіць Бога,
Але адзін ён з пушчай
На адзін.

Зірне навокал —
У лясным зацішку,
Дзе не прайсці з-за ягад і груздоў,
Узносіцца, як вартавая вышка,
Рудая сухадрэвіна
З гняздом.

Не чуе
Рок-н-рола ён і шэйкаў,
У цішыні птушыны гам-дэбош.
Хто ён — бунтар сягонняшні, Машэка,
Або з білетам воўчым
Гіблы бомж!

Які там бомж...
Ён дыхае азонам,
Частуецца туманным малаком.
Прывыкла да яго нямая зона

І лічыць самым блізкім
Сваяком.

Прымае нанач
Да сябе бяроза,
А хто ён — ёй зусім не ў галаве...
А зранку зноўку фыркаюць стракозы,
Ды конікі стракочуць
У траве.

* * *

Не золата —
Даваў я серабро
І на вадзе імя выводзіў віламі.
Ах, Божа мой, не тое ў сне рабро
На ўзмежку ты ў мяне
Нячутна выламіў.

Дарма
Смугі вілася кісяя
І дождж кусты апаласкаў залеваю.
Мне суджанаю сталася змяя,
Што ўстала прада мной
Біблейскай Еваю.

Я абіраю
Клін лясных ажын.
Надзея на дзялянку надта слабая.
Змяя, з якою столькі год пражыў,
Зрабілася даўно Ягою-
Бабаю.

Яе не кляў.
І сёння не кляну,
Хаця і б'е бяда пад бокі віламі.
Ды зноў прашу я, Божа: рабрыну
Не з цела, а з душы
Дастань ды выламі!

Хай маладзіца
Лёгкая, як дым,
Што вечна і трывожыла, і вабіла,
Дзе ржышча легла зліткам залатым,
Насустрач выйдзе разам
З летам бабіным.

### ЗОРКА

Хіба не мог
У наступе на золку
Аж сто вятроў, нібы сто кляч, загнаць?

А зараз ён стаіць і хоча Зорку
За медзякі іржавыя
Загнаць.

Рыпіць пратэз
Удумна і цвяроза.
І на таўкучцы, як на скразняку,
Скажы, герой, чаго сплываюць слёзы
Велічынёй па добрым
Кулаку?!

Незразумела
Сёння нават дошцы,
Хоць ты яе сячы ці сходу рэж, —
Ці да канца ты стаўся пераможцам,
Што Залатую Зорку
Прадаеш?!

Ніколі ты
У роспачы не божкаў,
А тут завыць гатоў, як вые дог.
Прымаеш, як падачку, хлеба крошкі
Ад тых, каму гукаў ты:
«Хэндэ хох!»

Хоць чуў вайны
Раскацістае рэха,
Зярняты сыпаў у раллю з сяўні.
У памяці тваёй цяпер прарэхі,
У побыце — прарэхі
І ў сям'і.

Не ведаю,
Як будзе гэта звацца, —
Мо здрадаю без краю і без меж?
Не Зорку — Перамогу, як на звалцы,
На гарадской таўкучцы
Прадаеш.

Такую Зорку,
З водсветам баліда,
Адна вайна магла ў агні адкуць!..
Ты плачаш з гаркатою інваліда,
Ды і ў мяне з вачэй
Струмкі цякуць.

### ПАЛЯШУК

*Аляксею Слесарэнку*

Меў ці не меў
На юшку акунёў, —
Як чорт, ён лётаў па Дняпры на лодцы.

Галёкаў так, бы сотня крыкуноў
З начы сядзела
У ягонай глотцы.

Дзівак быў сам,
І родам з дзівакоў, —
Адлежаўшы бакі на шэрым голлі,
За гарнец гаркаты для землякоў
Мог гапака адбіць
І на вуголлі.

Хваліўся,
Хоць і жыў штодня наўскач,
Ён хлопцам, што грашылі і манілі:
Яго ў магілу стануць апускаць,
Нагою дрыгне ён
І ў дамавіне.

Калі фашысты
Правялі адлоў
І — «Юда!» — зараўлі пад абразамі, —
Штаны з сябе ён — шах! — уміг далоў:
Маўляў, глядзіце, —
Хіба абразаны?

Раку на бераг
Нёс ён, санцалюб,
Браў вір, як матавіла, у ахапкі.
Падняць ён мог за вугал смольны зруб
І падаткуць падніз
Пракуды шапку.

А як праходзіў,
Быццам ля агню,
Каля кабет, што навіну глыдалі, —
Штораз адна патайна на адну,
Здаецца, вінавата
Паглядалі.

Так ваксаваў
У ботах перады,
Калі шчаціны абрастаў іглiцай,
Што, гледзячыся ў іх, як малады,
Сякерай мог і ў семдзесят
Галіцца.

Ну а пайшоў,
Падаўся ў той лясок,
Дзе ўсім сялом у дол яго хавалі,
Ледзь не да хмар уздыбіўся пясок
І па-над ім апаў жаўтлявай
Хваляй.

▸ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН

# ПАКЛІКАНЫЯ

## КНІГА ДРУГАЯ

*Раман*[1]

*«Так будуць апошнія першымі, і першыя апошнімі; бо шмат пакліканых, ды мала выбраных».*

Новы Запавет. Псалтыр.
Паводле Мацвея.
Святое Дабравесце. XX. 16.

### 1

Грозны вецер Хамсін, рассёкшы важкія, як вярблюджыя гарбы, аблокі Іудэі, упаў на Нéву: ад іскрыста-белай гары да Хеўрона панесліся шалёныя падвыванні і балючыя енкі. Нарэшце, сарваўшыся з вострых скалістых іклаў, апантаны гончы пустыні расшпурляў па марскім узбярэжжы навесы для рыбацкіх сецяў, траскучыя дашчаныя чэравы мёртвых галеонаў, засыпаў пяском шпангоўты і патрушчаныя сірэны. Крыклівыя чайкі бачылі, як раз'ятраны віхор з ярасным скавытаннем укруціў у Тыверыяцкае возера барку з зернем. Але вось з пранізлівым свістам узляцеў на барханы і абагнаў атрад варты, што з высока паднятымі ятаганамі суправаджала еўнуха ў дарагім халаце. Еўнух, не прыпыняючы каня, скінуў на зямлю замардаваную прыгажуню ў скрываўленым покрыве. Верхаўцы тут жа крута развярнуліся назад: з-пад капытоў танканогіх коней уздыбілася пясчаная сечка. Пакінутая пасярод пякельных пяскоў ледзь жывая рабыня горасна падняла да неба рукі, молячы аб выратаванні. А праз сэрца Хамсіна ад прагорклай даліны бяды Ахор ужо расцягнулася доўгая спружына прыгорбленых жабракоў, што кіраваліся ў Ерузалім: з-пад дзіравых лахманоў цямнелі выпетраныя рэбры, над плячамі мільгатліва ценілася дрогкае марыва. Пустыня сустракала новых паломнікаў пагрозлівым сіпеннем.

Вецер крутнуўся ўбок, наляцеў на пракаветную, дарэшты вышчарбленую дарогу і адразу ж, быццам сутыкнуўшыся з нябачнай аслонай, прыглух. З дарогі трымтліва струменіла і рассейвалася праменне ад слядоў

---

[1] Часопісны варыянт.

Хрыста. Пустыня заціхла. Хамсін з лёту прадзьмуў апостальскія пячоры і зноў пагнаў да Ярдана пясчаныя віхры, разносячы па наваколлі грозны звярыны рык, тонкі спеў калючых дрэўцаў, траскучыя пагрозы грымучых гадаў. Не спыняючыся, магутны віхор ударыў у белую, як херувімскія шаты, скалу, спіхнуў з яе вяршыні камень, што паляцеў на сцежку, па якой шархацела павозка з паломнікамі ў манаскіх каптурах. Глыба грымнулася аб зямлю каля задняга кола павозкі і разляцелася на вострыя аскабалкі. Самы малады з паломнікаў ад нечаканасці ўздрыгнуў і, таропка замыляўшы вуснамі, зашаптаў:

— Прэдзіўна бысць у Полотсьцэ! Биваше у нощчы туцен стоящча па вуліцэм. І, яко чэловеці, рышчушча бесі…

Павозка няшчадна зарыпела і вотрак заспяшаўся:

— …І ашчэ хто вылазяшэ з храміны, уязвен невідзімо бывашэ ото бесов язвою. Посем не саміх, но коне іх копыціны відзэ!

Малады манах падвысіў голас і азірнуўся, але яго ніхто не чуў. Усе на павозцы паглыбіліся ў зняможаную дрымоту. Зануджаны доўгай дарогай, манах, відно, летапісец, выцягваў з памяці некалі прачытанае ў пергамінах. Вецер скуголіў над самым яго вухам, зрываючы з кудлатай галавы тонкі каптур, але чарнец нічога не заўважаў:

— І бысць знаменне: лецяшчу па небесі до земле кругу огнену, і остася по следу образ змея велікаго, стоящча по небу…

Інак закашляўся і прыклаў далонь да горла, але кашаль ужо трос усё яго вялікае кашчавае цела:

— І тако уязвляху люд полотські…

Адна з падарожніц, што сядзела поруч з летапісцам, азірнулася на дарогу, змеціўшы на зямлі ледзь не за спінаю смяротны каменны друз: Хамсін злавіў насцярожаны позірк, па якім пазнаў тую, каго ўжо бачыў у штармавой прорве Сяродземнага мора. Тады шахнуў па тварах паломнікаў на павозцы лёзамі гарачага пяску, ад чаго людзі пачалі шчыльней затуляцца ў хламіды. Але абазнаная толькі ціха ўсміхалася. Над Галілеяй гусцеў жоўты гаркаваты надвячорак, нябесны покрыў над пустыняй астываў, павозка мінала чараду прыдарожных скал. Тады паломніца выпрастала плечы, з асалодаю прыплюшчыла павекі. І адразу ж пачула далёкае і ласкавае:

— Ла…да...

Чарніца міжволі азірнулася і тут жа, сумеўшыся, апусціла галаву. Але зноў уздрыгнула ад воклічу:

— Ла…да!

…Быццам паклікалі з-за ракі, з аеравага берага маленства. Ці, можа, адазваўся, прашугаўшы над мянескай зямлёю, вецер яе анёла, намачыў рабрыстыя крылы ў сцюдзёнай Свіслачы? Ці тая, раскрыжаваная ў галілейскай спякоце, птушка, што ўсё кідалася ўніз, навязаўшы да неба вісонным шнурочкам хісткую павозку. Да слыху паломніцы данеслася ціхае шаптанне дарогі, што спяшалася праз усю Галілею ў галоўны горад Святой зямлі. Ці, можа, гэтак балюча сумуе па ёй Валодша, які заўсёды назірае за Вольгаю з-за празрыстых аблокаў?

— Ла…да ! — Рэха, абганяючы разбітую дарогу, ужо неслася да паломніцы з усіх бакоў. Але тая маўчала.

…яна развучылася размаўляць нават з дрэвамі. Бо ўжо даўно перастала чуць іх. Слых мянескай князёўны Вольгі чуйна ўлаўліваў і крокі нянькі за дзвярамі святліцы, і глухое рыпенне ветракоў Запалацця, але дрэвы ёй

ужо не адгукаліся. Праўда, яшчэ ў той заслаўскай капліцы, дзе Вольга пасля ад'езду цёткі-ігуменні прачнулася з незвычайнай лёгкасцю ў целе, да яе з-пад абразоў паплыў дрогкі шэпт свечак. Здалося, што чуе ў ім галасы маці, прасветлай княгіні Сафіі, і бабулі, якія ўзімку згарэлі ад халернай трасцы. Хваля подзіву скаланула аслабелае цела, і Вольга, ціха адзываючыся родным галасам, прыўзнялася на абрыдлай лаве, да якой адразу ж заспяшаліся зарэчныя чарніцы і лекар Раман. Хацела спыніць іх, але нечакана адчула, што не можа сказаць ані слова. Тады, ашаломленая, зноў легла. Перад вачмі замітусіліся едкія зоркі. Чарніцы ўсхвалявана пыталіся ў яе аб пачуванні, але князёўна толькі сціскала вусны. А чарніцы, якія з цяжкасцю адолелі ўспучаныя пасля дажджу забалаці, адчуўшы нядобрае, адышліся і пасталі, як вялікія шэрыя птушкі, пад абразамі. Яшчэ нават не перамяніўшы набраклыя вільгаццю покрывы, здалёк узіраліся ў дзівосна ўратаваную князёўну і пілі журавінавы настой.

Важка падняўшыся з прысценнай лавы, князь Расціслаў таксама падышоў і нахіліўся да дачкі. Ад бажніцы, супакойваючы князя, даносіліся перазовы намоленай ночы. Але Вольга, заплюшчыўшы павекі, нікому не выдавала даўкіх слёз, перамаўляючыся толькі з уласнымі думкамі. Бацька-князь уздыхнуў. Выходзячы з капліцы, ён паважна кіўнуў галавою чарніцам, аддаў загад сотніку, і Вольгу тут жа пачалі апранаць для пераезду ў менскі палац.

Дома ў сваёй святліцы Вольга павесялела і стала хутка папраўляцца, але па-ранейшаму не гаварыла. Ледзь не адразу ж пасля сустрэчы з суровай полацкай лекаркай яе свядомасць быццам завалакло шэрай воўнай. Слых князёўны не ўлаўліваў ні патрэсквання набраклага сонечным сокам лісця, ні рыпучага пацягвання каранёў у зямлі. Ужо не чула яна ветрыку, што любіў яе распушаныя ранічкаю валасы. Не чула шархацення птушыных крылаў над гасцінцам і шэпту свіслацкага аеру. У палацы Глебавічаў запанавала трывожная ціша. Так горка Вользе было толькі пасля раптоўнай матчынай смерці, калі ад вострага галаўнога болю пагоршыўся слых і зрэдчас пачало адымаць мову. І хаця апошнім часам князёўне ўжо нічога не калола ў сэрца, а пад рэбрамі стала лягчэй, Вольга зразумела, што ў адчуваннях яе нешта змянілася. Аднак змен гэтых нават баялася. Дні праляталі непрыкметна; хутка на шчоках князёўны заружавеў водсвет здароў'я, і яна ўжо асмельвалася выходзіць на дзядзінец. Паспакайнелы князь Расціслаў спешна выехаў з дружынаю ў Полацак, пакінуўшы Вольгу на старую няньку і верную варту кметаў. Слугі пасля ад'езду гаспадара палаца зусім адбіліся ад рук і, не зважаючы на сваю знямелую юніцу-князёўну, часцей звычайнага наведвалі далёкае перунова капішча ў пушчы. Смерды з халупаў каля дзядзінцу таксама пачуліся вальней. Дачакаўшыся цяпла, пакаёўка Маўра пасмялела і нарэшце выманіла Вольгу з палаца.

Над падворкам раскашавала яркая поўня, і Вольга лёгка змеціла ў вачах Маўры затоеныя хітрынкі. Загадаўшы прынесці ёй простую вопратку і хусціну з матузкамі, каб засланіць ад цікаўных вачэй твар, князёўна адолела ў двары нечаканы парыў ветру і ўслед за пакаёўкай падалася за вароты.

Укрытая на княжым вазку цёплымі дзяружкамі князёўна раз-пораз уздрыгвала ад ускрыкаў фурмана і Маўры, якая сядзела паперадзе, трымаючы паходню. Але дарога і без таго была ярка асветлена. Да капішча даехалі толькі глыбокай ночай. Пругкае праменне поўні падштурхоўвала князёўну ў плечы праз усю дарогу. Але вось на тоўстых сасновых ствалах зардзелі водбліскі агню і вазок спыніўся. Тады, не чакаючы Маўру, князёўна

рашуча ступіла на цвёрдую ўтаптаную бялявіну. Таропка падалася ў бок вогнішча, назіраючы, як ваколле імгненна запаўняецца смердамі. Але яна ўжо нават не падымала вачэй. Ціха прымасцілася на горцы лапніку.

Седзячы перад агнём на мяккім, засланым посцілкамі сасновым голлі і не зводзячы вачэй з дрогкага вогнішча, князёўна ціха скасілася на збой смердаў і прыслухалася. Як і раней, яна добра чула і ўсхваляваную людскую гаману, і гарэзлівыя спевы пасадскай моладзі, аднак лагоднага вуркатання прысаку, што гэтак лашчыў некалі слых, ужо не злавіла. Быццам полацкая лекарка выняла з яе хворага цела не страшную пухліну, а нешта зусім іншае, тое, што яшчэ з маленства нябачнымі, але такімі моцнымі повязямі лучыла князёўну з жывым духам усёй мянескай зямлі. Маўра неўпрыкмет згубілася ў людскім гурце, што запоўніў усю агромністую бялявіну. Было чутно, як пад нагамі распаленых начным шалам дзецюкоў патрэсквае сушняк, як ад страху і нецярпення папіскваюць юніцы. Тады, паціху разняволіўшыся, князёўна ўтульней прымасцілася на лясным сасновым стальцы і знерухомела, не адрываючы вачэй ад агню. Па-змяінаму гнуткія ўзвівы палкага вогнішча паціху запаўзалі ў душу начной трывогай. Да князёўны вяртаўся звыклы стан глыбокага трымтлівага ўзрушэння. Але яна ўсё яшчэ не падымалася. Быццам некага чакала. На імгненне да скручанага паяска вопраткі дакрануўся пругкі язык балотнае вужакі, і князёўна нават праз радно спадніцы адчула пякучы дотык. Наўкруга клубіўся начны шоргат гадаўя па шыгаллі. Праз ценькую сецы водбліскаў і начных ценяў сачылася тонкае змяінае сіпенне, ад якога ў глыбіні жывата нечакана заторгаўся пабуджальны шал: князёўна задыхала горача і часта. Нутро, усё цела Вольгі быццам аджывала. Тады, употайкі азірнуўшыся, яна ледзь стрымала спалоханы ўскрык: амаль усе смерды на бялявіне былі ў вялізных, ярка расфарбаваных драўляных масках звяр'я ці птушак. Паверх доўгіх радняных світак на плячах ільсніліся воўчыя накідкі. Многія з падданых Перуна трымалі ў руках ваярскія шчыты і завостраныя касцянымі ці крэмневымі наканечнікамі пікі. Агонь тым часам падшугаў пад самыя вяршаліны соснаў, распырскваючы над галовамі ваяўнічага збою зыркія прыгаршчы зіхоткага жару. Але Вольга стоена сядзела перад вогнішчам і, шырока расплюшчыўшы павекі, зачаравана пазірала на агонь. Нарэшце ачуцілася, убачыўшы, як з боку шчыльна схінутых між сабою соснаў праз жоўтыя клубкі дыму да людзей ступіла мажная, у доўгай раднянай світцы постаць. Ад рэзкага подыху траскучага дыму пасма валасоў нечакана зляцела з аблічча ляснога госця на плечы, адкрыўшы маску з вялізнымі ікламі. І тады князёўна гучна ўскрыкнула.

Смерды, адразу ж пазнаўшы вешчуна Валодшу, з радаснымі крыкамі пачалі збягацца ў гурт: «Ах, матухна-віраніца, ах, развядзі ж агні ды на маім карані ...» Спевы залуналі да начных аблочных згусткаў і разгарачаныя вогнішчам людзі, якія ўдзень былі такімі паслухмянымі, нечакана рэзка змяніліся. Кідаючы ў агонь галлё, пагрозліва набліжаліся да лапніку, на якім сядзела князёўна. Залегла трывожная цішыня, якую раз-пораз крэслілі вогненыя пырскі з вогнішча.

— Не загубіце!..— шэпт князёўны перарываўся ад затоенага жаху. Пругкі парыў ветру панёс гэту роспач пад сасновыя шаты.

Вяшчун, такі малады і высокі, з распушчанымі па шырокіх плячах вогненна залатымі валасамі, нечакана гучна зарагатаў. Выступіўшы з людскога кола, якое ашчацінілася доўгімі пікамі, апусціўся перад князёўнаю на калені і адкінуў маску, адкрыўшы скуластае, як высечанае з моранага ду-

бу, аблічча. Наблізіўся і прыпаў гарачымі вуснамі да трымтлівай жылкі на яе шыі: «Ты не забыла мяне, лада?» Навокал шчыльным насцярожаным колам стаяла цікаўная моладзь. Але вось, пашыхаваўшы пікі пад старою ялінаю, усе апантана затупалі шырока расстаўленымі нагамі; пушча тут жа адазвалася аддаленым звярыным выццём. Наўкруг Валодшы бушавалі сляпыя карагоды капішчанскага танца, чуліся раз'ятраныя людскія енкі. Вочы князёўны былі прыплюшчаны, але яна добра бачыла, як разгарачаныя дзецюкі і юніцы пачалі шалёна зрываць адно з аднаго світкі. Нечыя рукі дасталіся і да яе: балюча тузанулі з плячэй каптан, развязвалі, прагна залашчыўшы грудзі, матузкі блузы. Тады пачула ў сабе такую млосную нямогласць, што застагнала. Працінаючы зямлю, з глыбокіх таямнічых спратаў ночы ў цела князёўны раптам памкнула даўкае хваляванне, паплыло па дзявочых нагах разам з палкімі, жадобнымі пальцамі вешчуна. Князёўна растуліла вусны, каб паклікаць на дапамогу, але гарачая сліна замкнула мову. А вяшчун, зноў пацалаваўшы яе ў вусны, нечакана так моцна схапіў за жывот, што ўвесь ніз прашыла стралой: «Ты не забыла мяне, лада?» Цвёрдыя вусны зноў прыпалі да шыі: «Ты не забыла?..» Вецер шугануў на іх атрутным дымам, вяшчун закашляўся і моцна штурхануў Вольгу ў плечы, змушаючы ісці да людскога кола. Сам рэзка павярнуўся і нечакана знік у начной цемры.

І вось ужо, прутка падняўшыся і разам з воямі і паляўнічымі ловамі пагойдваючыся пасярод поўні, уся пранізаная шалёнымі начнымі енкамі, агорнутая доўгімі чорнымі валасамі, мянеская князёўна пачала свой танец. Пад сасновай карой па белых жылах дрэў рванула, мкнучы ўверх, расплаўленая пажадай смала. А князёўна, не прыпыняючыся ні на імгненне, бясцямна ўкручвалася ў шчыльны людскі вір і ўжо не адчувала ног. Чырвань ударыла ёй у твар, задуха перакрыла дыханне. Нарэшце, расцятая гарачай, да пацямнення ў вачах млосцю князёўна ўскрыкнула, і яе моцны крык паклікаў у дзявочае нутро цэлы ручай нябесных зорак. Тады растуліла вусны для малення, славячы і гэтую пракаветную, набраклую семенем, зямлю, і магутнае неба. Пад сасновымі шатамі ў водблісках вогнішча ажно палымнеў густа затлушчаны заечым смальцам дубовы пярун. Пазіраў перад сабой вялікімі вырачанымі вачмі. Здаецца, усміхаўся Вользе. Тады, хітнуўшыся, міжволі адступіла. Узрушаная, не заўважыла, як сарваная ахоўная хусцінка паляцела пад ногі, адкрыўшы ўсім яе твар. Смерды, гучна выкрыкваючы пагрозы і сціскаючы ў руках пікі, тут жа стоўпіліся на другім канцы палянкі. Быццам прысутнасць князёўны пагражала ўсім лютай смерцю. Нораў у мянескага князя Расціслава, Вользінага бацькі, сапраўды быў жорсткі: кметы з палаца Глебавічаў дашчэнту руйнавалі капішчы, забіваючы вешчуноў па ўсім свіслацкім наваколлі. З грудзей Вольгі нечакана вырваўся хрыплы стогн:

— Не забівайце мяне!... — азірнуўшыся, пашукала вачмі вешчуна, але той знік.

Нехта з людскога збою, прыўзняўшы маску, густа абклееную рудаватым пер'ем, дзіка правухкаў савою, і ўсе на бялявіне імкліва сарваліся з месца: перад Вольгаю калыхнулася сцяна гарачай нянавісці, да горла падкаціла нудота. У вушах зазвінела. І раптам, быццам спыненыя нябачнай вяроўкаю, агаломшаныя смерды з шырока расплюшчанымі ад подзіву вачмі замерлі. Нешта на капішчы змянілася. І тады, разам з усімі, князёўна скіравала позірк на таго, хто напачатку нагадаў лясную пачвару. Доўгія, выпацканыя густою балотнаю раскаю валасы спрэс загарнулі аблічча і

грудзі: чалавек, які вылецеў, здавалася, з самой пушчанскай нетры, ляжаў на зямлі зусім голы і ўвесь чорны ад капішчанскага дыму. Нагі і безабаронны, кашчава знерухомеў, бессаромна раставіўшы перад усімі абдзёртыя, з бліскучымі каленямі, ногі. Смерды падступілі да ляжачага бліжай, і Вольга здзіўлена адхітнулася. Аблічча ляснога волата было аслонена валасамі, але яна адразу ж пазнала вешчуна. Нечакана разгледзела і тое, што прыцягвала цяпер усе позіркі — вялікае і трымтлівае мужчынскае чэлеса ў рудым валоссі. Уздрыгнуўшы, юніца з агідаю адвярнулася, але вось ужо разам з усімі пацягнулася рукамі да разведзеных каленяў Валодшы. Зачадзеўшы ад капішчанскага смуроду, ледзь змагла ванітаванне. Яшчэ раз прыгледзелася і зноў жахнулася…

Але чаму ўсе гэтыя смерды на паляне зусім не бачаць таго, што ўжо змеціў яе зрок? Павекі Вольгі прыплюшчваліся, аднак яна ўсё роўна зглездзела ў пахвіне Валодшы каля мужчынскага чэлеса тоўстую і па-жаночы прадаўгаватую распашыну. Ашаломленая князёўна азірнулася. Але, здаецца, ніхто тут, акрамя яе, гэтаму не здзівіўся. Ледзь трымаючыся на нагах і ўжо не верачы ўласным вачам, князёўна хітнулася, тут жа падхопленая пад рукі. Людзі на бялявіне глуха перашэптваліся. І тады, стоена абвёўшы позіркам гэты злучаны адным дыханнем людскі збой, мянеская князёўна зразумела, што вяшчун Валодша быў тут усім. І — нічым. Быў усіхні і для ўсіх. Як сама зямля. Адчуванне гэтай неспасцігальнай лучнасці, гэтай агульнай для ўсіх таямнічай першаплоці нечакана перапоўніла і наталіла ўсю істоту Вольгі такой сілай і прагай уплодненасці, што грудзі імгненна набраклі жывым агнём. Ледзь трымаючыся на аслабелых нагах, князёўна азірнулася. Смерды зноў збягаліся ў кола. Перад вогнішчам пачынаўся новы танец — успыхвалі апантаныя крыкі, ногі, абутыя ў хадачкі, усё смялей крышылі сушняк. Рухі танцораў ставалі амаль бясцямнымі, пікі, горда паднятыя ўверх, поралі нізкае начное неба. Танец ярэў, і тады ўсе на капішчы пачулі ўдары вялікага сэрца, што адгукнулася аднекуль з-пад тоўстых сасновых каранёў. Вяшчун, які ляжаў каля самага вогнішча, застагнаў, і яму адразу ж кінулі світку і паклікалі да гурту.

Ён падымаўся важка, нехаця адрываючыся ад мяккай, засланай сапрэлым шыгаллём, лясной зямлі. Нарэшце выпрастаўся, падвязаў вяроўчынай даўгаполую світку і пачаў адгортваць валасы назад, таропка абціраючы рукамі шырокае аблічча з гнуткімі вуснамі. Радасна, белазуба ўсміхаўся. Невераемна магутны ў плячах, з хмараю злепленых балотным глеем светлых, амаль што да пояса, валасоў. Прыслухаўся да танца: бялявіна поўнілася хрыпеннем глыбока расхінутых зямных спратаў. Распалены гэтым спрадвечным поклічам зямное плоці вяшчун падняў вялізныя рукі і ступіў як мага бліжай да танцораў. Цяжка, як похапкамі, удыхаючы густое задымленае паветра, пахістваўся. Але вось ужо з рогатам кінуўся ў вірлівае кола, паклікаўшы за сабой і Вольгу. Лёгка падхапіў яе на рукі. Яшчэ імгненне, — і, радасная, яна змеціла навокал сябе стракаты россып агеньчыкаў: ці то сполахі дагараючага вогнішча, ці то язычкі запаленых паўсюль свечак. Успыхнула бліскавіца, высвеціўшы ў цемры прадаўгаватае, атуленае белым манаскім каптуром танкабровае аблічча полацкай матушкі. З глыбіні памяці на Вольгу трывожна зірнула ігумення Еўфрасіння, і князёўна быццам вярнулася ў заслаўскую капліцу, адразу ж пачуўшы блізу сябе шарахценне шатаў суровай лекаркі, якая ні на хвіліну не прыпыняла малітвы. Вользіна памяць была такой яркай, што князёўна быццам наноў адчула і чэпкі позірк вялікіх цёмных вачэй, і той пякучы момант,

калі полацкая госця паклала трымтлівыя рукі на яе рэбры. Пальцы ігумені былі такія гарачыя, што Вольга міжволі скаланулася. Невераемная моца, што сыходзіла і ад лекаркі, і ад запаленых пад абразамі свечак, нябачнымі лёзамі працінала ўсю Вользіну істоту, выбіраючы з яе нутра страшную пухліну. Цяпер, яшчэ раз спаўна адчуўшы немы жах тае ночы і ледзь змагаючы востры боль у жываце, Вольга з мальбою зірнула на Валодшу. Але вяшчун толькі задаволена ўскрыкваў, забраны апантаным колам бясконцага танца. Над раз'ятраным карагодам шугалі бязладныя спевы: « Ах, матухна-віраніца… Ах, развядзі ж агні ды на маім карані!..» І ўжо ніхто не зважаў ні на вешчуна, ні на Вольгу.

* * *

Раніцай Вольга, князёўна з калена Глебавічаў, добра абагрэтая тоўстым доўгім кажухам, прачнулася ад мужчынскага спеву. Аднак варта было ёй толькі расплюшчыць вочы, як песня заціхла. Над ложкам з кляновага і бярозавага голля схіліўся, ахінуўшы яе распушчанымі валасамі, Валодша. Усё навокал прапахла духмяным водарам аеру і хвоі. Вяшчун усміхнуўся:

— Яна зрабіла табе балюча?

Разумеючы, што ён гаворыць пра палачанку Еўфрасінню, згодна кіўнула.

— Тады забі яе.

Падымаючыся са свайго ляснога ложа, Вольга міжволі пераявяла позірк з вешчуна на пакаёўку Маўру. Усё ўнутры гарэла, быццам туды сыпанулі пасечанай крапівы.

— Ведаеш, што яна зрабіла з табою, лада? Яна выцягнула з цябе жыццё. Ты ўжо забыла, што мы з табою некалі ўсё чулі і бачылі! Усё было нашым… — Вяшчун раскінуў рукі, быццам хацеў абняць усю бялявіну.

Гэта была праўда, і Вольга зноў згодна кіўнула.

— Тады едзь у Полацак. — Вяшчун нечакана выняў з глыбокай кішэні сваёй світкі невялікую сярэбраную бонку на ланцужку, паклаў ёй у руку. Адчыніўшы вечка, Вольга зазірнула ўнутр. Убачыўшы чорную гарошыну, адхітнулася. Гэта была атрута. Але вяшчун павесіў ужо бонку ёй на шыю. Жывот у князёўны нечакана так востра разанула, што ўваччу пачырванела. Перасіліўшы нудоту, махнула рукой пакаёўцы, загадаўшы ехаць дахаты, але тая, белая, што смерць, нічога не адказала. Нагадваючы пра начны ярасны танец, на паляне паўсюль ляжалі патрушчаныя маскі і паламанае галлё. Вогнішча ўсё яшчэ дыхала жарам і над ім, — што адразу ж кідалася ў вочы, — смажылася дзічына. Недалёка ад перуна стаяла некалькі коней, сярод якіх Вольга ўзрадавана змеціла свайго мышастага Сыча. З раднянай торбы пры сядле лашака вытыркаліся стрэлы і абцягнуты чорнаю скурай лук. Тут жа ў старых пашорганых ножнах вісеў падораны бацькам кароткі меч. Не стрымаўшыся, Вольга намерылася бегчы да каня, але Валодша ўжо клікаў за сабою да вогнішча. А яшчэ праз хвілю абое схіляліся над смажанінай, прыгатаванай Маўраю. Нарэшце, сядаючы ў старое зручнае сядло, Вольга азірнулася; пакаёўка стаяла каля вазка і пакорліва схіляла галаву. А Вольга, ужо ўся наструненая, зграбна выпрасталася на кані. Побач, бліскаючы ўсмешлівым позіркам, пакашліваў Валодша. Нарэшце, рэзка гікнуўшы, скіраваў свайго Крутня да сцежкі, што вяла ў лясное жытло. Вольга, баючыся адстаць, таксама нацягнула павады. Ужо зразумела, што для яе пачынаюцца доўгія і суровыя дні.

У патаемны вешчуноў схарон, дзе былі збудаваны дзве добра ўцепленыя таўстасценныя хаціны, аўчарня і загарадак для коней, Вольга ўпершыню патрапіла ў пазамінулым леце. Яшчэ да таго страшнага болю пад рэбрамі і прыезду полацкай ігумені. А недзе праз лета навучання ў вешчуна-воя, дзёрзкая і надзвычай упартая, Вольга магла пацягацца ў стральбе нават з бацькавымі кметамі.

Успрымаючы ваярскае захапленне дачкі адно як дзіцячую гульню, бацька спачатку толькі ўхмыляўся. Пасля смерці княгіні дазваляў Вользе прападаць на бялявіне цэлымі днямі. Праўда, пад наглядам дзесяцкага ці нянькі. Але аднойчы, убачыўшы яе ў мужчынскай драцяной сарочцы, ды яшчэ з мячом у руцэ, князь Расціслаў ледзь не задыхнуўся ад гневу. І адразу ж забараніў нават кароткія наведванні капішча.

Пасля спешнага бацькавага ад'езду ў Полацак мянеская князёўна быццам апрытомнела. Сурова пакараўшы скуранай плёткай найбольш неслухмяных слуг, нарэшце стала пачуваць сябе сапраўднай гаспадыняй палаца. Зрэдчас, праўда, прыслухвалася да князя Рогвалада. Полацкага ўладыку пасля выгнання спярша доўга трымалі ў Заслаўі пад наглядам кмета Вялюгі, але апошнім часам, па настаянні менскіх баяраў, перавезлі ў палац Глебавічаў. І Вольга адразу ж адчула жорсткі нораў князя: сустрэчы іх усё часцей суправаджаліся папрокамі і зласлівымі нараканнямі. Пазбягаючы сутычак з гняўлівым зроднікам, Вольга ўрэшце пачала ўсё часцей з'язджаць з палаца на бялявіну Валодшы, неўпрыкмет усё болей звыкаючы і да пушчы, і да самога вешчуна.

...Дарога праз густы лес да схарону Валодшы была выбоістая. Сыч, паспеўшы адвыкнуць ад плёткі, часта спатыкаўся, і жывот у Вольгі ўрэшце разанула так моцна, што яна міжволі застагнала:

— Я загублю цябе!

Перад вачмі бліснула тонкае аблічча полацкай ігумені; боль на хвіліну адпусціў, але конь хутка ўзбуджана захроп: лясная сцежка выцекла на знаёмую бялявіну, зашарэлі першыя жардзяныя загарадкі для адлоўленага звера. Князёўна ўдыхнула на поўныя грудзі і ласкава паклала руку на густую конскую грыву.

...Назаўтра, ледзь зашарэла, Валодша падвёў да Вользінага жытла ўжо напоенага і накормленага каня. Прынёс і доўгую рагаціну для палявання, сурова папярэдзіўшы, каб Вольга адно адводзіла ў патрэбныя моманты ўвагу звера.

Гучна выкрykваючы клёны Перуну і ляскаючы наўкол драцянаю пугай, Валодша амаль поўдня выпорваў звера з глухой непралазнай нетры; затым доўга выводзіў асочанага дзіка да краю забалаці, дзе прычэквала Вольга. Як на тое, паўсюль раскашавала духмяная, лагодная вусцішнасць. Крыкі Валодшы то блізіліся, то зноў аддаляліся, і Вольга падумала, што звер урэшце здолеў адарвацца. І раптам, калі яна ўжо кранула павады, каб скіраваць Сыча на бліжэйшую паляну, да слыху выразна данеслася глухое, пагрозлівае чмяканне балота. Ад нечаканасці Вольга трывожна замерла і падняла рагаціну. Азірнулася. І адразу ж, зусім блізка, змяціла рэзкае хістанне травы. Рукі сталі гарачымі і ліпкімі. Пушчанскі дзік быў на рэдкасць агромністы: з травы-разаку пляміста выбліскала шырокая лава спіны, але бакоў звера не было відаць. Падносячы рагаціну над густой травою, Вольга трымала зброю нагатове, хаця лясны волат не спяшаўся. Зрабіўшы некалькі кругоў па барадаўчатай купчастай забалаці, звер неча-

кана спыніўся і глуха зарохкаў. Затым, старожка падымаючы над балотам брудны шчаціністы лыч, скасавурыўся чырвоным вочкам на Сыча. І Вольга міжволі падумала, што звер, пэўна, сапраўды зняможыўся. Дрымотны лясун з глухім стогнам цёгся па траве ўбок ад вершніцы, пакідаючы на лёзах цвёрдай травы крывавыя пісягі. Балота падразала свіное чэрава. І раптам, няўдала пахітнуўшыся ў сядле, Вольга так рэзка і глыбока ткнула рагацінаю пад вялізную купіну, што з-пад яе на паверхню з гучным булькатаннем і сіпеннем вырваўся балотны дух. Дзік ад неспадзеўкі ажно падскочыў і тут жа спалохана завішчаў. Быццам паднесены бясцямным жахам, так прутка крутнуўся на месцы, што Вольга ледзь паспела павярнуць у яго бок рагаціну. Раз'ятраны звер у адказ грозна ашчэрыўся, паказаўшы невераемна доўгія жоўтыя клыкі. А Вольга, разгублена сцяўшыся ад жаху, ужо не чула ні ўстрывожаных крыкаў Валодшы, ні змяінага сіпення балотнай атруты. Не адрываючы позірку ад шчаціністага хрыбта, скамянела: пушчанскі волат, грозна падносячы над травою лыч з секачамі, ужо ляцеў да Сыча. Тады, ці не ў самы апошні момант сабраўшы апошнія сілы, Вольга так моцна тузанула за павады, што конь адразу ж ускінуў над куп'ём пярэднія ногі. Але звер, прутка перавальваючыся праз навароты аеравага карэння, працягваў несціся наперад. Яшчэ хвіліна — і выпусціць з конскага чэрава вантробы, затопча і саму вершніцу. Ашалелы Сыч забіў па траве паднятымі нагамі і спалохана заржаў.

Але вяшчун паспеў. Падляцеўшы на сваім гнедым Крутні, з такім ляскам пусціў драцяную пугу па гарбатым шчаціністым хрыбце дзіка, што той завішчаў на ўсё балота. І тут жа, мінаючы хмызнякі, паляцеў на паляну, дзе пад скрыжаванымі жэрдкамі, сухастоем і ялаўцом чакала глыбозная, яшчэ з вечара выкапаная яміна пасткі. І тады Вольга ўбачыла. І закрычала: Валодша гнаў у яміну тоўстую саміцу. Цяпер, калі ўжо не было высокай травы балота, адразу ж стала відаць, што гэта вялізная старая свіння. Паросная вепручыха ледзь трымалася на кароткіх тоўстых нагах, але ўсё роўна, не прыпыняючыся і лёгка крышачы на сваім шляху старыя пянькі, сослепу ляцела да згубнай пасткі. Імгненне — і крык Вольгі зліўся з жахлівым рохканнем, трэскам жэрдак і балючым віскатлівым енкам, што скалануў нават распаленыя сонцам аблачыны: грубую саміцу ад самага чэрава прапароў тоўсты завостраны кол яміны.

Віскатлівы жаласны боль разлёгся праз усю парушаную, стоўчаную паляваннем забалаць і сакануў па маладым падлеску. Адбіваючыся ад шарахаватах жылістых соснаў, праця́ў пушчанскую нетру. Выпусціўшы з рук павады, Вольга ўчапілася ў густую конскую грыву і бездапаможна азірнулася. Але заклапочаны Валодша ўжо бегаў вакол яміны. Тады, ударыўшы Сыча плёткай, яна павярнула каня да глiністага ўзлобка, за якім пачыналася сцежка на капішчанскую бялявіну. Недзе на паўдарозе прыпынілася: вочы засцілалі слёзы.

— Я не бачыў. Усё захінала трава. Я не ведаў, што яна паросная.

У вогнішчы на тоўстым дроце смажылася дзічына, але Вольга толькі панура апускала галаў. Нарэшце Валодша сашмаргнуў смачныя кавалачкі на пляскатую гліняную талерку. Адкусіўшы мяса вялікімі моцнымі зубамі, скасіўся на Вольгу. Ціхім голасам прапанаваў:

— Вазьмі, яна ўжо хутка нарадзіла б... Гэта не старая цвёрдая дзічына...

Замест адказу ўздыхнула і адвярнулася.

— Гідзішся? Аже ж я, праўда, не бачыў, што яна паросная. Вазьмі! — Валодша настойліва працягнуў Вользе бела-ружовы кавалачак, але яна, ссунуўшы прамыя бровы, адно блісканула вялікімі чорнымі вачмі. Цёмныя валасы яе былі сабраны ў тонкую ніцяную сетачку.

— Усё, што было ў яе чэраве, прагла жыць, і цяпер яна хоча аддаць нам іх сілу. Еж, лада.

Вольга, ледзь стрымаўшы нудоту, адвярнулася.

Нарэшце, насыціўшыся, Валодша выцер радняным ручніком вусны і бараду. Падняўшы жбан з падагрэтаю за дзень вадою, Вольга без меры лінула яму спачатку на вялікія рукі, потым на галаву і спіну. Ліла, а ён адно ўсцешана смяяўся. Выцерся радняным ручніком. І раптам, выпрастаўшыся, заціх. Такі вялізны, з хваліста раскіданымі па плячах залатымі валасамі. Пацямнеў тварам. Адчуўшы ў ім нязвыклае ўзрушэнне, Вольга нават адступіла. А ён, рэзка ступіўшы наперад, нечакана схапіў яе за плечы. Бясцямна зваліў, кінуўшы на лапнік. Груба і ўладна, як палонніцу. Запрагнуў. Упершыню за гэткае доўгае сумеснае жыццё ў пушчы. Пасля, прытрымліваючы Вольгу за рамёны, заспяшаўся. Быццам адчуваў, што якраз цяпер, пасля смяротна небяспечнага палявання, абое нарэшце адчуюць моцны прыліў млосці. Вялікае важкае цела Валодшы навальвалася на Вольгу так прагна, што, міжволі выпрастаўшыся, сама пачала расхінаць каптан. А ён так доўга цалаваў і лашчыў грудзі, чакаючы, пакуль не запалае і яна. Тады і праўда адазвалася, горача задыхала. Але ў нейкі момант у свядомасці ў Вольгі быццам праяснела. Спрадвечная мудрасць жаночае плоці шапнула патаемнае: паслухай і яго. Споўненая шчымлівай асалодаю, міжволі прыслухалася. Уся распаленая жарсцёй, чакала пругкае мужчынскае чэлеса. Але Валодша заціх. Гэтак жа раптоўна, як і загарэўся. Адчуўшы нечаканую слабасць, міжволі прыглухла і сама. Але тут жа здзівілася: у Валодшы пачынаўся новы гарачы наплыў спрагласці: вяшчун так моцна цалаваў, так прагна лашчыў яе грудзі і жывот, так настойліва апускаўся яшчэ ніжай, абмацваў і кратаў патаемнае, сягаў вялікімі рукамі ў самы ніз, што ўжо не магла працівіцца. Паддаўшыся пяшчоце, нечакана для сябе самой так рэзка, так шалёна зарухалася разам з Валодшам, што, працятая салодкай стралою, таксама апантана ўскрыкнула: усё ўнутры замлела ад асалоды. З глыбіні рынуў, паліўся струмень гарачае стомы. А яна, сцяўшыся ад магутнага покліча, які сама ў сабе нечакана знайшла, на хвіліну супакоілася. І хаця была ўсё яшчэ перапоўнена слодыччу, зразумела, што мужчынскае, Валодшава, чэлеса засталося глухім. Тады адвяла ад сябе яго рукі, стуліла спеклыя ад здзіўлення вусны. І адразу ж згадала ўбачанае на бялявіне.

...Валодша сядзеў перад вогнішчам, абхапіўшы ладонямі нізка апушчаную калматую галаву, быццам і не чуў, як Вольга, пераапранутая ў тоўстую світку, лагодна гладзіць яго шырокія камлюкаватыя плечы. Нарэшце, як вырваўшы з сэрца стрэмку, Вольга ўскрыкнула і з любасцю прытулілася да шырокай мужчынскай спіны. Але Валодша не адгукнуўся. Сэрца Вольгі працінала горасная жаласць, душа трапятала, як патрапіўшая ў валасяную пастку ластаўка, на вачах выступілі нечаканыя слёзы. Падняўшыся, зрабіла колькі крокаў, наступаючы на хрусткі сухастой. Але Валодша нават не павярнуў да яе галавы. Не сказаў ні слова, нечакана чужы і далёкі. Вогнішча ачахвала і пачало дыміцца. І раптам, адступаючы ад чорных смалякоў, Вольга ў нейкае імгненне падняла позірк, і тут

жа ўгнулася: ледзь прыхаваныя нізка апушчаным сасновым голлем, насупраць вогнішча згрудзіліся, бліскаючы палаючымі вачыма, смерды. Гэта было так нечакана, што Вольга залілася прыкрай чырваннію. Паперадзе збою знерухомела праставалосая, як вар'ятка, у пераціснутым тонкім поясам грубым покрыве, пакаёўка Маўра. Разбэшчана ўхмыляючыся, пазірала на князёўну. Тады, рэзка павярнуўшыся, Вольга кінулася ад вогнішча ў глыбіню пушчы. Ляцела, амаль бясцямная, не разбіраючы дарогі, у глыбіню нетраў. Галлё шоргала і да крыві абдзірала рукі і твар. Нарэшце, не ў змозе трываць боль, Вольга спынілася і падняла галаву.

Перад вачмі разлягалася сцюдзёнае лясное возера. Гэта была іх з Валодшам патаемная мясціна. Недзе ў карчах звыкла чакаў човен з вяслом, і Вольга адразу ж пабегла ў пошуках яго ўздоўж берага. Захекалася ад задухі. Але вось, дарэшты зняможаная, упала на засцеленае сухой травою днішча старой, аслоненай зверху ляшчыннікам, зямлянкі, зробленай у старым звярыным лагве. Дала волю слязам, і тыя адразу ж прабілі даўкі камяк у горле.

Глухой поўначчу, выплакаўшы крыўду і сорам, Вольга нарэшце прыйшла да памяці, адчуўшы, як усё ўнутры яе балюча трымціць. Падаючы ў глухі, як пячора, сон, ужо не зважала на тое, што паблізу грозна трашчыць ламачча сухастою. Каля зямлянкі раз-пораз пралятаў магутны лось-адзінец. Зрэдчас вухкала сава-начніца. Але Вольга не прачыналася.

## 2

...Тумановая гара чаплялася сівымі пасмамі за нізкія водмелі, але раніца ўжо набіралася моцы. Ярка-чырвоны, быццам крывавы, шнарок зары ўдарыў па самай сярэдзіне возера і пачаў імкліва расцякацца па яго бліскучай халоднай слюдзе. Туман тут жа прыбляк, на паружавелую азёрную гладзь апусцілася першае хрусткае праменне, і яго спічастыя вежы пераліваліся мяккімі фарбамі. З глыбіні неба вырастала, набракаючы агнём, вялізнае ранішняе сонца. Вольга, абмываючы твар па-ранішняму сцюдзёнай вадою, схілілася да самай ракі. І адразу ж, скасіўшы позірк, убачыла прывязаны да тоўстай ляшчыніны вялікі човен. Пераапранутая ў сухое і абутая ў звыклыя хадачкі, што заўсёды чакалі яе пад лісцем у зямлянцы, радасна агледзелася.

Усё дыхала прастораю, выпроствалася і атрэсвалася ад сну, росная парнасць шараватымі стужкамі цягнулася да бязвоблачнай вышыні. Але вось у распаленым небе ўспыхнулі вялікія і маленькія ярка-залатыя кругі маладога дня: усё навокал зрабілася празрыстым. Бліскучыя нябесныя абады мігатліва кружыліся вакол нябачных восяў і апускаліся ўсе ніжэй і ніжэй. Здаецца, нават вогненна сутыкаліся ў палёце, выкрасаючы такія зыркія іскрынкі, што нельга было глянуць на поўныя вочы.

Лежачы спінаю на мяккім пяску прыбярэжнай касы, Вольга ўпарта адганяла наплывы згадак і заплюшчвала павекі. А калі нарэшце развінула іх, перад вачмі зрабілася спачатку чорна, потым шуснуў сноп сонечных іскрынак: гэтак нізка над ёю схілялася Валодшына аблічча. Яно было цяпер нязвычна вялікае, з шырока пастаўленымі зялёна-шэрымі вачамі. І здавалася, што з іх на Вольгу ўзіраецца адразу некалькі маленькіх, — і птушыных, і рыбіных, і яшчаркавых, — вачанят-зрэнак. Як злітых у адно... Узрадаваная ягоным, хаця і запозненым з'яўленнем, паднялася.

А Валодша, быццам нічога не здарылася, ужо ўзважваў на руцэ тонкія

восці для рыбных ловаў. Здаўся Вользе наўздзіў худым, з вострымі, як абмянташанымі шорсткім ветрам, лапаткамі на прыгорбленай спіне. Міжволі вусцішна прыслухалася да шаргацення азёрных хваляў аб прыбярэжны дзёран. Недзе ў патаемных спратах спакутаванай душы спачатку нясмела, а потым усё больш адчувальна заторгалася адна вялізная і халодная, як гэтае лясное возера, сляза. Сляза аб страце і вяртанні.

Падняўшы вочы, сустрэлася з надзіва лагодным, сумна-балючым позіркам Валодшы. Але вяшчун тут жа апусціў галаву і, узяўшы Вользіны рукі ў свае, прыціснуў іх да разгарачанага твару. Пачакаўшы Вольгу каля чоўна, дапамог ёй пераступіць борцік і прымасціцца на днішчы. Рашуча падняў вясло, і човен тут жа імкліва паляцеў уздоўж густа зацененага чаратамі берага, наблізіўся да сутокі гэтага доўгага, як п'яўка, азярца з ракой. Апусціўшы ў ваду руку, Вольга рассякала даланёю пругкі імклівы рух плыні, зразумеўшы, што менавіта тут і пачынаецца Свіслач. Над вірамі, што змяіліся ўздоўж супроцьлеглага берага, навісала круча, і пад яе жоўтым брывом разлягаўся схоплены з усіх бакоў ажыннікам нізкі бераг. Добра разагнаўшы човен, Валодша ўрэшце кінуў яго на пясчаны ўзлобак. І першым ступіў у ваду блізу вербаў, дзе было яшчэ мелка. Высаджваючы Вольгу на бераг, нахіліўся і пацалаваў яе. Затым, скочыўшы назад у човен, паплыў пад разлапістую, нахіленую да белага кіпеню рачных лілеяў алешыну. А Вольга засяроджана, быццам рабіла якую важную справу, назірала за тым, як ён трымае нагатове вострыя восці і доўга прымерваецца. Нарэшце паднялася і пайшла па беразе бліжэй да месца ловаў. Застыла на невысокім пясчаным пагарбе. У чоўне пад мокраю травою ўжо трапятаў ладны акунь, вытыркаў уверх калючкі і пярэсты хвост. Вялікая рачная страказа з блакітнымі палоскамі на доўгіх крылцах села на сухі борцік. Заціх і Валодша, ледзь не кранаючы вастрыямі чорнае вірыстае вока пад алешынай. З вады, як высахлыя кульці, вытыркаліся барадаўчатыя галіны карчатапляка. Ужо добра распалены ловамі, Валодша, скінуўшы сарочку, пабліскваў угнутай спінаю: упершыся каленам у борцік, амаль да самай вады нахіліў човен. Тонкакрылая страказа імгненна ўзляцела ўверх, застракацела крылцамі над белымі пялёсткамі і бліскучым на сонцы тапляком. Але Валодша, разгарачаны нецярпеннем, нічога не заўважаў. Адно напружана ўзіраўся пад шырокае лісце лілеяў у рачную глыбіню. І раптам вялікі акунь, выбіўшыся з-пад травы, ударыў пляскатым хвастом аб днішча, падскочыў уверх і тут жа, гучна пырснуўшы вадою, плёхнуўся назад у раку. Валодша ад нечаканасці тузануўся, няўклюдна махнуў рукою і выпусціў восці. Страціўшы раўнавагу, паляцеў галавою ўніз, у чорную, бы смала, ваду.

Вольга спачатку нават не паверыла вачам. Вызвалены човен, зачапіўшыся за тапляк і накрываючы днішчам вялікія хрусткія кветкі, пачаў імкліва паварочвацца да сярэдзіны ракі. Блізу яго з вады вынырнула галава Валодшы. Але тут жа, толькі на імгненне бліснуўшы над вадою плячмі, вяшчун апусціўся назад у глыбіню. Ледзь прытомная, Вольга кінулася ўздоўж берага па цячэнні. Але Валодшы нідзе не было. Тады, не раздумваючы, узбегла на кручу і стралою паляцела ў раку. Паплыла наперарэз чоўну, што ўсё яшчэ трэскаю тузаўся на вірах. Цудам адолеўшы бурлівае цячэнне, дагнала яго і ўрэшце перавалілася цераз борцік. Апынуўшыся на днішчы, прысела на калені. Човен, паслухаўшы вясло, адразу ж супакоіўся, а Вольга, не перастаючы веславаць, спрабавала адвесці яго ад імклівай сярэдзіннай стромы. Але, нечакана дрогнуўшы на магутным

віры, човен так рэзка крутануўся да берага, што праз якую хвіліну зноў шаргануў дншчам па пясчанай касе. Тады Вольга яшчэ раз азірнулася. Валодшы нідзе не было.

Ускочыўшы на ногі, яна схапіла вясло і пасілілася зрушыць човен у раку, але днішча быццам прыкіпела да пяску. Ледзь не плачучы, яшчэ раз налегла на вясло, прааараўшы кантам жоўты погарб. Човен нават не зварухнуўся з месца. Урэшце, распаленая няўдачай, Вольга рэзка тузанула вясло да сябе, але нечакана паслізнулася. Вясло тут жа гучна пляснула аб ваду і, падхопленае цячэннем, паплыло па рацэ. А яна, упаўшы на камякаватую, з застыглаю акунёваю слізззю траву, балюча выцялася падбародкам аб днішча. Перад вачмі затрапяталі яркія стракозы. Тады са стогнам прыўзнялася на локці і праз чырвоны туман у вачах нарэшце змеціла на рацэ плыўца. Радасна ўскрыкнула. Адолеўшы цячэнне, Валодша ўжо дастаўся да густа зарослага ляшчыннікам павароту ракі. Намагаючыся ўскараскацца на круцізну, падцягваўся ўверх, хапаючыся за ахвосткі каранёў. Але тут жа саслізгваў у вірлівую крутаверць. Урэшце, так і не адолеўшы круты пад'ём, рыўком адштурхнуўся ад яго нагамі і паплыў па цячэнні далей, маючы надзею адшукаць нізкую касу. І адразу ж знік з вачэй.

Паспешліва выскачыўшы на бераг, Вольга яшчэ раз памкнулася саштурхнуць човен у раку, але той застрэміўся на пясчаным погарбе да палавіны і цяпер, раз-пораз пагойдваючыся, з гучным плёскатам падаў кармою на ваду. З-пад днішча ляцелі жоўтыя мутныя пырскі.

Нарэшце, дастаткова ссунуты ў ваду і пачуўшы волю, човен нечакана дрогнуў і тут жа, падхоплены цячэннем, так рэзка адплыў ад берага, што Вольга ледзь паспела ў яго ўскочыць. Прысеўшы, з горыччу змеціла, што вясла няма. Тады пачала ліхаманкава грэбці ваду рукамі. Аднак без вясла човен, бездапаможна торгаючыся, адно плёскаўся аб ваду высока паднятым носам. Зрэдку, як закілзаны, паварочваўся бокам да хваляў, гатовы ў любы момант перакуліцца. Цёмныя вадзяныя патокі наўкруг Вольгі падымаліся, як гнуткія тоўстыя вужы, з самага дна. Нібыта мерыліся зацягнуць човен у сваю смяротную глыбіню.

У нейкае імгненне Вользе і сапраўды захацелася апынуцца ў тым вялізным чэраве ракі, знікнуць у халодным прадонні разам са сваёй безвыходнаю роспаччу. Яна нават прыўзнялася, трапяткая ад хвалявання, але човен якраз слізгануў пад карчы. Нізкія галіны спачатку балюча шахнулі Вольгу па твары, потым ударылі па плячах пругкімі стваламі і адкінулі назад.

Нідзе блізка Валодшы не было. Вольга абмацвала чэпкім позіркам крутыя берагі і вербалозіны. Увесь час суцяшала сябе тым, што ён заўсёды быў добрым плыўцом.

Перапалоханыя чыркі з шумам вылятал з-пад пераплеценых лазовых шатаў і лопалі па вадзе пругкімі крыламі. Праносіліся над самай Вользінай галавою.

Нарэшце рачная плынь паспакайнела і човен, пахітваючыся, прыбіўся бокам да ўтравелага берага. Не здымаючы набраклыя вадой хадачкі, Вольга таропка выскачыла на дзірван. Пабегла ўздоўж ракі. Не гледзячы на калючыя восці ажынніку, старалася падысці бліжэй да вады, але перад ёю ўвесь час паўставала высокая глухая сцяна чаратоў. Натаміўшыся да дрыготкі ў каленях, яна ўрэшце спынілася, каб аддыхацца. Села, чуючы, як стома хвалямі расцякаецца па ўсім целе.

Падняўшы твар, усцешна лавіла дыханне свежага вечаровага ветрыку. Зразумела, што дзень завяршаецца, і цемра хутка абаўе і гэты ашчэраны

дзікім ажыннікам бераг, і раку, што надвое расцінала пракаветную пушчу. Згадаўшы Валодшу, пашукала вачмі свой човен. Але таго ўжо знесла цячэннем.

Тады пайшла далей. Пільна ўзіраючыся ў абрысы берагоў, з радасцю пазнавала знаёмыя мясціны. І раптам, нечакана для сябе самой, спынілася каля маленькай касы, аточанай нізкім шчаціністым аерам. Азірнулася і адразу ж успомніла: якраз каля гэтай аерыстай лапіны было самае мелкае месца. Пачынала цямнець, над ракою змяркалася. Вользіна вопратка паспела падсохнуць. З супроцьлеглага берага, клічучы яе да сябе, ласкава звінелі высокія пушчанскія сосны. Тады, не распранаючыся і ўжо ледзь трываючы роспач, Вольга рыўком ступіла ў раку. І адразу ж апяклася яе сцюдзёнасцю, сцепанулася ўсім целам. Па спіне, здавалася, запоўзалі непрыемныя казытлівыя слімакі. Рачное дно было жвірыстае і даволі тугое. Вольга старалася ісці хутчэй, але скураныя хадачкі набухлі і пацяжэлі. Паднятая над вадою паветрам спадніца напнулася, але, намокшы, тут жа апусцілася і абляпіла ногі.

Вольга ішла і чакала, што вось-вось сарвецца ў якую-небудзь донную яміну, дзе грозная рака наваліцца і сцісне яе ўсім сваім цяжарам. Пасля, ужо нежывую і нерухомую, панясе па дне, затузае ў розныя бакі: слізкая трава будзе абмацваць яе твар з расплюшчанымі мёртвымі вачмі, пераплятацца з распушчанымі валасамі. Вольга жахліва азірнулася і задрыжала. Нямая вада падступіла да самых грудзей, імкнучыся адцягнуць яе некуды ў бок ад броду. З сэрца па кроплі выцякала жаданне ісці далей і жыць. Часам, як успышка бліскавіцы, памяць вяртала далёкае і збытае.

Нешта слізкае дакранулася да Вользіных ног, якія зрабіліся цяпер надзвычай чуйнымі, быццам шурпатая вада злізала з іх скуру. Гідкае стварэнне абкруцілася вакол каленяў, павольна папаўзло ўверх, і Вольга ўжо не разумела, ці гэта адбываецца на яве, ці зноў трызніцца ёй. Калені павольна падгіналіся і дрыжалі. Гатовая да ўсяго, Вольга чакала апошняга рыўка невядомай пачвары...

Над ракой са свістам праляцеў цікаўны ветрык, у вечаровай шэрані захісталіся цені карчоў. Цемра густа заляпіла ўсю раку, і тады Вольга роспачна закрычала. І сама сабе здзівілася: упершыню за доўгі час яна гэтак гучна і выразна прамовіла слова. Гэта было імя Валодшы. Прыслухалася: наўкруг княжыла толькі насцярожаная цішыня. У роспачы зразумела, што блізіцца навальніца. Паспрабавала паклікаць Валодшу яшчэ раз, але голасу зноў не было. Пракаўтнуўшы кіслую сліну, сціху намацвала нагамі цвярдзейшае дно броду. На супроцьлеглым беразе нечакана бліснуў агеньчык. Прымружыўшы павекі, Вольга яскрава ўявіла жоўты язычок вялікай свечкі пад абразамі. З начной глыбіні на яе, здаецца, зірнула сама полацкая ігуменя. Тады, хапаючы сцюдзёныя глыточкі паветра і выцягнуўшы перад сабою рукі, Вольга адчайна кінулася наперад. Да такога жаданага і, як аказалася, блізкага берага. І адразу ж пачаўся дождж. Рэзкі і халодны. Над галавою Вольгі загрукацела. Неба пачалі паласаваць кароткія, бы лёзы мячоў, бліскавіцы. Праз імгненне ляснуў яшчэ адзін удар грому. Такі моцны, што яна ў жаху апусціла галаву. Пачуўшы моцны трэск, міжволі падняла позірк. Зусім блізка ад берага ярка палала расшчэпленая маланкай сасна. Тады, адчуўшы подых выратавальнага цяпла, узрадавана азірнулася, выглядаючы месца для адпачынку. Дождж ужо сціхаў, адступаўся ў пушчу. Каля сасновага вогнішча было цёпла.

* * *

Вольга дасталася да ляснога жытла вешчуна толькі пад раніцу. Спачатку стоена цікавала за падворкам з-за сеткі густа пераплеценых карчоў. Не абзывалася і сцішвала разгарачанае дыханне: слых Валодшы ўлаўліваў нават палёт чмяля.

Тое, што ён выбраўся з ракі ацалелым, Вольга адчула яшчэ ноччу, сцішаная на горцы аеравага лісця блізу датляваючай сасны, слухала збалелае сэрца. Дарэшты выпетраная чаканнем, ледзь зводзіла павекі, увесь час баючыся нападу прыблуднага звера. Міжволі лавіла водгулле начных галасоў, жадаючы пачуць толькі чалавечы крык. Але Валодша не аб'явіўся нават раніцай. Ужо не давяраючы сваім адчуваннем, Вольга нарэшце прагнала апошні сон і зачарпнула жменькай ваду ранішняй ракі, каўтнула гаючы сцюдзёны глыток. Не зняўшы сыраватае адзенне, яшчэ раз адолела брод, апынуўшыся на другім беразе ракі. І адразу ж кінулася да ляснога жытла Валодшы.

Цяпер,назіраючы са свайго схарону за дымком, што цадзіўся з шырокай дзіры ў стрэсе вешчуновай сядзібы, Вольга з цяжкасцю стрымлівала жаданне падняцца, злавалася на сваю нерашучасць, але патаемны ўнутраны голас астуджваў і пярэчыў: пачакай! Нарэшце яна і сапраўды дачакалася: з-пад густога сасновага навесу, пастаўленага яшчэ на пачатку вясны за звярынымі загарадкамі, выйшаў сам Валодша. Убачыўшы яго здаровага, з распушчанымі па шырокіх плячах залацістымі валасамі, Вольга ціха ўскрыкнула ад радасці. Але тут жа прыкусіла губу: з-пад таго ж навесу выйшла і Маўра. Шчасліва прыхінулася да грудзей Валодшы, пацалавала яго ў вусны. З'явіліся і іншыя смерды — з кароткімі паляўнічымі баярдышамі ў руках. Шырока ўсміхаючыся, аб нечым перамаўляліся. Тады, ледзь стрымліваючы трымценне каленяў і задуху — грудзям не хапала паветра — Вольга выйшла са свайго схову. Маўра адразу ж адхітнулася ад Валодшы, смерды міжволі пацясніліся ў гурт, але Вольга на іх ужо не зважала. Не пазірала і на Валодшу. Мінуўшы доўгі чарод акораных жэрдак загарадзі, пайшла да коней. Адвязала ад аднаго са слупоў Сыча. Увесь час чула спінаю нядобрыя позіркі смердаў. Нетаропка выняўшы са скураной прысядзельнай торбы сваё ваярскае начынне, прымацавала шырокі пояс з мячом. Імкліва ўзляцеўшы ў сядло, узмахнула скуранай плёткай. Сыч ірвануўся і паляцеў міма загарадкі. Смерды тут жа адбеглі ад сцежкі. Валодша паднёс руку, нешта крыкнуўшы Вользе ўслед. Але яна ўжо неслася з двара ў пушчу.

Праз некаторы час, мінуўшы забалаць, Вольга аб'ехала глыбокі, парослы воўчымі карчамі роў і спынілася. Засопшыся ад шалёнага гону, нарэшце апусціла павады і азірнулася. Конь па звычцы прынёс яе на капішчанскую бялявіну. Тады сцішылася перад перуном. У галаве нарастала глухое гудзенне, якое пачало закладаць вушы яшчэ ноччу. Пад'ехаўшы да перуна бліжэй, выхапіла меч і гнеўна апусціла яго на бліскуча затлушчаную галаву. Але жалезнае лязо толькі слізганула па скамянелым дрэве. Тады, пракаўтнуўшы пякучыя слёзы, Вольга рэзка павярнула Сыча на дарогу, што вяла з пушчы ў палац, рашуча ўдарыла каня па грыве.

Шырока расчыніўшы вароты кметавай, з-за якой чуўся гучны мужчынскі рогат, Вольга ажно аслупянела: на стале стаяў вялізны жбан з медавухай — пітвом, забароненым у палацы яшчэ князем Расціславам. Дзе-

сяцкі Вікула, бліскаючы шырокімі жалезнымі латамі, шырока ўсміхаўся ёй. Кметы, бесклапотна пасеўшы на лаве за сталом, шумелі. Хіба толькі імгненне Вольга пазірала на схмялелую варту палаца, але тут жа, рашуча ступіўшы да стала, так рэзка ўзмахнула плёткай, што на гліняную падлогу з плюханнем паліўся недапіты салодкі напой, зазвінелі аскабалкі разбітага жбана. Але Вольга, адступіўшы паўкроку, зноў раз'юшана ўскрыкнула і праз успацелы твар дзесяцкага пралёг набраклы крывёю шнар ад удара плёткі. Кметы, якія пры з'яўленні князёўны нават не падняліся з лавы, цяпер гнеўна паўскоквалі. Ледзь стрымліваючы трымценне вуснаў, застыў і Вікула. Аднак, зірнуўшы на князёўну, якая ўсё яшчэ трымала ў руцэ плётку і грозна бліскала на яго шалёнымі ад гневу вачыма, пабялеў. Пасярод кметавай, ледзь стрымліваючы гарачкавы парыў, стаяла раз'ятраная дачка грознага Расціслава. А князёўна, махнуўшы рукой служылым, ужо бегла ў двор. Уладным рухам паслаўшы кметаў на канюшню, сама імкліва палянцела ў святліцу пераапранацца. Падаўшы перапалоханай няньцы вострыі нож, схілілася над запаветным куфрам. Перабіраючы дзявоцкую вопратку, хрыпела ад злосці і паласавала ўсё, што трапляла пад рукі.

Калі князёўна з'явілася на ганку ў скураных ваярскіх нагавіцах і старой драцяной сарочцы з шырокімі бліскучымі наплечнікамі, верхавыя кметы ўжо чакалі. Узляцеўшы на каня, князёўна пачула за спінаю здзіўлены вокліч. Нехта з кметаў не вытрымаў: князёўна была пачварна абстрыжана. Замест доўгіх чорных валасоў усе ўбачылі на яе галаве толькі злямчанае, як у смерда з порубу, кароценькае пакулле. Але Вольга, безуважная да касых позіркаў, ужо рашуча нацягвала на галаву свой жалезны шалом. Нарэшце ўдарыла плёткаю каня, кіруючыся ў бок пушчы. Услед з гіканнем несліся ўзброеныя пікамі і баярдышамі кметы.

…Немалы збой смердаў, прыгнаны вартаю на капішча, згрудзіўся пасярод бялявіны блізу прычахлага, але ўсё яшчэ жывога вогнішча. Усе трывожна касіліся ў бок перуна і ціха перамаўляліся. Не сыходзячы з каня, Вольга працягнула першаму з краю смерду невялікі, складзены з тонкіх кіёчкаў і перавязаны пасярэдзіне папаратнікавымі цэўкамі крыжык. Але нізкарослы, абсеяны па ўсім твары рабаціннем зніякавелы дзяцюк рашуча адбег назад і нязгодна адвярнуўся. Кметы весела перасмейваліся. Бліснуўшы з-пад густых веяў чорным агнём, князёўна сціскала вусны. Перад канём стаяла спалатнелая ад жаху Маўра. Узяўшы ў аднаго з кметаў крыжык, Вольга строга глянула на пакаёўку і тая, добра ведаючы нораў князёўны, адразу ж адступіла. Нечакана, скарыстаўшы гэты момант, з-за дубовага ідала выскачыў вялізны смерд у воўчай масцы, рынуўся напрасткі ў пушчу. Кметы гікнулі, збіраючыся ў пагоню, але Вольга адмоўна хітнула галавой. Зноў працягнула крыж Маўры. Тая збялела і адступіла яшчэ далей. Тады, апусціўшы на галаву пакаёўкі плётку і пагардліва хітнуўшы галавою ў шаломе, князёўна азірнулася на грубага, што мядзведзь, дзесяцкага, падняла меч. Паказала ім на Маўру. Дзесяцкі спачатку нічога не зразумеў, але князёўна зноў паказала мячом на Маўру. Кметы, сумеўшыся, павярнулі коней да ўскрайку бялявіны, каб назіраць здаля. А дзесяцкі ўжо здымаў шалом.

Ён гвалціў пакаёўку перад усімі на бялявіне. Кметы сцішана стрымлівалі коней пад соснамі. Але вось ужо, узбуджана гікаючы і махаючы плёткамі, спешыліся вакол князёўны, чакаючы загадаў. Маўра не пераста-

вала здаўлена хрыпець. Вольга, высока падняўшы галаву, безуважна пагладжвала густую грыву каня. І раптам, ні хвіліны не раздумваючы, выхапіла меч і з усяе сілы ўзмахнула ім перад сабою, быццам рассякала водбліскі яшчэ жывога капішчанскага агню. Сышла з каня. Людзі на бялявіне замерлі. Князёўна, здаецца, ужо нічога не бачыла. Трымаючы перад сабой меч, падступілася да самага вогнішча і нечаканым рыўком, безуважная да агульнага подзіву, ступіла на сіваватае вуголле: з-пад чабаткоў узвіліся язычкі тонкага дыму, але князёўна не спынілася. Кметы імгненна спаўзлі з коней. Разбуджанае полымя, шугануўшы ўверх, лізнула драцяную сарочку. Вольга, не зважаючы на вогненныя плёткі і не апускаючы меч, ішла наперад. Цэлыя снапы зыркіх іскраў абвівалі скураныя чабаткі і ўсю дзявочую постаць да самых плячэй. Ніхто на бялявіне не вымавіў ні слова. Старэйшы кмет нарэшце ачуціўся і кінуўся да вогнішча, але агорнутая дымам князёўна ўжо выходзіла на парослую ягаднікам каляіну. Над палянай навісла грознае зняменне. Бясцямная князёўна, пакінуўшы за сабою вогненна-зыркі след, ушчыльную набліжалася да збою памярцвелых смердаў. Ад іх світак і нагавіцаў таксама патыхала чадным дымам, але князёўна, відно не адчуваючы болю, нават не крывілася. Застылі і смерды. Нехта ў жаху выгукнуў: «...агненная!...». Старэйшына кметаў, раструшчваючы вялізнымі ботамі счарнелае вуголле, кінуўся да ваяўніча насцярожанага людскога збою, што маўкліва застыў перад вогнішчам. І раптам князёўна, гучна ўскрыкнуўшы, падняла руку і пад агульны ўскрык адчаю так моцна ткнула перад сабою мячом, што вострае лязо з незвычайнай лёгкасцю прашыла плячо высокага чарнавалосага смерда-ворніка. Няшчасны, нават не зразумеў, што адбылося, і імгненна заліўся крывёю. Апоўз на зямлю. Здаўлена захрыпелі коні — кметы ад нечаканасці моцна нацягнулі павады. Нехта ў гурце смердаў заскавытаў і пачаў адводзіць параненага ўбок. Пачуліся гнеўныя пагрозы. Але сама князёўна, усё яшчэ не выходзячы з зачараванага сну, здаецца нічога не бачыла і не чула. Дарэшты ашаломленыя, кметы сышліся ў гурт. Але вось ужо, раз-пораз ляскаючы пугамі па ўгнутых смердавых плячах, абступілі ўпалоненых з усіх бакоў, падаючы кожнаму простыя, толькі што перавязаныя папаратнікам крыжы.

...Вольга ачуцілася ад рэзкага конскага ржання. Здзіўлена падняла позірк. Павольна выцерла аб скураныя нагавіцы меч, кінула яго ў ножны. Азірнулася. Людзі з крыжамі ў руках распласталіся на зямлі ажно да самага краю бялявіны. Тады падняла галаву і, ні на каго не зважаючы, імкліва ўзляцела ў сядло. Спыніла Сыча толькі блізу перуна. Смерды, выцягнуўшы перад сабою рукі з крыжыкамі, усё яшчэ ляжалі на зямлі і, здавалася, нават не дыхалі. Дарэшты захмялелыя і ўзбуджаныя, кметы тым часам пачалі з рогатам падступацца да капішчанскага ідала. Спачатку, падпіраючы яго жэрдкамі, доўга адрывалі ад зямлі. Але важкае дрэва не паддавалася. Потым, калі нехта з кметаў знайшоў у кайстры вяроўку, смялейшыя з варты пачалі абкручваць ёй тоўстую бліскучую шыю і марудна расхітваць. Але пярун стаяў. Конча распаленыя гневам, некалькі кметаў нарэшце прывалаклі з пушчы тоўстыя сухастоіны і тут жа раскрышылі іх аб тоўстыя плечы. Але пярун нават не варухнуўся. Застыўшы на кані, Вольга незадаволена бліскала чорнымі вачмі. І раптам, калі дзе-хто з кметаў, не зважаючы на зацятасць князёўны, пачаў ў страху азірацца, дубовы ўладар бялявіны паддаўся. Зямля пад тоўстымі, да чарнаты задымленымі магутнымі нагамі нечакана пагрозліва закалыхалася і тут жа з лёгкім шапаценнем па-

цякла некуды ў глыбокае нутро капішча. Пярун, здавалася, дрогнуў, важка нахіліўся і нарэшце, пад гучныя посвісты кметаў, гохнуўся на зямлю. Упаў з такім важкім стогнам, што смерды на бялявіне роспачна закрычалі. А пярун, скаціўшыся ў глыбокі роў узбоч капішча, нечакана азваўся — грозна загудзеў усім сваім нутром. Першымі апамяталіся і паўскоквалі на ногі смерды. Але Вольга ўжо і сама бачыла, што ў спіне драўлянага волата зеўрае вялізная, выедзеная шашалем іклaстая дзіра. А яшчэ праз імгненне з дзіры вылецела і абляпіла ўсю паляну цэлая хмара вялізных лясных восаў. Гэта была жоўтая пушчанская смерць. Кметы ў жаху тузанулі за павады, з крыкамі кіруючы коней у пушчу, але восы ўжо не адставалі і джалілі ў твар, прывабленыя хмельным водарам кметавай медавухі. Вырачыўшы пабялелыя ад жаху вочы, людзі ляцелі з бялявіны ў калючыя зараслі ялаўцу.

Ледзь стрымліваючы лекаценне рук, Вольга і сама рэзка ўзмахнула плёткай. Але конь і без таго , як шалёны, панёсся ў пушчу.

…Яна падняла вочы толькі тады, калі Сыч спыніўся. Азірнулася. Конь стаяў перад заслаўскай капліцай. Тут жа зарыпелі дзверы; да князёўны беглі зніякавелыя манашкі. Нізка схіліліся перад ёю. Але не змаглі схаваць здзіўлення. Тады Вольга павалі спусцілася з каня на зямлю, пайшла ў капліцу. Пераступіўшы парог, змеціла ў сваіх руках драўляны, перавязаны папаратнікам крыжык. Ад абразоў цягнула тонкім водарам свечак. У намоленай празрыстасці чуліся таямнічыя перазовы, у якіх яна адразу ж пазнала галасы маці і бабулі. Не стрымліваючы роспачы, упала на калені, і ножны мяча ўдарылі аб гліняны ток падлогі. Драцяная сарочка таксама зашаргацела, але Вольга знерухомела. Нарэшце падняла вочы на абраз Маці Божай. Прыгледзелася: па светлым ліку нябеснай Царыцы каціліся слёзы. Ледзь змагаючы роспач і глухі шум у галаве, Вольга ўжо не магла нават заплюшчыць павекі. Паўтарала недзе пачутыя словы «Ці выбачыш правіны мае, Маці літасцівая?.. Правіны смяротныя, наўмысныя і ненаўмысныя… Ці выбачыш хоць калі грахі мае цяжкія?» Да яе матчыным голасам адазваліся трымтлівыя агеньчыкі: паўсюль пад абразамі гарэлі свечкі. Тады затуліла вочы далонямі і застагнала: « Навошта ж пакінула мяне, княгіня-матухна, дзеля чаго пакінула, такую няўцямную і горасную, у адзіноце? Чаму не абзываешся голасам жывым да неразумнай дачкі свае ні ў дзень, ні ночаю?! А ні з вады плотачкай не бліскаеш, а ні з галінкі галубкаю не ляціш, а ні траўкаю з зямлі не гойдаешся, матухна родная…На каго ж пакінула ты мяне!?»

Нязвыкла моцнае пачуццё вялікага жалю працінала Вользіна сэрца такой пякучаю скрухай, што, падзівіўшыся гэтай балеснай шчымлівасці і ўжо не ў змозе трываць боль у галаве, князёўна, не выцершы слёз, выбегла за дзверы. Глядзела, як манашкі нясуць Сычу цэбар з вадою. Пачакала, калі конь нап'ецца. Нарэшце, пакланіўшыся капліцы, узляцела ў сядло. Агаломшаныя сёстры, усё яшчэ як не пазнаўшы князёўну, нават не паспелі развітацца і яшчэ доўга ўзіраліся ёй услед.

Едучы дадому і згадваючы ўсе апошнія, такія доўгія дні і ночы, мянеская князёўна міжволі шукала позіркам Валодшу, бясконца паўтараючы закарэлым тоўстым соснам, што не зможа без яго жыць. Але пушча маўчала. Слых Вольгі чуйна ўлаўліваў і насцярожаную шапатлівасць ветрыку ў нізка схіленым галлі, і здрадлівы хруст сушняку пад капытамі Сыча. Захацелася хоць з кім пагаварыць і яна нават прыпыніла каня, павярнулася, каб

сказаць нябачнаму лясному субяседніку хоць слова, аднак голас не вярнуўся. Але чаму толькі цяпер яна згадала пра смерда, якога ўдарыла на бялявіне мячом? Хітнуўшыся ў сядле, міжволі схапілася за левы бок, што ажно задзервянеў ад болю. Усё перажытае нагадвала далёкі чужы сон. Думкі імкліва павярнулі да Валодшы. Тады злосна сціснула павады пальцамі: «Я прыйшла да яго з палаца насуперак бацькавай волі. Але ён забыў, што я князёўна. І я таксама забыла, што я князёўна. Але я — дачка бацькі свайго! Князя вялікага Расціслава...» Ужо ледзь стрымліваючы моцны гнеў, што наліваў рукі гарачай сілай, Вольга памкнулася прыкрыкнуць на свайго і без таго паслухмянага Сыча, раззлавалася на купчастую, пераця- тую каранямі дарогу, але праз вусны прабілася толькі мэканне, якое пачало з'яўляцца ў яе пасля матчынай смерці. Помніцца, бацька, даведаўшыся пра бяду, перастаў клікаць у палац жаніхоў. Урэшце дзёрзкую, з вялікімі чорнымі вачыма і доўгімі цёмнымі валасамі нямую мянескую прыгажуню-князёўну, якая насілася на сваім кані па глухіх сцежках каля зачараванага жытла вешчуна Валодшы, пачалі нават пабойвацца. У палац прыязджлі толькі служылыя кметы.

* * *

*«...Не забудзі жа, Коста, як у леце даўнім, адна тысяча сто трыццаць дзевятым, калі разам з Казьмою ў Полацак вярнуліся з Царгорада выгнаннікі — сыны вялікага князя Барыса Рогвалад і Іван, далі яны сэрцу ігуменні Еўфрасінні і радасць ад вяртання свайго, і жаль, бо пакінулі ў склепе святога Лукі Еўфрасінніных бацькоў — князя Святаслава і княгіню Сафію». Так казала старая ключніца. Прыбыўшы з высылкі, прынеслі зроднікі на Полаччыну і вялікую страсць, бо не прыцішылі, а яшчэ мацней раздзьмулі полымя сварак за валоданне ўладарскім стальцом... Паўстаўшы адзін супроць другога, ако вепры пушчанскія, загразлі стрыечныя браты ў багне нянавісці і інтрыганства. Гэта была адна бяда. Другая гнездзілася ў самім сэрцы Полацака. Стаўшы праз колькі гадоў пасля прыезду з Царгорада епіскапам святой Сафіі, грэк Казьма ледзь паспяваў утаймоўваць няшчадную пыху, што падточвала колішнюю сілу і славу вяліка- княжага стальца. Нават рыбакі з далёкай Герсікі добра ведалі, як моцна памыліўся праслаўны князь Васілька, аддаўшы дачку сваю за сына вялікага кіеўскага князя Усевалада. Супраціўнік жа ягоны Рогвалад праз удалую жаніцьбу сына выйграў, парадніўшыся з Ізяславам Мсціславічам. Пралічыўся Васілька... Але ж хто ведаў, што якраз у леце адна тысяча сто сорак шостым паклічуць анёлы да варотаў нябесных вялікага Усевалада Ольгавіча?! Княжая ўлада ў Кіеве пасля яго смерці так хутка перайшла ў моцныя рукі Рогваладава зродніка, што Васілька ледзь паспеў збегчы ў відзьбескую вотчыну.*

*Дзівіліся палачане і таму, што мітрапалітам Кіеўскім пасля слаўнага Міхаіла не грэцкі прызначэнец стаў, а русіч з-пад Копыся Смаляціц, чарнец Зарубскі. Дастаўшыся да ігуменскае ўлады, раскалоў смаляціцкі скі- петр увесь рускі клір, замяшаўшы ў катле цэлых дзесяці летаў вялікую смуту, што няшчадным цяжарам легла на плечы манастыроў. Казаў яшчэ сівабароды чарнец Самойла:*

*«І не забудзі жа распавесці, Коста, як падымаў Іспра сваіх туценаў з прорвы. І пачаліся, косці пашчарбляючы, сукупленні жывых з наўем ды ведзьміны шабасы, што з дамавін вылазяша ў ночы... Не забудзі, Коста!..»*

*Усё чыста пра тое, пры добрай памяці і моцным здароўі і пісаў у летапісе Полацкім я, сын баярскі Коста, прыкмечаны сярод іншых інакаў пільным вокам самой Еўфрасінні. І пісаў яшчэ шмат пра знаменні ўсялякія, што праз зямлю полацкую праходзілі. Бо сказана: «І дапраўды тысяча год, як дзень учарашні!» Ведаю цяпер я, перапісчык ігуменскі Коста, і пра хуткую плыннасць летаў, згадваючы айца летапісцаў Нестара. Пагартаўшы тысячы абалонак Біблії і хронік Амартола, шукаў вялікі старац Нестар адказ на адно толькі пытанне: «...адкуль руська зямля стала і ёсць?» Толькі ж дазнаўся пра тое хіба што смуцьян вялікі, бацька гісторыі Герадот, назваўшы цэлы збой земляў і плямёнаў Скіфіяй. Краем, дзе няма ні гарадоў, ні ўмацаванняў, бо ўсе толькі рышчуць, гойсаюць па разлогах, ако качэўнікі, вої і лучнікі. Але ж мы здавён — іншыя... Сейбіты і арачыворнікі мы, што ўмываліся ў водах Гікапіса і Барысфена. І прадзеды нашы ад зямлі — займаліся таржышчам хлеба і запальвалі паходні на свята сяшчэннага плуга. Ворнікі-скалоты мы!.. Як пісалі пра тое Пліній Малодшы слаўны і Карнелі Тацыт...Скалоты ўсе мы — дняпроўскія і дзіснянскія... Дык навошта ж тады паўзуць з кутоў зласлівыя шэпты чужынцаў?! Адны кажуць, быццам з чэрава венедаў мы выпаўзлі, падпіраючы слупамі межавымі сцены германаў і сарматаў... Іншыя — што прадзеды пайшлі ад вострава Руген, дзе дасюль яшчэ не ачах прысак капішчаў ад Святавіты да самае Віслы...*

*Але ж кідалі рыбацкія восці праправдзеды нашы і ў Рось, і ў Цясьмін. І ў Дунай нават! Угрудкі стаўшы з готамі і гунамі, дасталіся ўрэшце мы да самага Рыму... І запаланілі землі Балканаў, і выйшлі да цёплага мора блізу Пелапанеса і Спарты. Нарэшце кінуліся і ў другі бок, да каменяедаў астраўных, белагаловых насельнікаў грознай Сулы.*

*Гартаючы начамі абалонкі старых кніг, што, як залатыя руны, цяжкія, не ўцяміш часам, дзе ж праўда тут пасеяна, а дзе — хітрае баянава казанне.*

*Кажуць бо чарняцы: « Навучайся, Коста, у Нестара і ўведаеш пра палян і драўлян, дрыгвічоў і бужан. Чытай, Коста, і потым сам расказвай пра вяцічаў і ўлічоў. І ціверцаў яшчэ. Стань паслом для людзей, бо той пасол, хто прыносіць слова. Будзі і паслушнікам, тым, хто слухае і слухаецца. Слухайся Бога, Коста. Таго, Хто прынёс нам Слова. А потым раскажы і пра росаў — людзей з такімі агромністымі целамі, што і моцныя коні не могуць насіць іх...А ці многа чытаў ты, Коста, пра лжывае племя расамонаў, пра тое, як забіў кароль Германурых жонку аднаго расамоназдрадніка Сунільду, званую Лыбідзю, з-за чаго і распачалася вайна готаў з антамі славіянамі? ...Раскажы, Коста, пра дрыгвічоў і чудзь, пра весь і варагаў, якія русьсю завуць. Бо зямля наша вяліка і плодна, а парадку ўсё яшчэ няма. З таго самага часу няма, як прашчуры, вялікі прэгорды каган Асколд і находнік-вараг Рурык, што судзілі ўсіх адно «па праўдзе», змерлі, пакінуўшы ўсіх у вялікай самоце і разладзе... Пытай і запішы ўсё, Коста. Так чарняцы кажуць, і ігуменне праслаўная Полацкая Еўфрасіння так загадвае!.. То будзі ж — ласка яе!...»*

Пабожнага князя Расціслава Глебавіча на полацкі сталец, адпрэчыўшы Рогвалада, паклікала веча. Завалены па першым часе штодзённым клопатам, вялікі князь ужо нават не зважаў на пагрозы высланага ў Заслаўе стрыечнага брата і амаль не цікавіўся мянескімі справамі. Аддаўшы дачку пад нагляд двух дзесяцкіх кметавай варты, супакоіўся. Але, дачуўшыся пра вяртанне Вольгі да ваярскага занятку, праз пасланца гнеўна паклікаў дачку да сябе, замацаваўшы важкае слова тоўстай пячаткай.

Вольга, аднак, не спяшалася: чужы Полацак быў ад Менеску і Заслаўя залішне далёка. У глыбіні сэрца да таго ж таілася надзея, што бацькавы намеры хутка памяняюцца. Аднак вялікі князь не адступаўся. Урэшце, атрымаўшы з Полацаку яго апошні суровы напамінак, Вольга рашылася. Далёкая дарога была настолькі пакутлівай, што Вольга, не заязджаючы ў бацькаў палац, падалася адразу ж ў Сяльцо. Манастыр сустрэў маўклівую мянескую князёўну вусцішна, не дазнаючыся сапраўднае прычыны яе доўгай адсутнасці. Праўда, на нейкі час, да завяршэння новага манастырскага будынка, Вольгу пасялілі не ў келлі, а ў асобным танкасценным скрыпторыі, дзе некалькі манашак перапісвалі Наміянзіна. Такая непавага яшчэ болей настроіла Вольгу супроць ігуменні, якая толькі з цікавасцю назірала за пляменніцай здалёк. Падчас кароткіх сустрэч з уладычыцай Вольга пакорліва апускала вочы: ужо зразумела, што ігуменні пра яе капішчанскія забавы вядома значна болей, чым бацькавым віжам. Хаваючы ад сёстраў свае нядобрыя думкі, менская князёўна ў сваім запаветным куфэрку па-ранейшаму трымала і драцяную сарочку з грубымі нагавіцамі, і шалом з брамніцаю, што ў любы час магла схаваць ад насмешлівых позіркаў яе дзявочае аблічча.

У скрыпторыі было холадна і нудна; Вольга з нецярпеннем чакала, калі закончыцца будаўніцтва манастырскага будынка. Але і пасля перасялення яе ў новую келійку, нічога не адбылося: пра Вольгу зноў ніхто так і не ўспомніў. Тым болей, ніхто не зазіраў у яе запаветны ларэц, дзе ўсё яшчэ ляжала атрутная гарошына, пра якую і сама яна ледзь не забыла. Тая чорная рашучасць, з якой Вольга выязджала з Менску, у сяльцовым намоленым прытулку нечакана прыглухла, але дарэшты з сэрца ўсё ж не выцекла — на самым донцы шчымела апошняя кропля болю. Князёўна дасюль вінаваціла полацкую ігуменню і ў сваёй немаце, і ў тым, што слых у яе прападае ўсё часцей. Нават пра тое, што полацкая лекарка, знарачыта прыехаўшы ў Заслаўе, выцягнула з яе хворага цела страшную пухліну, Вольга таксама забыла. Гэтак жа хутка забыла яна, здавалася, і пра ярасныя капішчанскія танцы вакол перуна. Але ўчора, калі Сяльцо завіравала падрыхтоўкаю да свята, сярод прыезджых жмудзінскіх рыбакоў яна выпадкова ўбачыла вялізнага калматага смерда, які нагадаў Валодшу. У горле пякуча зашчымела, памяць кальнула ў сэрца вялікай самотаю. Ужо ночаю, у сваёй бяссоннай келлі Вольга нарэшце зразумела, што ўвесь гэты час, таячыся ад сябе самой, насіла ў душы пякучае жаданне ўбачыцца з ім. Скруха была такой едкай, што мянеская князёўна ледзь не кінулася шукаць Валодшу сярод работных наймітаў, але зіркасты манастыр, молячыся да самай раніцы, не спускаў з яе зацікаўленых позіркаў.

У Полацку тым часам выспявалі пагрозлівыя падзеі, пра якія Вольга даведалася ад балбатлівай манастырскай аховы. Пасля доўгіх гульняў і подкупу, рогваладаўскія баяры, з нянавісцю крыкнуўшы Глебавічу, як некалі і самому Рогваладу: «Не хочам цябе!», пачалі падымаць супраць Расціслава глухія двары Запалацця. Вялікі князь разаслаў па весях атрады верных кметаў, спрабуючы прыцішыць нечаканы бунт, але баяры ўжо настроілі супроць яго нават халопнікаў-рэпаедаў і лясных памытчыкаў.

У леце ад нараджэння Божага адна тысяча сто пяцьдзесят дзевятым, калі ў Полацку дойлід Іаан завяршаў будаўніцтва царквы Успення Багародзіцы, барацьба паміж Расціславам і Рогвалодам, стрыечнымі братамі з абодвух каленаў княжай дынастыі, за гэткі прыцягальны полацкі сталец

дасягнула кіпення. Ваяўнічыя настроі пасадскіх людзей умела падагравалі пасланцы Рогвалада. Устрывожаны Расціслаў памацніў ахоўную варту. Але нічога не дапамагала: верных Глебавічам людзей амаль штодня знаходзілі з перарэзанымі горламі ажно за ахоўным ровам. Расціслава мучыла бяссонне і, неяк прыехаўшы шараю раніцай у Сяльцо, вялікі князь спачатку распытаў ігуменню Еўфрасінню пра дачку, затым перайшоў да свабёй просьбы. Развітваючыся з вялікім князем, ігуменне абяцала сустрэцца і пагаварыць з баярамі, дадаўшы, што не можна дапусціць праліцця крыві такіх блізкіх зроднікаў, як князі Рогвалад і Расціслаў, у імя чаго і сама разам з сёстрамі штодня слёзна моліцца. Прыезд вялікага князя ў Сяльцо не мінуўся дарма, замірэнне братоў было прызначана на дзень святога Пятра, і Сяльцо адразу ж зрушылася са свайго звыклага будзённага шляху. Усе ведалі, што пасля сустрэчы ў палацы вялікага князя гасцей запросяць за святочныя сталы да сяльцовых манашак.

Выцягнуўшы з манастырскіх лёхаў мяхі з мукою і бобам, агледзеўшы цэбры мочаных ягад, цэлыя горы сухіх грыбоў і камяні воску, ігуменне заклапочана ўздыхнула. Накіраваўшы паляўнічых ў лясныя нетры Запалацця, запрасіла да сябе мядовых старастаў. Прычэквала і рыбакоўжмудзінаў з даўнім сябрам Кірыкам. Па ўсім Полацкім краі даўно хадзіла слава пра незвычайную гасціннасць полацкай ігуменні: сяльцовы сёстры па святах шчодра выстаўлялі мёд, смажаную з арэхамі сяляву, місы вэнджаных вугроў і духмяную дзічыну. Падзужаная клапатліва-засяроджаным снаваннем сёстраў і агульным святочным уздымам, Вольга ўрэшце не вытрымала і падрадзілася дапамагаць на рыбным лавідле. Упершыню за доўгія гады затворніцтва выехала за вароты Сяльца.

…Яна прыняла Палату адразу ж, як толькі з сёстрамі саскочыла з вазка на прыбярэжны дзірван. Замёршы перад грознай таямнічасцю берагоў, ахапіла позіркам велічную прастору шырокага, як скінуць вокам, вусця ракі. Прыбачыла і сінюю да чарнаты глыбіню імклівай плыні, дзе пачынаўся рух магутных цячэнняў. Была яшчэ шарая раніца, але халопы і сёстры ў простых радняных покрывах, не чакаючы рыбакоў, таропка выбіралі з вялізных скрыняў новыя рыбацкія сеці. Пасылаючы наўкруг сябе насцярожаныя позіркі з-пад прамых чорных броваў, Вольга сачыла найперш за настроем сёстраў, сярод якіх жыла ўжо не адно лета. Узрадавана змеціла, як да ракі на вялізных новых падводах набліжаюцца жмудзінскія арцельнікі. Сонца забіралася ўзыходзіць на свой завоблачны сталец, і ўсё навокал дыхала радасным чаканнем. Нарэшце рачная цішыня была парушана воклічамі здзіўлення. Рыбакі ажыўлена саскоквалі з падвод услед за сваім вялізным сівабародым важаком. Палата перад іх вачмі была заліта яркім сонечным праменнем, адбірала вочы светлай бязмежнасцю і выдавала асабліва магутнай якраз пры гэтай сутоцы з Дзвіною. Агледзеўшыся, жмудзіны тут жа разбрыліся па беразе.

А Вольга міжволі падступілася да сцяны калянага чароту і прыслухалася. Недзе там, у патаемнай глыбіні Палаты, пачынала трымцець звонкая вастрадзюбая трава, наўкруг якой сігалі тонкія вёрткія шчупачкі, кідаліся стайкамі ў розныя бакі, адчуваючы трывогу рачнога мацярынскага ўлоння. Але вось праз дробныя, нагнаныя нізавым ветрыкам хвалі празвінелі першыя ўдары скураных пугаў, заляскалі шырокія лёзы вёслаў, затрашчалі жардзіны загоншчыкаў.

Сеці ўжо былі закінуты: вялізны сівабароды Кірык, знерухомеўшы на

самым аброжку берагавой кручы, паварочваўся да ракі правым бокам. І раптам, наблізіўшыся да вады, яна таксама пачула: рака, распінаючы ад страху берагі, балюча і горасна, як пры развітанні, ўскрыквала. На тонкія вецяркі нанізваліся колцы апошняга туману. Тады, адступіўшы ад берага і доўга не адрываючы вачэй ад мігатлівай вадзяной гладзі, Вольга сумелася і вусцішна замерла. Быццам хацела ўбачыць рачное дно. Але ўбачыла толькі сярэдзіну.

… Першаю ішла сялява, прыгажуня з жаўтаватымі тоўстымі брушкамі і вузкімі чырвонымі плаўнікамі: паблісквала серабром лускі, пускаючы за сабою даўжэзныя пасмы серабрыстых бурбалак. Гвалтам выпараная з дрымотных зацішкаў, пакінуўшы ўкаранёныя ў цвёрдым дне вербалозы, рачная ўладарка плыла суцэльнай тоняю, ужо не старонячыся зубастага племені агромністых зялёна-пярэстых шчупакоў, што таксама страцілі свой звыклы паляўнічы гон. Рачное воінства, павільваючы ў сустрэчных струменях раздвоенымі хвастамі, ценілася разам з натапыранымі калючымі акунямі бліжай да прыбярэжнай лотаці. Тут жа, ледзь не кранаючыся бакамі, лена варочаліся тоўстыя, як жэрдкі, самы, асочаныя ў патаемных, самых глыбокіх прыбярэжных норах, валюхаліся таўсталобыя судакі, узбоч якіх колтамі паблісквалі пёрыстыя ўклеі і ляшчы, гналі перад сабою донны глей і зялёную сечку пашчапанага чароту. І толькі каля самага дна, падшугаўшы ўверх карычневую буру забалочаных мясцін, змяіліся ўюны, але таксама былі схоплены пругкімі шырокімі сеткамі. Да вяровак надзейным грузам былі прывязаны каменныя молаты, што стрымлівалі магутны напор і супраціўленне тоні.

А на крутым беразе блізу Кірыка стаялі, ледзь стаіўшы дыханне, старасты жмудзінскіх арцеляў. Кідаючы ўдалеч пільныя позіркі, раз-пораз супакойвалі разгарачаных загоншчыкаў, якія ўсё яшчэ шнуравалі Палату: ляскалі доўгімі жэрдкамі па прыбярэжных зарасніках, поралі рагацінамі ў чорныя лазы пад нахіленымі вербамі. Імкліва слізгаючы між берагоў на сваіх вёрткіх чаўнах, стараліся. Паніжай крутой лабаціны, адкуль Кірык з рыбакамі сачылі за Палатаю, стоўпіліся сёстры ў шарых радняных покрывах і лазовых балотных хадачках. Тонкія металічныя налобнікі трымалі над вачыма ахоўныя хусткі. Манашкі ўпоплечкі згрудзіліся насупраць рыбалоўнай заставы, шчыльна пастаўшы каля сецяў. Тоўстыя вяроўкі ў іх руках то напіналіся, то плёскалі па вадзе, і было відно, што адным чарніцам з такім цяжарам не ўправіцца. Вольга міжволі азірнулася на Кірыка, але той не зводзіў позірку з Палаты. Гэтак жа ўважліва ўзіраліся ў раку і рыбакі-арцельшчыкі, што па просьбе ігуменні прыехалі з-пад Герсікі.

Праз густую лістоту вербалозу з левага боку Вольга разгледзела прыстань рачнога вымалу, да таўсценных калодаў на беразе было прывязана некалькі барак і тры ладдзі з высокімі шчэгламі. Але вось Вольгу падштурхнулі наперад, паставіўшы каля самай вады. Учапіўшыся за вяроўку трымтлівымі пальцамі, князёўна адчула купчасты аброжак: ногі ў старых манастырскіх хадачках адразу ж намоклі. І раптам пачалося нечаканае. З усяе моцы падцягваючы вяроўку, Вольга штохвіліны адчувала, як там, на другім канцы сеткі, у Палаце клубіцца, віруе і тузае свой ніцяны нерат схопленае з усіх бакоў рачное жыхарства. Міжволі зірнула ў бок рыбнай заставы і вочы асляпіла бляскам — вада вакол каменных быкоў і высокіх дубовых слупоў загарадкі адлівала серабром. Гэта паверх тоняў хлынулі раз'юшаныя берзакі і плоткі-ўклеі. Ледзьве трымаючыся на нагах, захліснутая невераемнай жаласцю да ўсіх гэтых забраных у палон рачных

насельнікаў, Вольга амаль не расчапіла пальцы. Але тут жа адчула спінаю недаверліва строгія позіркі сёстраў. Кірык, сівагаловы волат з мужным, бы выкаваным з бронзы, тварам моўчкі ўзіраўся ў рачны прасцяг, каб не прапусціць той самы важны момант, калі ўлоў можна будзе зберагчы амаль цалкам. Вецер-вярховік са свістам прадзіраўся з супроцьлеглага берага праз шчыльна сплецены высокі ажыннік і непраходныя, амаль у чалавечы рост, чарацяныя нетры. Нарэшце, зашорганы голлем, спрэс абдзерты асцюкамі, пераляцеў цераз раку, прынёсшы да высокай берагавой кручы працяглае, чутнае толькі Кірыку і яго рыбакам, падобнае да бычынага рыку, гудзенне: «У-у-у…» Гэта падавалі голас агромністыя, арагавелыя рачныя пачвары, якіх умелі лавіць толькі скандынавы-волаты, што яшчэ пры Усяславе прыплылі сюды і рассяліліся па ўсім крывіцкім краі. Але час мінаў, бязлітасна вынішчаючы з гыбінных рэк полацкай зямлі іх дзівосных насельнікаў. Скандынавы-рыбакі сышлі ў Герсіку, і полацкая зямля адразу ж пабяднела.

Але вось Кірык, злавіўшы тое працяглае гудзенне пракаветнага рачнога духу, напяўся: яшчэ хвіліна, і рыба, сціснутая сецямі, пачне шалець і заскача з нерата назад у раку. Арцельнікі-жмудзіны пераглянуліся, нецярпліва чакаючы знаку. Урэшце ўсім збоем рынуліся на бераг: выстройваючыся радамі, уладна адцяснілі манашак і схапіліся за сеці, што рассеклі ўпоперак засадзе амаль усю Палату. Гучна, як змовіўшыся, ляснулі вяроўкамі па вадзе — нібыта апавясцілі ўсяму свету, што ловы пачаліся. Палата адразу ж вусцішна замерла. Да берага, працінаючы ўсю раку нясцерпным болем, плыў першы серабрысты ўлоў.

Як толькі вялізная падвода, перапоўненая да краёў скуранымі мяхамі з рыбаю, павалюхалася ад Палаты да рыбаварні, сёстры сцішыліся на беразе, чакаючы ігуменню. Але прыбыла чалядніца. Саскочыўшы з манастырскага вазка, падбадзёрыла ўсіх кіўком галавы і тут жа заклапочана адвяла Кірыка ўбок, аб нечым загаварыла з ім. Кірык здзіўлена адступіў, нешта адказваючы, і Вольга змеціла, як чалядніца ледзь не на вачах пачала гарбіцца. Кірык таксама пасуровеў. Адбегшы, аб нечым заспрачаўся з сівабародым плячыстым арцельшчыкам. Але вось ужо, пакінуўшы замест сябе аднаго са старастаў, грузна заспяшаўся з чарніцай да манастырскага вазка. Тады, як падзужаная нечаканай трывогай, Вольга кінулася следам і, пакланіўшыся чалядніцы, папрасілася ў Сяльцо. Тая ад подзіву нават адсланілася, але, змеціўшы ў вачах мянескай князёўны ўпарты бляск, дала згоду.

Яны даехалі да Сяльца даволі хутка, але Вольга, міжволі прыслухваючыся да размоў чалядніцы з Кірыкам, паспела зразумець, што ў Полацку рыхтуецца змова супроць княжага стальца. Сама ігуменна, дачуўшыся пра магчымы замах на вялікага князя, ранічкаю выехала з манахам Міхаілам у Полацак. Калоцячыся ад страху за бацьку і ледзь дачакаўшыся, калі лёгкі вазок ускочыць у манастырскі двор, Вольга, не зважаючы на здзіўленыя позіркі чалядніцы, таропка кінулася ў келлю. Праз якую хвілю выбегла адтуль у доўгай драцяной сарочцы з шырокімі наплечнікамі. Згорнутыя пад шаломам валасы выбіліся на скронь чорным колцам. Скураныя нагавіцы апаясваў шырокі пояс, на якім у старых ножнах вісеў кароткі меч. На нагах Вольгі былі старыя скураныя боты. Кінуўшыся ў стайню, князёўна, якую ў маладым воі не прызнала нават зіркастая сястра-гаспадыня, дзёрзка вывела ў двор белую кабыліцу, якую за гады манастырскага жыцця

прывучыла да сваіх рук. Сястра-гаспадыня, якая таксама спяшалася і ўжо сядала з Кірыкам у вазок, недаўменна азірнулася на незнаёмага воя, якога раней у Сяльцы не бачыла. Але Вольгу таксама не прызнала.

Нарэшце, зліўшыся з белай грывай, Вольга пакінула за спінаю апошнія сяльцовы двары і паляцела ў бок Полацка. Драцяная сарочка балюча шоргала па каленях, але князёўна ўжо нічога не заўважала, узрушаная яшчэ адной нечаканасцю: бонка з атрутнай гарошынай, падораная Валодшам, знікла. Вольга перакапала ўвесь куфэрак з вопраткай, высыпала на засланы радном ложак усе каштоўнасці з запаветнага ларца, але бонкі не было.

...Малады вой, бліскаючы шырокімі наплечнікамі паверх доўгай драцянай сарочкі, імчаў да Варотнай вежы. Узляцеўшы на дарогу, па якой рыпучым цугам валюхаліся гружаныя бочкамі з мочанымі журавінамі і мяхамі сушаных уюноў дрыгавіцкія вазы, вершнік спыніўся. Паказаўшы старэйшаму кмету варты ладанку з пячаткай Глебавічаў, паспешліва змяшаўся з гуртам дрыгавіцкіх пасланцоў: вазы блізіліся да Верхняга Замку. На дзядзінец старой Машні, мінаючы гародні паміж Барысаглебскай і Сафійскай вежамі, па добра ўбітым узвозе да варотаў Вялікага пасаду з'язджаліся госці Полацка. Над гарадскімі дварамі і вузкімі прадмесцямі разлягаўся салодкі звон Сафійкі. Плошчу, запоўнененую баярамі і стракатым патоўпам чорных людзей, безупынна шнуравалі кметы Глебавічаў. Варта стаяла нагатове. Аднак вялікі князь Расціслаў усё яшчэ не выходзіў. З'явіліся толькі маладыя паслушніцы.

На прысценны дубовы стол, па ўсёй даўжыні засланы шэрымі празоленымі абрусамі, пачалі выносіць місы з сяляваю, вэнджанымі вуграмі і дзічынай. Але ніхто з прысутных не зрабіў да ежы ні кроку. Каля сталоў стаяла варта. За варотамі палаца ўдарылі ў біты, і людзі на дзядзінцы замерлі. Нарэшце вароты палаца шырока расчыніліся: услед за вялікім князем пад урачыстыя спевы сяльцовых манашак выходзілі баяры і манахі з Бельчыцаў. Еўфрасіння ў шырокіх, крыжамі абшытых шатах ішла побач з блакітнавокім, надзвычай высокага росту важным чарняцом — намеснікам Свята-Успенскагага манастыра Міхаілам. Гурма народу на дзядзінцы, убачыўшы іх, загудзела: «Блаславі!». Еўфрасіння падняла Евангелле ў скураным акладзе, і вакольны люд адразу ж апусціўся на калені. А яна спачатку асвяціла Евангеллем схіленыя плечы гараджан, потым доўга трымала жалезны крыж над галовамі бельчыцкіх чарняцоў. Шлях у Бізантыю, куды ігумен Міхаіл з яе пасольствам ад'язджаў заўтра ўранні, быў небяспечны. Падняўшыся з каленяў, смерды і служылыя з цікавасцю пачалі назіраць за тым, як вялікі князь вітаецца з гасцямі. На асобныя сталы складваліся падарункі паслоў, і палачане ажыўлена абмяркоўвалі паднашэнні. Звон не аціхаў, да ігуменні падступіліся пасадскія. Князь Расціслаў, акружаны вартавымі ў чырвоных жупанах, завяршаў ганаровы абход шматлікіх гасцей, сціху намацваючы позіркам перапоўнены дзядзінец. Нарэшце прывітанні скончыліся, госці змяшаліся з полацкімі баярамі і ўзрушана падступіліся да сталоў. Еўфрасіння з Міхаілам, акружаныя вернікамі, выбіралі спакайнейшы прытулак. Але нечакана спыніліся. З гурту збройнікаў, не зважаючы на варту, да іх раптам кінуўся ўсімі пагарджаны і спрэс аброслы злямчанымі валасамі клышаногі дурнік Яміна. Узяўшы са стала келіх з мядовым напоем, юрод працягнуў яго ігуменні і тая, пад гучную ўхвалу прысутных, узяла пітво. Адшукаўшы вачмі Расціслава, павярнулася князю насустрач, падняла келіх.

...Потым, калі памагаты княжага ката задаваў пасадскім свае пытанні, ніхто ўжо не мог успомніць, адкуль вылецеў той маладзенькі вой у доўгай драцянай сарочцы з шырокімі наплечнікамі, што нечакана вырас пасярод дзядзінца, узвіўся на сваім белым кані перад Еўфрасінняю і з пляча ўдарыў кароткім мечам па келіху. Рукі ігуменні адразу ж заліло чырвоным, што кроў, густым узварам. Натоўп гайдануўся. Спалатнелы князь, гнеўна зірнуўшы на анямелую варту, спыніўся. Старэйшы кмет загадна гікнуў на служылых, але вой ужо рвануў каня ўбок, у момант вока абмінуў рудыя шэрагі пасадскіх людзей і, нібы прывід, стапнеў за плячыма агромністага збою гасцей. На дзядзінец адразу ж выбег белы конь без вершніка, і яго тут жа злавілі кметы. І раптам, ці не ў тое ж самае імгненне, дзядзінец зноў заледзянеў: шырокую плошчу з гіканнем запаўняла дружына князя Брачыслава. Малады Васількавіч ляцеў на чорным кані з грозна паднятым мячом. Але вялікі князь Расціслаў, быццам загадзя ведаючы пра напад пляменніка, рашуча махнуў рукою; шматлікія шэрагі чорнага люду, бегма кінуўшыся па князевым знаку да ўзбочных вазоў, пачалі выхопліваць з-пад травяных мяхоў баярдышы і баявыя пікі. Брачыслаў міжволі сцішыўся. Над Полацакам залегла мёртвая ціша. Усе чакалі. Адзін князеў узмах — і замошчаная камянямі і дубовымі круглякамі плошча абмыецца крывёю. Паветра зазвінела. Але вось, быццам адчуўшы хвіліну агульнага змярцвення, сяльцова ігумення імкліва абмінула акружэнне вернікаў і выступіла наперад. Зычным голасам разарвала смяротную цішыню, загадаўшы ўсім спыніцца. Падняла над сабою вялікі жалезны крыж. Пасадскія, якія толькі што адхлынулі ад цэнтра, пачалі вяртацца. Пераапранутыя баявыя атрады вялікага князя адцяснялі да варот разгублены атрад захопнікаў і самога Васількавіча. Полацак сцішыўся ў прадчуванні крывавай помсты. Конскае хрыпенне перакрыў грозны загад Расціслава: «У поруб іх!». Плошча зашапацела трывожнымі перашэптамі, Расціслаў сумеўся, але ўсе ўжо глядзелі на падняты крыж ігуменні: «Ранамі святога Пятра — будзь літасцівы да зродніка, вялікі княжа. Не забі! Як нам сказаў Айцец нябесны».

Расціслаў, не хаваючы раздражнення, сурова насупіў бровы, і кметы кінуліся цясніць пачарнелага ад няўдачы Брачыслава да варот.

І раптам усе на дзядзінцы ўбачылі, што з другога боку, ці не ад Запалацянскага пасаду да Верхняга Замку выступае яшчэ адна сіла — шырокая лава ўзброеных важкімі мячамі вояў Рогвалада. За спіной суровага палачаніна згрудзіліся баяры з веча, побач на сівым кані магутна ўзвышаўся намеснік вялікага кіеўскага князя. Рогвалад, азіраючы полацкі дзядзінец, нечакана ўбачыў упалоненага Брачыслава і ад здзіўлення ажно хітнуўся ў сядле. Плячысты кіеўскі намеснік не сказаў ні слова, але яго грозны выгляд выдаваў рашучыя намеры Кіева памяняць уладара полацкага стальца. Расціслаў, скрушна махнуўшы рукою, адпрэчыў ад сябе нават вершнікаў аховы. Госці Полацака моўчкі туліліся за спінамі слуг. Як шукаючы збавення, вялікі князь ужо наблізіўся да Еўфрасінні з Міхаілам і тут жа апынуўся ў цесным коле чарняцоў. Змеціўшы аднадушша манахаў, Рогвалад незадаволена сціснуў вусны. Спасцярожлівыя кметы ўзмахнулі ў бок Расціслава мячамі, чакаючы апошняга загаду. І раптам з варот палаца выйшаў яшчэ адзін чалавек, убачыўшы якога ўся плошча, не зважаючы на раці Рогвалада, кінулася наперад. Да Расціслава, пахітваючы залатымі шатамі, спяшаўся ўладыка прастолу святой Сафіі грэк Казьма. Дзядзінец зароў тысячамі ўзрушаных галасоў, і баявая лава Рогвалада, апусціўшы мячы, на

імгненне адступіла. І тут жа, не зважаючы на смяротную пагрозу, Еўфрасіння апусцілася на калені. Яшчэ імгненне і на ўсім прасцягу ўкленчанай плошчы зачарнелі схіленыя плечы манахаў і вернікаў. Пачалася малітва — блаславенне пасольскай місіі ў Бізантыю. Коні Рогвалада і кіеўскага намесніка нецярпліва пашчоўквалі капытамі па шчыльна падагнаных дубовых кругляках дзядзінца, але ніхто з кметаў новага полацкага валадара не змеціў, як Расціслаў пад аховай маленькага атрада, пачаў прабірацца за вароты. Нарэшце, не азіраючыся, паімчаў у бок Менска.

Выехаўшы на сярэдзіну дзядзінца, Рогвалад пільна агледзеў прысутных і ўладным узмахам рукі зноў запрасіў усіх да сталоў. Саскочыўшы з каня, наліў і паднёс поўны келіх мядовае сыты кіеўскаму госцю, які ўсё яшчэ ўзвышаўся над сваім вялізным грудастым канём. З шэрагу смердаў да князя з радасным енкам нечакана вылецеў няўклюдны, увесь абліты залацістымі валасамі заслаўскі вяшчун Валодша. Натоўп адразу ж ухвальна зароў да яго. Але Рогвалад, імкліва выхапіўшы меч, ярасна праткнуў грудзі няшчаснага. З боку дрыгавіцкай варты пачуўся балючы дзявочы ўскрык. Але пасадскія і кметы ўжо нічога не чулі, накінуўшыся на місы з сяляваю і вэнджанымі вуграмі.

І толькі Еўфрасіння запабеглíва падняла галаву. Падала ледзь улоўны знак сёстрам, якія хуценька паклалі параненага на адзін з прысценных вазоў. Над вешчуном, супыняючы ручнікам кроў, ужо схілілася міласэрная чаляднiца.

— Я пашлю за ім! Даганю і затраўлю, акі таця! — Рогвалад, змеціўшы знікненне Расціслава, гнеўна загрымеў на соцкага, але Еўфрасіння ўжо скіравалася да кіеўскага намесніка. Той адразу ж сышоў з каня на зямлю і схіліў галаву.

— Хіба не памятае вялікі госць, як мянескі князь Глеб, бацька брата нашага ўлюбёнага Расціслава, пасылаў у лаўру пячорскім манахам золата і срэбра?.. Каб вымурававалі трапезную...

— Ніколі таго Кіеўская зямля не забудзе, слаўная. — Намеснік усміхнуўся. Рогвалад, адпрэчыўшы соцкага, насцярожана назіраў за тым, як магутны госць выслухвае просьбы ігуменні. Полацкае пасольства ў Бізантыю мелася спыніцца ў Кіеве на Брачыслававым двары. Перавеўшы позірк на прастольнага Казьму, намеснік тым часам яшчэ раз паўтарыў:

— Ніколі зямля Кіеўская не забудзе Глебавіча…

Сяльцова ігумення Еўфрасіння перамагала. Але Рогвалад ведаў і тое, што сабрала магутная сяльцова ігумення сваё пасольства ў Бізантыю не толькі за Адзігітрыяй, але і дзеля ўмацавання манастырскае ўлады, спадзеючыся на падтрамку хітрага, як начная сава, грэка Казьмы. Успыхнуўшы ад ярасці, Рогвалад нечакана рэзка павярнуўся да бельчыцкіх манахаў і, скрыгатнуўшы зубамі, так моцна ляснуў тоўстай драцянаю пугай аб дзядзінец, што чарняцы адхітнуліся. Нарэшце падняў руку і злосным ад раздражнення голасам захрыпеў:

— Паганяў бы вас, тлустазадых, па Запалаццi! Думаеце, калі абвесіліся абразамі і крыжамі, то і самі ўжо святыя? Судзіць хочаце? Хочаце словам Гасподнім сваю волю тут праўдзіць? Пакуль жывы, не будзе ў Полацаку таго! Прэч, племя глумлівае і пражорлівае!

— Супакойся, княжа. — Голас Еўфрасінні быў самотны і крыху здзіўлены. — Ці да твару князю вялікаму з Божымі служкамі смуту весці? Калі хочаш Айцу нябеснаму сказаць тое, што ў душы гарчыць, прыедзь, княжа, сам пагавары з Айцом наадзіноце. Келлю князю знойдзем. Тады

адчуеш, як нялёгка адказваць на запытанні, перад якімі ўсё роўна паўстае душа чалавечая. Што адказваць будзем, князь? Зроднiка Расцiслава — не чапай. Столькі важных спраў у Полацаку цяпер, што дай Божа сілы князю.

Кіеўскі госць па-ранейшаму ўхвальна маўчаў. Рогвалад, не прамовіўшы болей ні слова, схіліў перад Еўфрасінняю галаву і нарэшце пацалаваў крыж. Ледзь растуліўшы вусны, прахрыпеў:

— Як Бог хоча і як на тое воля ігуменні, няхай так і будзе.

Казьма моўчкі вярнуўся да Міхаіла. Дзядзінец паціху пусцеў.

...Дастаўшыся да Менску, князь Расціслаў яшчэ нейкі час хаваўся ў сваім таемным цераме за Свіслаччу. Нарэшце, дачакаўшыся лепшае пары, паклікаў соцкага службы вышуку і даччыну няньку. І пачуў няўцешнае: пасля ягонага ад'езду ў Полацак Вольга яшчэ ні разу ў палацы не аб'яўлялася. Усё паказвала на тое, што менеская князёўна з абсягаў полацкай зямлі знікла. Полацак, які ледзь не забіў Расціслава, адпрэчыў у невядомы край і яго нямую дачку. Расціслаў паслаў таемных віжоў ва ўсе канцы ўзняства і іншыя землі, але аніякіх суцяшальных звестак не атрымаў. Уздоўж межавых рвоў Полаччыны штодня пралятaлі атрады асочвання, але ніхто не сказаў пра мянескую Вольгу ні слова.

А праз два гады ўсё ў Полацку зноў памянялася: веча, паслухаўшы сяльцову ігуменню Еўфрасінню, нечакана перайначыла сваю думку. Адвярнуўшыся ад жорсткага Рогвалада, пракрычала вярнуць на дзяржаўны сталец менскага Глебавіча. Рогвалад, выказаўшы сваю нязгоду прастольнаму ўладыку Казьме, не тоячы ярасці, паслаў баявыя атрады на Менск і Заслаўе. Войска Рогвалада рухалася па мянескаму краю, як чума, спальваючы сядзібы служылых і вытоптваючы засеяныя палосы смердаў, забіваючы купцоў і непакорных ваяводаў. Нарэшце заваёўцы забралі ў палон маладога князя Валодшу і, пасадзіўшы ўпалоненага ў клетку, вярнуліся ў Полацак пераможцамі. Але веча ўсё роўна пракрычала за князя Расціслава. А недзе яшчэ праз год пасля вяртання Расціслава ў стольны горад, калі ў канцы месяца беразазола пачаліся перамовы з суседзямі-купцамі, у вялікакняжы палац прыбылі багатыя жмудзіны з Герсікі. Пільныя вочы Расціслава нечакана спыніліся на маладым соцкім купецкай варты. Аблічча соцкага было прыхавана доўгай ніцянай брамніцай, але князь амаль не зводзіў з яго ўважлівага позірку.

Перамовы з купцамі тым часам завяршаліся. Князь нецярпліва чакаў вернага Дзмітру, каб падаць слузе знак. Аднак таго не было. Шукаючы выхаду, Расціслаў нават падняў руку, падзываючы запалоцкага баярына. Але ў залу нечакана ўвайшлі сяльцовы манашкі. Ігуменне Еўфрасіння, насустрач якой выступіў старэйшына жмудзінскага купецкага гурту Кірык, запытала, ці шчасліваю была для гандлёвых людзей дарога на Полаччыну. Пасля некалькіх ветлівых адказаў, адвяла Кірыка ўбок. А яшчэ праз хвіліну, наблізіўшыся да маладога соцкага з Герсікі, папрасіла таго наведаць манастыр у Сяльцы. Прысутныя баяры ад подзіву прыўзняліся з-за стала. Сівабародыя, абвітыя суровымі маршчынамі жмудзінскія купцы, не хаваючы здзіўлення, таксама недаўменна зіркалі на свайго соцкага, але згодна ківалі Еўфрасінні. Цесна абкружыўшы зніякавелага воя, манашкі тым часам павялі таго за дзверы. Сярод баяраў і купцоў залегла вусцішнасць. Але ігуменне ўжо развітвалася з вялікім князем. Расціслаў з палёгкаю выпрастаўся ў крэсле і ціха ўсміхнуўся. Мянеская князёўна Вольга знайшлася.

Келля ігуменні зачынялася так рэдка, што дзесяцкі, пастаўлены на варту блізу дзвярэй, зразумеў, што ў манастыры адбывалася нешта важнае. Маладзенькая сястра-гаспадыня частавала ў трапезнай жмудзінскіх купцоў, і адзін з іх, сівабароды старэйшына Кірык, не зводзячы з юніцы ўсцешанага позірку, час ад часу пасміхаўся. Пасля абеду, абыходзячы манастырскі падворак, сівабародны волат прыдзірліва азіраў будынкі новага скрыпторыя і грабарні. Здавалася, марнуе час, адно чакаючы, калі купцы збяруцца ў зваротны шлях. Нечакана запытаў у юніцы, што ведае тая пра сваіх бацькоў. Але, не атрымаўшы пэўнага адказу, засмуціўся. Нарэшце, пакланіўшыся зніякавелай манашцы, папрасіў перадаць уладычыцы Еўфрасінні, што ў наступны раз прыбудзе ў Полацак з пушнінай. На развітанне азірнуўся і яшчэ раз прыветна махнуў дарэшты разгубленай юніцы.Дзень завяршаўся.

…Вольга праплакала амаль да самай ночы. З растуленых вішнёвых вуснаў князёўны вырывалася сумна працяглае: «Ма…», але Еўфрасіння маўчала. Усё яшчэ апранутая ў ваярскую драцяную сарочку соцкага, Вольга не адымала свайго аблічча ад яе каленяў, да якіх дасталася гарачая соля слёз.

Нарэшце Вольга паднялася на ногі, і Еўфрасіння паказала ёй новы манаскі покрыў, што ляжаў на ўслоне. Але тая адмоўна хітнула галавою, застаўшыся ў драцяной вопратцы. Пахадзіўшы па келлі, ігуменне нарэшце запытала:

— Ты хочаш быць у нашай варце? — Вольга радасна кіўнула ў знак згоды.

— Слухаючы сёстраў, навучышся не гневу і дзёрзкасці, але як страх Божы цвердзіць у сэрцы сваім. Калі сама па добрай волі выбрала такі шлях для сябе, значыць, смуткаў свету людскага ўжо не пазбегнеш…

Вольга ў адказ гатоўна кіўнула.

— Тады да службы рыхтуйся. Кметы нашай варты таксама штодня моляцца.

— Ойча наш! — Вымавіўшы ўсё наўздзіў выразна і гучна, Вольга зноў схіліла галаву. З трымтлівых вуснаў выціснула тугое : «Ма…» Еўфрасіння спачувальна ссунула бровы:

— Праз колькі дзён пойдзеш з сёстрамі па мох. Будзем будаваць прытулак для немаўлят… Пад варотамі знайшлі яшчэ аднаго падкінутага… Келлю табе знойдзем. А пакуль застанься ў мяне. Ежу хутка прынясуць…

Адступіўшы да сцяны, Вольга замыляла вуснамі. Удзячна зірнуўшы на Еўфрасінню, звыклым рухам праверыла, ці на месцы прытарочаная да пояса радняная кайстра, з якой вытыркалася некалькі пэндзляў. Толькі цяпер змеціўшы гэтыя пэндзлі, Еўфрасіння міжволі прыпынілася каля выхаду. Нарэшце зразумела тое, што гэтак здзівіла яе ў Вользе яшчэ ў заслаўскай царкве. На бляклых змярцвелых шчоках юніцы расцякаўся дзівосны водсвет таемнай сілы.

Развітаўшыся з Вольгай, ігуменне нарэшце выйшла з келлі і пачала спускацца па прыступках уніз. Хуткім крокам прашнураваўшы начны падворак, ціха адчыніла дзверы новага скрыпторыя. Дзве маладзенькія перапісчыцы ціха спалі на прысценных тапчанах. Усміхнулася: заўтра скажуць, што ўсю ноч працавалі.

Мокры ад Вользіных слёз покрыў таркаю шаргануў па каленях, і Еўфрасіння зняможана замерла пасярод скрыпторыя. На стале дагарала свеч-

ка. Тады, уздыхнуўшы, села насупраць яе, перагарнула абалонку пергамінаў, узяла ў рукі сціло. Вывела першую літару...

З-за стала яна паднялася толькі перад раніцай. Выйшла ў цемнаваты глухі падворак. Яшчэ спала шурпатая маладая трава, спалі затуленымі ў бутоны пялёсткамі кветкі. Адно зоркі над Сяльцом ледзь чутна пераазваньваліся. Вусцішна пастаяўшы пад нябесным купалам, ігумення звыкла скіравалася ў царкву. Нечакана змеціла ў прачыненых дзвярах водбліскі святла. У храме, відно, гарэла некалькі свечак. Ціха ўвайшла праз дзверы ўнутр і адразу ж змеціла на прысценнай лаве Вольгу ў тоўстай сястрынскай хламідзе. Побач на падлозе ляжала драцяная сарочка і меч паверх яе. У царкве востра пахла свежай фарбай, ад чаго Еўфрасінню нават занудзіла. Скасілася на скрыню Богшы, што дасюль стаяла ў кутку пры вынадзе, і ўскрыкнула. Скрыня была адчынена, а на лаве стаяла некалькі невялікіх, глыбокіх дубовых коўшыкаў з разведзенымі фарбамі. Тут жа на ручніку ляжалі пэндзлі. Азірнуўшыся, міжволі адхітнулася. З шарай царкоўнай сцяны проста на яе пазірала... яна сама. Дапраўды сама яна. І ўсё ж... не яна. У той, якую змалявалі на сцяне, падобна, былі яе вочы. Але яшчэ такія маладыя і зацікаўленыя, такія адкрыта-даверлівыя...Прагныя да жыцця і зямных спраў.

«Але што магла гэтая мянеская агненніца, ведаць пра мяне маладую? І адкуль?» Ледзь не задыхнуўшыся ад наплыву гарачай хвалі, ігумення азірнулася. І адразу ж змеціла яшчэ адну, падобную да першай, жаночую выяву. Ужо з іншым позіркам цёмных пякучых вачэй.

«Але адкуль жа ўведала мянеская юніца пра тое вечнае маўчанне? Пра далёкага кмета Саву, які і дасюль яшчэ ляжыць пад бясконцым дажджом на растоўчанай заслаўскай дарозе. Не варухнецца, захінуты трапяткой панямцю. Так ні разу і не прамовіў ёй словы любасці. Стапнеў, растварыўся ў далечы, адпакутаваў...

Але адкуль уведала гэтая князёўна з Менску пра смяротнае манаскае змаганне са спакусамі? Хто вадзіў яе пэндзлем? Навошта кранула яна стралу ў знямелым сэрцы, дзе з раны і пасюль прасочваюцца кропелькі крыві?

Падаюць слёзы... Ляцяць долу, ускіпаючы, працінаюць кароткія сны мае, вугаллем коцяцца па слядах, калі падымаюся ў келлю. Адкуль неразумная юніца ўбачыла шлях церневы і душу, спаласаваную няшчаднымі парэзамі ад бясконцай бойкі з чорным анёлам. Бо хто ж яшчэ даў дзяля спакусы і гэтыя чорныя вочы, і вішнёва-прывабныя вусны?! І адкуль уведала вогненная юніца, як адольваю сябе штодня, як ачышчаюся ад патаемных думак?.. Агарнула мяне чорным покрывам, не ведаючы яго цяжару і пакутлівае ласкі, атуліла ўзмахамі свайго пэндзля белае аблічча, адценіла вялікія, што калодзежныя прорвы, вочы, наліла ў іх пакутлівага суму. Але ці ведае, як часта плявалі ў гэтыя мае калодзежы і ворагі, і браты-суроднікі, зненавідзеўшы малітвы і пост. Не толькі зоркі падалі ў глыбіні мае, недамысльная князёўна мянеская.

Але хто самі вы, валадары пэндзляў? Чые пасланцы вы, майстры-дойліды, летапісцы-схімнікі, абраннікі колераў? Чыё царства будуеце са слоў і плінфаў? Хто ўкладае ў вашы вусны вечныя словы, хто падае вам пёры і пэндзлі, майстры юродывыя, гнаныя па ўсіх скрыжаваннях, ака псы бязродны? Ці, можа, хтосьці з вас ведае сваю радзіму-вотчыну? Ці, можа, хоць хто ведае з вас, майстры, чыю вялікую любоў і чыю славу, чыю пакуту бязмежную прамаўляеце і нясеце ў свет сваёй неспасцігальнай сілай? Чые ж слугі і найміты, чые браце і сестры вы?..»

Ігуменння паволі падымалася па лесвіцы ў сваю келлю, пакуль не апынулася на каленях перад абразом Багародзіцы. Успомніла пра нядаўнія Вользіны слёзы. Але што хацела сказаць ты, юніца? Аб чым плакала? Аб чым плачу так часта і я сама? Позірк міжволі цягнуўся да іконы.

«Маці літасцівая, чаму так даўно маўчыш да мяне? Навошта дазваляеш скрусе, вялікай і смяротнай, пераядаць мае дні? І ты, Ойча міласэрны, хіба не бачыш вочы выплаканыя?.. Вазьмі іх, Ойча, у кузню цудаў Тваіх, каб сталіся вачанятамі для немаўлят Божых… І дыханне, якім штодня слаўлю імя Тваё, Ойча, і вусны мае — забяры… Каб сталіся вусначкамі дзяцей Тваіх. Жылы мае, такія моцныя, што ўтрымаюць нават зоркі, і такія доўгія, быццам карані стагодніх вольхаў, што цягнуцца ў сэрца зямной плоці… Забяры іх, Ойча, аддай праллям Тваім… І ссукаюць клубкі ніцяў нябесных, і сплятуць з іх калыскі для тых, каго няма яшчэ сярод народжаных. Але якія — будуць… Забяры і грудзі служкі Твае Еўфрасінні, белыя і трымтлівыя, што срэбра расплаўленае. Ойча, аддай пругкасць іх кавалям Сваім, каб гартавалі шчыт з цноты манаскае, каб заўжды аслоньваў дзетак зямлі нашай ад паганскіх стрэл… Ад гора і нелюбові, ад бедаў і грахоў смяротных. Ойча, ці чуеш, як праз храшчы гнуткія горла майго праходзіць паветра? Забяры яго ад рабыні, Уладыка нябесны. Аддай наступным і ўдыхні жыцці ў грудзі немаўлят, якія блізяцца да дня народзін…

Маці Божая, Маці літасцівая, ці не бачыш, як з начным бляскам выцякае ўлонне маё ў крыніцы і рэкі? Удыхні ж Дух Твой Святы ў косці дачкі Твае неразумнай, каб нараджала новыя дыханні… Маці мая літасцісцівая, не пагарджай дачкою… Не пакідай у скрусе».

* * *

Раніца выпала мяккая і чыстая, пасля расы прыемна падсушаная сонцам. Лес таксама стаяў перад Еўфрасінняю высокі і празрысты. Нагадваў пра той сонечны дзень, калі разам з сёстрамі яна ўпершыню, такою маладой ігуменняю, выехала ў лес па мох: у манастыры будаваўся новы скрыпторый. Паперадзе падводы за конюха сядзеў кмет Сава. Потым сёстры прыязджалі ў гэты стары, рассечаны вузкай Лагвянкаю лес яшчэ не раз. Але цяпер, успомніўшы пра Саву, Еўфрасіння міжволі пасумнела.

Колішнія мохавыя мясціны густа зараслі высокімі карчамі дзікіх ягад, і над кожным ядавіта-дрогкім шараватым воблачкам трымаўся, калыхачыся ўваччу, туман. Усё балота хваравіта дыхала багуном. Буякі, не даспеўшы, бела выблісквалі з рудаватых лісточкаў. Паміж замшэлымі купінамі ў дзіковых слядах гніла леташняя вада.

Яна так бы і не асмелілася прадрацца праз буяковую сетку, але сонца раптам вырвалася з тлустай кудзелі воблака і ўсім сваім бляскам ударыла па балотнай чэзласці, сыпанула на шэрыя купіны жмені залатых падковак. Атрутны чад імгненна развеяўся і з куп'я вынырнулі ярка-чырвоныя, з ружовымі і фіялетавымі сярэдзінамі грыбы. Усё пыжыліся парваць жылістую траву сваімі крохкімі шапачкамі. Залюбаваўшыся на ўсю гэтую раскошу, Еўфрасіння задаволена выпрастала плечы. Нарэшце, па-буслінаму высока падымаючы ногі, асцерагаючыся гадаўя, пакіравалася ў бок Лагвянкі і адразу ўбачыла знаёмую кручу: такую ж лабастую, як і раней, але ўжо добра палыселую і пажаўцелую. Ведала, што далей, смела ўзлазячы на плечы гэтай шырокай, аточанай норамі, кручы, разрастаецца малады сасоннік, але сама там ніколі не была. За нахабным кустоўем раскаша-

вала чадная зелянота, аплеценая бляклымі нітачкамі журавін. Мох тут яшчэ не выдзерлі. Не зважаючы на здзіўленыя позіркі сёстраў, ігуменця разам з усімі апусцілася на калені і пачала выбіраць і кідаць мох у разасланую паблізу посцілку. Натаптаную ношку ўрэшце панесла ў сухое месца пад самай кручаю. Прысеўшы на цвёрды грудок, уткнулася плячом у цёплую гліняную сцяну. Навокал разлягалася заклапочанае чмялінае гудзенне, нечакана нагадаўшы пра маленства. Тады ледзь не задыхнулася ад успамінаў: сюды яе вазіў яшчэ бацька-князь. Сюды пазней, але ўжо з сяльцовымі сёстрамі яе суправаджаў кмет Сава. Ношка з мохам паціху нагрэлася і пачынала парыць. Сёстры, заглыбіўшыся ў лагвянскія нетры, гучна пераклікаліся. Але вось, невядома адкуль, ці не з-за гэтай самай кручы, данеслася нясмелае, яшчэ ціхае салаўінае цёхканне. Еўфрасіння здзівілася і падумала, што ёй здалося. Але ў тое ж імгненне да першага покліча далучыўся цэлы птушыны хор, і вось ужо ад апантанага птушынага спеву пачало закладаць вушы.

Быццам упершыню ў жыцці чуючы гэткае шалёнае, бязладнае птушынае ціўканне і шчоўканне, узрушаная ім, Еўфрасіння міжволі азірнулася, шукаючы вачамі свой уласны цень. Але за кустоўем бліснула сарочкай Вольга. У фіялетава-серабрыстай балотнай парнасці ігуменні раптам захацелася ўбачыць і нанова адчуць усё, што так даўно перашкаджала ёй спасцігнуць і зразумець таямніцы зямнога існавання. Як пачуўшы нечы таемны загад, падняла галаву і ўбачыла проста над сабою, на самым версе кручы, кашчавую, бліскучую воўчую морду. Сэрца затахкала мацней, і яна міжволі ўціснулася плячом у цёплую гліну. Раней, магчыма, па-сапраўднаму спалохалася б, але цяпер толькі ўздыхнула. Аддыхаўшыся, яшчэ раз зірнула ўверх, але на кручы ўжо нікога не было…

А можа, здаліся, прысніліся Еўфрасінні і лясныя чары маленства, і далёкая, амаль забытая ўтрапёнасць кмета Савы, які толькі сумна пазіраў, ціха сачыў за ёю з-пад апушчаных павекаў. Слюдзяна-чорнае, налітае да краёў лагвянскае вока, якое бачыла яшчэ яе бацьку-князя, ужо каторы год гэтак жа таемна сочыць сваім дрымотным дзікім позіркам і за Еўфрасінняю.

Усцягнуўшы на спіну мохавую гарачую ношку, яна пабрыла пад сасновыя шаты. Дыхаць стала трошкі лягчэй. Але праз якія паўмілі слабасць зноў разлілася па ўсім целе, перашкаджаючы кроку. Здаецца, сам лес, наліты дурнап'янам багуну, усім сваім цяжарам наваліўся на яе знямажаныя плечы, і Еўфрасіння раз-пораз спалохана падымала галаву, пазіраючы ў блакітныя акенцы-прагалы паміж вяршалінамі дрэў. Падумала, што ў гэтым вялізным лесе стала дробнай мурашкай. Нябесныя акенцы ўверсе таксама былі недасягальныя. Моцна кружылася галава — як жа доўга трэба ляцець душы праз гэтыя прагалы да вунь тых пуховых бясклапотных аблачынак і святога неба.

Лес не парадзеў, але зрабіўся святлейшым, таямніча гойдаў галлём і шоргаў калючымі сасновымі лапамі па вялізнай ношцы.

Нарэшце яна патрапіла на засыпаную шышкавым пер'ем лясную дарогу. Цяпер можна было агледзецца. Але тут, адно глянуўшы ўбок, спалохана спынілася. Па высокай папаратнікавай траве зусім блізка ад яе шахнула быстрая, як страла, вялізная ваўчыца. Тады, падтрымліваючы ношку рукамі знізу, ігуменця няўклюдна пабегла па слізкай ад сыраватага карэння дарозе, ловячы вуснамі буйныя салёныя слёзы. Урэшце, навошта прыйшла яна сюды? Што хацела знайсці ў гэтым старым лесе, акрамя не-

выносна горкіх пякучых успамінаў? Не спыняючыся, ігумення ўсё прыспешвала крок і спатыкалася аб карэнне, быццам баялася, што не паспее адчуць тут самае важнае. На імгненне прыпынілася, каб азірнуцца, але востры боль, што заўсёды калоў з-пад левае рабрынкі, раптам так моцна ўдарыў па ўсім целе, што, здзіўленая, вяла асунулася ўніз, сутаргавымі глыткамі хапаючы густое і пякучае, як расплаўленая смала, паветра. Сцягнуўшы з плячэй ношку, спінаю асцярожна легла на дарогу, балюча адчуўшы вузлаватыя вяроўкі карэння. Ляжала доўга, нават не ў змозе адгукнуцца на крыкі сёстраў. Нарэшце, схапіўшыся рукамі за свой вялікі жалезны крыж, які заўсёды насіла на грудзях, гарачкава зашаптала:

— Вось, сабрала вас у гурт, нібы авечак, каб пасвіліся вы ў запаведзях Божых, а я з радасным сэрцам руплюся вучыць , бачачы плён вашай працы, і вучэннем на вас дождж такі паліваю. Але ж вашы нівы аднолькавыя стаяць…Не растуць, не ўздымаюцца ў гару. А ўжо год падыходзіць да завяршэння, і лапата на гумне ляжыць, — ледзь не задыхнулася:

— І баюся, што калі будзе пустазелле ў вас, аддадзены будзеце агню нязгаснаму… — Чуючы сардэчную калатнечу і востры боль у грудзях, таропка перажагналася. Да слыху данесліся галасы сёстраў. Тады пачала супакойвацца:

— Пастарайцеся ж, дзеці мае, пазбегнуць яго, і станьце пшаніцаю чыстаю, і змяліцеся ў жорнах змірэннем і малітвамі, і постам, каб чыстым хлебам прыўзнесціся на трапезу Хрыстову.

Над галавою ледзь бачна варушыла галінамі старая вольха. Чырвоная, з доўгім цельцам мурашка поўзала па трымтлівым лісціку. Тады падумала, што мурашка можа сарвацца і ўпасці проста ёй на твар. Навокал стаяла таямнічая цішыня. Але Еўфрасіння чакала. Чакала доўга, аж пакуль не прыглух боль. Пушча навокал адразу ж пасвятлела. З-пад тоўстага карэння да слыху нечакана даляцелі ледзь чутныя, падобныя да дзіцячага плачу, галасы. Гэта адзываліся тонкія белыя костачкі далёкіх продкаў, сярод якіх былі і тыя, што належалі праслаўнаму роду Торвальда. Але цяпер пад пушчанскімі нетрамі ляжалі ўжо не мужчынскія ці жаночыя рэшткі, бо з кожнае костачкі наверх прабіваліся ствалы, і па іх струменіў сок, перамешаны з крывёю і пракаветным духам усёй крывіцкай зямлі. Павольна, але ўсе больш упэўнена ігумення пачала знаходзіць у сабе тое галоўнае, дзеля чаго вось сёння, праз столькі гадоў пасля смерці бацькоў, вярнулася да маўклівай лясной Лагвянкі. Гэтае галоўнае было нечакана простым і прынесла яе душы невымераную радасць. Упіраючыся локцем у цвёрдую дарогу, ігумення асцярожна павярнулася на бок, села перад сваёй вялізнаю разлезлай ношкай і пачала развязваць яе. Потым стала на ногі і вываліла з посцілкі разапрэлы мох. І тут убачыла, што разам з ім на дарогу выпала шэранькае, ледзь жывое ваўчаня. Тады міжволі залюбавалася чорненькай пыскай малога. Ваўчок, пэўна, запоўз у ношку яшчэ на балоце. Ваўчаня тыцкалася ў яе далоні вільготным носікам і дрыжала. Але ваўчыца не аказвалася. Відно, чакала, калі чалавек адступіцца. Тады адчула, як з-за блізкіх карчоў за ёю цікуюць халодныя, зялёныя вочы вечнага лесу. У сэрца яшчэ раз, як страла, кальнуў боль. Праз усю яе, такую цяпер прасветленую, праходзілі ўсе лясныя гукі і пахі. Нарэшце, падняўшыся на ногі і павесіўшы на плячо посцілку з шызымі кудзеркамі моху, ігумення рушыла наперад, асцярожна пераступаючы карэнне. Падыходзячы да краю лесу, сцішылася і азірнулася. І адразу ж убачыла сясцёр, якія радасна спяшаліся насустрач.

А можа, яе, Еўфрасінню, сапраўды палікала ў гэты лес успамінаў душа Савы? Каб нарэшце паспавядацца і паспавядаць. І распытаць аб усім...

У Лагвянскім лесе яшчэ гэтак звонка трымцела дрэўца, на якім зеляліела, прыляцеўшы да родных людзей з далёкага краю, чыстая памяць яе роду, бацькі-князя і маці Сафіі. Дрэвы ўсе шчыльней падыходзілі і абступалі ігуменню. Пільна ўзіраліся ў яе пражытыя гады, у яе напоўненыя жыццём і смерцю, вочы, у яе збалелае сэрца. І ўсё шапталі, шапталі ёй нешта лагоднае і таямнічае. Кожны лісцік трымцеў, як жывы агеньчык над вялікаю свечкай. Тады Еўфрасіння падняла вочы і ўбачыла ў гэтым шматгалосым Божым храме сваю ціхую душу і пачула сваю новую малітву:

*«Маці нябесная, ці чуеш пакуты мае і ўспаміны балючыя? Ці бачыш, як брыніць па жылах кроў? Маці нябесная, злітуйся, пералі яе з жылаў маіх у крыніцы, што натоляць плоднаю сілай ўлонні мацярок зямлі нашай. Злітуйся над душою маёй, Царыца нябесная...»*

Дрэвы цягнуліся ў вышыню. Да неба і памяці. І ўсё гэта былі іх, Еўфрасінні і сяльцовых манашак, — дзеці. Яе і яшчэ нечыя ўнукі і праўнукі. Яе і яшчэ нечыя крыўды і праўды. Азірнуўшыся, змеціла блізу сябе Вольгу. Князёўна з манастырскай варты, не хаваючы радасці, азіралася шырока расплюшчанымі вачыма. Выбірала ў зялёным царстве сваю сцежку. Убачыўшы ігуменню, хутка зашастала па высокім папаратніку ў яе бок. А Еўфрасіння ўжо сумелася, сустракаючы мянескую суродніцу лагодным позіркам:

— Усё бачнае на гэтым свеце прыгожае і слаўнае, але хутка мінае... Як сон... Завядае, бы кветка.

Пільны позірк Вольгі змеціў, як блізка ад іх па шыгаллі шахнула сівая, бы здань, наўздзіў вялізная ваўчыца. Але Еўфрасіння, паглыбленая ў свае думкі, працягвала:

— Вечнае ж і нябачнае вякі прабывае. Як у пісанні сказана: « Ні вока не бачыць, ні вуха не чуе, ні на сэрца чалавеку не прыйдзе, што ўгатаваў Бог тым, хто любіць яго».

Нарэшце, сеўшы на павозку, ігуменя яшчэ раз азірнулася і пачала чакаць, калі Вольга праверыць выезд з лесу на дарогу. Да павозкі блізіліся сёстры. Уладкоўваліся на падводзе. Чалядніца прыкрыкнула на каня. І раптам ігуменя ажно ўгнулася ад вострага болю з левага боку. Заплюшчыла вочы, да слыху выразна данеслася далёкае і амаль забытае: «Прадслава!»

Павозка нечакана рыпела, аднак далёкі голас маленства не аціхаў. Рыпенне колаў сціхла. Адчуўшы трывожную насцярожанасць сёстраў, Еўфрасіння міжволі падняла галаву: на лясной дарозе перад Вольгаю стаяла вялізная ашчэраная ваўчыца. Конь узвіўся на дыбкі.

Еўфрасінні потым расказвалі. І чалядніца. І тая маладзенькая паслушніца, што гэтак неасцярожна варухнулася і ўскрыкнула. Зрэшты, і ўласная памяць захавала момант, калі шэрая звярына стралой узвілася насустрач безабароннай менскай князёўне, якая нават не паспела падняць меч. Апошняе, што запомнілася сёстрам і самой ігумені, — гэта адчайны, выратавальны рывок яшчэ адной дзіўнай пачвары, што бліскавічна вылецела з-за соснаў наперарэз ашалелай ваўчыцы. Конь таксама рвануўся з дарогі ўбок, але вазок ушчаміўся між соснамі і спыніўся. Магутныя дрэвы высіліся навокал людзей з багуну і разлапістага, ледзь не да самага пояса папаратніку. Праз густыя шаты галля амаль не прабівалася сонечнае святло. Было сыра і даўка. Навокал манашак разлягалася глухая нетра запалацкае пушчы. На густым высокім кустоўем цямнелі буйныя ягады, але на іх

ужо ніхто не звяртаў увагі. З боку лясной дарогі неслася звярынае хрыпенне і роспачныя чалавечыя крыкі. Праз прагалы між дрэвамі было відна, як на дарозе, сашчапіўшыся ў смяротным паядынку, змагаюцца двое. Чалавек і звер. Вольга, падняўшы меч, напружана чакала зручнага моманту. Нарэшце да сёстраў данёсся жахлівы трэск і скавытанне, пасля чаго ўсё заціхла.

Ігумення ішла па дарозе хістаючыся. Следам гэтак жа моўчкі цяніліся разгубленыя сёстры. На ўтравелай лясной дарозе ляжаў, шырока раскінуўшы рукі, сапраўдны волат. Густыя, залацістага колеру валасы і барада ляснога чалавека былі заліты крывёю і хвалямі падалі на прыкрытыя заечай світкаю грудзі. Гэта быў вяшчун Валодша. Вочы ляснога жыхара ўжо былі заплюшчаны, у горле зеўрала смяротная глыбокая рана, з якой біў струменьчык густой крыві. Падступіўшы бліжай, ігумення прыкрыла і рану, і ўсё аблічча вешчуна сваёй раднянай накідкай. Крыху воддаль ад яго, разявіўшы зяпу, ляжала ваўчыца з патрушчаным чэрапам. Да ігуменні, якая моўчкі пазірала на ўкленчаную перад волатам Вольгу, сыходзіліся сёстры. Касіліся на скрываўлены меч, што ляжаў на зямлі. З жахам пераглядваліся. Чалядніца войкнула. Пэўна, таксама пазнала вешчуна. Ці не яна некалі і прывезла ў Сяльцо гэтага параненага Рогваладам, але, як аказалася, вельмі моцнага госця з Заслаўя. Усе чакалі, што ўслед за ім у Сяльцы з'явіцца і Вольга. Але мянеская князёўна знікла. Рана Валодшы, помніцца, была неглыбокая і добра гаілася. Залатавалосы лясун, не чакаючы канчага ацалення і нават не падзякаваўшы сваім выратавальніцам, праз колькі дзён сярэдначы збег з келлі. І ледзь не адразу ж па вакольных весях папаўзлі чуткі пра з'яўленне ў запалацкай пушчы новага вешчуна. Пра тое, што Валодша жывы, не ведала хіба толькі адна Вольга, таемна пакінуўшы Полацак разам з рыбнымі арцельшчыкамі Кірыка.

Цяпер мянеская князёўна так горка плакала, што сёстры зніякавела апускалі позіркі. Ігумення спасцярожліва глянула на чалядніцу, якая тут жа дастала з глыбокай дарожнай торбы малітоўнік, які заўсёды насіла з сабою.

Калі збялелая Еўфрасіння з крыжам у руках схілілася над памерлым, князёўна ўсё яшчэ не сунімала слёз. Да высокіх густых вяршалін несліся пяшчотныя дзявочыя спевы: пачыналася сумная развітальная малітва. Лес падхопліваў дзявочыя галасы перазвонам казюрак і птушыным шчогатам. Вольга, усё яшчэ лежачы на грудзях вешчуна, бясцямна шаптала горкія словы запозненай пяшчоты…

У Сяльцо яна вярнулася толькі праз некалькі дзён.

### 3

…Цемнаскурая, з тоўстымі вуснамі і схопленымі на лбе раменьчыкам кучаравымі валасамі старэйшая дзева манастыра, куды Асан урэшце прывёз полацкіх паломнікаў, годна прыняла ў падарунак ад гасцей залаты крыжык. Ціха перамовілася з Асанам і адразу ж, хітнуўшы складкамі шырокага балахона, па гулкім калідоры прывяла Еўфрасінню ў даволі прасторную гасцёўню. Не прыпыняючы гаворкі, што распачалася яшчэ па дарозе, дзева прапанавала сесці на мяккія візантыйскія пуфікі наўкруг засланага аксамітам нізкага стала. Наліла ў піялы казінае малако. Падняла руку, быццам хацела аб нечым папярэдзіць.

— Бойцеся пустыні, ігумення.

— Усё жыццё наша, як пустыня, сястра. Ідзем і бясконца абдзіраемся да крыві. А я?.. Я ўжо такая перабытая… Чаго мне баяцца ў гэтых пясках? *(Падняла галаву ў чорным каптуры.)*

— Хіба ігуменні нагадаць?: «Тады Ісус быў зведзены Духам у пустыню, на спакушэнне ад д'ябла...»

— Я адолела амаль усе свае дарогі, сястра, ад Полацака і да магіл у склепе святога Лукі. І даўно ўжо старэйшая за сваю маці, якая так і не вярнулася з Царгорада, куды з бацькам была выслана… *(Задумалася.)* Але ж гэта было так даўно... Зрэшты, у вас бываюць адтуль госці?

— З Царгорада? Вядома. Чулі нават пра вашу зямлю… — Дзева ўздыхнула. — Толькі быццам усе там у вас, як дзікія.

Звер — той, хто шукае сабе нару ў людскіх душах, як пісаў Васіль Кесарыйскі.

— Людзі заўжды асуджаюць іншых залішне паспешліва. Без роздуму і спачування. Асабліва калі маюць у руках уладу… Слава зямная — прах і попел. Знікае, як падманная пара… І горш павуціння аблытвае людзей. Слабасці плоці часам мацней за сілу духу.

— А колькі такіх, што асуджаюць бліжняга толькі з-за ўласных пакутаў. Ужо забылі пра Ягоныя раны.

— Я даўно зразумела *(скрушна хітнуўшы галавою)*: той, хто толькі асуджае, ніколі не спасцігне провіду Боскага. Але скажыце, мне, сястра, з чые ласкі так хутка мяняецца свет!? *(Падвысіўшы тон.)* Так смела будуецца Рым. Так падымаюцца германы!

— Храмы там, і праўда, высокія *(скептычна)*. Шмат бляску! Але да бляску хінуцца толькі найміты веры!.. Тыя, што многа гавораць пра Госпада, не цураючыся аплаты за сваю любоў. І чым вышэйшы сан, тым болей бляску патрабуецца для яго аплаты *(ціхі смех абедзвюх)*.

— …Але ж на каго падае гэты бляск, шаноўная ігумення? На Хрыста? На яго крывавыя раны? Ці дзеля такога, наш Уладыка пайшоў на ўкрыжаванне?!

— Любоў дзяцей да Айца павінна быць дарунакам сціплае душы. Вы гэта мне хацелі сказаць? А можа, асабліва гордыя рабы, акружыўшы сябе тым бляскам, пра які сястра мне гаворыць, хочуць упадобіцца Боскім пра-рокам? Каб узвысіцца над людствам…

— А, значыць, хочуць настаўляць і судзіць іншых? Сама цяжка бачыць, як годныя людзі пускаюць у душу атрутных чарвей… непамерную пыху і хцівасць, якія выпіваюць з плоці агонь жыцця.

— Не будзем такімі суровымі, сястра. Усе мы — Ягоныя дзеці.

— І ўсё ж асцерагайцеся нашых вятроў, ігумення! Я таксама баюся іх пясчаных прывідаў.

— Пясок жыцця выядае вочы. Гэта праўда. *(Самотна.)* Але калі ідзеш да ўкрыжавання, думаеш пра ўжо іншы край пустыні. А вы яшчэ такая маладая. *(Заплюшчвае павекі.)* Вам думаць пра тое рана…

Асан пачаў цярпліва тлумачыць усё, што Еўфрасіння расказвала пра свой край і манастыр у Сяльцы, і галілейка, такая важная ў сваім белым покрыве, толькі здзіўлена падымала бровы і прасіла гасцей падліваць у піялы малако. Сама з высока паднятай галавою сядзела блізу вялікага цісовага ўкрыжавання. І Еўфрасіння міжволі змеціла, што пры такім суседстве старэйшая дзева гэтага сястрынскага прытулку таксама быццам агорнута тым бляскам, пра які яны толькі што гаварылі. І, пэўна, пачувае сябе тут ледзь не галоўнай Хрыстовай абранніцай.

Міжволі хаваючы ўсмешку, ігумення паднялася і вось ужо спынілася перад фаліянтамі на высокім абчосаным камені. «Хронікі» Яна Малалы і Георгія Амартола былі і ў яе полацкіх зборах. Над перапісваннем тапаграфіі Касмы прасядзела амаль цэлую вясну. Змеціла Яна Сінайскага; былі на гэтай каменнай паліцы «Фізіялог» і на першым месцы «Шасцідзённы» Італа. Запытальна зірнула на гаспадыню: хіба забыла шаноўная, што гэты верны вучань Псёла пакланяўся адно Платону? Дзева ўсміхнулася:

— Але хто яшчэ так адкрыта асуджаў дэспатаў? Толькі дзёрзкі Італ!

Еўфрасіння схіліла галаву, чакаючы завяршэння Асанавага перакладу. Дзева тым часам ветлівым жэстам запрасіла вярнуцца да стала.

— Паднесеных гардыняю, сястра, мала хвалюе святое пакліканне, ад якога адышоў Юда.

— Але Юдзе сёння моляцца болей, чым Сыну Божаму! І трымаюць напагатове тыя цвікі, што беззаконнікі выцягнулі са святых ранаў.

— Паўсюль — пякельны агонь, гэта праўда.

— Страсць садомская зацьміла нават нашу Галілею! Усе пра тое ведаюць, але маўчаць. У святых пячорах пасяляюцца па двое ці з рагатай жывёлінай. Але ж не для таго, каб маліцца!

Еўфрасіння зноў пачала гаварыць пра сваё Сяльцо і дзева нарэшце прапанавала, праўда, не вельмі ахвотна, наведаць іх шпіталь. Еўфрасіння адразу ж згадзілася, хаця не зразумела ні стрыманасці дзевы, ні настойлівасці Асана, які адразу ж пачаў адгаворваць яе ад наведвання. Пасланец Камніна амаль у адчаі паўтараў адно слова, сэнс якога Еўфрасіння так і не зразумела. Урэшце, старэйшая дзева настаяла на тым, каб госця спярша крыху адпачыла. І Еўфрасіння згадзілася. Паслухмяна пайшла за маладзенькай вартаўніцай, павярнуўшы ў калідор, што скіраваў іх у невялікую купальню. Пасля мыцця вартаўніца ўсё гэтак жа моўчкі правяла яе ў келлю, захінутую тонкай посцілкай. На развітанне пакінула на каменным століку ежу і ўсміхнулася.

Як толькі галава дакранулася да мяккай травяной падушкі, Еўфрасіння задаволена парухала знямелымі за доўгі дзень нагамі. Пасля халаднаватай вады купальні цяпер з асалодаю выпрасталася на тонкай, прыкрытай толькі коўдрачкай, цыноўцы. Памяць перад сном вяртала то полацкія малюнкі, то жахлівыя згадкі пра шторм. З якой радасцю ўсе яны, адчуўшы, што гойданка Сярэдземнага мора слабее, падняліся з каюты наверх. І хаця хвалі яшчэ бушавалі, усе засталіся на палубе пасярод моцнай, неўтаймаванай калатнечы: перад вачмі то ўзнікалі, то зноў ляцелі ўніз цэлыя статкі калматых дзіваў з пачварнымі клыкамі і рожкамі над кучаравай пенаю. Вушы закладала ад рэзкага посвісту ветру; у бруднай каламуці раз-пораз успыхвалі, па-блазенску падміргваючы, чырвоныя вочкі пасланцоў апраметнай. Тады шчыльней тулілася да пляча дужага Давыда, пазірала на засяроджаную, укленчаную поруч Ксію. Шторм не хацеў адступаць і здавалася, што смерць ужо так блізка. Але цяпер, у гэтым ціхім галілейскім прытулку марское здарэнне бачылася Еўфрасінні крыху інакш. Побач пасля купання і сціплага пачастунку спалі яе выпетраныя за дарогу палачане. Праз дрымоту згадак, прыслухаўшыся, можна было ўлавіць тонкія перазовы блізкіх адсюль пясчаных дзюнаў.

«Не давярайце пустыні, ігумення!» — Успомніўшы заклапочаную перасцярогу старэйшай дзевы, Еўфрасіння міжволі пацiснула плячмі, адчуўшы, наколькі моцна змаглася. У прапахлай цяплом і пажухлымі травамі келлі блымаў тонкі агеньчык свяцільніка. Каля цыноўкі на круглым

століку, засланым шырокім вінаградным лісцем, стаяла піяла з малаком і ляжала некалькі фінікаў. Стомлена прыплюшчыўшы вочы, яшчэ раз усцешылася думкай, што ўсе нарэшце прычакалі Святое Зямлі. Тады супакоілася і паплыла ў кароткі адпачынак.

Яна прахапілася ад нядобрага адчування, што зусім блізка стаіць, чакаючы дапамогі, вельмі спакутаваны бяссоннем чалавек. Падняўшыся, тароўка адхінула тонкую засцілку дзвярэй, выйшла ў калідор. Сэрца спалохана калатнулася. Насупраць келлі сапраўды нехта стаяў. Нарэшце манашка ў простым покрыве павярнулася, і Еўфрасіння з палёгкай уздыхнула. Гэта была Вольга. Але сэрца па-ранейшаму трывожна сціскалася: вочы маладой паломніцы, здавалася, нічога не бачаць.

— Ты не можаш заснуць?

Вольга скрушна кіўнула галавою:

— Я збіралася прыйсці да вас.

Але манашка тут жа прыклала да шчакі далонь, паказаўшы, што ўсе спяць.

...Яны з Вольгаю ўжо стаялі на каленях, рыхтуючыся да малітвы. Ноч адгукалася з-за манастырскіх сцен ціхім перасвістам пясчаных прымар, але слых ігуменні нечакана ўлавіў мерны плёскат хваляў, і гэтыя нечаканыя, да любасці знаёмыя гукі імгненна вярнулі яе ў жоўты полацкі поўдзень, да паўнаводнай Палаты. Хвалі зноў і зноў плёскаліся. Слых злавіў нават шапаценне густых чаротаў. Відзежы памяці ставалі амаль відочнымі. Родная вотчына не адпускала. Побач нясмела варухнулася Вольга. Тады, зірнуўшы ў яе спалоханыя вочы, сказала:

— Калі мы яшчэ на зямлі, то ўсе такія малыя. І ўсё добра бачым, добра чуем. Так нам здаецца... Але хіба не час нам усім здагадацца, што чалавек пачынае па-сапраўднаму бачыць і чуць толькі тады, калі слых і зрок падымаюцца да горніх вяршыняў? Я так даўно ўжо хачу, каб твае вочы і слых расчыніліся. І спасцігнулі святло.. І зразумелі кірунак слядоў Ягоных. Але якая далёкая дарога яшчэ чакае паперадзе. Вольга, апусціўшы галаў, нечакана гучна, выразна пачала: «Ойча наш...» Шэпт ігуменні быў глухаваты.

* * *

Тонкая посцілка расхінулася, і ў келлю зазірнула старэйшая дзева манастыра, каля якой стаяў Асан. Акружаны смакоўніцамі галілейскі манастыр поўніўся тонкім, вечаровым водарам і лёгенькім стракатаннем тысячаў не бачных нават птушкам казюрак. Асан усміхаўся, і Еўфрасіння адразу ж заспяшалася да выхаду. Складзены з белага каменю будынак быў акружаны даволі высокай тоўстай сцяною з варотамі.

Але вось, калі ўсе трое перасеклі двор і мінулі вароты, Еўфрасіння адразу ж падалася ўслед за старэйшай дзеваю і заспяшалася да шпіталя. Асан застаўся каля варот.

Пасля адпачынку ўжо не чулася стомленасці, і Еўфрасіння ледзь не абганяла гаспадыню. А тая павярнула чамусьці не да бліжэйшай купкі смакоўніц, дзе ўзвышаліся збудаванні з шэрага туфу, а ў бок вялізных, бязладна раскіданых каля чырвонай скалы валуноў. Шпіталь і сапраўды размяшчаўся пад зямлёю ў даволі глыбокай каменяломні: спусціцца туды можна было па вузкіх, высечаных у скале прыступках. З таямнічай глыбіні патыхала вапнаю і глыбокай цемрай. Да таго ж, увесь час трэба было тры-

мацца за шурпатую сцяну. Спускаючыся ўслед за дзеваю, якая асвятляла шлях запаленаю свечкай, Еўфрасіння раптам спынілася: пад горла падкаціла даўкасць. Ад такога моцнага накату млосці ажно захісталася і аперлася абедзвума рукамі аб каменны выступ. Дзева таксама прыпынілася і чакала, змеціўшы нядобры стан госці.

А Еўфрасіння сапраўды знерухомела, аслабеўшы ад моцнага накату даўкасці. Аднак было яшчэ нешта... Тое, што вельмі насцярожыла яе на гэтых прыступках: нечакана адчула прысутнасць таго, хто ўжо так даўно не аказваўся і, здаецца, назаўсёды адступіўся ад яе плоці. Але вось тут, на гэтай галілейскай каменнай лесвіцы, ігумення зноў змеціла пажадлівы бляск чырвоных вачэй у трэшчынах цёмнай сцяны. Гэта было так нечакана, што яна гарачкава зашаптала малітву і ў тое ж імгненне зразумела, што чорная сіла сустракае і б'е знізу, з таго самага шпіталя, куды яе так неахвотна вяла старэйшая дзева манастыра. Да ўваходу знутры тым часам працадзілася рэдзенькае жоўтае сяйво. Улавіўшы смурод дыму і з цяжкасцю змагаючы трымценне ног, Еўфрасіння не адставала ад нетаропкай, па-ранейшаму маўклівай гаспадыні. Памяшканне галілейскага шпіталя, які Еўфрасіння нават не змагла ахапіць позіркам, асвятлялася толькі запаленымі каля ўвахода глінянымі свяцільнікамі; пасярэдзіне, паблісквакочы ў памараку, узвышаўся невысокі, высечаны з серабрыстага мармуру, крыж. У глыбіні памяшкання, каля невялікага вогнішча, дзяжурыла дзева ў шырокім шэрым балахоне. Аднак найбольш здзівіла іншае. У гэтым прасторным, на першы погляд, шпіталі, дзе было каля трыццаці альбо нават больш, жанчын, не чулася нават слабых стогнаў ці крыкаў. Не было і ўсхліпаў. Еўфрасіння ажно закашлялася ад дыму, якім моцна пацягнула ад вогнішча, і ўжо хацела запытаць, ці не лепей было б размясціць хворых наверсе. Але тлумача Асана з імі не было. Тады, не падаўшы і знаку незадаволенасці, моўчкі абвяла позіркам хворых, больш уважліва прыгледзелася да той, якая ляжала першаю каля ўвахода, — немаладой, прыкрытай вярблюджаю коўдрай, моцна схуднелай светлавокай жанчыны. Рукі яе, тонкія, як цэўкі, і забінтаваныя ў жоўтыя анучы, былі спрэс з'едзены шэра-фіялетавымі плямамі. І Еўфрасіння жахнулася такой яскравай выяве страшнай хваробы, здагадваючыся, што гэта пранцы ці нават горш. Побач на цыноўцы ляжала яшчэ адна, даволі маладая жанчына з такімі ж фіялетавымі плямамі на шыі. Маладзейшая раптам спадылба зірнула на Еўфрасінню і нечакана так моцна, так па-дзікунску жудасна крыкнула, што ўсе ў шпіталі, патрывожаныя гулкім рэхам, зірнулі ў іх бок, а да Еўфрасінні ўжо бегла, махаючы рукамі, дзяжурная дзева. Апантаная, відно, сама напалоханая, таропка цягнула на сябе коўдру, але зноў у нейкі момант зіркнула на Еўфрасінню. І ў яе позірку было столькі зняверанай пакуты і жаху, перамешанага з нейкай віруючай усярэдзіне апантанай пажадаю, што Еўфрасіння павярнулася да старэйшай, якая ўвесь час моўчкі стаяла за яе спіною, і знакамі паказала, што яшчэ застанецца ў шпіталі адна. Тая адразу ж зразумела, згодна пакланілася і пайшла да выхаду. Апантаная зноў жудасна, на ўвесь шпіталь, крыкнула, потым захрыпела, яе цёмнае, амаль не прыкрытае вопраткай выпетранае цела забілася ў корчах, на вусны хлынула пена, і Еўфрасіння ўжо ўбачыла яе галоўную хваробу. Тады ўкленчыла тут жа, на шурпатыя камяні шпіталю, сціснула пальцы пранцаватай у сваіх моцна сашчэпленых руках з крыжыкам унутры. І амаль адразу ж праз тонкую скуру ладоняў пачула гулкія, спалоханыя ўдары чужога сэрца, што працялі яе такім болем і пякучай мальбою, і адначасна пачула яшчэ адзін гук, які

заўсёды суправаджаўся патокам такога асляпляльнага святла, што яно пранікала ў кожную жылку яе цела, затапляла і паглынала цалкам. Гэта было прадчуванне і набліжэнне малітвы. Самай моцнай за ўвесь гэты дзень. І тады — пачала маліцца. Але чым болей яна малілася, тым цяжэй станавілася дыхаць. Дзева шпіталя, якая стаяла побач, паціху абцірала лоб шурпатым ручніком, аднак Еўфрасіння ўжо амаль задыхалася ад жару: апантаная нечакана вырвала сваю руку і прахрыпела ў забыцці: «Ал…ма!»… Гэта было добра, — тое, што апантаная імкнулася прамовіць сваё імя. Значыць, душа вызвалялася. Але той, хто быў унутры яе плоці, зноў скруціў хворую корчамі, а жывот так пуката ўздуўся, што здавалася, гэта цяжарная. Жудасна ўскрыкнуўшы, Алма распасцёрлася на падлозе. Усё яе цела нечакана напружылася. Устрывожаная, Еўфрасіння падняла вочы на дзеву, і манашка з разуменнем абышла хворую з другога боку. Адчувалася, ледзь стрымлівала міжвольны жах. А Еўфрасіння ўжо накладвала свае рукі з паломніцкім крыжыкам на ўспучаны жывот няшчаснай і зноў пачала малітву, гатовая да ўдараў. Яе і сапраўды ў той жа момант пранізала невераемна рэзкім, вострым, як шыла, болем, ад якога ў роце, здаецца, закіпала сліна. Ледзь не задыхнуўшыся, адразу ж стала такой чуйнай да ўсіх пахаў і гукаў, быццам стаяла тут, укленчыўшы, нават без скуры. Яна была такой безабароннай у сваёй жахлівай адчыненасці, што нават учула смурод, які сыходзіў з аскаленага рота хворай. Тады, схіліўшыся да ўспучанага жывата, да гэтага напятага бубна, на якім чотка змалявалася рыска ад скуранога раменьчыка, рэзка, уладна сказала:

— Ізыдзі!..

Апантаная дзіка ўскрыкнула і дзяжурная дзева моцна прыціснула яе плечы да падлогі.

— Ізыдзі!..

Апантаную пачало трэсці, але Еўфрасіння не адступала.

…Яна ведала, каго трэба прасіць аб дапамозе, і ўзрадавалася, калі моца малітвы нарэшце пачала ўзносіць позірк да падножжа Боскае велічы. Але так ярка біла тое нябеснае святло ў вочы, так моцна сляпіла, што ігуменння не адразу зразумела, дзе знаходзіцца найсвятлейшая Апякунка: не прыпыняючы малітвы, звыкла схіліла ў просьбе галаву. Рукі з крыжыкам, што таксама зрабіўся нясцерпна гарачым, паслабелі, расшчапіліся. Апрытомнеўшы, развінула плечы і ўрэшце змагла глянуць на спакутаваны, ужо такі спакойны твар хворай. Жывот апантанай апаў, вусны склаліся ў мяккую ўсмешку. Шызых плямаў на шыі не было. На шпітальнай цыноўцы ляжала маладжавая, з тонкімі рысамі смуглага твару прыгожая жанчына. Еўфрасіння паклікала яе, але вызваленая спала. Тады азвалася ссохлая ў ніціну старая, што ляжала побач, і ў Еўфрасінні ўжо не хапала моцы вызваліць сваю руку з яе ўчэпістых пальцаў. А пранцаватая, падобная на жывы, як абцягнуты жоўтым міткалем, шкілет, прашаптала: «Ал…ма…» — буйныя слёзы перапоўнілі глыбіню яе вачніцаў. Гэта была маці Алмы.

— Адкуль ты? — Еўфрасіння пытала, ужо ўсвядоміўшы, што гэтая ссівелая хворая зусім не галілейка; і адразу ж убачыла на яе руках яшчэ адно сведчанне пакутаў — спрэс абсеяныя жоўта-зялёнымі гнайнікамі ўмяціны ад ланцугоў. Перад Еўфрасінняй была спакутаваная, аслаблая ад запушчанай хваробы паланянка. Тады яшчэ раз глыбока выдыхнула, прабіваючы захраслы ў горле камяк спачування. Перапытала:

— Акуль ты, сястра?

Хворая сапраўды зразумела, вочы яе, поўныя мальбы і, адначасна, не-

вераемнай радасці, наліваліся слязьмі. Ледзь растуліла вусны: «Я... адтуль, скуль і ты». Тады Еўфрасіння яшчэ ніжэй схіліла галаву і мякка, павольна, але ўпэўнена і без страху налажыла свае рукі на яе развярэджаныя жоўта-крывавыя гнайнікі. Перад пачаткам малітвы, азірнулася. І ў той жа момант галілейскі шпіталь пачаў напаўняцца гукамі — стогнамі і ўсхліпамі. З розных куткоў на Еўфрасінню пазіралі вялікія, цёмныя, пякучыя ад болю і мальбы вочы.

Тады ўбачыла ўвесь шпіталь — усіх гэтых, жыццём і людзьмі адрынутых, дзяцей Божых. І тут жа адчула далонямі гарачыя штуршкі ад гнайнікоў паланянкі, яшчэ раз прыплюшчыла вочы. Пачала малітву, і моцная гарачая сіла пайшла з яе далоняў у чужыя раны. Захацелася хоць на хвіліну адняць свае рукі ад хворай, каб астудзіць ахопленыя полымем пальцы, але цяпер гэтага рабіць не выпадала. Важкая, як ртуць, стомленасць пачала расцякацца па ўсёй спіне, але яна ўсё малілася і малілася... Увесь шпіталь у напружаным маўчанні сачыў за кожным рухам незвычайнай госці, якая ўжо нават не заўважала, як вакол яе ў шчыльны круг збіраецца даволі стракатая грамадка. І толькі калі ўсе жанчыны, такія хворыя і аслаблыя ад штодзённага чакання смерці, моцна ўзяўшыся за рукі, стварылі жывое кола адчаю, ад якога сыходзіла хваля жудаснага болю, Еўфрасіння ў нейкае імгненне пачула гэты немы крык аб выратаванні і здзіўлена азірнулася. Замерла ў роздуме, але вось абвяла ўсіх позіркам і кіўнула галавою. І тады ўсе разам, праз слёзы і сцішаныя стогны, пачалі яшчэ раз: «Ойча наш...»

...Прачнуўшыся сярэдначы ад застаялай задухі, што ціснула на грудзі, Еўфрасіння з асалодаю ацерла шурпатым ручніком твар, прыгубіла гаркавае казінае малако, з'ела жменьку смокваў і фінікаў. Келля, куды яе прывялі са шпіталю, была зусім цеснай. Часу амаль не заставалася. Раніцаю меўся прыйсці Асан, каб упэўніцца, што месца, аплочанае ў караване, сапраўды надзейнае і да Ерузаліма палачане змогуць дастацца не пазней, чым праз месяц...

Вярнуўшыся на цыноўку, шчыльна прыкрылася доўгім баваўняным плашчом, купленым у качэўніка, выцягнула ўсцяж цела рукі, заплюшчыла вочы, чакаючы соннага забыцця, але ў твар зноў ударылі важкія салёныя пырскі нядаўняга шторму. Тады зразумела: усё, што адбывалася з ёю за гэты бясконца доўгі час, ужо не адступіцца. Цяпер, пасярод мірнай галілейскай ночы, ужо цяжка было паверыць, што яшчэ ўдзень яна не ведала пэўна, ці дастанецца да жаданага берага. Але трэба было абавязкова даплысці і ступіць на цвёрдую дарогу ёй, ужо такой немаладой Хрыстовай служанцы, каб прайсці апошні жыццёвы круг свой па слядах Госпада. Каб ісці як з заплюшчанымі вачмі, але — відушчаю, ісці і згадваць пра добра вядомае, думаць пра пражытае, вяртаючыся ў такое доўгае сваё жыццё, але — ісці... Думаць аб заўтрашняй сустрэчы і загойваць у сваёй душы раны сустрэчаў колішніх. Заглядваць у вочы хуткай будучыні і азірацца ў такую блізкую яшчэ сваю маладосць. Слых нечакана узнавіў прыглухлае: «Я стуль, скуль і ты...» Выпітыя хваробаю бляклыя вочы незнаёмай усё яшчэ трывожылі. У паўсне пачула, як праз перапоўненую шапатлівымі гукамі галілейскую ноч працадзіўся зусім іншы, не падобны да цыкадаў, моцны гук. Аднак жа хутчэй шум. Глухі і працяглы шум, што нагадваў шугаценне дажджу, які далятаў, здаецца, з самога Полацаку. Бо час настаў... Нешта, відно, перавярнулася ў яе душы на гэтай зямлі. Нешта вельмі важнае здарылася пасля наведвання галілейскага шпіталю (Я адтуль... скуль і ты»).

Нешта скруціла яе сярэдзіну, змушаючы зноў і зноў вяртацца да мінулага. І калі малюнкі перажытага сапраўды сталі такімі выразнымі і яркімі, такімі балюча-жывымі, якімі бываюць толькі калі надыходзіць развітанне, тады сапраўды паверыла, што Час — настае.

Месца, якое купіў у пагоншчыка вярблюдаў Асан, было ў сярэдзіне каравана, да таго ж, суседам князя Давыда быў немалады мараніт, які, на шчасце, крыху разумеў па-сербску, і гэта азначала, што ў далёкай дарозе цераз пустыню палачанам будзе з кім перамовіцца хоць бы словам. Шлях, які пачынаўся ў галілейскім манастыры, абяцаў жаданую сустрэчу, і Еўфрасіння, развітваючыся са старэйшай дзевай манастыра, усміхалася. Тая, аднак, нечакана апусціла твар у далоні і застагнала. Гэта было так нечакана, што полацкія паломнікі адно сцішана апусцілі вочы. Але праз хвіліну пачуўся патрабавальна заклапочаны голас пагоншчыка каравана. Асан таксама прыспешваў. Апошняе, што запомнілася Еўфрасінні, — адзінокая белая постаць галілейскай манашкі ў высокай арцы манастырскіх варотаў.

* * *

...Пясок пустыні патлусцеў і густа наліп на шырокія полы паломніцкай хламіды. Некалькі пластоў шурпатага, як кара старога дрэва, пяску — і полы зрабіліся такімі цвёрдымі, важкімі, так моцна шорхалі пры хадзе, што гэтых здарожаных паломнікаў з далёкага крывіцкага краю, якія амаль у непрытомнасці і нават без ахоўнага атраду і праваднiка адольвалі бясконцы хвалісты грэбень Іўдэйскай пустыні, пачулі. Як некалі пачулі ў пясках Фарана цяжкі пераход іўдзяў з Егіпта ў Ханаанскую зямлю, калі месія вёў свой народ уздоўж згарчэлага ад солі Мёртвага мора і Ерыхона. Але гэтыя спакутаваныя падарожнікі яшчэ нават не здагадваліся, што ўжо збіліся з дарогі, заблудзілі і, самі таго не жадаючы, таксама блізіліся да берагоў, на якіх напачатку ўсіх часоў стаялі Садом і Гамора. Яркае сонца расцеклася па сшэрхлым ад спёкі небе і балюча біла проста ў вочы. Зусім блізка з рабрыстага бархана праз крок ад Еўфрасінні нечакана ўзвіўся доўгі, бліскучы і надвычай пруткі гад, але праз імгненне заслізгаў, торгаючыся па аброжку крутой пясчанай касы, і тут жа знік, нібыта растварыўюся ў барханах.

Шшу-шах.

Ша-шах.

Ша-шша. Шах-шах...

Шурхаценне наліплага на хламіды пяску ўжо стала голасам самой пустыні, і падарожнікаў зноў пачулі. Еўфрасіння, якая звыкла ішла паперадзе, спынілася і прыслухалася. З-пад самых ног яе, абутых у сандалі і ледзь прыкрытых доўгімі поламі хітона, нечакана ўзвіхрылася пяшчаная пазёмка. Калюча ўедлівыя клубкі яе, засцілаючы вочы і забіваючы дыханне, падняліся цэлай лаваю балесна-рудаватага пылу. Але дарога вяла ў даўкую, як высахлая і размеленая Хамсінам Хрыстовая кроў, бясконцасць. Вецер жаласна заскуголіў. Тады ўсе міжволі прыпыніліся і, нагнуўшыся, Еўфрасіння, паправіла палатняныя паскі, якімі туга, пад самыя калені, абмотвала зашорганыя ногі, шчыльней насунула на твар засычаную алеем хусціну. Але вось зноў пайшла наперад. За ёй, падняўшы да самых вачэй такія ж ахоўныя анучкі, амаль след у след рушылі іншыя паломнікі — высокі Коса і цемнавокая, падобная да самой Еўфрасінні, таксама немаладая Еўпраксія, альбо Ксія, як звалі яе ў Полацку. Следам, не здымаючы ваярска-

га пояса з мячом, прыспешвала крок Вольга. Дзіўна, але нават сонца пустыні не здолела хоць бы крыху асмужыць па-ранейшаму светлае і пяшчотнае аблічча гэтай маладой, з сурова зведзенымі бровамі мянескай князёўны. Вочы Вольгі пачыналі слязіцца і яна раз-пораз закрывала іх рукамі, засланяючыся ад рэзкага бляску пяску. Апошнім няспешна ішоў Міхал — бельчыцкі ігумен з густой аблажыстай барадою. Быў цяпер у простай сялянскай вопратцы, з-пад манаскага вастраверхага стаўбуна на галаве выслізнулі сівыя пасмачкі рэдкіх валасоў. На руцэ Міхала пабліскваў баярскі сярэбраны вобруч. За ўсю доўгую дарогу ад Акры ён сказаў толькі некалькі слоў, заняты малітвамі і клопатам, які ўсклаў на сябе — сачыў разам з бельчыцкім інакам за няхітрай паломніцкай гаспадаркай, што размяшчалася на муле і вослiку. Вецер даганяў і нагадваў аб сабе лёгкімі штуршкамі ў спіну. Коста таропка зашаптаў: «І бысць бура веліка, яко жэ не была ніколі, і разносі хоромы і товар, і клеці, і жыта з гумен, і проста рэшчы, яко рацьузяла, і потопляша бороне у балоцех... У леце шэсць тысячаў шасцьсот пяцьдзесят другім!..»

Шшу-шах.

Ша-шша…

Здаецца, і не было тут арабійскага гада, не прапаўзаў і не страшыў, падымаючы сваю доўгую пляскатую галаву над расплаўленым пяском.

Яны ішлі ў чырвонай і густой сцяне пылу так доўга, што Еўфрасіння балюча закашлялася, нават падняла рукі, сутаргава зрываючы з горла вераўчаныя жгуты спёкі. Нарэшце выдыхнула крывавую кроплю ў ліпкую ладонь. Не пераставала шаптаць, ледзь растуляючы вусны, малітву.

— Напэўна, хутка Аронта, сястра. Вільгаці шмат. Пясок цяжкі. — Ксія, задыхаўшыся, параўнялася і падышла бліжэй, нахіліла галаву.

Коста, самы малодшы з паломнікаў, чарнабровы і цемнавокі, з даверліва-дзіцячым паглядам шырока расплюшчаных шэрых вачэй, амаль не адставаў ад Вольгі.

— Ты не стаміўся, Коста? — Змеціўшы запеклую бурую кроў на ягоных нагах, Еўфрасіння звярнулася да Ксіі: — Яшчэ хіба не застаўся бальсам галаадскі?

Тая адмоўна хітнула галавою.

— Няўжо ні кроплі?

Ксія адно ўздыхнула, паправіўшы на твары ахоўную хусціну. Вольга ўстрывожана азірнулася.

У які момант яны збіліся з дарогі? Напэўна, адразу ж, як адышлі ад каравана, што рэзка змяніў свой маршрут і скіраваўся ў Суэзы пасля вымушанага перапынку. Хто прынёс у караван чорную воспу — было невядома. Але за чатыры дні памерла адразу ж трынаццаць чалавек, сярод якіх — чацвёра ахоўнікаў, пасланых з палачанамі Асанам. Князя Давыда разам з іншымі хворымі адправілі ў лекавы лагер пад Царгорадам. Але ігуменя, не зважаючы на перасцярогі і адгаворы, рушыла ў дарогу. Пагоншчык вярблюдаў на развітанне паказаў рукою, куды трэба ісці, каб патрапіць у Ерузалім, гарачкава раіў не збочваць. Але яны так спяшаліся, што нават не змецілі, як страцілі накірунак. Мул і вослік, падараваныя суседам маранітам, ужо хісталіся ад стомы, хаця паклажы на іх не былі цяжкімі: дзве невялікія торбы з курдзючным салам, сушанай рыбаю і бабамі, скураныя пляшкі з алеем, бурдзюкі з вадой, і тое, што ацалела ад Полацка: вопратка, апошнія пары скураных лычкаў, драўляны і алавяны посуд, сагайдак з лукам і стрэламі. Праўда, на муле была яшчэ скрынка з падарункамі — на-

бытае ў бізантыйскай Сафіі залатое кадзіла, два полацкія, аздобленыя чырвоным золатам і серабром крыжы з моранага дубу, ладны сувой ільнянога палатна для еразалімскіх манастыроў і самае лепшае, самой Еўфрасінняю перапіса ıе Евангелле ў скураных вокладках. Уласнымі рукамі выраблялa і тоўсты пераплёт.

Апусціўшы галовы, мул і вослік з наладаванымі паклажамі звыкла цягнуліся за ўнураным у сябе Міхалам. Коста трымаўся бліжэй да Вольгі. Змеціўшы, як ігумення скасіла трывожны позірк на яго зашорганыя ногі, паспешліва супакоіў:

— Вытрываю. Гэта не раны, уладычыца... А вось у цябе... Гаіць трэба.

— Ідзем, Коста. Хіба маем мы час?

Ша-шша...

Прастора па-ранейшаму здавалася пагрозліва бясконцай, але Еўфрасіння ўжо адчула, што ўся агромністая Іудзейская пустыня быццам пахілілася. Тады падала знак, і падбадзёраныя паломнікі, адчуўшы, што пачалі спускацца, заспяшаліся. Ігумення і сама міжволі прыскорыла хаду, пакінуўшы сваіх палачан ззаду, аднак неспадзеўкі зачапілася за калючы выдзерыкуст і, не ўтрымаўшыся, зарылася каленьмі ў пясок. Расплаўленае сонца пякельнымі слупамі ўдарыла ў галаву, і так нясцерпна, балюча зудзела паміж лапаткамі. Пустыня нечакана захрыпела, але вось пачуўся тонкі, як ад палёту тысячаў нябачных стрэлаў, свіст, і гэты балючы енк гарача-вільготных барханаў адразу ж падхапіў вецер. Змушаная затуліць вушы, Еўфрасіння нават прыплюшчыла вочы. Здаецца, у гэтую кароткую хвілю задрамала. Усё яшчэ ўкленчаная, слухала спрадвечную крыўду парушанай пустыні. Але вось паднялася на ногі, і свіст адразу ж прыпыніўся, паўсюль запанавала цішыня. Падзьмуў свяжэйшы ветрык, цёплы язык яго мякка лізнуў раз'едзеныя соллю трэшчыны на лытках. Уздыхнула на поўныя грудзі, дрогнула: па нагах нечакана слізганула нешта халоднае і гідкае. Краем вока змеціла бліскучы чорны кончык змяінага хваста. Змогшы агіду і страх, здзівілася, што кубло арабійскага гада ўсё яшчэ не адступае ад яе. Аднак стракаты пасак імгнення згубіўся ў пясках. Пачуўшы ва ўсім целе вялікую слабасць, ігумення нават прылегла набок і, крыху прыўзняўшыся на локці, закашлялася. Выдыхнула на хламіду скрываўлены пыл. І тут, падняўшы вочы, уздрыгнула — уперлася позіркам у самую глыбіню нёба...

Гэта была цёмная глыбіня велізарнай пашчы арагавелай, скручанай колцамі пачвары, што, аказваецца, увесь гэты час не адступала, сачыла за кожным іх крокам і цяпер паднялася, упёршыся хвастом у зямлю, грозна застыла перад Еўфрасінняй, як жывая тоўстая спружына, гатовая ў любы момант выпрастацца. Сонца пустыні аблівала жоўтым алеем бліскучую прадаўгаватую галаву гада, па баках вялізнай ружаватай пашчы бялелі белыя вострыя іклы і паміж імі выслізгваў, біў наперад чорны язык. Язык пустыні цягнуўся да самых вуснаў манашкі, і яна рэзка паднесла руку, каб захінуцца, але смяротныя кольцы бліскавічна выпрасталіся ў яе бок: гадзабойца ўпіўся ў падушачку ладоні. І адразу ж — адпаў, пачаў уцякаць, рассякаючы пяскі. Ад жаху і болю Еўфрасіння ўскочыла на ногі і захісталася. Коста, азірнуўшыся на Ксію, паклікаў:

— Сястра!

Але Ксія працягвала ісці, апусціўшы галаву ў свае глыбокія, усё яшчэ пэўна, полацкія, думкі. І раптам Вольга, імгнення падляцеўшы да Еў-

фрасінні, прыпала вуснамі да неверагемна глыбокай, быццам скуру рассекла страла, раны. Высмактала і памкнулася выплюнуць атруту. Жоўтая смяротная кропля выцекла ёй на бараду і адразу ж высахла.

— Ксія! — Еўфрасіння паклікала гучней, рэзка, і сястра нарэшце пачула, азірнулася. Кінулася да іх з Вольгаю. Аблепленыя згуслым пяском важкія полы яе хламіды шырока разляталіся ў бакі. Ксія вярталася замашыстымі шырокімі крокамі, на бягу шоргаючы рукою ў раднянай торбе. У нейкае імгненне прыпынілася. Акругліла ад радасці вочы, падняла руку з чорнай глінянай банькай:

— Знайшоўся! Бальсам...

— Вользе на вусны!

Пабялеўшы, Ксія адразу ж намасціла бальсамам Вользіну рану, тут жа перавязала і Еўфрасінню, перацягнуўшы яе руку грубым, яшчэ полацкім ручніком.

Белы Коста разгублена азіраўся.

Смяротная пагроза ў пясках зноў бліснула, зазмяіўшыся зусім блізка, і Еўфрасіння зразумела: пустыня ўсё яшчэ не адступіла, але высочвала цяпер не яе ці Ксію, а самага малодшага з паломнікаў, — не па летах вусцішнага летапісца і званара Косту. Усю прастору пустыні завалакло лятучым попелам пясчанай буры, у якой нечакана ўзнікла фігура вершніка, што, махнуўшы свайму ахоўнаму атраду рукою, чамусьці павярнуў назад і імгненна знік за барханамі, звалокшы за сабою пяшчаныя клубкі. Але хіба можна было верыць у такой каламуці вачам?.. Як пачуўшы яе думкі, між пяскоў зноў бліснуў, хоць і не так блізка, арабійскі гад — нязвыкла спакойна ляжаў на бархане. Але вось ужо зноў нешта памянялася ў гэтай да попелу перасохлай пустыні. Над пяском з уедліва тонкім, скразным свістам пачало падымацца трымітліва-плыўкае марыва; Еўфрасіння нават затуліла вочы рукамі, гледзячы толькі праз шчыліну між пальцамі. Прыпынілася.

Бліскучы змяіны пасак, што ўсё яшчэ нерухома ляжаў на пяску, раптам пачаў большаць, і вось ужо настолькі разбух, так выяўна акругліўся, што ў мірг вока стаў падобным на чалавечае цела. Прымара разварушанай гарачым ветрам пустыні адразу ж, як толькі Еўфрасіння прыгледзелася, стала выяўнай: гэта была жанчына, якая нават павярнулася набок, бліснуўшы пад сонцам чорнымі акруглымі сцёгнамі. Цёмнаскурая прымара павярнулася яшчэ раз, і ў гарачым сяйве рэзка змаляваліся вытыркнутыя ўверх вялікія грудзі з вострымі саскамі і выразны профіль жаночага твару… Але ні Ксія з Вольгаю, ні Міхал, здаецца, нічога не бачылі. Толькі Коста спыніўся як укопаны. Уся пустыня была цяпер як залатое ложа для гэтага пажадліва раскінутага цела, важка і з рэзкім шархаценнем рухаючы наўкруга жаночае плоці свае зыбучыя пясчаныя глыбы. Коста пачаў разгублена азірацца, з мальбою ў вачах звяртаючыся найперш да Міхала, але сівабароды манах, унураны толькі ў свае думкі і малітвы, па-ранейшаму нічога не заўважаў.

— І ачышчэнне Духам Святым, Коста! — Еўфрасіння ласкава зірнула на зніякавелага званара, прыпала вуснамі да свайго дарожнага крыжыка. Вочы заслаў іншы малюнак. Богша ў доўгай палатнянай сарочцы, з толькі што закончаным, дзівоснага харасства, крыжам у руках стаяў пасярод іхняга падворка перад свежа пабеленай каменнай царквою Святога Спаса. Стаяў, аблітгы яркім полымем надвячорку, і ўсміхаўся небу. Еўфрасіння пацягнулася да яго рукамі, але прымроены полацкі прывід тут жа растварыўся

ў жоўтым марыве. Тады пераджагналася і, напружыўшы зрок, убачыла, як цемнаскурая жанчына на пясчаным хрыбце, уся пакрытая сівым налётам пустыні, гнутка павярнулася на жывот і прыўзнялася, абапёршыся на рукі.

На пяску недалёка ад яе ляжаў вышыты золатам скрываўлены покрыў. Цела галілейкі пацямнела ад удараў біча. Няшчадна збітая і кінутая на пагібель сярод пяскоў пустыні, жанчына зноў прыўзнялася, паклікаўшы на дапамогу, але тут жа, непрытомная, упала на пяскі. І ўжо не было часу разважаць, хто яна, дзеля чаго і кім тут пакінута…

Да галілейкі спяшаўся Коста, аднак тая ачуцілася і паднялася сама, таропка захінаючыся скрываўленым міткалевым покрывам. Коста асцярожна дапамог ёй сесці на восліка, паклажу з якога перанёс на мула. Ксія з Вольгаю аб нечым ціха раіліся. Еўфрасіння сціху перагланулася з Міхалам і апусціла галаву.

Нарэшце, адпіўшы па глытку вады са скуранай пляшкі, паломнікі зноў пачалі свой звыклы рух. Пустыня паспела змяніцца: паўсюль была рассыпана такая безліч дробных камянёў, што падарожнікі раз-пораз збівалі аб іх без таго натруджаныя ногі, але найбольш даставалася Косце, змушанаму дапамагаць і галілейцы.

Калі яны ўрэшце спыніліся на перапынак, дзень прыкметна ачахваў. Міхал падышоў да Косты, пільна паўзіраўся ў галілейку. Даведаўшыся, што імя незнаёмай — Шахіра, вярнуўся да мула, паправіў паклажу. Вольга, адвязаўшы са свайго пояса скураную бутэльку, яшчэ раз працягнула яе галілейцы, і тая ад радасці шырока расплюшчыла вялізныя, бы ўтопленыя ў прорвах, цёмныя вочы. Ксія ўжо асачыла Еўфрасінін позірк у бок выяўна акрэсленых у далечыні пагоркаў. Рашуча падаўшыся туды першаю, пацягнула за сабой астатніх. Дарога здалася крыху лягчэйшай. Усё часцей сустракаліся адзінокія калючыя кусты і лапікі чэзлай травы.

Яшчэ ніхто з палачан дакладна не ведаў, куды яны ўрэшце трапілі, але Еўфрасінню не пакідала пачуццё, што выйсце недзе зусім блізка. Ледзь бачная дарога і сапраўды аб'явілася адразу ж, як толькі яны падышлі да грады бліскучых скалаў каля нешматлікай купкі лістоўніц. Тут жа знайшлася глыбокая, абкладзеная абчасанымі каменымі квадратамі студня, у якую спусціўся Коста: пачаў напаўняць і падаваць наверх скураны мех з жаўтаватай вадою. Паілі найперш мула і восліка, якія адшукалі сабе і чэзлую траву. Гэта была даўно пакінутая людзьмі вёска з яшчэ моцнымі сценамі і старымі дрэвамі. Спыніліся каля адной з пашчэрбленых пясчаным ветрам сцен. Спакойна ўкленчылі і пачалі маліцца.

Назапашаная за ўсе гэтыя дні стома стала такой важкай, што Еўфрасіння адчула нясцерпную ламату ва ўсім целе. Зусім блізка пад лістоўніцай на тонкай посцілцы ляжала галілейка. Ксія лёгкімі рухамі масціла яе зраненую спіну яшчэ полацкім, настоеным на дзівасіле алеем. Пісягі між лапаткамі галілейкі сталі амаль чорнымі, але ніхто не пачуў ад яе ні стогну. Затое Еўфрасіння ледзь стрымлівалася: усю яе ажно расцінала страшным болем. Коста, прысеўшы пад дрэва і апусціўшы галаву, маўчаў, раз-пораз пераглядваючыся з Міхалам: стары манах завіхаўся каля мула і восліка, абціраючы палатнянай анучаю бакі жывёлін.

Адчуваўся блізкі вечар, і паломнікі ўрэшце пакінулі мёртвую вёску, пацягнуліся ўздоўж прахалодных скал. Галілейка была прыкрытая тонкім доўгім хітонам і абута ў мяккія лазовыя пасталы. З шыі звісаў залаты ланцужок са змейкай. Запясце левай рукі было схоплена залатым бранзалетам, упрыгожаным каштоўнымі камянямі. Таксама ў выглядзе змейкі. Той,

хто падняў біч на гэтую красуню і потым пакінуў яе ў пясках пустыні, быў, пэўна, нябедны. І ўсё ж, *што не дазволіла яму зняць такія каштоўныя рэчы з прыніжанай і пакінутай на пагібель жанчыны?*

Пасля лекаў Ксіі і кароткага адпачынку Шахіра ішла ўпэўнена, употай кідаючы зацікаўленыя радасныя позіркі на сваіх выратавальнікаў. Ці не ад празмернай стомленасці Еўфрасіння яшчэ ні разу не зазірнула ў яе вочы, адчуўшы ў галілейцы немалую сілу, што, аднак, чамусьці адштурхоўвала. Гэта была чарната пакуты, што сыходзіла ад збітага і збалелага жаночага цела. У ружовым небе зноў раскрыліўся, як прывязаны, каршук, шырокімі кругамі спускаў з нябёсаў чаканую прахалоду, і шархаценне яго крылаў над скаламі, даляцеўшы да неміласэрна выпетраных пустыняю людзей, растрывожыла. Але вось пачало свяжэць. Тады ўсе міжволі заспяшаліся і без цяжкасці знайшлі ў скалах пячору нанач — даволі прасторную, з мяккім пяском пад самымі сценамі, глухавата-цёплую і цёмную. Пячора, каля якой так блізка праходзіў шлях караванаў, пэўна, ужо не аднойчы служыла прыстанкам для такіх жа паломнікаў: па цэнтры невялікага, выпаленага да чорнага, круга, ляжаў тоўсты сухі трыснёг, горка пасечанага ветрам аслінага і вярблюджага памёту і амаль цэлая, высахлая да белай косткі, смакоўніца, выдраная з зямлі з карэннем. Паўкруглая, рукою дастаць, столь пячоры паблісквала белымі жылкамі. Было прасторна і вусцішна.

Разаслаўшы паверх намеценага каля сцен пяску дарожныя посцілкі, паломнікі спешна ўладкаваліся нанач. Коста разламаў і патрушчыў галіны смакоўніцы, заклапочана схіліўся з крэсівам над трыснягом і агонь тут жа весела пабег па сухім лісці і кары. Дым цягнуўся ўверх, адшукаўшы ў каменнай столі шчыліну. Пячора напаўнялася зыбкім святлом. Міхал застаўся блізу выхаду, прылёгшы каля восліка і мула, Ксія асцярожна наліла ў драўляную міску вады, высыпаўшы туды жменю бобу. Вольга, адклаўшы ўбок пояс з мячом, звыкла маўчала. Маўчала і Еўфрасіння. Слухала сябе, мякчыла языком і цёплаю слінаю сухую саранчу, што была тут калісь адзінаю ежаю Хрысціцеля. Пустыня ўсё яшчэ плыла перад яе вачмі: то пазвоньвала чырвоным золатам пяску, то глуха шурхацела, не дазваляючы хоць на хвіліну адпачыць.

Але Еўфрасіння ўсё яшчэ не магла спыніцца. Варта было толькі заплюшчыць павекі, як яна зноў ішла праз рабрыстыя барханы, адчуваючы, як смыляць пасечаныя гарачым пяском ногі. Паспрабавала выпрастаць іх на дзяружцы. Ціха застагнала ад пякучага болю ў руцэ. Не зважаючы на ўстрывожаныя позіркі Ксіі, выпіла задухмянены сухой ажынай кіпень. Пасля кароткай вячэры Коста запаліў ад вогнішча адну з галін смакоўніцы і пайшоў углыб пячоры. Аднак хутка вярнуўся. Сказаў, што ў скалу ўрэзаўся вузкі патаемны праход; на ўсялякі выпадак нават лёг каля ўваходу ў яго, але адразу ж заснуў. Звонку, напалохаўшы палачан, даляцела глухое вухканне савы. Але паломнікі ўжо засыналі. Не спала толькі Еўфрасіння. Ляжала зусім блізка ад выхаду. Чула хрыплаватае дыханне мула. Вялікія, жоўтыя, як восы, зоркі, нават не рассейваючы святло, паціху сцягваліся з вышыні ў гэтую пячору. Свежая ліпучасць ночы мякка краналася шчок. Нечакана ў сне гучна ўскрыкнула Ксія. Але ніхто нават не азваўся да яе. Толькі Міхал уздыхнуў. Пэўна, таксама не спаў... Сасмяглыя вусны Еўфрасінні нарэшце растуліліся...

— Ойча наш... — Укленчыла, адчуўшы каленьмі пласт зляжалага пяс-

ку пад шурпатай посцілкай. З намаганнем выпрастала плечы. Позіркам пакуль пакула па цемнаватай, з белымі пражылкамі сцяне. Пачала маліцца і малілася так доўга, што пачула подступы забыцця: вострае жоўтае святло ад вогнішча раптам лёгка расцяло перад ёю сцяну і было цяпер такім магутным, так лёгка рассоўвала цвердзь, што ўзрушаная нечаканым відзежам ігумення ўбачыла ў цёмна-жоўтым святле Шлях. Гэта была засыпаная шурпата-вострымі камянямі дарога па Кальварыі, якую з усіх бакоў абступіла цэлая гурма неспакойнага народу, сярод якога былі і вершнікі ў святочных плашчах, і легіянеры з коп'ямі. Бліскалі шчытамі на грудзях. Пад самымі конскімі храпамі згрудзіліся натоўпы жабракоў. У цяньку ад навесаў важна перамаўляліся гараджане ў новых халатах і халдзеі. Так многа было тут рознага мітуслівага люду, і ўсе з аднолькава пажадлівай цікаўнасцю сачылі за Тым, хто ішоў па Шляху, не падымаючы галавы ў церневым вянку. Убачыла вельмі выразна Яго і сама. Такі высокі і схуднелы нёс, угнуўшы плечы, агромністы Крыж. Раптам хітнуўся пад яго цяжарам, але на нейкую хвіліну падняў галаву і зірнуў з такой невыноснаю пакутаю на Еўфрасінню. Пазіраў проста ў вочы. Але колькі часу доўжыўся той невымернае глыбіні позірк?

І што хацеў сказаць Ты мне, Госпадзі?

Еўфрасіння не здужала нават падняць рук, каб ацерці з твару слёзы. Побач стагнала галілейка, і ўсярэдзіну Еўфрасінні адразу ж уліўся і пачаў разрастацца боль. Запаўняючыся бляклым святлом вогнішча, ўся пячора быццам расхінулася і ахопленая трымтлівасцю гэтага новага відзежу ігумення паволі ступіла ў прасторную залу. Азірнулася. Уздоўж высечаных у скале і добра адгладжаных сцен гарэлі паходні. Пасярэдзіне пачварна ўзвышалася вялізнае драўлянае кола. Але толькі ўбачыўшы, што са столі звісае некалькі вяровак з крукамі, Еўфрасіння з жахам здагадалася, што гэта не зала, а катавальня. І адразу ж змеціла двух катаў. У глухім куце ляжалі і замардаваныя — дзве ледзь прыкрытыя скрываўленымі лахманамі цемнавалосыя і цемнатварыя жанчыны. Пасярэдзіне памяшкання стаяла трэцяя, якую толькі што, прачыніўшы важкія дзверы, укінулі сюды — светлавокая і светлакосая, у белым хітоне, схопленым на сцёгнах залатым паскам. Зусім маладзенькая хрысціянка была босая і цяпер з жахам у шырока расплюшчаных вачах азіралася. Адзін з катаў, ухмыляючыся, наблізіўся да яе, але з глыбокага, цёмнага кутка катавальні раптам выйшаў высокі чалавек з чорнымі, ажно смольнымі кучарамі, што рассыпаліся на плячах, прыкрытых чырвоным плашчом суддзі. Убачыўшы яго, дзяўчына стала такой белай, што пажадлівы кат, схіліўшы галаву перад суддзёю, рэзка адступіў, крануўшы плячом адзін з крукоў. Вострыя жалезныя клыкі смуроднай катавальні, пагойдваючыся, звешваліся са столі на бліскучых, сплеценых з валовіных жылаў вяроўках.

— Адрачыся! — высокі ў чырвоным плашчы працягнуў руку да патрыцыянкі, але тая спасцярожліва адступіла. Аднак суддзя зноў наблізіўся, і ў той жа момант Еўфрасіння адчула, што ён, працягнуўшы руку, балюча торкае доўгімі пальцамі ў грудзі . Але ўжо ў яе, Еўфрасініны, грудзі... Ліпкая нямогласць пакрыла ўсё цела. Еўфрасіння бачыла маладзенькую пакутніцу як бы з адлегласці, але пякуча адчувала ўсё, што з ёю адбывалася. Суддзя ў чырвоным зноў наблізіўся:

— Адрачыся!.. — гарачы камень захрас у горле, і Еўфрасіння роспачна растуліла вусны. На языку засаланела ад крыві.

— Адрачыся!...

Грубым рыўком суддзя спярша сарваў з тонкай шыі хрысціянкі алавяны крыжык, затым гэтак жа ўладна сцягнуў у вялізную жменю залатыя валасы, адкінуўшы назад галаву. Тонкая скрываўленая накідка паляцела на падлогу. Худзенькае цела дзяўчыны было барвовым ад удараў і трымцела. Нарэшце, хітнуўшы сваім чырвоным плашчом, суддзя адышоўся. Пышная светлая хваля валасоў палілася да грудзей патрыцыянкі, але суддзя ўжо страціў да яе цікавасць, сурова зірнуў на катаў і важка пратупаў праз усю катавальню. Спыніўшыся каля дзвярэй, грозна паўтарыў:

— Адрачыся…

Збітая да рабаватай сінявы дзяўчына ўжо нават не выдавала на жывую, нібыта яе шчыльна абцягнулі ці то палосы цёмнага пергаміну, ці то худыя рыбацкія сеці. Адно вочы ліхаманкава блішчалі. Але ж як баляць, як гарачь распухлыя ад удараў вусны!.

— Хіба ты не ведаеш, няшчасны?!.. Той, хто павесіў зямлю на вадзе, быў павешаны на драўніне. Той, хто распасцёр нябёсы, быў на крыжы распасцёрты. Але ж Ён выратаваў цябе! — Голас у юніцы быў наўздзіў моцны і гулка разлягаўся па ўсёй катавальні.

Суддзя, які ўжо пацягнуўся рукою да дзвярэй, пачуўшы апошняе, гнеўна азірнуўся:

— А цябе Ён — выратуе?

— Ты ведаеш наша Слова.

— Хіба ў вас яно ёсць?!

— Ты не ведаеш, няшчасны! Тое, што прамаўляецца на зямлі, — прах і тленне, бо належыць толькі зямному. Але адкуль табе ведаць, што людзі пачынаюць разумець Словы толькі тады, калі пакліканым будзе дазволена наблізіцца да нябеснага прастолу…

Патрыцыянка, ледзь падняўшы з зямлі заплямлены крывёю покрыў, ахінула ім плечы.

— Што ты ведаеш пра Ягонае Слова, няшчасны? — Юніца прыплюшчвала вочы і злёгку пахітвалася. — Жывое навекі яно! Хаця з некім і было забіта!.. А з некім было на чужыне!, а з некім ратавалася ўцёкамі, а яшчэ з некім —плыло на караблі… І цярпела спакусы… А з некім было прададзена! — Патрыцыянка, відно, спяшалася.. Па шчоках яе нечакана пацеклі слёзы: — …і цярпела голад і смагу! І было аддадзена на здзекі і катаванні!

— Тады гэтае слова — Смерць! — Суддзя рэзка падаў апошні знак катам і грукнуў, нават не азірнуўшыся, дзвярмі. Адна з двух пакутніц, што ляжала ў цёмным куце катавальні, глуха застагнала і маладзенькая хрысціянка, абхапіўшы плечы рукамі, міжволі азірнулася. Але вось, не зважаючы на набіжэнне ката ў чорным доўгім фартуху, таропка зашаптала малітву. А той, падступіўшы зусім блізка, акінуў верніцу грэблівым позіркам і, не чакаючы завяршэння малітвы, моцным ударам кулака збіў яе з ног. Нагнуўшыся, ахінуў нерухомае цела покрывам, і не зразумець было, ці страціла юніца прытомнасць, ці была ўжо мёртвая. Абодва каты, падцягнуўшы вяроўкі, тым часам абступілі ўпакутаваную і вось ужо, прынаравіўшыся, падчапілі нерухомае цела тонкімі вострымі жалезнымі крукамі, праткнулі імі дзявочыя грудкі так глыбока, што юніца здаўлена ўскрыкнула: на вопратку, што хвалiста ляжала на падлозе, закапала кроў. Каты пачалі паволі, пастаўшы побач, круціць вялізнае кола, нацягваючы жоўтыя вяроўкі, і жалезныя крукі ўсё глыбей упіваліся ў маленькія грудзі. Нарэшце праткнулі іх наскрозь і кроў забруіла па тонкіх рабрынах уніз.

...Полымя шугае перад вачмі. Закіпае алей і, рэдзенькі, выцякае з вялізнага чана зверху; аплывае растопленым воскам па плячах і лапатках, па спіне, нібы здзірае з жывой скуру. Але хіба можа быць такім нясцерпным боль чалавечы? Хіба можна вытрываць?

Еўфрасіння апрытомнела ад уласнага стогну.

Жоўты помарак катавальні плыў на скрываўленае цела замардаванай, клубкамі ахутваючы і вялікае кола, і звіслыя са столі вяроўкі з крукамі, і каля іх двух мажных катаў. Але вось ужо усё ў гэтым шчымлівым відзежы стапнела ў жоўтым сяйве запаленай паходні. Прымары адступаліся. Тады міжволі азірнулася і адразу ж убачыла, што выхад з пячоры пасвятлеў. Блізілася раніца.

Змагаючы боль, выдыхнула гаркоту. Плечы і ногі былі як зашорганыя полымем. Азірнулася, аднак ніхто ў пячоры, акрамя ачахлага вогнішча, не бачыў яе пакутаў. Толькі Ксія павярнула галаву на кароткі ўсхліп. І тут жа зноў заснула. Ноч звінела цыкадамі.

Тады, стогнучы, ігуменія заплюшчыла павекі.

* * *

Раніцай, калі Еўфрасіння ўжо закончыла малітвы, у пячору даляцеў лёгкі перазвон. Не спаў і Міхал. Але спаў Коста, і яшчэ нават не варухнуліся прыкрытыя лёгкай коўдрачкай, набытай у Акры, Вольга і Ксія.

Звон, які гучаў усё грамчэй, пачула і галілейка, але пазірала на праём выхаду агромністымі ад жаху вачмі: у пячору раптам даляцеў ахрыплы мужчынскі спеў:

Карабель наш праслаўны з малітвай імчаў:
Дзевы палкай Сыцылі — красы незямной...
Амаратаў іх секлі мы ў бойках з пляча...
...Але руська панначка грэбуе мной!

Да пячоры блізіліся незнаёмыя людзі. Першыя, што сустрэліся ім у гэтай бясконцай пустыні. Узрадаваная, Еўфрасіння хуценька наблізілася да выхаду і ўжо намерылася выйсці з пячоры, але нехта моцна тузануў яе за рукаво. Хутка азірнулася і сустрэла амаль вар'яцкі позірк Шахіры. Усім сваім напружаным выглядам галілейка паказвала, што там, звонку, усіх чакае бяда. Мілагучны звон усё яшчэ не сціхаў, але Еўфрасіння прымарудзіла. Міхал, змеціўшы незразумелы жах у позірку галілейкі, таксама сумеўся. Спявалі па-грэцку. Пэўна, чалавек трыццаць. Нарэшце, недаўменна пераглянуўшыся з Міхалам і не зважаючы на Шахіру, Еўфрасіння выйшла на дарогу. Усё навокал было абліта яркім сонечным святлом. Насустрач ляцеў урачыста-сумны напеў:

У палоне гібелі рабы і цары.
Мы паілі мячы нашы элем з крывёй,
Столькі ўцехаў спазнаў мой баярдыш стары...
Але руська панначка грэбуе мной!

Асіплы хор падцягваў надакучлівы матыў, але Шахіра, белая, што смерць, зноў моцна тузанула Еўфрасінню за рукаво. Спеў пабудзіў ужо і Ксію з Вольгаю. Здзіўленыя, абедзве моўчкі стаялі блізу выхаду. Спеў не прыпыняўся, аднак спявалі ўжо на французскай мове.

Падымай галаву, Дорнтгермейскі народ.
Дзе руно — залатое, там кроў, нібы гной.
З важкім скарбам дахаты вярнуўся Гарольд...
Але руськая панначка грэбуе мной!

Гэта ўжо хрыпелі спечаныя і перамешаныя з глінаю пяскі. Ступіўшы колькі крокаў наперад, Еўфрасіння ўзіралася ў зыркі прасцяг: з боку пакінутай вёскі, дзе яны толькі ўчора адпачывалі, рухалася даволі стракатая працэсія ледзь прыкрытых лахманамі жанчын і мужчын з высахлымі пальмавымі галінкамі ў руках. На грудзях у некаторых гойдаліся маленькія званочкі: «дзын... дзын!» Людзі былі ад пячоры так блізка, што Еўфрасіння, не зводзячы з дзіўнага шэрагу вачэй, змагла некаторых нават разгледзець. Убачыўшы знаёмае аблічча, здзіўлена ўскрыкнула. Урэшце працэсія падышла і спынілася каля самай пячоры: апошнюю сапраўды была тая самая, але ўжо без пранцаватых плямаў на шыі маладая паланянка па імені Алма. Цяпер, не падымаючы вачэй, Алма ішла ўслед за высокім сівабародым старым, які ўвесь час круціў галавою, нібыта хацеў агледзець наваколле сваімі бяльматымі сляпымі вачамі.

— Алма! — гэта вырвалася ў Еўфрасінні міжволі, але ўсе адразу ж павярнуліся ў яе бок і спыніліся. Цемнаскуры, прыкрыты, нягледзячы на няшчадную спёку, капітанскім кафтанам сапрэла-чырвонага колеру грэк рэзка махнуў рукою, падаўшы ўсім знак, што тут яны і спыняцца на адпачынак. Шахіра, спалатнеўшы, зноў нешта роспачна загаварыла спачатку Еўфрасінні, потым Косце, паказваючы на свае шчокі і шыю. Але Еўфрасіння і без яе зразумела: у гэтым людскім збоі амаль усе былі бяздольнымі жабракамі ці хворымі.

— Ксія... — ігумення звярнулася да сястры амаль шэптам, але падарожнікі, — і хто ўжо сеў на зямлю, і хто яшчэ стаяў блізу скалы, — разам павярнуліся ў яе бок: тады і сама зірнула на кожнага, змеціўшы, што прышлыя абуты адно ў хліпкія зношаныя сандалі. Ледзь прыкрытыя дзіравымі лахманамі, бліскалі на палачан нядобрымі позіркамі пачырванелых вачэй. Еўфрасіння адразу ж зразумела: гэтыя адрынутыя жыццём і людзьмі дзеці Божыя ішлі туды ж, куды і яны. Патрабавальна зірнула на Ксію, і тая адразу зразумела. Хаця і не вельмі спяшаючыся, вынесла з пячоры міску назапашаных яшчэ ў Акры фінікаў. Ежай без мітусні распарадзіўся грэк, раздаўшы ўсім пароўну. Палачане паздзялілі толькі звараны ўвечары падсохлы боб. Галілейка зноў пачала тузаць Еўфрасінню за рукаво. Нарэшце, убачыўшы, што яе не слухаюць, крутнулася назад і праз кароткі час вылецела, трымаючы ў руках свае залатыя колты. Высока падняла іх, як разглядваючы багатае ўпрыгожанне ў яркіх сонечных праменнях. Але вось падышла да грэка і, нешта ціха сказаўшы таму, укінула колты ў вялізную скураную торбу, што важка звешвалася з пляча. Коста, зразумеўшы, што гэта была аплата за дазвол ісці разам, сумна ўсміхнуўся Міхалу; той якраз падганяў з боку вёскі мула і восліка. Відно, добра напоеных і накормленых. Бурдзюкі на іх спінах таксама былі напоўнены вадою.

А Еўфрасіння ўсё яшчэ абводзіла позіркам грамадку незнаёмых людзей, да канца не спасцігнуўшы новага Боскага выпрабавання, але нечакана ўздрыгнула: нехта мякка крануўся складак яе пакрыву. Азірнулася. За спінаю, радасна ўсміхаючыся, стаяла светлакосая юніца.

— Алма!..

Вогнішча перад пячораю тым часам дагарэла і ўсе з незадаволеным крактаннем і войканнем пачалі падымацца. Старэйшына, паправіўшы на плячы радняную кайстру, зноў зацягнуў сваё нуднае:

Я з Нарвегіі Верхняй, я ўдалы ганец,
Выдзіраўся і з пекла, і з прорвы зямной...
Вось нарэшце здабыў гэты царскі вянец!...
Але руськая панначка грэбуе мной...

Працэсія, выстройваючыся ў доўгі шэраг, бязладна загудзела: «...Але руськая панначка грэбуе мной...» і тут жа заспяшалася за сваім павадыром.

Палачане прылучыліся да гэтага паломніцкага чароду ў самым канцы. Міхал і Коста пільна прыглядвалі за жывёлай: на мула і восліка ўжо хціва касіліся. Але тут жа адводзілі позіркі, пабойваючыся магутнага, з сівой разложыстай барадою манаха-волата.

Паломніцкі збой ішоў праз пустыню нават не перамаўляючыся, і ішоў гэтак доўга, што ад бясконцага «...Але руськая панначка грэбуе мной...» Еўфрасінню пачало нудзіць. Яна сціху азіралася, увесь час ловячы на сабе бліскавічныя позіркі Шахіры. Коста ішоў блізу Вольгі, па стомленым позірку якой было відно, што гэты шлях здаецца ёй невымерна бясконцым. Высокі нябесны купал адліваў атрутна-жоўтым бляскам, і прывязаная да яго праменьчыкам шырокакрылая, рудаватая птушка бясконца кружыла над купкаю худых смакоўніц, каля якіх паломнікі нарэшце спыніліся. Адчуўшы, як аслабела лекацяць натомленыя ногі, Еўфрасіння апусцілася на калені і сцішыла задыханасць. Назірала, як людзі ашчадна дапіваюць ваду. Адкрыла Вечную Кнігу. Грэк усё яшчэ цягнуў сваё нуднае: «Я з Нарвегіі Верхняй, — я ўслаўлены сын...»

Але ніхто яго не падтрымаў. Зашаптала гарачкава: «...лапата Ягоная ў руцэ ў Яго, і Ён ачысціць гумно Сваё, і збярэ пшаніцу Сваю ў засекі, і салому спаліць агнём непагасным...»

Сонца пустыні стаяла ў самым зеніце і так няшчадна пекла, што, смакоўніцы амаль не давалі ценю. Паўсюль былі раскіданы акруглыя камяні, на якіх, падаслаўшы світкі, можна было прымасціцца. У кожнага з паломнікаў да пояса была прывязаны скураныя пляшкі з вадою.

Міхал заклапочана накрываў восліка і мула посцілкамі.

— Старэйшына кажа, што да раніцы зможам дайсці да Чырвонай грады. І там ёсць калодзеж і запас тлустых вярблюджых скураў. — Алма, скарыстаўшы перапынак, ужо абышла ўсіх паломнікаў, і цяпер укленчыла каля Еўфрасінні, але тая схілялася над Евангеллем.

— Потым Іардан будзе, калі грэк не змыляецца. Толькі здаецца мне, шаноўная ігумення, што мы да Мёртвага мора хілімся.

Не адказаўшы, Еўфрасіння перагарнула старонку, зноў глуха зашаптала: «...І, ахрысціўшыся, Ісус выйшаў адразу з вады; і вось адчыніліся яму нябёсы, — і убачыў Ян Духа Божага, Які сыходзіў, як голуб, і апускаўся на Яго. І вось голас з нябёсаў прамовіў: гэты ёсць Сын Мой любасны, Якога Я ўпадабаў...»

Нечаканы ўзвіў калючага, як растоўчанае шкло, пяску шугануў у вочы, і ігумення міжволі азірнулася. Коста сядзеў пад смокваю і аб нечым перамаўляўся са старым сляпцом. Каля іх прымасцілася і Вольга, да якой паволі набліжалася Шахіра. І раптам Алма, ускочыўшы на ногі, кінулася той наперарэз, нешта рэзка, адрывіста выкрыкнула і галілейка адразу ж адвярнулася, кіруючыся да Міхала, які дзіравай анучай ласкава пагладжваў раб-

рыстыя бакі схуднелых жывёлін. Старэйшына-грэк незадаволена махнуў кулаком і прыкрыкнуў на Алму. Здзіўленая, Еўфрасіння таксама запытальна зірнула на яе, Алма ўжо схіліла галаву, каб слухаць.

Перад вачмі ў Еўфрасінні раптам пырснулі жарынкі, ад чаго ледзь не страціла прытомнасць, аднак Алма нечакана пачала расказваць пра маці, прымушаючы ігуменню падняць вочы і слухаць. Расказвала, як аднойчы цёмнаю раніцаю маці Алмы, прыгажуня-жмудзінка, была выкрадзена ад лясного вогнішча, проста з-пад мяккай вавёрчынай коўдры... Самы ўдалы ва ўсёй жмудзі паляўнічы і лучнік, бацька яе, пачуўшы, колькі пушніны трэба было для выкупу, у адчаі разаслаў ганцоў да ўсіх другаў, і пушніна ўрэшце была сабрана. Але варагі-находнікі ніколі не ўмелі чакаць. Яшчэ ніхто не ведаў, што маладая паланянка цяжарная. Не перапыняючы размовы, Алма ўвесь час кідала папераджальныя позіркі на Шахіру, але тут жа адводзіла вочы ўбок. Нарэшце, не стрымаўшыся, прызналася, што сапраўды сустракала галілянку ў гарэме старога Аль-Ашрама. І болей — ні слова. Еўфрасіння перагарнула абалонку Евангелля. Сонца па-ранейшаму было няшчадным. Сама блізка да яе сядзеў стары паломнік з белай анучаю на аблыселым чэрапе. Нечакана заенчыўшы, стары адкінуў убок чырвоную пясчаную змейку. Тады, прыпыніўшы чытанне, ігуменння насцярожана азірнулася. Вольга, паклаўшы галаву на Костава плячо, здаецца, драмала. Жаўтаватая скура яе мела нездаровы выгляд, рукі былі скрыжаваны на грудзях.

Але нешта здарылася у наваколлі, нешта змянілася. Ад нечаканай млосці Еўфрасіння схіліла плечы. Тады Міхал неспадзеўкі падышоў ззаду і загадаў ёй адпіць з пляшкі хоць глыток вады. Паслухалася яго, і сапраўды пачула сябе лепей, прыплюшчыла павекі, ловячы кожны гук гэтай бясконцай пусткі, што зноў пачала рухаць пясчанымі лавамі. Усё навокал так выразна шапацела, шоргала, шумела.

Важкі чырванаваты галілейскі поўдзень узіраўся ў цёмныя, павільгатнелыя ад стомы вочы манашкі з літасцівай спагадаю, мякка абвяваў твар лёгкім дыханнем. Па руцэ казытліва шмыгнула жоўтая яшчарка. Нехта зноў замармытаў «Але руськая панначка грэбуе мной...», і раптам Міхал, седзячы каля мула, нечакана моцным распеўным голасам зацягнуў добра вядомы ўсім палачанам матыў: «Быў жа ў багатага ды брат Лазар, і пайшоў ён к багатаму брату... А мая ж то душанька нацярпелася...» Вольга, усміхнуўшыся, варухнула вуснамі, быццам падцягваючы старому. А Міхалаў голас, такі па-маладому густы і багаты, ужо разлягаўся, здавалася, па ўсёй пустыні: «А сыдзі ж ты , сквірнявы, ды з майго двара ...» ... Нехта ўхвальна ўскрыкнуў, і Міхал адразу ж апамятаўся. Злавіўшы на сабе захопленыя позіркі, заціх.

* * *

Ці гэта пясок так жаласна свішча над вухам, ці зноў, з усяго маху, шчакі кранаецца востры язык у тры сполкі плеценага кунчука!.. А ён, малодшы баярскі сын, бацькам адрынуты за неслухмянасць, таропка аціраецца ад крыві і адварочваецца ад брата Рымшы, старэйшага цівуна самога князя Барыса, але брат зноў злосна і балюча тыцкае яму ў зубы ялоўцавай цэўкай: «Хіба не ведаеш ты, што бацька наш, няхай памагае яму і Пярун, і святы Пётра, перадаў увесь скарб у мае рукі — і збажыну, і мёд?! Грэбуеш законамі?!..

— Але ж Лада мая памірае...

— Усе памром, і Лада, і мы з табою. Мой гэта пограб… Забыў? І жыта маё. Калі сам не пойдзеш, у поруб кіну!..

Праз два дні, прыцягнуўшы дахаты з манастыра паўмеха гароху, пазычанага яму самой Еўфрасінняю, кінуўся, радасны, у курную зямлянку і закляк. Маленькая Лада, як вавёрыца, ляжала на прыкрытай воўнаю лаве і пазірала блакітнымі вачмі ў чорную столю. Белая і халодная, як снег.

…Не паспеў. Усё сваё жыццё ён потым каяўся, біў сябе ў грудзі, пакутуючы ад таго, што пайшоў з працягнутаю рукою да брата, пасаромеўшыся папрасіць дапамогі ў сяльцовых манашак.

Яго дачка Лада ляжала пасярод зямлянкі, з пашэрхлымі ад голаду і смагі вуснечкамі, пазірала ўверх чыстым блакітам расплюшчаных вачэй. Гэткіх жа спакойных, як і гэтая бязмежная перапоўненая святлом, Іўдэйская пустыня.

Слыху крануліся хрыплыя, падобныя да гудзення, спевы. Гэта адазваўся сляпы, які сядзеў у паўкроку ад Міхала і ўжо ледзве растуляў вусны, хапаючы перад сабою доўгімі пальцамі гарачае паветра:

…Карабель наш ірвецца ў раз'юшаны шторм,
Колькі вёсен сплыло за спіной!
Ды, счарпаўшы ваду, — зноў ляцім у прастор…
Але руськая панначка грэбуе мной!..

Ён прышоў з манастыра на наступны дзень. Сам і абмыў Ладу. Бо жонка, наймітка Гардзіслава, з-за якой Міхал страціў бацькаву ласку, была звекдзена яшчэ мінулым летам у пакоі маладога кмета Вячаслава. І ўжо не вярнулася… Толькі Рымша, сердабольна дбаючы пра братаў гонар, неяк паведаміў, што Гардзіслава да яго ніколі не вернецца.

Трынаццаці летаў, светлакосая дачка Лада, была настолькі падобнай да маці, што ён праплакаў усю ноч. І сам у тую страшную раніцу ўбраў яе ў номавы покрыў, павесіўшы на грудзі яркія каралі, якія некалі падарыў Гардзіславе. І адзін маліўся над дачкой так доўга, што мокрым ад слёз стаў і ручнік і яе покрыў: «Вось зіма ўжо прайшла: дождж прамінуў, перастаў, кветкі з'явіліся на зямлі, час песні наступіў, і голас горлінкі чутны ў краі нашым; смакоўніцы распусцілі пупышкі свае і вінаградная лаза, расцвітаючы, водар пасылае. Устань, любая, дзівосная, выйдзі! Галубка мая ў расшчэпліне скалы пад кручаю, пакажы мне аблічча сваё, дай мне пачуць голас твой, таму што голас твой салодкі… Заклінаю вас, дочкі Ерузалімскія, сернамі ці палявымі ланямі — не бяжыце, не будзіце і не трывожце яе, Ладу маю...»

Ён паклаў у хаўтурнае радно любімага даччынога саламянага ваўчка, з якім тая заўсёды засынала. Толькі сам хіба спаў ён пасля пахавання дачкі?!. Але ж ты, любая, спі, і не згадвай нікога… І забудзь, забудзь, як гладзіў, даўшы волю гарачым рукам, маленькія рукі і ногі твае… Жыватох і грудзі ўжо халодныя… Пасля, насыпаўшы зямлёю высокі курганок, доўга расціраў рукі, ад якіх патыхала жвірам.

Калі ў Полацк прыйшоў Мсціслаў, ён сам кінуўся кіеўцу ў ногі з просьбаю адаслаць яго па Дняпры ў Кіеў і адтуль — хоць на нявольніцкі рынак. Але ўгневаны князь ледзь не знёс мечам апушчаную галаву: урэшце, адтапнеўшы сэрцам, зноў паслаў Міхала ў манастыр да Еўфрасінні — каб служыў ёй і быў верным рабом. І ён, сын баярына Дабраслава, адрынуты бацькам і братам сваім, стаў верным парабкам Сяльца і ігуменні. Нібы просты смерд, з шарай раніцы цягаў бярвенні і плінфы на будоўлі новае царквы Святога Спаса, прастойваў пад няшчадным ветрам, загладжваючы дошкі для манастыра і грабарні ў Бельчыцах… Адмольваў у працы і жорсткім посце свой вялікі грэх. Сваю Ладу…

Упершыню ў яго паверыла толькі ігумення, адправіўшы з мяшэчкам залатых і сярэбраных манет у майстэрню да Богшы, дзе штукавалі кіёт абраза Найсвяцейшае Тройцы. Потым, калі ўжо вызнаўся найпершым у манаскай схіме і начных малітвах, калі першым усклаў на сябе на тры тыдні вярыгі з кузні самога Рамана, Еўфрасіння даручыла яму і тую вялікую пасольскую дарогу у Канстанцінопаль за Адзігітрыяй, дзякуючы якой прайшоў і гразкія дарогі кіеўскіх вотчын, і зямлю грэкаў…

Вось на сушу ўзышлі мы бліз кратару гор,
Што смалою плюецца, як юнга сліной,
І малітвай далі таму пеклу адпор,
Але руськая паннчка грэбуе мной…

Стары манах ўжо не адчуваў, як па шчоках да барады сцякаюць нечаканыя слёзы, але змеціўшы самотны позірк Еўфрасінні, адвярнуўся. Хаця часу заставалася так мала, ён ужо ведаў, што гэтая дарога стане для яго, для ўсіх шляхам пакаяння. Бо час настаў. І растуляцца вусны, і зварухнецца сэрца...

Хамсін падшугаў да расхінутых над Галілеяй кучавых воблакаў, і над утравелымі берагамі Іардана, над саванамі і пячорамі галілейскіх пустэльнікаў разнеслася яго хрыплае дыханне. Але вышай, туды, дзе пачынала свой канцавы шлях апошняя дарога, ні адзін вецер яшчэ не падымаўся. Бо нават блізіцца да празрыстых, але такіх непарушных начных цвердзяў, што прыступкамі вялі да Варотаў, не дазволена было ні скучаным дажджавым хмарам, ні даўкім туманам, ні марскім брызам, ні роспачнаму чалавечаму енку. Толькі шэпт малітваў і салодкае біццё чыстых сэрцаў нябачна працэджваліся праз мядовыя соты пад шапаценне бліскучага лісця вечнага саду.

Каля Варот стаяла новая варта — у празора хвалістых шатах з доўгімі серабрыстымі мячамі, якімі херувімы так лёгка адсякаюць брудныя патокі чалавечае жарсці і глеістыя, разварушаныя чарвямі, смярдзючыя гарбы смяротных чалавечых грахоў, што адразу ж сцякаюць уніз праз шчыліны нетраў у глыбіні апраметнага агню. Хамсін прадзьмуў сабе дарогу праз аблокі і вось ужо кідаўся, насіўся, працінаючы пустыню і Сяродземнае мора. Спрадвечная песня старога ветру шаргацела над зажуранымі смоквамі і Ерузалімскімі камянямі, што рассейвалі вакол сябе зыркасць дотыкаў Сына Божага.

Вечны горад яшчэ не прачнуўся, але ўжо і не сніў нічога. Не зважаючы на няшчадную спёку, да Вечнага горада блізілася доўгая чарада спакутаваных паломнікаў. Амаль што апошняю, побач з барадатым маладым чарняцом, ішла тая цемнавокая манашка з мячом на поясе, што заўсёды сустракала яго белазубай усмешкай. Хамсін узляцеў яшчэ вышай, але тут жа падагнуў крылы, нечакана змеціўшы, як у бок падарожнікаў праз рассохлыя шчыліны і расшчэліны высокіх скал пачынаюць змяіцца тлуставатыя, чорныя ўзвівы горкага паўдзённага ветру.

Зразумеўшы, як блізка знаходзяцца людзі ад свае смерці, вецер устрывожана заскуголіў. Але паломнікі, яшчэ не ведаючы, што вось-вось уступяць у страшнае кола белага салянога смерчу, бесклапотна цягнулі сваё нуднае «але руськая паннчка…» І толькі немаладая ігумення, прыціскаючы да грудзей Евангелле, нечакана схапілася за горла і апусцілася на калені. Перапалоханыя паломнікі адразу ж абступілі яе. А манашка ўжо расхінула абалонкі і пачала малітву.

*Працяг будзе.*

## СОФ'Я ШАХ

### ПТАХ
(Вянок санетаў)

1

Ляціць, ляціць самазабыўна птах
над вёскай, што сябе ў зямлю ўціскае,
над рэчкай, што даліну праразае,
над лугам, што хаваецца ў стажках.

Над гарадамі, дзе за гмахам гмах
сябе мо хмарачосам уяўляе
і ўпэўнена вышыням падстаўляе
па-за пляскатым дахам гэткі ж дах...

Вы дзе, урэшце, фотарэпарцёры,
аматары і конкурсаў прызёры
з гатоўнасцю, увішнасцю сваёй?!

Ужо ён над птушынай чарадой,
ужо ляціць над хмараю сівой
па часавай, нямеранай прасторы.

2

Па часавай, нямеранай прасторы,
мінаючы то лета, то зіму,
страчаючы то восень, то вясну,
ляціць, ляціць ён год ужо каторы.

Паляны ўнізе, пушчы, касагоры
то ў зелень глыбяцца, то ў жаўцізну,
то ў анямелую стынь-белізну,
то зноў у тыя ж самыя уборы.

Унізе рэкі, раўчукі, азёры,
унізе сажалкі, балоты, моры
і берагі-абрысы акіяна,

а ён над імі, як наканавана,
як лёсам неспакойлівым абрана.
Арыенцір упадабаны — зоры.

3

Арыенцір упадабаны — зоры,
што дух да шалу зводзяць уначы,
усеяўшы скразную далячынь,
злучыўшыся ў сузор'евыя ўзоры.

Іх бляск такі магутны і бадзёры,
так вабіць у сваю жывую плынь,
нібы аб дасканаласці вышынь
гучыць выснова ў іх уладным хоры.

Так застаюцца ззяннем у вачах,
што мкнуцца ўвысь, бы прападае страх,
і крылы набываюць сілу самі.

Цякуць-чаруюць струнамі-струмкамі
і застаюцца зоркі маякамі,
што значаць недзе зводдалеку шлях.

4

Што значаць недзе зводдалеку шлях,
дабрацца да якога птаху трэба —
і не наўгад, не выпадкам, не сляпа,
і не ва ўласных каляровых снах.

А ведама ж, на яве, у гадах,
што непазбежна штурхаюць у срэбра
вось гэтага раскінутага неба,
жыцця абазначаючы працяг.

Дарогі неспатолены прасцяг —
заўсёды вымагае ён развагі,
рашучасці адметнай ды адвагі!

Убок астатнія ўсе перавагі,
калі мацнее ад спазнанай прагі
напятых крылаў зладжаны размах.

5

Напятых крылаў зладжаны размах,
размеранасць глыбокага дыхання, —
ужо дарэшты падпарадкаванне
свяшчэннадзейнай далечы ў агнях.

Спыніцца зараз — несумненны крах.
Высь не даруе млоснага вагання,
часовага прыпынку і чакання, —
развеецца запал у пух і прах.

Ляцець, ляцець у стойкай непакоры,
нягледзячы, што ўсе, здаецца, пёры
балюча закранае высь сабой.

Ляцець, пакуль трымае ўздым-настрой,
як бы ўжо ані боязі глухой
і як бы ўжо ні роспачы, ні зморы...

6

І як бы ўжо ні роспачы, ні зморы,
ані вагання болей сапраўды,
ні гаркаты, ні скрухі, ні нуды,
ані пабочнай іншай тлумнай прорвы.

Як бы — ні павароцінкі-прытворы,
ні зманлівай уяўнай прастаты,
ні мораку душы і нематы,
ні зноў таго і гэтага паўторы...

Ляцець, ляцець скрозь прыцемак мацёры
і слухаць дух свой, хіласцю не хворы,
і кіравацца чуйна ў лёце ім.

Бы толькі ён абазначае ўздым,
і толькі ён усюды і ва ўсім —
увасабленне існае апоры.

7

Увасабленне існае апоры —
сама ўжо прага мкнуцца і ляцець,
і вышыні, і вышыні хацець,
той, што хаваецца ў праменным флёры.

У маладым, у выспелым задоры
якая асалода — крылы мець
і ў высях імі пракладаць умець
паветраныя пругкія разоры!..

Камусьці, пэўна, несусветны жах —
сябе ўявіць у вышніх тых вірах,
камусьці вымысел недасягальны —

рэальны, прыцягальна-захапляльны,
бадай што, вызначальна-ратавальны
сам гэты лёт, сам гэты ўжо абсяг.

8

Сам гэты лёт, сам гэты ўжо абсяг —
патрабавальна родная стыхія,

дзе па мінулым плача настальгія,
і гэты плач — як адкрыццё ў вяках.

Стыхія, дзе ў нябачных берагах
дух апаноўвае не эйфарыя,
а радасць, што паміж сабой такія
скрозь гукі-фарбы-водары ў ладах.

Нязведаная, вечная дарога,
і слепкай яснаты, і хмары многа,
а птах ляціць, ляціць, нібы плыве,

па стрэчнай шэрасці, па сіняве,
у зорным разнаколерным сяйве...
Адкуль ён і куды кіруе строга?

**9**

Адкуль ён і куды кіруе строга?
Бы ўвагі не звяртае ўжо на час,
бы мае гэтакі яго запас,
што ўжо і не страшыцца анікога.

Што ўжо і не баіцца анічога...
На ўсё, на ўсё — лёт існасны ў адказ,
на ўсё, на ўсё — няўхільны рух без паўз,
як бы яму і мэта — засцярога.

Ён так высока, што яго трывога,
што, можа, нат і нейкая знямога
нам не відна. Мы бачым толькі рух.

Мы здольныя ўявіць ягоны дух,
а пра накат журботнасцей ды скрух
уміг не ўявіш, не спытаеш Бога.

**10**

Уміг не ўявіш, не спытаеш Бога
ні пра адчай, ні пра тугу-журбу,
ані пра тую ўрэшце барацьбу
з паветранаю плынню, бы з аблогай.

Сустрэчная — яна не дапамога,
яна — іспыт, няведамы рабу.
А птаху дзёрзка-вольнаму, — яму
і тут патрэбна толькі перамога.

Хіба прыкмеціш сутнасць вастрыні?
Вось на святле ён, вось ён у цяні,
вось ён набраў, вось нібы збавіў хуткасць.

Вось быццам бы яго размыла смужнасць,
а вось ізноў з яе выносіць пругкасць, —
адно сачы, хвалюйся ў кожным дні.

11

Адно сачы, хвалюйся ў кожным дні,
адно лічы, што позіркам трымаеш
і разам то раптоўна халадаеш,
то песцішся ў вышыннай цеплыні.

Як бы няма ўжо большае радні.
Як бы ўжо за яго і знемагаеш,
і сілу разам з ім бы набываеш
у той нябесна-спеўнай глыбіні.

І моліш зачаравана: «Імкні,
імкні, узнёслы птах, у прамяні,
у самую насычанасць блакіту,

у самую вясёлкавасць зеніту!..»
І дзівішся з палёгкай скрозь малітву,
як ён ляціць, ляціць па светлыні!..

12

Як ён ляціць, ляціць па светлыні, —
то быццам бы далей, то быццам бліжай, —
і крыламі свой шлях уласны піша,
і шлях той — богаўгоднай чысціні.

Ні мішуры пустой, ні мітусні, —
як бы аднымі колерамі дыша,
як бы й няма яму ўжо долі іншай
у старане ад фальшу і хлусні.

Ах, птах, святы Гасподзь абарані
усе твае зямныя карані
і палкія нябесныя памкненні!..

Ляці, ляці скрозь вечныя імгненні,
скрозь вечныя сумненні і ўзрушэнні
у глыбіні магічнай вышыні.

13

У глыбіні магічнай вышыні
такая духу велічная воля,
што ўспомніцца радзімае раздолле
шчымліва неабсяжнай шырыні.

І звабліва-бясконцай даўжыні, —
адкрытае, пявучае ваколле,
дзе ў кожнае травінкі ўласны колер
і водсвет асабістай гушчыні.

І спасцігаць не дай Гасподзь убога
раскошу дня і месяца любога,
любой сто раз узноўленай пары

між ранняй, між вячэрняе зары,
дзе фарбы, гукі, пахі — ўладары
між свету паднябеснага й зямнога.

**14**

Між свету паднябеснага й зямнога —
зірні, зірні сардэчна, добры люд! —
у рэчаіснасці ўзнікае цуд:
сягае птах да таінства святога.

Прасякнуты прадбачаннем і доўгам,
вось ён над вамі, вось ён там і тут, —
успыхнуў ад іспытаў і пакут
і сам стаў прамянём надоўга-доўга.

У лёсавых снягах, дажджах, вятрах,
не па чужых праверанах слядах,
а ў поўнай згодзе са сваёй планідай —

як знак надзеі ўсё-такі набытай,
як сімвал веры ўсё-такі адкрытай —
ляціць, ляціць самазабыўны птах.

**15**

Ляціць, ляціць самазабыўны птах
па часавай, нямеранай прасторы.
Арыенцір упадабаны — зоры,
што значаць недзе зводдалеку шлях.

Напятых крылаў зладжаны размах,
і як бы ўжо ні роспачы, ні зморы, —
увасабленне існае апоры —
сам гэты лёт, сам гэты ўжо абсяг.

Адкуль ён і куды кіруе строга,
уміг не ўявіш, не спытаеш Бога, —
адно сачы, хвалюйся ў кожным дні,

як ён ляціць, ляціць па светлыні
у глыбіні магічнай вышыні
між свету паднябеснага й зямнога.

ЗІНАІДА ДУДЗЮК

# КОЛА СВАРОГА

*Раман-рэканструкцыя (паводле язычнічкай міфалогіі)*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## СТВАРЭННЕ СВЕТУ

### 1

Сусветны холад панаваў у цемры і акаляў бязмежную прастору. Ён быў Нішто, як безжыццёвасць пусткі, і Усё, як сутнасць вечнага быцця. Ды нейкі рух — жаданне ці памкненне, скрануў той неруш, дзе дасюль яшчэ не нараджалася нічога.

У цішыню ўслухоўваўся Усявышні, у цемрадзь беспрасветную ўзіраўся і зразумеў раптоўна, што інакшым ён прагне адчуваць абсяг. Здзівіўся гэтай думцы нечаканай: «А што магу змяніць? Была веквечна даспадобы мне гармонія сутоння і бязмоўя. Ці варта раўнавагу разбураць? Няплодная фантазія. Нашто турботы лішнія, калі спакой спрадвечны, звыклы і нямы, ніхто не здатны без мяне парушыць? Тут толькі кроплю зачапі, другой таксама нешта закарціць. Ды адчуваю, як Нішто вакол жадае руху, зменаў, навізны. Я й сам даўно ўжо прагну нешта здзейсніць, не ведаю пакуль дакладна што... А тая Прага, нібы прадчуванне нязведанай дагэтуль насалоды, з'яўляецца раптоўна, падсвядома і не дае спакойна спачываць у забыцці, у змроку непраглядным. Неверагодным усхвалюе сном, святлом аслепіць нечакана, нячутым гукам вырве ўраз з дрымоты ці водарам чароўным уздыхне... Не мае межаў творчае гарэнне. Яно шукае выйсця, зруху, працы! Яно жадае вольным быць, жывым! Я не магу трымаць яго ў няволі, няхай шугае дух ягоны на прастрані бясконцасці і цемры. І мне цікава будзе паглядзець на выніκі ягоных намаганняў... Які ж ён будзе, той нязнаны свет?»

З жадання Усявышняга ў цямрэчы з'явілася бязмежжа акіяну. Ад дотыку, уздыху, руху вада струменіла і абцякала. Яна давала свята насалоды, і часу шмат мінула, перш чым нацешыўся вадою Усявышні і ўпершыню адчуў такую радасць, якою з кімсьці трэба падзяліцца.

«Магу я кожнай кроплі даць жыццё, стваральнае, рухомае, жывое! У вечнае Нішто ўдыхну душу, каб нарадзіўся Род, які сам зможа доўжыць нараджэнні. Ды трэба ж будзе пільна назіраць, каб ён не натварыў чаго благога... Стварэнне мае два бакі. Даў рух — лічы: пакрыўдзіў нерухомасць... Упарадкаваў хаос — забіў яго. Няхай жа Род за Светам сочыць, уз-

важвае набыткі, лічыць страты, каб ні адно стварэнне не прапала, мяняла толькі форму, стан ці сутнасць, ды заставалася б пры тым нязводным. Няхай захоўвае ён Веды, як каштоўнасць, і назву знойдзе кожнай рэчы, каб мець магчымасць думкі і пачуцці выказваць мілагучным словам. Прадбачыцца велізарная праца!»

## 2

Акінуў позіркам уладным Усявышні створаны ім свет і захацеў дух жыватворны ў веліч акіяну ўдыхнуць, каб кропля кожная знячэўку ажыла. Яссю зыркаю раптоўна ўспыхнуў Зніч і закруціўся слепкаю віхурай у мораку над прастранню бязмежнай. Узвіўся сноп агністы над вадой, прамення ў кожнай кропельцы адбіўся і патануў у цемрыве густым. З адной толькі іскрынкі нечакана ўзнікла Яйка Залатое на вадзе і пачало расці. Яно на хвалях гойдалася вольных і вылучала яснае святло. У пэўны тэрмін з яго матутны нарадзіўся Род з душою непагаснай Зніча. Спачатку плаваў без упыну ён, сваволіў, цешыўся, гуляўся з плынню, ды аднастайнасць стала абрыдаць. Ратуючы яго ад адзіноты, паслаў яму Усявышні жонку Ладу, натхнёную, бы шчасце і каханне, якая памагала б ладзіць Свет. Яна была вясёлай шчабятухай, яе цікавілі малыя кроплі і тоўшча вод на глыбіні бязмернай. Усё хацела ведаць: «Што? Дзе? Як?..»

— Хачу адчуць трываласць глебы. Няхай намыюць хвалі глею з дна, — сказала Лада з яснаю ўсмешкай.

— Ствару я ўладара усіх вятроў — Стрыбога. Ён раскалыша хвалі, каб выканаць тваё жаданне.

— Які ты мудры! Так з табою лёгка!

Узрушаны пачутым, Род расчулена ўздыхнуў — Стрыбог з яго дыхання нарадзіўся, захваляваў высокую ваду, пагнаў за далягляд пад пенай хвалі. Яны намылі глею цэлы ўзгорак. І стаў ён першаю між вод зямлёй.

Ступіла Лада на пяшчотную зямлю і зноўку засмяялася ад шчасця:

— Якая насалода — адчуваць трываласць грунту пад нагамі! Хачу пабольш гэтакага глею, каб можна было ўдосталь пахадзіць, пабегаць, паскакаць! А нешта ў нас пад небам змрачнавата. Мо варта трохі падсвяціць нябёсы?

— Мне для цябе нічога не шкада, — Род адказаў ёй.

Святло вачэй яго ўзнялося Сонцам і высвеціла велічны блакіт пакуль што незахмаранага неба.

— Дзівосны свет! Глядзі, заззялі хвалі! У кроплі кожнай зазіхцела Сонца! Усё вакол тваім смяецца тварам! Ты скрозь! Ва ўсім! Я так цябе кахаю, што не хапае слоў сказаць пра гэта!..

— І сапраўды, прыемна вельмі ляжаць і грэцца на пяску пад Сонцам! — прамовіў Род.

— Купацца ў промнях сонечных люблю! Іх дотык, як цяпло тваіх далоняў! — сказала ў захапленні Лада. — Не ведаю вышэйшай насалоды! Цяпла! Яшчэ хачу цяпла!

— Ствару я Хорса — сына Сонца. Няхай на конях залатых у калясніцы па небе ездзіць, Сонцу памагае.

І праз імгненне залатыя коні ляцелі ў небе. Вогненныя грывы зіхцелі, свяціліся сляпучым арэолам. Хорс кіраваў па-заліхвацку імі.

— Два сонцы ў небе! Род, ты гэткі шчодры! Як хораша вакол! Спяваюць хвалі пенныя і вецер!

Сачыла ў захапленні Лада за бегам коней. Вогненныя грывы асляплялі вочы, зіхцелі колы калясніцы. Жаданне ўзнікла дзіўнае ў багіні: праехацца вось гэтак жа, як Хорс.

— Мне хочацца таксама коней мецьǃ — сказала летуценна Лада.
— Гарачыя яны занадтаǃ Ці здолееш ты імі кіраваць?
— Я белага каня хачу, як дзень.
— Глядзі, што зараз будзе, — Род засмяяўся, Ладзе падміргнуў.
Узніклі ў небе першыя аблокі. Яны паволі апусціліся на востраў, ператварацца пачалі ў белых коней. Табун па беразе імкліва паскакаў, толькі сляды ад капытоў рассыпаў.
— Якія белыяǃ Ажно зіхцяць пад сонцам, — усклікнула захоплена багіня.
Род з Ладаю на вольных коней селі і паляцелі, абганяючы Стрыбога. Смяяўся Хорс, спявалі хвалі, і бойка тупацелі капытыǃ

## 3

Замерла Лада, слухаючы голас вады сусветнай, неба і зямлі. Стаяла Сонца ў саменькім зеніце, а побач з ім свяціў гарачы Хорс.
— Занадта прыпякае, слепіць вочы, — паскардзілася Лада. — Каб хоць які цянёк... Такое нешта... Не ведаю сама... Прыдумай, Род, якую прахаладуǃ
— Няма мяжы тваім жаданням, Лада. Мяне яны і цешаць, і здзіўляюць. Стрыбог, абавей нас ветрыкам ласкавымǃ
Дыханне ветру ненадоўга астудзіла твары, але й яно нагрэлася так хутка, што стала апякаць, як сухавей.
— Пакінь, Стрыбогǃ Слабейшы ты за Сонцаǃ — сказала Лада. — Што рабіць нам, Род?
— Давай народзім гэтакае дрэва, магутнае, з галінамі і лісцем, каб ад яго было даволі ценю, — прапанаваў у задуменні Род.
— Магутнаеǃ З галінамі і лісцем?.. Яшчэ няхай на ім расце насенне, з якога ўзыдзе безліч новых дрэў на глеі, а магчыма, й пад вадой. Каб мелі дрэвы мноства розных пахаў, каб хараша квітнелі і пладзілі...
— Ах, Лада, нельга ж так усё адразу...
— Адразу трэба добра ўсё рабіць, каб потым папраўляць не давялося...
Род сам сабе ўсміхнуўся толькі — і паднялося велічнае дрэва на востраве, было на ім насенне раслін усіх, адначасова — і кветкі, і плады. Ад радасці і захаплення Лада свяцілася, разглядвала лісточкі і пялёсткі ды з насалодай водар удыхала.
— Як добра ты прыдумаў, мілы Родǃ Пад Вечным Дрэвам спіць цянёк лагодны. Лісток тут кожны радуе мянеǃ Пялёстак кожны цешыць прыгажосцюǃ
— Я задаволены і сам тварэннем, — Род адказаў.
— Паболей трэба гэткай зеляніны.
Стрыбог па востраве разнёс насенне, яно імгненна стала прарастаць густой травою, кветкамі і дрэвамі. Зазелянеў цудоўны востраў, буяла там усё нязводнаю красою, таму і быў названы ён Буянам.

## 4

Два сонцы гэтак прыпякалі, што невыносна нават і з цяньку на іх было глядзець. Сказала вінавата Лада:
— Даруй мне, Род, і не крыўдуй, прашу, але мяне гарачыня стаміла. Ты добры і пяшчотны, ды зарыва тваё на небе вельмі ўжо гарачае. Мне цемры захацелася мінулай...
— Я не крыўдую, бо і сам стаміўся. Няма ратунку ад святла такога... Сябе самога лёгка асляпіць.
— А як бы нам зрабіць, мой любы Род, каб у свой час глядзелі з неба сон-

цы, а потым цемра абдымала востраў, а потым зноўку ўсё йшло сваёй чаргой?

— Мо зробім так: я Сонцу загадаю, каб толькі ўдзень яно свяціла, а ноччу спачывала.

— Каханы Род, я дзякую табе, што разумееш ты мяне з паўслова і выканаць заўжды гатовы просьбу.

— Магу я тое, што Усявышні даў. Ён мной кіруе, кожным маім рухам. Ягоная душа і дух ва мне. І часам цяжка з-за таго бывае, што не заўжды магу яго спасцігнуць.

— Перажываю гэта я таксама... Але не толькі Ён, але і ты маёю уладарыш, Род, душою. Прарос ты праз мяне, бы карані праз глебу...

— Мы мусім жыць адзінствам з цэлым светам. Ён прагне перамен, я адчуваю! Ды трэба кожны крок абдумваць нам, каб не парушыць раўнавагу.

— Смялейшы будзь! Вагацца годзе, Род!

## 5

Абрынулася ноч глыбокай цемрай. Зірнула Лада ў чарнату сляпую, сказала з сумам:

— Любы Род, не да душы мне поцемкі такія. Цябе не бачу і за крок!

— Мы для того стварылі ноч, каб цемрыва да сну хіліла.

— Ніякага ў ёй колеру няма, а толькі цемра непраглядная навокал. Здаецца часам: і мяне яна таксама чарнатою пафарбуе. Прачнешся і знянацку не пазнаеш.

— Каханая, цябе заўжды пазнаю, у што б ні ўвасобілася ты.

— Мой родны, дзякуй, не аб тым гаворка. Нам трэба неяк ночку падсвяціць.

— Давай пра гэта заўтра пагаворым. Стаміўся я...

— Адпачывай. Усё зраблю сама. Вось уяві: гарыць свяціла, ды не вельмі ясна, а толькі так, каб бачыць мне цябе. Як захачу, дык прытушу святло напалавіну, а можна і на чвэрць, ці як заўгодна.

— Цікава паглядзець, што будзе.

— Глядзі, ужо гарыць на небе поўня — дачушка нашая Дадола. Ноч з ёю значна пасвятлела.

— Прыгожая дачка! Яе ліхтар пазначыў срэбрам хвалі мора, лістоту дрэў. Адценняў мноства чарната займела. Наш востраў нават у спакоі сонным напоўнены энергіяй жыцця. Чаму імя дала дачцэ такое?

— Заўсёды будзе ўніз яна глядзець. Дадолу, на мяне і на цябе. Дадола наша, светлая багіня, шляхі начныя будзе асвятляць, збіраць у тыдні россып нашых дзён.

Сачылі з любасцю бацькі за юнаю багіняй, якая ім з нябёс свяціла.

— Бадай, самотна будзе ёй адной сярод начнога неба, — заўважыў Род.

— Рассыплем мноства зор у паднябессі, няхай дапамагаюць ёй свяціць.

І ў той жа час зіхотка ў небе зорачкі заззялі, далёкія, дзівосныя таемныя.

— Якая прыгажосць, — сказала Лада. — Зрабіў ты неба прыгажэй, чым я магла сабе ўявіць.

— Цяпер я адпачынак заслужыў?

— Вядома, адпачні. Вось толькі...

— Зноў нейкая задума? — Род спытаў.

— Я думаю, што паступова павінна ноч змяняцца днём. Таму хачу яшчэ трох нарадзіць дачок: Вячэрніцу, Купальніцу і Зараніцу. Яны няспешна будуць весці дзень да ночы. Ад белаты да чарнаты начной мяняцца будзе колер неба, гарэць і ззяць, фарбуючы аблокі. Вячэрніца агледзіць

перад сном сусвет, разбудзіць ззяннем Зараніца нас, Купальніца туманам і расой умые неба і зямлю.

Рукою Лада лёгка ўзмахнула — і тры дачкі з'явіліся імгненна. Ад іхняй прыгажосці незямной яскрава ззянне разлілося, афарбавала неба ў колеры вясёлкі.

— Яны цудоўныя, — ускрыкнуў Род у захапленні, — Парадавала, Лада, ты мяне!

## 6

За парадкам змены дня і ночы сачыў уважліва Сварог, народжаны для гэтай мэты Родам. Быў дадзены Сварогу запавет, каб свет дзівосны ўзгадаваў, напоўнены жыццём разнастайным, каб уладарыў мудра, клапатліва. Злучаў сабой ён Неба і Зямлю, цяпло і вільгаць апладнялі глебу, цвіў дзіўны востраў сярод акіяна. У гонар бога новага Сусвет назвалі Сваргай.

Стварыў Лікбога Род, каб ён падлік дакладны вёў усім імгненням, і раніцу, і вечар вызначаў, ад поўначы да поўдня мераў час. Лікбог лічыў, лічыў, лічыў, запамінаў бясконцасць доўгіх лічбаў, але і за прыродаю сачыў, каб уначы яна адпачывала, а ўдзень расла, квітнела і красавала. Гадзіннік з кветак меў ён, у якім чароўныя расліны зацвіталі і вызначалі час дакладны сутак.

Вакол Паўночнай зоркі павольна круцілася начное неба, названае Вялікім Колам Сваргі. Задыякальныя сузор'і змяняліся ў ім паступова і на дванаццаць падзяляліся эпох.

Багіню Мокаш Лада нарадзіла і ёй ключы даверыла ад Сваргі. Стараецца руплівая гаспадыня, без справы не сядзіць ніколі Мокаш, прадзе кудзелю хмарак, імкліва круціцца яе верацяно. Яна палотны тчэ, чаўнок заўзяты лётае з рукі ў руку; адзенне шые, апранае ўсіх багоў у кужаль. І нездарма цвіце блакітам лён, ён колеру набраўся ў тых нябёсаў, дзе першаю яго ўзрасціла Мокаш. Яна і долю кожнаму прадзе, якую Усявышні прызначае...

## 7

Стрэў Хорс на небе Зараніцу, ажно знямеў ад захаплення. Але ж, калі адолеў сарамлівасць і загаварыў нарэшце, ужо цяпер здзіўлёна Зараніца заслухалася словамі яго.

— За дзень я аббягаю ўсю зямлю, шмат бачыў харавства на гэтым свеце, ды ўсё ты засланіла святлом нязнаным. Вачэй сваіх адвесці не магу ад прыгажосці твайго твару.

— Не перабольшвай, Хорс...

— Каб так... Пакутую, што словамі няздатны апець тваю красу, багіня. Хацеў бы я павек не разлучацца с табой на гэтым свеце...

— Тваё святло мяне натхняе ўпрыгожваць гэты свет бязмежны.

— Я слухаў бы бясконца голас твой, ён гэткі мілагучны і прыемны, што перад ім сціхае ўсё на свеце, толькі спявае ўзнёсла і шчаслівая мая зачараваная душа... Кахаю я цябе...

— І мне прыемна слухаць голас твой, пяшчоты поўны, любасці, цяпла... Цябе я буду сустракаць увечары і ўранні, табе хачу дарыць сто фарбаў у нябёсах, цябе кахаць жадаю я заўсёды.

Пайшлі яны па небе побач, за імі ўслед вясёлка слалася шматколерна і ясна. Расквеціла яна нябёсы так, што Лада, Мокаш, Род, Сварог глядзелі са здзіўленнем на праяву тую.

— Хорс нашу Зараніцу пакахаў! Які вянок сплялі яны ў нябёсах з промняў, нібы з кветак, — у захапленні Род прамовіў.

— Вяселле будзе, свята, весялосць, — па-мацярынску паглядзела Лада ўслед каханым.

— Рыхтуйцеся і ўнукаў гадаваць, — сказала Мокаш. — Будзе двое дзетак у іх: дачушка Радаўніца і сынок Дзянніца.

— Які чакае лёс унукаў нашых? — спытала заклапочаная Лада.

— Які б ні быў, той лёс не перайначыць. Памкненні нашы спапяляюць нас, — сказала Мокаш і замоўкла, бо не жадала таямніцу лёсаў боскіх выдаваць.

— Няўжо нічога нельга папярэдзіць?

— Свабоду бога нельга абмяжоўваць. А калі воля ёсць, дык будуць дзеянні, якіх ніхто прадухіліць не ў стане...

## 8

У кветках дзіўных востраў патанаў. Вянкі пляла багіня Лада з цюльпанаў і лілей, каранавала імі Рода, духмень фіялак і канвалій удыхала, цешылася хмелем і ў захапленні песеньку спявала:

Ай, хмель, хмялёчак, хмель зялёны,
Сонцам любімы, ветрам хвалёны.
Калі б ты, хмель, на тычку не лез,
Неператвараў бы багінь у нявест.
Але ты, хмялёчак, па тычцы паўзеш,
І ў маіх донек вянкі забярэш.

— Заслухваюся спевамі тваімі. Ты песень столькі ведаеш цудоўных! — сказаў замілавана Род.

— Іх столькі, колькі ёсць імгненняў нашага жыцця.

— І ты ўсе помніш?

— Калі і забываю нешта, дык кожны дзень прыносіць мне натхненне, каб песні новыя складаць. А больш за ўсіх мяне натхняеш ты сваёй пяшчотай і каханнем.

— Каханая, я тое ж адчуваю.

— Хацела б з кветак я сабраць нектар і напаіць цябе, — сказала Лада. — Ды як гэта зрабіць, каб не пашкодзіць кветкі?

— Нектар збяруць нам.

— Хто гэта зробіць?

— Глядзі, садзяцца пчолы на суквецці. Яны збяруць нектар і ператвораць яго ў мёд цудоўны.

Над кветкамі ў імгненне загулі вясёлым роем залатыя пчолы, знайшлі дупло на Вечным Дрэве, адразу пачалі нектар туды насіць і ў мёд яго ператвараць.

— Які ўжо раз здзіўляеш ты мяне тварэннем дзіўным.

— Твае выконваю жаданні, а гэтым самым і ствараю свет.

— Што ж пачакаю, калі ж нас нарэшце пчолы пачастуюць мёдам, — сказала Лада, села на лужку і заспявала песню новую пра Сваргу:

Як на Вечным Дрэве
Багацце не мерана:
На вяршыне яго
Салавей пяе,
А на камлі
Пчала гняздо віе.

З любоўю Лада галаву схіліла і аціхла на імгненне, любуючыся хараством навокал. Ды ў гэты момант новае жаданне нарадзілася ў яе душы:

— Шкада, што пустазелле шкодзіць кветкам, хоць разумею: ім такса-ма хочацца расці. Пусціць бы нам такіх істот на свет, якія б спажывалі пустазелле.

— Істот? Якімі хочаш ты іх бачыць?

— Няхай яны кудлаценькія будуць, пяшчотныя, вясёлыя, з рагамі.

— Навошта рогі ім?

— Каб маглі сябе абараніць. Хто ведае, што створым мы яшчэ.

— Бадай, што так, — згадзіўся Род. — Вазьму пучок травінак — і вось табе карова і каза.

— Цудоўныя! Пра гэтакіх я марыла, — захоплена сказала Лада, пагладжваючы ласкава жывёл. — Ласкавыя і добрыя мае. Вас буду пасвіць, даглядаць, любіць.

— І малачко даіць, — Род пасміхнуўся.

— Даіць?

— Павінна ж ад жывёлы быць карысць!

— Тады, каханы, падстаўляй далоні. Мы пакаштуем зараз малака.

Карову Лада пачала даіць, і цёплыя струмені Роду ў прыгоршчы паліліся пругка. Малако яны пакаштавалі. Сказала задаволеная Лада:

— Напой цудоўны! Дзякуй за дарунак! Карову нашу назаву Зямун, бо ад зямлі народжана яна. Каза няхай Сівунь завецца за колер поўсці сіваваты.

— Зямун, Сівунь... Прыгожа!

## 9

На вечным дрэве даспявала шмат пладоў, што вабілі і водарам, і смакам. Галінку Лада нахіліла, сарвала некалькі налітых сокам ягад, пакаштавала і захоплена сказала:

— Як смачна, Род! Дарунак Усявышняга! І ў ягоны гонар няхай завуцца вішнямі яны.

— А мёд усё ж смачнейшы, — Род адказаў.

Дастаў з дупла ён соты, дзе быў пчаліны рой, падаў іх Ладзе. На сонцы залаціўся мёд духмяны і спакушаў пакаштаваць.

Багіня соты язычком лізнула, усклікнула захоплена:

— Дзівосна! Вялікія майстрыхі нашы пчолы.

Па кропельцы лізала Лада мёд. Спачатку ён салодкім ёй здаваўся, пасля пачаў гарчыць у горле.

— Вады хачу папіць, — сказала Лада. — Ды ў акіяне салёная яна занадта.

— Крыніцу падару табе пад вечным Дрэвам.

— Цікава. Дзе ж яна?

Праз момант струмень прабіўся скрозь траву, пабег вясёлай ручаінкай. Вады ў далоні Лада зачарпнула, пакаштавала і сказала Роду:

— Якая смаката! Ты пакаштуй!

Пакуль Род піў, гуляла Лада з ручаінкай, далоні падстаўляла пад струмень, жадаючы спыніць яго імклівасць.

— Вада цячэ туды, дзе перашкод няма. У нас інакшы шлях, — заўважыў Род.

— Нам трэба перашкоды?

— Калі здарацца, пераадольваць будзем.

— Наш мёд салодкі і густы. Яго вадой разводзіць трэба.

Ліпейным кубкам Лада зачарпнула вады і трохі мёду дадала, паднесла Роду:

— Напой выдатны атрымаўся!
— Халодная вада занадта, — заўважыў Род, каштуючы пітво.
— Паставім колькі кубачкаў на сонца, няхай сагрэецца.
— Я згодны! А пакуль садзіся на галіну, пагушкаю.
— І ты сядзь побач, — Лада папрасіла. — Няхай Стрыбог нас палюляе.
Пакуль Род з Ладай Сваргай любаваліся, напой у кубачках лілейных ператварыўся ў хмельную суру — дарунак Сонца.
Суры напіўся Род і задаволена сказаў:
— Напою мала, я хачу яшчэ.
— Пастаўлю кубачкі ізноў пад промні, — з гатоўнасцю прапанавала Лада.
— На гэта час не варта траціць, — Род адказаў. — Ствару Квасуру, ён няхай рыхтуе смачную суру.
У адно імгненне з кропелькі суры Квасура нарадзіўся, вясёлы і гасцінны бог. Мёд асураць яго вучыла Лада. Ён стаўся здатным вучнем, яе ўменне хутка пераняў і адразу за справу ўзяўся, пры гэтым спяваў і жартаваў, стараўся ўсіх развесяліць.
— Марудзілі вы доўга, Род і Лада, з маім з'яўленнем. Рызыкавалі без мяне засохнуць!
— Вады вунь цэлы акіян, — Род адказаў.
— Ад той вады ты прасаліўся б так, што Лада б цалаваць цябе не пажадала.
— Квасура, лепей гэтак не жартуй, бо мы табе суру падсолім, — паабяцала весела багіня.
— Маўчу! Маўчу! Ні гуку болей!
— Да голасу твайго мы ўжо прывыклі, лепш паспявай нам, — папрасіла Лада.
— Спяваць заўсёды я гатовы:

Сонейка яснае
Свеціць, іскрыцца.
Хорс па прасторы
Блакітнай імчыцца.

Спяваў Квасура і суру падносіў Ладзе і Роду ў кубачках з лілеі. Лікбог на момант працу прыпыніў, каб боскага адпіць напою. Верацяно адклала Мокаш, пітво таксама прыгубіла. Сварог піў доўга і не мог напіцца! Свет весялосцю поўніўся і шчасцем.

## 10

— Шкада, што мала ў нас пакуль зямлі! Хачу я мора гэткай прыгажосці, дзе ўсё буяе квеценню яскравай і водар вылучае невымоўны, — сказала Лада мройліва і ружу паднесла Роду, каб і ён удыхнуў чароўнай кветкі непаўторны водар.
— Зямліцы мала? Будзе, будзе ўдосталь!
Род жменьку ўзяў зямлі ў далоні, зляпіў у камячок, а той ураз пачаў расці, расці... Ператварыўся ў камень Алатыр.
— Што робіш, Род? Прымяла глыба кветкі, — ледзь не заплакала крыўдліва Лада.
— Нічога, кветкі вырастуць ізноў. Паслухай, што хачу зрабіць я. Надоім малака ў наш акіян і каменем саб'ём зямлю, як масла, каб тлустая была, радзіла добра..
— Мне даспадобы гэткая ідэя. Пайду даіць кароўку і казу...

Усё так выйшла, як задумаў Род. Зямля сырая збілася, бы масла, і паднялася над прасторай воднай. Насенне з Дрэва Вечнага зляцела, засеяла ўрадлівыя абшары. Квітней, зямля, народжаная Родам, ты, як і ён, радзіць павінна плённа!

Род уздыхнуў з палёгкай пасля працы, і з тым уздыхам птушка славы Сва высока ў неба раптам узляцела і заспявала велічную песню, якой яшчэ не чуў ніхто ніколі. Яна высока гэтак паднялася, што растварылася ў блакіце чыстым, і толькі гукі дзіўныя ліліся і цешылі цудоўным спевам слых.

Ёй крыкнуў Род:

— Ты абляці Зямлю, агледзь, ці ўдала мы яе стварылі? Мо што падправіць трэба, дарабіць...

— Як хараша спявае птушка Сва! — сказала Маці Лада ў захапленні. — Ствары паболей, Род каханы, птушак розных, няхай спяваюць, радуюць зямлю...

— А раптам так яны пачнуць спяваць, што шум учыняць неймаверны?

— Няхай палова будзе безгалосых...

Адно жаданне Рода — і навокал паветра зазвінела, заспявала, на голлі Дрэва Вечнага шмат птаства пасялілася, і пачало яно сабе заўзята гнёзды віць, адкладваць яйкі, птушанят выводзіць.

Вярнулася пад вечар птушка Сва і праспявала, што свет дзівосны, жыве зямля і родзіць, і красуе, як пажадаў усёмагутны Род. Але пра гэта не раскажаш нават, бо тыя фарбы, блікі і адценні на вочы ўласныя патрэбна сузіраць...

## 11

— Хачу на неба, каб адтуль пабачыць усё, што настваралі мы з табой, — сказала летуценна Лада.

— На небе ёсць адна толькі дарога, якою праязджае Сонца, — адказаў Род.

— Пад вечар выдаю казу й карову, і малаком пазначым Млечны Шлях, па ім і рушым у абшары неба...

...І разлілося малако шырока на небе вечаровым, неабдымным, заззяла зорна кропелькаю кожнай. Каза Сівунь ад радасці, што мае дачыненне да высокіх зорак, неспадзявана нарадзіла сына Дыя, магутнага і маладога бога, яму даверылі начное неба вартаваць. Ён Млечны Шлях старанна даглядаў, казіным малаком крапіў дарогу, каб не пылілі зоркі пад нагамі.

У паднябессе Млечны Шлях паклікаў Рода й Ладу, ім расчыніў бясконцасць далягляду. Пад зорным небам, у месяцовым ззянні варочаўся магутны акіян, зямля драмала ў вэлюме туману, спакой запанаваў прасторай. Такое хараство — не наглядзецца, не нацешыць радасныя вочы.

— Я тут хачу застацца назаўсёды, — сказала Лада задуменна Роду, — каб бачыць разам неба і зямлю, хадзіць па зорках у сінечы неба. Мяне адну ты не пакінеш?

— Куды я без цябе? Скрозь мне з табою добра...

— Сварогу даручы, няхай зямлёй кіруе, а нам турботаў хопіць неба даглядаць...

— Скрозь, Лада, ты сабе занятак знойдзеш. Ды адпачні, нарэшце, хоць калі...

— З табою, Род, душою спачываю... Табою кожны момант мой натхнёны... Я праз цябе ўвесь гэты свет люблю... З табою незаўважна час ляціць. Адно імгненне доўжылася ноч, і вунь, глядзі: ужо ўзыходзіць Сонца! Афарбавала неба ў барву шчодра...

— Якое хараство — зямелька наша! Травінкі ў росах! Свецяцца, зіхцяць!

— Раскіданы, нібы аскепкі Сонца, жоўтыя на лузе першакветы!

— Ды й балацінка з трыснягом шапоткім прываблiва глядзіцца з вышыні.

— А там... Зірні туды... Зямля размыта! І дрэва павалілася ў ваду!

— Сваволіць акіян!

— Забарані! — адразу папрасіла строга Лада.

— Я не магу. Вада павінна ліцца, цячы, спяваць, задумаў так Гасподзь.

— Дык замарозь яе. Няхай яна застыне!

— Ну, калі ласка... Усё, што пажадаеш...

Той бераг, дзе вада размыла глебу, у момант Род схапіў такім марозам, што крыгаю магутнай хваля стала і непарушна на вадзе застыла. Ад холаду раслiннасць уся завяла, панікла і прыпала да зямлі.

— Што нарабіў ты, мой каханы Род?

— Сама ж прасіла...

— А хіба ж я знала... Ды адмарозь жа ты хутчэй зямлю...

— Прыгрэе сонца — крыга і растане...

— Зноў акіян зямлю будзе тачыць, змываць, зразаць, сабе на дно цягнуць... Прыдумай, Род, як захаваць яе...

— Стварў я Змея Чорнага, няхай жыве глыбока пад зямлёю, ахоўвае яе ад разбурэнняў, крадзяжу, змывання...

— Няхай ён мае некалькі галоў, каб мог ва ўсё бакі глядзець адразу, за ўсім сачыць, не прапускаць нічога, каб ні пясчынка Матухны-Зямлі згубіцца не магла ў вадзе сусветнай, — сказала Лада.

— Ужо ён ёсць, Змей Чорны, Чарнабог, зямлю вартуе. Болей не турбуйся...

— І акіяну трэба ж уладарка, — Лада схамянулася раптоўна. — Няхай трымае воды пад наглядам, каб не сваволілі дарма яны.

— Бадай, што так... Марская гаспадыня кіруе ўжо бязмежным акіянам.

Па хвалях пенных Уладарка мора ішла і аглядала акіян, як ветразь валасы яе віліся, сукенку церабіў гарэза-вецер. Свавольнай чарадой дэльфіны праводзілі яе, ныраць давалі, пырскаліся, нібы дзеці.

— За гэта дзякую, каханы Род, цяпер спакойна мне. Ёсць лад ва ўсім... Зямля і неба існуюць у згодзе, у велічнай гармоніі Сусвету, у зорнай песні вечнага быцця...

Так Род і Лада наш стварылі свет, бясконцы, дзіўны, велічна прыгожы, а нам яго да скону шанаваць, любіць, інакш ні ў чым не мець спрыяння.

## 12

Бог Сонца ўбачыў Уладарку мора, зачаравана ў небе супыніўся. Той дзень названы быў сонцастаяннем. Яна гуляла вольна акіянам, стварала духаў мора з белай пены. І кожны рух яе рукі, нахіл галоўкі такі быў дасканалы, што Бог сказаў:

— Не апускайся ў мора. Цябе хачу заўсёды побач бачыць, чароўны тварык промнямі кранаць і лашчыць рукі тонкія твае.

— А ты свяці заўжды, хачу з табою азіраць я хвалі, даваць жыццё марскім істотам розным.

— Ты Маці мора, дзве дачкі дзівосных табе я падару. Плывуць ужо на пенных хвалях нашы дзеці Рада з Пенкай. Няхай нас цешаць розумам, красою, бо як дзве кроплі на цябе падобны...

— За дарунак гэткі дзякуй, Сонца. Маё каханне вырасла шматкроць! Я абдымаю цэлы свет душою! Жадаю жыць яму і красаваць!

— Стань уладаркаю маёй душы! Удзень марское дно дастану промнем і ноч з табою буду каратаць...

І павяла дачок за рукі Уладарка па хвалях мора. І бацька Сонца прамнямі іх лашчыў, услед ішоў, ад бед аберагаў... Цяпла яго на цэлы свет хапала.

Пабачыла гарысты востраў Пенка і папрасіла:

— Дазволь, матуля, мне застацца тут. Бо жыць хачу, дзе птушкі гнёзды ўюць. Аберагаць іх буду ад нягодаў.

— Што ж, заставайся, — маці адказала. — Цябе няволіць не хачу, мо шчасце тут сваё сустрэнеш...

— А я з табою, мамачка, пайду, — сказала Рада. — Мне так цікава ў моры, дзе мноства рыбаў, духаў незямных... Ты, Пенка, не сумуй адна!

## 13

Як толькі Дый пачаў ахоўваць неба, звярнуў увагу ён на прыгажуню, якая і вачэй не падымала ад сціпласці, а на зямлю глядзела, шукаючы ў бацькоў сваіх падтрымкі. Яна і не здагадвалася нават, што нехта ў цемры мог за ёй сачыць, спявала нешта ціхенька сабе. І песня сагравала сэрца, былі ў ёй цеплыня, цнатлівасць, шчырасць.

Дазнаўся Дый: яе завуць Дадола. Яна і поўня, і танюткі месяц, як быццам мноства твараў у яе. Здавалася найпрыгажэйшай самай багіня яснатварая яму. Ды доўга не адважваўся сказаць, што думае бясконца пра яе. Пакуль Стрыбог аднойчы са свавольства хмар не нагнаў, а сам схаваўся ў травах. І давялося Дыю збіраць кудзелю воблакаў ды Мокашы насіць. Няхай прадзе і тчэ багам адзенне.

Тады з удзячнасцю прамовіла Дадола:

— Вялікі дзякуй, незнаёмы бог, за працу. Не здолела б у хмарах я свяціць, і засмуціла б Маці Ладу. Я так яе люблю, што толькі з ёю душа мая спакойная заўжды.

— А я цябе кахаю ўжо даўно, адзіная Дадола. Няма мне радасці, пакуль не чую твайго спеву, пакуль не бачу святла тваіх вачэй. Хацеў бы я, каб ноч была заўсёды, каб мы не разлучаліся ніколі...

— Хто ты такі?

— Вартую неба ноччу, а завуся Дыем...

— Ты й мяне вартуеш?

— Цябе кахаю, любая мая. Скажы, ці згодна стаць маёю жонкай?

— Прабач, ды я не думала пра гэта. Мы ж можам быць з табой сябрамі...

— Сябрамі? Як? Не разумею я!

— Ды вельмі проста. Будзем сябраваць, дзяліцца ўражаннямі, думкамі...

— Мяне ты крыўдзіш, любая Дадола. Не палічыць, колькі ўздыхаў я па табе начэй, ахоўваў, каб ніхто нядобры цябе чым не пакрыўдзіў незнарок!

— Я ўдзячная табе за ўсё, павер! Але пакуль не адчуваю я патрэбы свой лёс камусьці давяраць... Ёсць у мяне бацькі, мне дастаткова іхняе увагі, ласкі і цяпла...

— За што мяне, Дадола, абражаеш? За тое, што адданы быў табе?

— Параіцца мне трэба з Маці Ладай, я без яе дазволу не змагу...

— Я разумею... Строгія бацькі — дачушка паслухмяная... Пасватаюся заўтра да цябе. Ты не адмовіш?

— Нечакана гэта... Дазволь падумаць мне да рання, Дый...

Халодная красуня паднябесся пачырванела нават сарамліва, бо не ха-

цела волата пакрыўдзіць, але й згадзіцца адразу не магла. Шлюб — крок адказны і на ўсё жыццё, якое доўжыцца ў багоў не менш, чым вечнасць. Памылішся — пакутуй век пасля, нялюбага любі, ці выгляд рабі, што ўсё ж кахаеш... Пра гэта нават жудасна падумаць...

А раніцай Дадола з Маці Ладай абмеркавалі Дыя прапанову.

— Жаніх прыгожы і пры справе... Яго кахаеш? — Лада запытала.

— Ён мілы бог і добры сябар, але душа мая маўчыць чамусьці...

— Калі маўчыць, дык лепей пачакай. Няхай яна табе хоць нешта скажа. Выходзіць замуж за нялюбага не раю.

— Не прагну я замужжа. Адной мне добра ў чорным небе ночы. Калі я з кімсьці свой з'ядналю лёс, ён будзе замінаць мне, адрываць ад спраў. Што можа цікавей быць, чым свяціць у цемры кожнаму стварэнню, дапамагаць знаходзіць шлях, не адчуваць тужліва адзіноты? Я ўсім належу, а не аднаму...

— Я спадзяюся, любая дачка, яшчэ сустрэнеш ты ў нябёсах шчасце. А хочаш, да Мокашы з табою сходзім, няхай яна тваю прадкажа долю?..

— Не, мама, не хачу залежаць я ад прадказанняў... Не ведаць лепей пра наступнае нічога, мне дастаткова слухаць сэрца і жыць суладна з ім.

— Дадола, светлая мая дзяўчынка, разважлівасць твая мяне бянтэжыць... А зрэшты, быць такой багіня і павінна... Я рада за цябе, дзіця маё...

Пад вечар Дый прыйшоў Дадолу сватаць, ды Лада адказала яму строга:

— Дачка мая яшчэ не хоча замуж, занадта маладзенькая яна, каб гэтакі цяжар браць на сябе. Дый, не крыўдуй дарэмна на Дадолу, будзь сябрам верным ёй. Яна прывыкне да цябе, тады, магчыма...

— Яна мне адмаўляе? Нібыта сотня жаніхоў ёй прапануюць сэрцы! Яшчэ старою дзеўкай застанецца, тады вы пашкадуеце ўсе разам!

— Дый, не гнявіся, калі ласка! Вучыцца трэба ў шчасце верыць, каб годна некалі яго сустрэць.

— Пустыя словы... Чуць хачу Дадолу...

— Дадола ўжо на неба паляцела, вунь там, глядзі, яе сярпок заззяў. Зажураная сёння яна вельмі. Мо лёс яе такі: адною быць заўсёды. У Мокашы спытай, хто будзе тваёй жонкай...

## 14

Дый, раззлаваны, сеў пад Вечным Дрэвам, ламаў галіны, праклінаў Дадолу:

— Халоднае стварэнне, ганарліўка! Сама яшчэ мяне папросіш, каб я з табою ажаніўся! І матка злосная твая! Усіх, усіх вас ненавіджу!.. Каб век вам радасці не ведаць, як вы мой сёння ачарнілі дзень!

Знянацку голас нечый прагучаў лагодна:

— Чаго такі пахмурны сёння, Дый? Мо я табе дапамагу?

— Ты хто такі? Чаму цябе не бачу? — абурана Дый кінуў у прастору.

— Я, Чорны Змей, ляжу паміж карэння, драмлю. Скрозь сон пачуў твае праклёны... Вось і азваўся... Я табе не вораг... Пра боль свой раскажы мне, калі ласка, і пасвятлее на душы, павер...

Вагаўся Дый. З'ядала крыўда сэрца. Было дзяліцца цяжка гэтым болем, бо гонар быў прыніжаны ягоны.

— Чаго маўчыш? Магу я здзейсніць шмат! А пяць маіх галоў гатовы думаць дзень і ноч, каб толькі лёс аблегчыць твой, — заўважыў Змей.

— Я закахаўся... Мне адмовіла Дадола... Не хоча замуж... Як такое перажыць?..

— Знайшоў бяду!

— Нашто я расказаў табе пра гэта, як ты мяне не здатны зразумець...

— Я разумею... Выйсце падкажу... Магу Дадолу я тваю прымусіць цябе запаважаць і пакахаць...

— Як гэта зробіш?

— Шмат спосабаў для дасягнення мэты ёсць. Я прапаную самы дзейсны...

— Кажы хутчэй! — Дый нецярпліва крыкнуў. — Больш не магу трываць, душа смыліць...

— Я сёння ноччу выкраду Дадолу...

— Што? Выкрадзеш! І гэта дапамога?

— Даслухай план мой да канца... Я буду красці, ты яе ўратуеш... Героем станеш у яе вачах... З удзячнасці яна пагодзіцца стаць жонкаю тваёю...

— З удзячнасці? — зноў абурыўся Дый. — Не трэба мне такога падарунка! Няхай мяне Дадола пакахае, толькі тады шчаслівы буду я!

— І пакахае... Ну, куды ёй дзецца? Я гэтак напалохаю яе, што зразумее лепшага, чым ты, не існуе на свеце болей бога...

— За гэта дзякуй, — Дый сказаў спакойна, нарэшце ён паверыў Змею.

— Шлюб трэба замачыць! З цябе суры малое азярцо, а лепш вялікае...

— Сурою забяспечу, не хвалюйся. Як будзем дзейнічаць?

— Напагатове будзь! Апоўначы на неба я ўзлячу, схаплю Дадолу. А як пачне крычаць, прасіць аб паратунку, выходзь і адбірай яе ў мяне.

— А раптам яна толькі й чакае, калі яе ўкрадуць? — Дый запытаў. — Хто можа ведаць, што ў яе на мэце...

— Які ж ты недаверлівы і злосны, — Змей Чорны галавамі пахістаў. — Таму цябе багіня не кахае. Табе патрэбна нораў свой змяніць. Багіні любяць словы захаплення, пяшчоту, ласку... Толькі і ўсяго...

— Даволі! Мне гэта ўсё вядома. Дамовіліся! Згодны! Сура — з мяне! — усхвалявана Дый сказаў. — Сустрэнемся апоўначы, сябрук...

Змей зноў залез пад карані, каб падрамаць перад вясёлай справай. Яго смяшыла Дыева наіўнасць, няўменне мэты дасягнуць сваёй.

## 15

Дадола над зямлёю праплывала, свяціла зверху тварам срэбным. Адпачываў натомлены днём свет. Раптоўна асляпіла штосьці яе, дыхнула з цемры жудасным агнём. Багіня ўскрыкнула і ўраз адчула, што нехта абхапіў яе, нясе няведама куды.

— Ратуйце! Гвалт! — Дадола закрычала.

— Маўчы! Заб'ю! — пагрозна рыкнуў Змей.

— Хто ты такі? І як пасмеліўся? — рванулася з ягоных лапаў багіня.

— Маўчы! Кажу!

— Паклічу Усявышняга, тады, нахаба гнюсны, пашкадуеш...

— Я маю ўладу над табою...

— Багі! Ратуйце! Гвалт...

Змей нёс Дадолу, паспяшаў і ўжо зусім не прагнуў, каб Дый багіню забіраў, бо ўжо яна яму самому спадабалася. Так рвалася яна з ягоных лапаў, так трапятала маладзенькім целам, што юрлівую жадобу абуджала ў сэрцы Чарнабога. І нават голас быў яе такім прыемны, нібыта звон празрысты ручая...

Дый не драмаў, накінуўся на Змея:

— Аддай, паскуднік, любую маю! Як скіну з неба, костак не палічыш!

— Яна мая! — азваўся злосна Змей. — Я перадумаў памагаць табе! Прэч! Адпусці!

— Ах, ты, прадажны гад! Я задушу цябе!

— Ха-ха! Пяць шый маіх дзвюма рукамі не абхопіш! Замала кашы еў! — Змей рагатаў, хвастом адчайна адбіваўся.

Дый кулаком так сперазаў яго ўпоперак спіны, што Змей знянацку выпусціў Дадолу. Яна адскочыла, схавалася ў аблоках. Схапіў за хвост Дый Змея, раскруціў вакол сябе штосілы і кінуў на зямлю.

— Вялікі дзякую, Дый, — прыпала да грудзей яго Дадола і не хавала слёз. — Спалохалася вельмі Змея! Не ўяўляю, што было б са мною, каб не ты!

На крык з'явіліся бацькі.

— Што здарылася, мілая дачка? — Род запытаў.

— Змей Чорны выкрасці хацеў мяне, а Дый ўратаваў, — сказала горача Дадола. — Яго ён раскруціў і скінуў з неба.

Падзякавалі Род і Лада Дыю за дабрыню, адвагу і спагаду.

— Няма за што, — прамовіў ціха Дый. — Дадолу вашу я даўно кахаю... Вы ведаеце самі... Нібыта раб, хадзіць за ёю буду і служыць, калі не варты мужам быць яе.

— Прабач мне, Дый, раней не разумела, які ты дарагі мне і патрэбны, — сказала сарамлівая Дадола. — Гатова я з табою лёс дзяліць.

— Пара нам, Маці Лада, блаславіць дзяцей на шлюб, — сказаў з усмешкай Род. — Няхай жывуць, шчасліва, светла, вечна...

Бацькі Дадолу з Дыем блаславілі, заручыны адзначылі пад вечар. Свяціла поўня ясная ўсю ночку, яе ахоўваў закаханы Дый. Не след дзівіцца, што праз пэўны час дачушка нарадзілася ў іх Дзіва, прыгожая, як маці, але нораў бацькаў мела, настойлівы і дзёрзкі.

## 16

Цярпліва Пенка прыручала дзікіх птушак, карміла іх з рукі, спявала ім і даглядала птушанят. Было ёй добра пад наглядам Сонца, купалася яна ў ягоных промнях і прыгажэла дзень пры дні. Цудоўнае аблічча юнай Пенкі выпраменьвала святло, з краёў далёкіх прыляталі птахі, каб паглядзець на гэта хараство.

Да Змея Чорнага дайшлі таксама весткі пра прыгажосць багіні юнай, адклаў ён справы, паляцеў на востраў тумановым днём. Убачыў, як клапоціцца яна пра птушак, і падумаў: «Мне гэтакую трэба гаспадыню».

— Вітаю, Пенка. Ці не сумуеш тут адна? — Змей запытаў.

— Як ты пасмеліўся на востраў прыляцець? — багіня строга запытала. — Тут уладару я!

— Дачуўся пра цябе. І вось я тут. Лічы: перамагла мяне без зброі сваёю прыгажосцю.

— Калі перамагла, дык востраў мой пакінь...

— Пакінем разам, будзь маёю жонкай!

— Навошта? У мяне ёсць мноства птушак. Ніхто мне больш не трэба.

— Ты шчасце мне дасі!

— Яго шукай у іншым месцы...

— Цябе я пакахаў!

— Ты брыдкі, смешны Змей! Ідзі адсюль, не замінай мне жыць!

— Лепш не выводзь мяне, — дыхнуў агнём пякельным на Пенку Чорны Змей.

— Паклічу зараз бацьку! Дык пашкадуеш, што мяне пакрыўдзіў, — крыкнула багіня.

— Апошні раз кажу: будзь маёй жонкай!

— І слухаць не хачу! Ніколі! Нізавошта!

— Што ж, заставайся тут. Ды заўтра цябе твае пазнаць не змогуць птушкі! — прамовіў змей і з вострава прапаў.

Як хмара, птушкі з вострава ўзляцелі, заплакалі, загаласілі.

— Што здарылася з вамі? Ці напалохаў вас жахлівы Змей?

Узбегла Пенка на скалу, зірнула ўніз і на вадзе пабачыла адлюстраванне — страшэнную пачвару.

— Хто гэта там? — здзівілася яна.

— Сябе не пазнаеш? Ды гэта ж ты! — аднекуль з-пад зямлі азваўся Змей.

— Я?.. Гэта я?.. Я ж не была такою?

— Адпомсціў я табе...

Саромелася выгляду свайго, хавалася ўдзень Пенка па пячорах, каб воблікам сваім бацькоў, сястру не напалохаць. А ноччу плакала ад адзіноты. Самотна, горка йшло яе жыццё...

## 17

Як прадракла калісьці Мокаш, двое ўнукаў падаравалі Роду й Ладзе Хорс з Заранiцаю. Дзед з бабаю да самазабыцця любілі іх. Унук Дзянніца — непаседа звонкі, любіў прастору і палёт высокі. Унучка Радаўніца — мілая пястушка, умела ладзіць з цэлым светам.

Дзянніца з Радаўніцай, брат з сястрыцай, дружныя былі, скрозь разам: на зямлі і ў чыстым небе. З паўслова, з позірку адно аднога разумелі, смяяліся, спявалі часам разам, а іншы раз маўчалі задуменна.

Як абярнуўся сокалам Дзянніца, сеў на галіну маладога дуба, што рос на стромым беразе марскім, задумаўся. А Радаўніца побач белаю лябёдкаю плыла, пыталася:

— Чаго сумуеш, братка? Такая прыгажосць навокал... Вада ільсніцца, раскашуе бераг — кілім травы пад дубам разасланы...

— Не радуе нішто мяне на свеце, — скрозь слёзы адказаў сястры Дзянніца. — Хачу я лётаць па нябесных гонях, вышэй за Сонца і за бацьку Хорса, каб толькі зорны пыл ляцеў у твар, каб толькі зорны вецер дзьмуў насустрач! Такое шчасце адчуваць, што ты адзін і вольны!..

— Ты і са мною хочаш развітацца? — з дакорам Радаўніца запытала.

— Люблю цябе, сястра, ды нельга ж вечна мне пры табе сядзець. Ты мне не нянька. Я ўжо дарослы, прагну долю выбраць... Няма мне тут сапраўднай справы па плячы, нуджуся я жыццём сваім будзённым...

— Ідзі да бацькі, можа, ён параіць, якую справу лепш табе абраць, — сястра сказала.

— Я ведаю і сам, чаго хачу...

Да бацькі Хорса паляцеў Дзянніца з таемнай прагаю вялікай славы, пра гэта і сястры баяўся расказаць, але сабраўся з думкамі, прамовіў:

— Я доўга думаў, бацька, перад тым, як да цябе прыйсці... Мне невыносна цяжка, я прагну вышыні. Па небе мару я імчаць, каб толькі вецер у вушах свістаў...

— Ты хочаш ехаць па дарозе Сонца?

— Так, дасягнуць хачу я вышыні, куды адзіна Усявышні можа падымацца. Яму каметы асвятляюць шлях, яму планеты дораць захапленне і зоркі ўсе ўсміхаюцца яму...

— Твае жаданні, сын, цябе загубяць... Не дадзена табе такое сілы, каб роўным быць найвышэйшаму з багоў. І з гэтым трэба зміpыцца...

— Не трэба, бацька, супыняць мяне. Паспрабаваць хачу...

— Зламаеш дух...

— Не папракай мяне і не шкадуй, а дай мне сонечную калясніцу. На ёй паеду я вышэй за Сонца...

— Табе здаецца, сын, салодкай слава? Ты думаеш, паміж планет і зорак табе прытульна будзе? Дык дарма... Ты цамыляешся! Твар зманлівы ў Славы, адной рукой яна цябе ўздымае, другой адначасова нішчыць сэрца...

— Хачу я сам упэўніцца, ці так усё, як расказаў ты, бацька... Дай калясніцу мне і коней залатых... Пабачыш сам...

— Я за цябе баюся...

— Дазволь самому мне баяцца за сябе і лёс свой вырашаць у рэшце рэшт...

— Не! Не дазволю! Малады яшчэ! Слабыя рукі і слабы твой дух, каб у такую далеч выпраўляцца...

— А ты як пачынаў? Няўжо цябе вадзілі за руку? І прыніжалі , як мяне ты зараз?

— Ідзі да маці, з ёю гавары. Яна цярплівасці мо болей мае!

Пакрыўджаны пайшоў Дзянніца. Узяў ён без дазволу калясніцу і паімчаў на ёй па небе, па аблоках. Панеслі коні вазака слабога, не здолеў імі кіраваць як след. Яны, бы звар'яцелі: ці выбіваліся на Млечных Шлях, ці ўніз злятала — падпальвалі лясы. Зямля зыходзіла пажарамі і дымам, і акіян амаль што закіпаў. Спалоханы Дзянніца хоць і стараўся, ды коней супыніць не здолеў, крычаў, і плакаў, і прасіў патолі...

Заўважыў абураны Усявышні, што запалала ўсё яго тварэнне, шпурнуў стралу ў калясніцу — згарэла, разляцелася яна. Вугельчыкі ператварыліся ў алмазы.

Дзянніца, полымем ахоплены магутным, стаўся зоркай. Дагэтуль ззяе яна на світальным небе, прадказваючы набліжэнне дня.

Да раніцы свяціліся пажары, дажджамі іх Усявышні заліваў. Нарэшце патушыў. Зямля, быццам нябожчык, ляжала мёртвая, пасыпаная попелам, дзе-нідзе недагарэлыя лясы тырчалі чорнай шчэццю.

Шукалі Радаўніца з Заранiцай роднага Дзянніцу на зямлі, але і знаку нават не знайшлі. Загаласілі маці і сястра, іх слёзы ператвораны былі Дадолаю ў бурштын, які дасюль сустрэць можна ў пяску, калі глядзець уважліва пад ногі.

## 18

У жалобе Сонца легла ў цёмных хмарах, стамілася і сэрцам, і душой, знясілела, няздатнае разважна перажыць страту Дзянніцы. Дарэмна Род і Лада яго суцешыць спрабавалі.

— Я не магу глядзець на белы свет. Няхай мой Хорс цяпер з нябёсаў свеціць, — сказаў бог Сонца. — Падымі, Зямун-карова, мяне на рогі, хачу разліцца я ракой святла між Яваю і Наўю, каб бачыць вас і ўнучка адначасна, каб з ім і з вамі быць заўсёды. Усе наўцы цераз маю раку будуць пераплываць...

— Спыніся, Сонца, ты патрэбна тут, — прамовіў Род.

— Ніштo мяне не спыніць. Дзівосны свет, ды цяжка мне глядзець.

— Не будзе ладу без цябе, — сказала Сонцу Лада. — Твая жалоба ляжа на ўвесь свет.

— Вы пра мяне нікому не кажыце.

— Тваё знікненне нельга не заўважыць, было два сонцы, а цяпер — адно, — Род запярэчыў.

— Тут Хорса дастаткова.

Карова падняла на рогі Сонца, яно імгненна разлілося, нібы жаўточак з яйка, жалобнаю ракою стала.

Агледзела зямлю з дакукай Лада, прамовіла скрозь слёзы:
— Згарэла наша ўсё тварэнне, у папялішчах бедная зямля.
— Кароткі век у хараства зямнога.
— Хачу вярнуць яго. Што нам рабіць?
— Ізноў ствараць...
— Баюся, што не зможам паўтарыць...
— Не трэба сумаваць, галубка Лада. Пашлю Сварога, ён зямлю ачысціць, збярэ ўвесь сухастой, гарэлы лес, пні пакарчуе, зноў пасадзіць дрэвы, а попел будзе добрым угнаеннем, зямліца наша закрасуе. Пабачыш, стане лепшай, чым была...
— Вялікі дзякуй, Род, за суцяшэнне... Паверу, як пабачу зноў, што зацвілі лугі, лясы паўсталі...
— Да творчасці ўсё схільна на зямлі. Зірні: трава прабілася праз попел. Паслухай: птушкі голас падаюць...
— Цяпер я веру, веру ў адраджэнне...

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

## СВАРГА

### 1

Сварог акінуў позіркам Зямлю. Стаялі абгарэлыя лясы, да неба голле-рукі падымалі, прасілі ратавання і паталі. Ламачча скрозь ляжала пад нагамі. Куды ж той хлуд падзець? Ударыў кулаком аб камень Алатыр і высек іскры ясныя Сварог. З іх нарадзіўся вогнебог Сямаргл, што выклікае смагу цеплынёй, што здатны спальваць розную брыдоту.

Сямагрл узвіўся полымем гарачым, дыхнуў спякотай, зварухнуў паветра, і тут жа да яго зляцеў Стрыбог, што здатны гнаць агонь па свеце. Яго ў запале асядлаў Сямаргл і паскакаў! Дым сцягам сівым следам за імі пацягнуўся...

— Спыніцеся! — ім загадаў Сварог. — Так можна выпаліць усю зямлю дашчэнту. Хапіла ёй пажараў гэтай ноччу.

— Аднак клін клінам выбіваюць, — Стрыбог заўважыў.

— Жыву толькі тады, калі гару, — Сямаргл сказаў.

— Святы агонь запалім, няхай палае ў гонар вечнага, нязводнага жыцця, — Сварог прамовіў. — Нясіце дровы.

Сямаргл некалькі дрэваў вывернуў з карэннем, агнём іх ахапіў — палае Святое Вогнішча і баслаўляе свет на красаванне, маладосць і шчасце. Квасура скокнуў з неба і прынёс суры ахвярнай, у агонь лінуў. Уверх імкліва полымя ўзляцела, язык яго пачаў траіцца, а гэта азначала, што прыняў ахвяру Усявышні.

— Цяпер час за справу брацца. Я зараз вам памочнікаў прышлю, што хлуд збяруць, які мы будзем спальваць, — Сварог сказаў.

Іскрынкі высек ён, якія на пенных хвалях зашкварчэлі — і выйшлі вої велічна на бераг. Сто волатаў магутных і прыгожых — Сварога войска стала перад ім, чакаючы бацькоўскага загаду.

— Сварожычы, сыны мае! Вас заклікаю Сварзе паслужыць. Прыбраць зямлю патрэбна, пасадзіць лясы! — ён войску загадаў. — Няхай усё буяе і квітнее.

Узяліся волаты за справу. Пасеклі лес гарэлы, пні пакарчавалі і знеслі ў кучу. Як падпалілі, полымя ўзнялося аж да неба. Род з Ладаю ўзмакрэлі

нават і пачалі Сварога ўсчуваць, што ані ў чым не ведае ён меры, бо дым есць вочы, неба ў сажы ўсё, і дня не хопіць, каб яго адмыць.

Але сушняк згарэў за два імгненні. Адмыла Мокаш неба неадкладна, зноў стала светла на Зямлі і ціха, як і было ў найпершы дзень тварэння.

Сварожычы з галін Вечнага Дрэва натрэслі рознага насення. Стрыбог разнёс яго па ўсёй зямлі, яно ўраз прарасло. Закрасавалі лес, лугі, балоты. Звяры і птушкі засялілі свет, вярнулася ўсё на кругі свае.

## 2

— Што за ваякі з вас? — спытаў Сварог, акідваючы позіркам сыноў.

Сварожычы маўчалі вінавата, не разумеючы, што мае ён на ўвазе

— Ах, дзеці, дзеці... Выкую мячы вам, каб сталі вы сапраўдным войскам. Зрабі мне домніцу хутчэй, Сямаргл, дзе выплавіць змагу з руды жалеза.

Сямаргл хвіліну мо пачараваў і ўмомант змайстраваў печ-домніцу, яна была, нібы пукаты ўзгорак. Сварог у печ руды кавалак кінуў. Стрыбог з Сямарглам полымя раздзьмулі і выплавілі першае жалеза. Яно, як вадкасць, долу працякло, паволі астывала і цвярдзела. Было спачатку белае, як сонца, калі стаіць у саменькім зеніце, пасля пачырванела, потым стала чарнець, як Матухна-Зямля. Усе зачаравана назіралі за тым, што адбываецца з жалезам.

— Загледзеліся, момант упусцілі... Яшчэ раз трэба разагрэць жалеза, — сказаў Сварог Сямарглу. — Мячы будзем каваць.

Зноў полымя жалеза ахапіла. Як стала яно белым і гарачым, Сварог яго на камень кінуў, а каменем другім пачаў гаціць і форму надаваць, каб вышаў меч. Каваль заўзяты, ён не ведаў стомы! І шчыраваў, і чараваў з агнём, што толькі іскры ў неба падляталі. Быў выкаваны першы меч нарэшце, сцюдзёнаю вадой загартаваны. Узяў яго Сямаргл і засмяяўся!

— Такое зброі зроду я не бачыў! Мая рука ўдвая даўжэйшай стала! А сіла павялічылася ўтрое!

Тут разам волаты загаманілі:

— І нам такую зброю выкуй, бацька!

— Ах, дзеці, дзеці.. Перш патрэбна ведаць, што сіла ваша у сэрцах і галовах, а толькі потым, можа, у руках... Меч — гэта цацка, каб не сумаваць, магчыма, упрыгожанне, а часам зброя, каб са злом змагацца... Але ніколі, чуеце мяне?.. Ніколі не рабіце самі зла! Бо вернецца яно да вас назад, каб вас знішчаць сабою! Зламыснік, як самазабойца, сам да сябе сваю прыводзіць смерць... Ці зразумелі вы мяне, сыны?

— А што такое смерць? — спытала моладзь.

— Усё на свеце, апроч Усявышняга, пачатак мае, значыць, і канец. Прадзе вам долю Мокаш справядліва, пакуль не абарвецца ваша нітка, заўсёды вы — паміж жыццём і смерцю. Як іскры, можаце вы згаснуць. Не дадзена вам уваскрасаць, як тое здараецца з багамі.

Задумаліся моўчкі дзецюкі. Сварог тым часам зноў за справу ўзяўся, але найперш ён выкаваў прылады, што неабходныя былі для працы: кавадла, молат, абцугі, сякач...

Ён апантана молатам грымеў, ажно зямля ўздрыгвала пры гэтым. Скакалі языкі агню, лізалі, мяккім робячы, жалеза. Яно мяняла форму, колер, дух... Сварог, захоплены стваральнай працай, на стому не зважаў, гарэў жаданнем зрабіць найдасканалейшыя рэчы: плуг, барану, каб абрабляць зямлю; сякеру, каб сячы дубы і сосны; касу, каб сена на лугах касіць.

## 3

Святая птушка Маці Сва на дрэве спявала песню светлую пра шчасце, у кожны гук укладвала пяшчоту. І не было нідзе такога сэрца, якое б цеплынёю не кранулі, якое б не прымусілі лагодай напоўніцца і любасцю вялікай тыя спевы. Сама яна шматколерна зіхцела, быццам у кожным пёрку свяцілася маленькая вясёлка.

Заслухаўся Сварог, ледзь не заплакаў ад замілавання. Ён абярнуўся шызым галубком, на дрэва падляцеў, пацалаваў у дзюбку птушку Сва, сказаў пра захапленне дзіўнай песняй. Ад любасці Сварога й птушкі Сва народжаны быў малады бог Вышань. Бог малады, як сонца, светлавокі, шчодры, што дастае рукою да нябёсаў, паўстаў перад бацькамі ў пашане. Ад любасці — усё лепшае на свеце, яна дае і крылы, і надзею, яна вяртае страчанае шчасце.

Сварог агледзеў сына, усміхнуўся:

— Ты сын Сварога, Рода ўнук найменшы, але ты ёсць вышэйшы бог, жыве ў табе Усявышняга душа. Ты справядлівы будзеш і магутны, багаты на любоў і на спагаду. Сам вызначай свой лёс, будзь самастойны, адкрые Веды ўсе табе Усявышні.

Сказала птушка Сва:

— Хачу дачок, яны падмога маці, і ўцеха ёй, і гонар, і надзея...

І дзвюх багіняў светлых нарадзіла з язмінавага квету: жвавую Жыву і пястушку Лёлю.

Сварог у захапленні аж замёр, такое незямное прыгажосці яшчэ, здаецца, не страчаў ніколі. Ён да грудзей дачушак прытуліў, пацалаваў іх светлыя галоўкі і засмяяўся:

— Хопіць жаніхам усім турботаў, калі мае дачушкі падрастуць, парогі хлопцы нам пааббіваюць...

— Годзе, Сварог, — сказала Маці Сва, — багіням рана пра такое ведаць. — Лепш папрасі, каб Мокаш ім напрала адметную і радасную долю.

— Не Мокаш, сам прызначу долю ім. Лёля — любоў, каханне, мілаванне, святло сустрэч, сумота развітання, слязінка шчасця і разлукі доўгай. А Жыва — радасць нараджэння, песня, жыццё, квітненне, красаванне, сталасць...

Пакуль Сварог і птушка Славы Сва пра долю сваіх дзетак гаварылі, малыя падраслі, пад Дрэвам Вечным у пяску гулялі. Бог Вышань з гліны наляпіў гаршкоў, багіні посуд гожа распісалі, пасля паклікалі Сямаргла і Стрыбога, каб тыя ў печы абпалілі посуд.

— Цудоўныя ў нас дзеці, Маці Сва! — Сварог прамовіў. — Яны стварылі гэтакія рэчы, прыемна ў рукі ўзяць. Дальбог, я сам і не дадумаўся б да гэткай справы.

— Найлепшыя свае заўсёды дзеці.

— Магу я лыжкі выразаць з драўніны і розных берасцянак напляту, — Вышань прапанаваў.

— Гаспадары, работнікі нам трэба, якія маглі б ствараць карысныя для гаспадаркі рэчы. Я ганаруся, дзеці, вамі! — захоплена прамовіў бацька.

## 4

Вялікі Чорны Змей, бы ўсе багі, цікаўны быў без меры. Ён вылез на паверхню, схаваўся пад карэннем Дрэва Вечнага і назіраў, што робіцца навокал. Падгледзеў Змей, як выкрасаў Сварог іскрынкі, калі Сварожычаў ствараў, задумаў гэты ж подзвіг паўтарыць, каб мець сабе памочнікаў так-

сама. Як толькі ноч ахутала зямлю сваёю непрагляднаю наміткаю (Дадола на той час драмала ў хмарцы), Вялікі Чорны Змей стаў выкрасаць іскрынкі з каменя пад дрэвам, з іх нараджаліся пачвары і дэманы для войска: перш аспіды ўзвіліся ў неба хмарай; за імі пасыпаліся злыдні; Смерць ненажэрная з'явілася, вышукваючы для сябе здабычу; начніцы, быццам цені разбрыліся; кікімары натоўпам гаманлівым сварыліся, таўкліся між сабою; бяспятыя анчуткі з ліхаманкамі ўсчалі адразу сварку. Апоўначы паўстала войска Чарнабога, запаланіла набрыдзь усю зямлю.

— Я тут галоўны! Я уладар! — зарагатаў Вялікі Чорны Змей. — Ніхто цяпер не зможа мне пярэчыць! Не буду болей пад зямлёй гібець, а хутка заваюю нават неба!

Нячысцікі зарагаталі разам з ім так моцна, што глеба задрыжэла пад нагамі. Сямаргла гэта разбудзіла, прачнуўся ён, зірнуў навокал і здзівіўся: чаму Сварожычам не спіцца? Калі ж прыгледзеўся, пачвар убачыў мноства, якіх Вялікі Змей вёў у атаку на святую Сваргу.

Успыхнуў гневам малады Сварожык, сцяною вогненнаю кінуўся на набрыдзь, знішчаў пачвар мячом. Але было іх мора, акіян!

— Сварожычы! Прачніцеся хутчэй, бо нашу Сваргу топчуць ліхадзеі! — крыкнуў ён.

— Мы тут, Сямаргл! Вядзі нас на змаганне! — адважна адгукнуліся браты.

Сварожычы прыйшлі на дапамогу агнябогу, змагаліся, знішчаючы нячыстых, і гінулі ў няроўнай бітве, а Чарнабог збіраў іх душы і са Смерцю накіроўваў на той свет .

Была непрыяцеляў процьма. І пачалі яны Сямаргла акружаць, з братамі разам прымусілі прыкметна адступіць. Сварожычы да кузні Сварога адышлі і там заселі. Чарнабог за імі паімкнуўся і дзверы ў кузні ўмомант пралізаў. Сварог язык змяіны абцугамі зашчаміў і ў кузню зацягнуў. Нячысцікі астатнія са страху разбегліся па цёмных норах.

Змей біўся, вывяргаў агонь, але Сварог запрог яго ў жалезны плуг, пагнаў на поле, пытаючы пры гэтым:

— Скажы мне, Чорны Змей, ты чуў калі пра Праўду і пра Крыўду? Чаго маўчыш?

— Не ведаю нічога...

— Зусім здзічэў ты, пэўна, пад зямлёй... Нікога нельга крыўдзіць нам на свеце. Законы Праўды Сваргаю кіруюць. Я прааару мяжу па ўсёй зямлі, з табою мы падзелім наша царства. Цяпер ты будзеш звацца Чарнабогам, і цёмная твая краіна будзе без сонечнага ззяння і цяпла. Я, Белабог, і наша двуадзінства ўраўнаважыць памяркоўна свет. Аратым на зямлі я першым стану...

Сварог мяжу на полі праараў, цераз якую Чорны Змей ніколі не будзе болей сам пераступаць і ваяроў сваіх не пусціць. Згадзіўся Змей на гэтакія ўмовы, зашыўся ў патаемную нару.

— Сварожычы, глядзіце і вучыцеся араць зямлю. Навука гэтая спатрэбіцца вам вельмі, — сказаў сынам Сварог. — Мы гэты кут абжыць павінны так, каб вочы з радасцю маглі на свет глядзець, а сэрца поўнілася любасцю і шчасцем. Глядзіце, каласок трымаю я ў руцэ. Зярнятка кожнае, апушчанае ў глебу, шмат узгадуе новых каласоў.

— Навошта зерне нам? — Сварожычы спыталі.

— З яго надзённы хлеб пячы мы будзем.

Сварожычы плуг доўга разглядалі, пасля ў яго ўпраглі каня, які гуляў на лузе, араць паспрабавалі і сказалі бацьку, што падабаецца ім гэтакая праца.

Сварог агледзеў востраў і жахнуўся: ні кволае травінкі, ні кветачкі, ні кусціка нідзе! Патрушчана, патаптана ўсё чыста, панішчана і спалена аг-нём, нібы вайна цягнулася тут вечна. Адно ляжаць пабітыя пачвары, а колькі іх, Лікбогу не злічыць! Крывёю цёмнаю заліта ўся зямля. Дзе Чорны Змей з Сямарглам ваяваў, паўсталі горы: так волаты зямлю перавярнулі...

Рассёк Сямаргл зямлю мячом сваім, каб у равы сцякала кроў паганых.

— Зямлю, Сварожыч, гэтак не ачысцім. Тут трэба змыць нашчэнт усю брыдоту. Глядзі, пачвары дыхаюць там-сям. Ствару я сына-волата такога, які стралою будзе нішчыць зло, дажджом змываць нячысцікаў палеглых, — сказаў Сварог.

І загрымела неба, ад страху скаланулася зямля, а горы задрыжэлі ў ліхаманцы, так нарадзіўся князь вялікіх вояў, Пярун нябесны. Ён узнік між хмараў, пачаў шпурляць у набрыдзь свае стрэлы, пасля абрынуў лівень на зямлю. Дажджу такога свет яшчэ не ведаў! Струмені глебу прабівалі спрытна, нячыстае старанна вымывалі і гналі да равоў усю брыдоту. Па лужынах скакалі апантана бурбалкі велічынёй з кулак.

Сямаргл схаваўся пад галіны дрэва і папрасіў Сварога нецярпліва:

— Спыніць бы неразумнае дзіця. Яшчэ Святы агонь няўзнак патушыць. Лье, бы з вядра, патопу б не ўчыніў...

Сварог зірнуў у неба, адказаў:

— Ужо сціхае. Мокаш спавіла і спаць паклала нашае дзіця. І Хорс з усмешкай вызірнуў з-за хмары. Якая чысціня вакол, Сямаргл!

— Падумаў я міжволі, калі дзіцятка наша будзе гэтак Сваргу паліваць, дык вельмі ж непрытульна будзе нам. Патрэбна дах над галавою мець, каб пад дажджом не мокнуць.

— Заўвага справядлівая твая. Бадай, што варта збудаваць харомы, якія б нас хавалі ад нягоды.

Зямля ўбірала кроплі дажджавыя, былі яны не простыя, жывыя. Трава імгненна з глебы прарасла. Ці ад дажду, ці мо ад промняў ясных (сама таго не ведала дакладна) Зямун-карова нарадзіла сына, магутнага прыгожага Вялеса. А разам з ім узнікла на зямлі і жыўнасць розная, каб ёю гэты бог апекаваўся. Авечкі, козы, лісы і зайцы — усіх, бадай, тут не пералічыць, разбегліся і разышліся па лугах шырокіх і лясах.

А з дуба Вышань вычасаў Мужчыну, з бярозы — Жонку добрую яму, у целы іхнія ўдыхнуў Род душы.

— Быць вам першымі людзьмі на свеце, каб жыць і гадаваць дзяцей і славіць Рода, — сказаў ім Вышань. — Зямлю вам дам, валодайце, працуйце, яна аддзячыць добрым ураджаем.

Ад Жонкі з Мужам, пазней названых Бабаю і Дзедам, пайшлі ўсе людзі. А мы іх ушаноўваем і памінанаем як даўніх продкаў на святы, іхнімі названыя імёнамі.

Там, дзе зямля рассечана была, магутныя пацеклі рэкі, якія варты самых лепшах гімнаў. Яны багоў паілі і людзей, чаўны гайдалі на вірлівых хвалях і тайнаў розных ведаюць нямала, на жаль, смяротным іх не прачытаць.

## 5

Зямля радзіла зноў і красавала, і толькі горы скаламі пустымі шпурлялі камяні ў абвалах гулкіх, бясплодныя і дзікія стаялі. Сварожычаў паслаў сваіх Сварог, каб паглядзелі, што сталася з гарамі, што непрытульна гэтак існуюць.

Пачуўся неўзабаве гул і віскат. Са скалаў паляцелі камяні. Сварог убачыў, як сыны яго змагаюцца з пачварамі, што з нораў вялізным войскам вылезлі змяіным. Сямаргл іх пражыў вогненнай сцяной, мячом магутным сек нячыстых Вышань, Пярун заўзята стрэлы пасылаў і даганяў іх нават у пячорах...

— Зноў Чарнабогу хочацца вайны, улады, славы! Сварожычы мае яму пакажуць, дзе яго месца! Чорны Змей быць пад зямлёй павінен, як Усявышні загадаў яму, — Сварог прамовіў.

Сварожычы раскідалі пачвараў, якія ў норы паўцякалі, у падзямелле, дзе іх чакаў вялікі Чорны Змей.

«Павінны горы мець гаспадара, які б пачвар не выпускаў з пячораў, каб не паскудзілі нам божы свет», — Сварог падумаў.

І ў той жа момант з каменя стварыў магутнага асілка Святагора.

— Ідзі, мой сын, нязводны Святагор, ахоўвай горы ад нячыстай сілы, на схілах пасадзі лясы, раскінь лугі квяцістыя ў далінах, пасей нябачаныя кветкі, каб радаваць багам душу і вочы.

— Ці здолею зрабіць сам гэта, бацька?

— Ты будзеш самы наймагутны бог! Ты волат з волатаў, ты над асілкамі асілак! Напэўна, Мокаш здолее пацвердзіць тыя словы, што табе сказаў.

Зляцела Мокаш з беленькае хмаркі, сказала:

— Сын твой будзе надта дужы. Яго аднойчы камень пераможа...

Сварог здзівіўся:

— Камень? Што ты кажаш? Ён будзе ўладаром высозных гор!

— Такая доля выпала яму. А зрэшты, час пакажа, — адказала Мокаш.

— Якое шчасце тут мяне чакае? — Святагор спытаў.

— За жонку возьмеш страшную пачвару, якая ў моры будзе жыць адна.

— Пачвару? Ды нашто яна мне?

— Такі твой лёс, больш не пытай нічога, — сказала Мокаш і ў неба паляцела, занятая турботамі сваімі.

— Я адчуваю, бацька, сілы ўдосталь, але жадаю ведаць, у чым жа мая слабасць? — спытаў усхвалявана Святагор.

— Спакусаў шмат на свеце, мой сынок! Спакуса слодыччу, лянотай, сілаю, уладай... Іх не злічыць. Яны іржою раз'ядаюць душы, вось іх і сцеражыся на шляху. Галоўнае павінен ведаць ты, што трэба горы берагчы як след, уласнае выконваць прызначэнне, тады і шчасце не міне цябе...

— Вялікі дзякуй, бацька, за давер і мудрасць, я буду жыць, як ты параіў мне.

## 6

Ад злосці Чорны Змей ледзь не сатлеў, калі дазнаўся, што зямля красуе, як і раней. Пачаў вакол сябе пладзіць ён нечысць, так нарадзіўся страшны Скіпер-звер, Кадук падслепаваты і касматы, які на сонца і зірнуць баяўся, багіня мору — змрочная Марана, вядзьмарка страхапудная Яга і шмат яшчэ нячысцікаў без ліку.

Змей дзень пры дні да помсты рыхтаваўся, а каб хоць нечым насаліць Сварогу паслаў Ягу, якая ўкрала немаўля Вялеса, у люльцы падняла над акіянам, панесла ва ўладанні Чарнабога.

Вялес тым часам рос, цяжэў ды сілай набіраўся. Стамілася Яга, і незнарок з рук выпусціла бажаня Вялеса. Упаў ён разам з люлькаю ў акіян. Панеслі яго хвалі да зямлі, дзе быў ласкавы і жаданы бераг.

Ці дзень, ці два, ці, можа, цэлы тыдзень Вялеса хвалі хуткія гайдалі.

На бераг выйшаў ён прыгожым волатам, магутным богам, якога аніўто ў жыцці не можа настрашыць.

Зрабіў ён лук сабе, каб мець з чым пры патрэбе на паляванне дзе-калі пайсці. Агледзеўся і ўбачыў, што лябёдка бялюткая плыве па моры. Шуляк драпежны на яе палюе. Яна ж у прадчуванні небяспекі, не ведала куды схавацца. Узняўся коршак над лябёдкай і каменем памкнуўся з вышыні.

Вялес свой лук вялікі нацягнуў, пусціў стралу, патрапіў проста ў сэрца драпежнай птушцы. Зваліўся коршак мёртвы. Лябёдка толькі ўскрыкнула ад жаху, заплакала няўцешна:

— Не плач, — сказаў Вялес прыгожай птушцы. — Бяда мінула, радуйся, жыві!

А лебедзь прыгажуняй раптам стала.

— Ты хто? — спытаў уражаны Вялес.

— Мяне бацькі назвалі Лёляй. Як Маці Сва, зрабілася я птушкай і паляцела свету паглядзець.

— Ты ўвасабленне харaства і шчасця, маё каханне ты і цуд мой, Лёля...

Сказаў такія словы не Вялес, а сэрца закаханае яго, якім ён кіраваць ужо не мог.

— Я буду скрозь заўжды з табою, Лёля, кахаць, аберагаць і шанаваць.

Багіня сціпла вочы апусціла, прамовіла:

— Вялікі табе дзякуй за спагаду. Хачу я ведаць, хто мой ратавальнік.

— Вялес я, бог звяроў і духаў лесу. Сюды прыйшлі мы рознымі шляхамі, але далей у нас адна дарога.

З магутных соснаў збудаваў Вялес сабе і Лёлі навенькую хату. І сёння яшчэ ў пушчы Белавежскай расце прапраўнук маладога дуба, які тады ім зазіраў у вокны і цешыўся іх шчаснаму жыццю.

## 7

Самотны жыў між скалаў Святагор, таму наважыўся шукаць нявесту, якую Мокаш прадказала. Усю зямлю прайшоў, убачыў востраў і вырашыў наведаць і яго. Плыт змайстраваў з дубоў магутных, паплыў пацiху з хваляй спадарожнай. На востраў выйшаў ён глыбокай ноччу. Было там пуста ціха і самотна.

— Дарэмна прывалокся я сюды, — прамовіў Святагор. — Няма нікога. Выходзіць, учарашні дзень шукаю.

Раптоўна з цемры нешта зараўло:

— Чаго прыйшоў на востраў мой, чужынец?

— Шукаю нарачоную сваю!

— Ха-ха! Ён нарачоную шукае! Ха-ха! Заб'ю цябе! Укіну ў мора!

Пад поўняю разгледзеў Святагор пачвару, што завівалася змяёю.

— Ха-ха! Я сам цябе заб'ю, каб не паскудзіла цудоўны свет! — ускрыкнуў Святагор, з размаху мячом ён сekануў змяю.

Пачвара да зямлі прыпала, а праз імгненне пертварылася ў цудоўную багіню, з касой да пояса, з вялікімі вачамі.

Зніякавеў магутны Святагор і запытаў пяшчотна:

— Ці ты жывая, мілая багіня?

— Жывая... Ты мяне ледзь не забіў...

— Прабач. Што здарылася, я ніяк не ўцямлю? Была змяя, а стала прыгажуня.

— Мяне зачараваў пачварны Змей, а ты вярнуў мне мой ранейшы воблік.

— А як цябе завуць?

— Я Пенка, можа, чуў? Дачка Уладаркі Мора.

— Ніколі...

— На востраве было шмат белых птушак, шчасліва з імі мне жылося. Калі ж пачвараю я стала, іх напалохаў мой драпежны выгляд, яны пакінулі мяне адну.

— Ты нарачоная мая багіня, цябе шукаў. Ці пойдзеш жыць са мною ў горы?

— Пайду хоць на край свету за табой, бо ты вярнуў мяне зноў да жыцця...

## 8

Спакою ад згрызот не ведаў Чарнабог, усё прыкідваў ён, як пакараць Сварога. Дадумаўся ўкрасці Перуна, паслаў у Сваргу ўпотай Скіпер-звера. А папярэдне Дыя запрасіў у тую ноч на баль змяіны, гасцінна хмельным напаіў пітвом. Зусім забыўся Дый пра абавязак — ахоўваць ноччу неба роднай Сваргі.

Тым часам Скіпер-звер бесперашкодна ўкраў заспаных Перуна і Жыву, панёс у царства злога Чарнабога. Як толькі ён з'явіўся ў падзямеллі, завылі ўсе нячысцікі ад шчасця. Прачнуліся і Жыва, і Пярун, не могуць зразумець, што з імі стала.

А Чорны Змей рагоча ў пяць галоў:

— Дапёк я сёння слабаку Сварогу, паходзіць у жалобе без дзяцей, не будзе ведаць дзе шукаць маленькіх! А ты, Пярун, як хочаш жыць, служы мне верай, праўдай, і сынам я цябе сваім зраблю.

— Не зможа люты Змей быць маім бацькам, калі захоча нават, бо я такога бацькі не прыму.

— А ты што скажаш, Жыва? — спытаў лагодна Чорны Змей багіню.

— Я тое ж адкажу, што і Пярун. Тут, пад зямлёю, цемра і смурод. Памерці лепш, чым вечна жыць вось гэтак.

— Аддай нам іх, Вялікі Чарнабог, — нячысцікі завылі апантана. — Мы выхаваем іх, як трэба нам, яны сваю навек забудуць Яву!

Наперад выпаўзла змяя Марана і прасіпела голасна над Жывай:

— Якая непрыгожая багінька! Твар белы і румяны! Цьфу! Брыдота! Зраблю яе зялёнаю ці сіняй у чорных, нібы ў жабы, пухірах.

— Рабі, што хочаш, адказаў ёй Змей. А Перуна ўтапіце ў акіяне, няхай вада астудзіць яго стрэлы, няхай акулы там яго з'ядуць.

Марана штось сабе паваражыла — і Жыва абярнулася змяёй, зялёнаю, пачварнаю, даўгою, што не пазнаць яе цяпер нікому.

Нячысцікі схапілі Перуна, скалу яму на шыю прывязалі і скінулі з вяршыні ў бездань мора. Але не тоне малады Пярун, плыве да берага і не баіцца хвалі, што паднялася, як гара, высока.

— Што з ім рабіць? — прыслужнікі спыталі ў Чарнабога. — Такога нават мора не прымае.

— Зямля сырая ўсіх сабе бярэ. На сорак сажняў выкапайце яму, укіньце Перуна, засыпце жвірам, — Чорны Змей падданым загадаў. — Навек засне, а мы ахоўваць будзем, каб сон ніхто ягоны не трывожыў.

Магілу доўга Перуну капалі, стаміліся пачвары, паламалі рыдлёвак тысячу. Калі была гатова яма, туды шпурнулі бога Перуна, засыпалі зямлёю і каменнем, грудок зраўнялі, каб і знаку не было, што тут ён пахаваны.

Заснуў Пярун, не варухнецца нават пад цяжкай ласкай Матухны-Зямлі, якая яго моцна спавіла. І быў той сон на смерць падобны вельмі.

## 9

Сварог дапытваў Дыя ранне ўсё, дзе ноччу валацуга быў, што не ўсачыў, як дзетак выкрадалі. Дый вінавата хмурыўся, маўчаў, з-за хмелю анічога ён не помніў.

Сказала Маці Сва:

— Сварожычаў паклічу, няхай ідуць шукаць дзяцей да Змея. Інакшых ворагаў на свеце ў нас няма, адзіна Чарнабог на зло такое здатны.

З'явіліся Сямаргл, Вялес і Вышань, гатовыя на подзвіг і на славу. Іх блаславіла Маці Сва ў дарогу. Пайшлі багі да царства злога Змея. Сустрэліся лясы ім, ды такія, што тысячы дубоў зрасліся разам, і іх не ссекчы, не вырваць, не паламаць. А волаты лясы пераступілі, нібыта травы ніцыя на лузе. Сустрэлася вірлівая рака, яна грымела гулка на парогах, у трэсачкі разносіла бярвенні, як страшны звер, ірвала берагі. А волаты й яе пераступілі, як быццам гэта вузкі быў ручай. Сустрэлася бурлівае ім мора, якое царства Змея акаляла, раўло яно, як тысяча пантэр, і кідалася хвалямі на бераг. Багі ператварыліся ў арлоў, пераляцелі хутка мора і апынуліся ў краіне Чарнабога. Перад агнём Сямаргла, сілаю Вялеса і мудрасцю Вышаня сцяўся Чорны Змей.

Багі спыталі грозна ўладара:

— Куды падзеў ты Перуна і Жыву?

— У мора ўкінуў, пашукайце там...

— Ляцелі мы над морам, Чарнабог, ды Перуна і Жыву там не стрэлі, — сказаў Сямаргл.

— Можа, яны ў лесе заблудзілі, — хлусіць працягваў хітры Чорны Змей.

— Лес бачыў я наскрозь, — Вялес заўважыў. — Ні Перуна, ні Жывы там няма.

— Дарэмна ў хлуса мы шукаем праўды. Я бачу скрозь зямлю, дзе наш Пярун. Засыпаны неміласэрдна глебай, спіць мёртвым сном, — прамовіў з болем Вышань.

Ён растуліў Зямлю-Сырую-Маці і Перуна дастаў, над ім схіліўся.

— Прачніся, брат Пярун! Цябе мы клічам! — рыкнуў на вуха братава Вялес.

Ды непрабудным сном заснуў Пярун. Яму Сямаргл падпёк знячэўку пяты, Пярун не варухнуўся нават.

— Гэй, Хорс, — гукнуў на неба Вышань. — Ліні нам жыватворнае суры, каб ажывіць асілка Перуна. Ці ж бачана, каб нечысць нас душыла!

Пярун расплюшчыў вочы, як толькі кроплі залатой суры яму на твар упалі. Ён уздыхнуў і цяжка варухнуўся. Далі папіць — зусім ажыў Пярун!

Вось радасці было ў змяіным царстве! Скакалі ўпрысядкі браты-багі, ажно зямля хадзіла хадуном, а нечысць пахавалася па норах. Адна толькі зялёная змяя, у пухірах, струпах і чорнай багне, нясмела падпаўзла і плакала так горка, нібы пра нешта моўчкі іх маліла.

— Спалю брыдоту! — выгукнуў Сямаргл і паказаў рукой у бок гадзюкі.

— Нашто яна табе? — Вялес здзівіўся. — Яна і так ужо ад гора плача, навошта бедную яшчэ караць?

— Хачу, каб менш было на свеце гадаў.

— Чакай, — спыніў Пярун Сямаргла. — Здаецца мне, што гэта не змяя, а наша Жыва. Сястрыцу тут зачаравалі, падобнаю зрабілі на змяю. Таму яна па-боску гэтак плача. Ты ж ведаеш, што змеі ўмеюць толькі чорную атруту праліваць.

Пазнаў і Вышань Жыву па вачах, адчараваў. Спаўзла з багіні скура змяі пачварнай, зноў яна паўстала прыгожаю дзівосна, як раней. Браты сястру ад шчасця на руках панеслі ў Яву родную, дадому.

## 10

Сварог і Маці Сва дзяцей сустрэлі, заплакалі, усіх расцалавалі, за стол дубовы разам пасадзілі, іх частавалі рознай боскай ежай. Багі пілі суру, салодкі мёд ды згадвалі нядаўнія прыгоды.

Сказала Маці Сва:

— Сыны мае, вярнуліся вы з Наві, варожай нам, ды вас чакала Ява. Хачу вам тры загадкі загадаць:

Што расце без кораня?
Што гарыць без полымя?
Што бяжыць без повада?

— Ах, Маці Сва, так добра мне цяпер, што ні пра што я не жадаю думаць, — Сямаргл сказаў.

— І мне не да таго, — сказаў Пярун. — Шчаслівы я, што зноў дамоў вярнуўся.

— Загадку гэту адгадаць магу, — прамовіў задуменна Вышань. — Расце камень без кораня, гарыць сажа без полымя, бяжыць вада без повада.

Сказала Маці Сва з усмешкаю Сварогу:

— За дзецьмі трэба вока, так мяркую. Пра выхаванне іх пара падумаць. Як бачыш, толькі Вышань сур'ёзна думае пра ўсё. Вялікае жыццё складаецца з драбніц. Багам недаравальна памыляцца.

— Дык вучым і выхоўваем, як можам... А што яшчэ?

— Настаўніка ім трэба. Няхай навучыць гімнам і малітвам і перадасць ім Веды Усявышняга...

— Бадай, заўважыла ты справядліва. Малыя дзеткі, дык малыя бедкі, а падрастуць, чакай бяды вялікай, — Сварог згадзіўся.

Сваёю думкаю ён Барму нарадзіў, святога бога, які настаўнікам стаў маладым багам. Быў ён з сівою барадою, мудры, і гаварыў не голасна, ды чула яго Сварга ўся , такую сілу духу Барма меў стары.

Паслаў яму Сварог Тарусу, жонку, каб клапацілася яна пра мужа, ва ўсім яму дапамагала, аберагала Вогнішча Святое, падкладвала ўдосталь дроў сухіх, спявала гімны, складзеныя Бармам, малітвы прамаўляла, прыносячы Усявышняму ў ахвяру суру, мёд, кветкі, зёлкі і плады.

## 11

— Таго, хто Абсалютнасць Ісціны шукае, не вабіць бессэнсоўнасць насалоды. Матэрыяльны свет — гэта турма, якая прыгнятае дух высокі... — казаў настаўнік Барма вучням, а яны хто слухаў, хто шаптаўся, хто не чуў, бо думкамі сваімі быў заняты.

Гарэў Агонь Святы, каля яго Таруса нешта чаравала, ці дроў падкладвала, ці хмельную суру з душыцаю і дзівасілам у полымя ўлівала, прыносіла ахвяру, каб Усявышні дапамагаў Сварожычам навуку спасцігаць.

Агонь раз-пораз узвіваўся ў неба, дзе трапяткі язык ягоны дзяліцца пачынаў на два ці тры, а гэта азначала, што Багі ахвярную суру прымалі і бласлаўлялі ўсіх на шчаснае і светлае жыццё.

Таруса тварам ля агню святлела. Румянак акрываў яблычкі-шчочкі.

Была яна прывабнаю на дзіва, у кожным руху — дасканаласць, гожасць, што болей на яе глядзелі вучні, чым на настаўніка святога Барму.

Чурыла, Дыеў сын, не цямячы ў навуках боскіх анічога, свой позірк не адводзіў ад Тарусы, здавалася яму яна найпрыгажэйшай сярод усіх багінь радзімай Явы. Ён ці паленца ёй падасць, ці падтрымае, калі яна ўзыходзіць па прыступках, паможа сесці, потым зноў падняцца.

А мудры Барма быццам і не бачыць, адно малітву шэпча за малітвай, чакаючы стараннасці ад вучняў. Той-сёй за ім малітвы паўтарае, завучвае, ды толькі не Чурыла. У лес ідзе ён з гожаю Тарусай, каб дроў сухіх удосталь наламаць. Багіня ж не малітвы і не гімны прамаўляе, а песеньку свавольную заводзіць:

Чурыла клікаў мяне ў жыта.
Яно шчасцем перавіта.
А ў тым жыце Нялюб сядзіць,
Нялюб сядзіць, скоса глядзіць.
Скоса гляне — вянок вяне,
Проста гляне — сонца грае.
Як вянок зазелянее,
Мой Чурыла весялее.

Ледзь іх схавала зеляніна лісця, галін заслона, гулкі шум вяршалін, упала безразважна і шалёна ў абдымкі да каханага Таруса.

— Чурыла мой, нарэшце разам мы! Люблю блакіт вачэй тваіх ласкавых! А золата пшанічных валасоў мне даражэй за скарбы ўсяго свету! Ты не Чурыла мне, хутчэй Журыла! Я паміраю без цябе, каханы. Толькі з табою побач ажываю!

— Таруса, галаву з табою страціў. Мне свет нямілы! Без цябе я гіну. Толькі дазволь: у Бармы ўкраду цябе і на край свету завязу.

— Каханы мой, я і сама магла б пайсці з табою, ды Барма можа паскардзіцца Усявышняму, а той нас з-пад зямлі дастане, як захоча...

— Прыкідвацца, хлусіць я не магу... Чаму несправядлівы гэткі лёс, што дасталася ты старому дзеду? Нудоту мусіш дзень пры дні трываць, а я каханнем спапяляць душу!

— Каханы, пачакай яшчэ крыху, мо выпрашу я ў Бога ратавання... Няўжо нас, маладых, не пашкадуе і не пашле нам шчасце на вяку? Падумаць страшна: вечнасць жыць на свеце і спапяляць сябе каханнем, той смагаю, якую немагчыма наталіць.

Хінулася Таруса да Чурылы, шаптала словы, поўныя пяшчоты, жывілася шчасліваю часінай...

## 12

Пярун нядбайным вучнем быў, не меў ахвоты слухаць Барму. Шумлівы, малады, свавольны бог, ён лётаў па лугах, лясах дрымучых, пасля разлукі Явай любаваўся. Сустрэлася аднойчы выпадкова яму ў садочку мілая багіня. Зрок Перуна прывабілі міжвольна хвалі яе агністых валасоў, што ззялі золатам чырвоным. Спыніўся ён уражаны, спытаў:

— Скуль ты такая? Век цябе не бачыў!

— А я цябе не бачу і цяпер, — з пагардай адказала прыгажуня.

— Не бачыш? Асляпіў цябе, напэўна, маланкай я?

— Ні бачыць і ні чуць я не жадаю... Не замінай мне кветкі даглядаць!

— Ты ведаеш, хто я? Ды я ж Пярун!..

— Пярун, які праспаў у Чарнабога ўсю маладосць? Ха-ха! Ну, смех, дый годзе! Яшчэ дагэтуль гліна ў валасах!

— Багіня, не выводзь мяне з сябе, — Пярун ледзь не шпурнуў маланку ў ганарліўку.

— Які характар невыносны ў бога, напэўна, змеі атруцілі нораў, пакуль ён па-геройску спаў без меры, — зноў ціха засмяялася багіня.

Пярун хітнуў упарта галавой і за руку свавольніцу схапіў.

— Кажы, чыя такая падрасла? Хто бацька, маці? Не пушчу дадому!

— Я Дыева дачка.

— Маёю будзеш жонкай!

— Яшчэ чаго? Я не жадаю замуж!

— Ты хочаш незамужняю застацца? Старою незамужняю багіняй?

— Зноў насмяшыў! Старых багіняў не бывае. Старымі робяцца толькі багі. Іх Усявышні гэтак пакараў... Сам ведаеш, за што...

Багіня пальцам богу паківала, пабегла прэч, гарэзны смех рассыпала па садзе.

— Якая ў Дыя вырасла дачка! Агонь! Вясёлка! Такую жоначку Пярунніцу мне трэба! Каб стрэлы рыхтавала да вайны! Каб меч і шчыт мой чысціла да бляску. Пайду да Дыя сватацца! Адклад не йдзе на лад...

## 13

Ледзь на парог Пярун прыйшоў да Дыя, яго дачка задзірыстая Дзіва, пабегла ў сад, дзе мела мноства спраў. Ды жаніха і гэта не спыніла, сказаў ён цесцю будучаму гэтак:

— Мне палюбілася твая дачка. Яна яшчэ занадта маладая, не ведае пра шчасце анічога, жыве, нібыта кветка ў садзе божым. Я жонку добрую з яе зраблю, натураю яна мне падыходзіць.

— Як бацька шчасця я жадаю Дзіве. Таму няхай сама яна мне скажа, што пакахала і гатова замуж.

— Угавару яе і прычарую, — паабяцаў Пярун і рынуўся шукаць сваю нявесту.

Тым часам Дзіва ў куток далёкі саду схавалася пад елкаю высокай. Там пад карэннем Чорны Змей ляжаў. Хоць аддзяліў яму Сварог зямлю, ды ён наведваўся крадком у Яву, каб паглядзець, як тут багі жывуць. Убачыў Дзіву ён — і розум страціў, такое прыгажосці незямной не снілася яму ніколі нават. Спачатку слоў ён адшукаць не мог, але калі ачомаўся патроху, ледзь чутна ён багіні прашаптаў:

— Чароўная, святло душы маёй, дазволь хоць наглядзецца на цябе.

Знячэўку Дзіва ўскрыкнула:

— Хто тут?

— Не ўсё адразу, ластаўка мая, спярша да голасу майго прывыкні...

— Прыемны голас, я амаль прывыкла...

— Паслухай, што скажу... Цябе кахаю, ты для мяне адзіная на свеце. Не ведаю, як жыў я без цябе. Але цяпер адно я разумею: мне без цябе жыцця не будзе болей! Жаданая, прасветлая мая! Дзяўчынка, кветка, радасць, недаткнёнка...

— Са мною так ніхто не гаварыў. І гэтак мне цябе прыемна слухаць, нібыта свет ты засланіў сабой.

— Заплюшчы вочкі, весняя мая! Тваю руку хачу пагладзіць, каб пераліць маю пяшчоту ў тваю душу.

Як толькі Дзіва вейкі апусціла, пачаў Змей гладзіць яе рукі, пальцы, пяшчотна яе ў вусны цалаваць.

— Дазволь мне паглядзець, хто ты такі? — бязвольна папрасіла Змея Дзіва. — Пяшчота ўжо мяне перапаўняе. Сама не ведаю, што гавару...

— Яшчэ не час, салодкая мая. Зачараваны я і непрыгожы.

— А як жа мне цябе адчараваць?

— Тваё каханне толькі здыме чары, будзь жонкаю маёй. Як пакахаеш, не будзеш бачыць ты маіх заганаў.

— Скажы мне, як завуць цябе, мой бог? Каб я магла імя тваё шаптаць, як самую высокую малітву.

— Імя мяне таксама не ўпрыгожыць. Табе, красуня, лепш яго не ведаць.

— Як выпрашу дазвол на шлюб у бацькі, калі не ведаю, каго кахаю?

— Я сам пагавару з магутным Дыем.

Цікаўнасць Дзіву так апанавала, расплюшчыла яна паціху вочка — ад жудасці траха не абамлела. А Змей не заўважаў, яго галовы шапталі апантана і пяшчотна:

— Жаданая, адзіная мая. Адну цябе чакаў, шукаў на свеце. Такая насалода дакранацца мне да плячэй тваіх. Памру ад шчасця...

Змей Дзіву так абвіў, нібы ліяна дрэва, багіня зразумела: толькі хітрасць яе з бяды магла б паратаваць. Яна сказала:

— Любы, так мне млосна. Да смерці ты мяне загаварыў... Хачу вады папіць з жывой крыніцы...

— Мне невыносна адпускаць цябе. З тваёй душою падсвядома зліўся. Мо патрываеш трошачкі яшчэ?

— Памру, дальбог... Сканаю... Смага сушыць...

— Ідзі папі, але хутчэй вяртайся.

— Я хутка... На адно ўсяго імгненне...

І толькі абдымкі Змей свае аслабіў, багіня Дзіва паляцела прэч, плявалася і лаяла пачвару, і без агіды згадваць не магла і дотыкі яго, і пацалункі.

Змей кінуўся лавіць яе. Трашчалі паваленыя Чарнабогам дрэвы, сад плакаў і стагнаў.

Крычала Дзіва, клікала багоў на дапамогу. Пачуў яе малодшы брат Чурыла, прыбег, убачыў Змея і спалохана спыніўся.

— Назад, назад, Чурыла! Бяжым! Ляціць за мною страшны Змей, — загаласіла Дзіва. — Ён — наша Смерць!

Ды тут Пярун з'явіўся, убачыў Змея і насустрач выйшаў, каб градам стрэл сустрэць пачвару .

Ад першых стрэлаў Змей схаваўся ў травах і быццам праваліўся скрозь зямлю. Абняў тады Пярун сваю нявесту, пачаў ёй гаварыць ласкава словы, якіх не чуў ад Перуна ніхто:

— Маленькую маю Змей напалохаў! Ну, годзе, годзе! Ужо бяда мінула! Ніхто цябе ніколі не пакрыўдзіць, пакуль з табою буду я, Пярун. Мае ўсе стрэлы я табе даверу! І ты палюбіш золата маланак! Табе я нараблю са стрэл пярсцёнкаў, якіх няма ў красуні Заранiцы, хоць тая ў золаце святла купацца можа. Вось слёзкі высахлі, у нас настрой цудоўны...

— Пярун, удзячна вельмі я табе... Ты ўжо прабач, — сказала ціха Дзіва. — І калі ты яшчэ не перадумаў...

— Хіба ж магу я, любая мая? Цябе павек нікому не аддам... А ты, Чурыла, там чаго прыціх?

— Ды так, нічога...

— Калі нічога, дык ідзі да бацькі Дыя і скажы, што Дзіва згодна стаць маёю жонкай. Ён будзе рады гэтай навіне, — сказаў Пярун.

Пабег Чурыла з незвычайнай весткай. Жаніх нявесту прытуліў да сэрца і горача яе пацалаваў...

## 14

Тры дні вяселле святкавала Ява. Пярун і Дзіва за сталом сядзелі, віталі госці іх, пілі суру, жадалі шчасця і дзяцей паболей. Для гэтай урачыстасці вялікай гуслі змайстраваў старанна Вышань і гэтак граў, што дрэвы ляпалі яму ў далоні лістотаю буйной. Вялес з галінкі клёна дудку выразаў, свісцеў, што сілы меў. Стрыбог з прыскокам лыжкаю аб міску стукаў. Грымела песня, неба падвышаючы:

Сварожа!
Вялікі Божа!
Вяселле скуй нам
Моцна-намоцна,
Да сівой галавы,
Да даўгой барады.
Слава! Слава!
Сварожа!
Вялікі Божа!
Па нябёсах гуляў,
Жалеза збіраў,
Вяселле каваў!
Любіце сардэчна,
Моцна і вечна!
Слава! Слава!

Спявалі і скакалі без упыну Сварожычы, абцасы пазбівалі, і нават горы не маглі ўстояць, пусціліся ўпрысядку, у выніку вулкан прачнуўся. Не радыя былі пасля і самі, бо феерверк такі пачаўся, быццам гарэлі разам неба і зямля.

Вялес, хоць і скакаў не менш за іншых, ды на душы бязрадасна было, яго з'ядала зайздрасць, мімаволі і ён багіню Дзіву ўпадабаў. Як толькі без нагляду пакідаў Пярун сваю каханую на момант, адразу побач узнікаў Вялес, шаптаў спакусліва на вуха Дзіве, што таямніцу хоча ёй адной адкрыць, якая шчасце ўсім багам прыносіць.

— Вялес, ты хлусіш! Ведаю багоў! Вы любіце галовы нам тлуміць...

— Нашто багоў усіх — у адну кучу? Мяне зусім не ведаеш яшчэ, хто можа параўнацца тут з Вялесам?..

— Не разумею... Ты пра што, Вялес?

— Пра ўсё адразу... Пойдзем у лясок, там папараць цвіце ў таемным месцы. Мне аднаму вядомае яно...

— Нашто мне папараць? Хапае іншых кветак...

— Ты не ўяўляеш, што гэта за кветка! Апоўначы гарыць жывым агнём. Не ведаеш такой ты насалоды, якую гэта кветка можа даць...

— Я маю ўсё...

— Пазнаеш параўнаўшы. Я напаю сурою Перуна. Ён зваліцца і будзе мірна спаць. Сам на руках цябе ў гай занясу... Да ранку будзем там у чарах ночы...

— А як жа Лёля?

— Лёля — толькі жонка... Ты — закаханасць дзіўная мая...

— Маўчы, Вялес! Я Перуну скажу! І зведаеш тады ты смак ягоных стрэлаў!..

— Ты зразумей, я Перуну не вораг. Хацеў, як лепш! Цябе б я не пакрыўдзіў. Было б калісьці што згадаць пад старасць...

— Ідзі, Вялес. Пярун на нас глядзіць. І твая Лёля скоса пазірае...

— Ты выйдзеш сёння?

— Не... ніколі... Не чакай...
— Каб жыццё спасцігнуць, трэба жыць...
— Жыла дагэтуль. І далей жыць буду.
— Не адмаўляйся і не адмаўляй! Ну хочаш, стану на калені?
— Набрыдла слухаць п'яную гаворку!
— Ох, пашкадуеш...
— Мне цябе шкада, Вялес! Ты смешны, — сказала Дзіва і пайшла насустрач Перуну, які ўжо бровы хмурыў грозна...

Вялес правёў яе паглядам доўгім, падумаў: «Я не адступлюся. Маёй ты будзеш усё роўна. Хоць падсвядома, ды мяне ў душу ты прымеш...»

## 15

Вялес свае ўладанні аглядаў: лясы і паплавы, страчаў русалак, балотных духаў, палявых, лясных, якія душамі былі азёраў, дрэваў, рэк, раслін... Яны купаліся, гайдаліся на голлі, свавольнілі, смяяліся, спявалі:

— Гэй, Вялесе,
Пастух Вышні
Чарод пухнатых,
Сытых, багатых!
Правядзі чароды
Па сіняму небу
І пашлі нам дождждык
Для добрага хлеба.
Дай Ваду Жывую
На зямлю Сырую!

Яны Вялеса аклікалі асцярожна, бо ён быў змрочны, злосны сёння, сустрэчы прагнуў з любай Дзівай, яна ж кахала толькі Перуна.

Вялес яе сляды шукаў у садзе, сцяжынку, па якой яна хадзіла, вытоптваў ён штодня, каб там яе сустрэць. Ды Дзіва стрэч з Вялесам пазбягала, хавалася за дрэвамі, кустамі і ўцякала, ледзь заўважала дзе здалёк яго.

Тады Вялес задумаў падмануць каханую сваю, ператварыўся ён у кветачкі канваліі, пяшчотныя і белыя, пры сцежцы рассыпаў іх, чароўным водарам запаланіў прастору. Заўважыла іх Дзіва ў захапленні:

— Канваліі мае, — яна шаптала. — Вы самыя цудоўныя на свеце. І пах ваш непаўторны я люблю. Вы быццам бы з аблокаў і са шчасця.

Яна ўдыхала водар чысты, свежы, туліла кветкі да сваёй душы, не ведала, што лашчыла Вялеса, што аддавала любасць таму, хто дзёрзка падмануў яе.

— Канваліі, вас мужу занясу, няхай Пярун пацешыцца таксама. Які цудоўны будзе мой дарунак!

Вялес, калі пачуў пра Перуна, зніякавеў. Такой сустрэчы не жадаў зусім, таму набыў свой выгляд пачатковы. Ад нечаканасці спалохалася Дзіва, калі замест канвалій побач з ёю паўстаў Вялес юрлівы, абняў яе і цалаваць пачаў.

— Пусці мяне, падманшчык! Бессаромнік! — абурана прамовіла багіня.

— Пушчу, не бойся. Усё ўжо адбылося! Мяне ты пакахала ў вобразе канваліі нікчэмнай! Тваёй душой валодаў я тады, тваёй пяшчоты ўдосталь я напіўся! А з гэтай любасці народзіцца ў нас сын Ярыла. І будзе ён аратым.

Загаласіла Дзіва:

— Вялес, цябе я ненавіджу! Не мецьмеш шчасця ты, калі падманам дасягаеш мэты!

— Я шчасцем буду жыць тым, што мінула. Бывай, дзівосная і не мая.

— Пярун заб'е цябе!

— Ад помсты што табе за радасць? Я гіну! Гіну ад кахання! Лічы — мярцвяк! Хто ведае, у што ператваруся заўтра, каб з табою быць? Мо стану кропляю дажджу, каб лашчыць тварык, туманам, каб калені абдымаць ці ветрам, каб няўтольна цалаваць пяшчоту шыі... Ты знішчыла мяне!

Шкада Вялеса стала Дзіве, пабегла ў дом яна, ды Перуну нічога не сказала, каб рэўнасць мужа не будзіць дарма.

## 16

Сумотна ў Яве Вышаню было, ён заўважаў багоў недасканаласць, яго душа гармоніі жадала, каб аніхто ні з кім не пасварыўся, ніхто нікога не пакрыўдзіў словам, не падмануў, не здрадзіў, не схітрыў. Між тым ён заўважаў, як бог Чурыла Тарусе юнай тлуміць галаву і хоча выкрасці яе ў старога Бармы, як Дзіву падгаворвае Вялес ад Пяруна ўцячы на адну ночку, як Чорны Змей сваіх пачвар зялёных пасылае ў забаронены абсяг...

— Зашмат недасканаласці на свеце. Я ўласным прыкладам магу толькі вучыць. Пашлі мне, Усявышні, жонку, спадарожніцу, сяброўку, якая б стаць магла маёй душой, глядзела б так, як я, на Сваргу, багоў любіла б, як сястра і маці.

Ледзь словы гэтыя прамовіў Вышань, як зацвіла ля ног ягоных астра, заззяла зоркаю ружовая з сярэдзінкаю залатою. Знячэўку з кветкі вырасла багіня, прыгожая, нібыта заранiца, пяшчотная, быццам пяро жар-птушкі.

— Хто ты? — спытаў усхвалявана Вышань. — Дзе ўзгадавалася з красою невымоўнай?

— Мяне Усявышні да цябе паслаў, каб я з табою век свой раздзяліла. Завуся Маяй...

— Я шчаслівы, Мая, што стрэў цябе між кветак, у садку. Тваю душу цудоўную наскрозь я бачу, будзь заўжды са мною... Сумненні не даюць спакою мне, дапамажы развеяць іх , сяброўка.

— Мы не маглі з табою размінуцца... Сустрэча наша — дарагое свята, якое нельга будзе паўтарыць... Ды ўсё жыццё яно свяціць нам будзе... Я ведаю цяпер: народзіцца ў нас сын цудоўны Крышань...

— Я адчуваю ўжо яго прыход. Ён выратуе Сваргу ад бяды, — прамовіў Вышань, а ягоны позірк блукаў у будучым, пакуль недасягальным, якое толькі Мокаш ведала наперад.

## 17

Было вяселле ў Вышаня і Маі шумлівым, доўгім, як вядзецца ў Яве. Багі суру пілі салодкую ўдосталь, спявалі, гаманілі ледзь не тыдзень. І толькі змрочны Святагор сядзеў. Ён быў не надта гаваркі заўсёды, таму багі і не звярнулі ўвагі на тое, што каторы дзень маўчыць і толькі з-пад ілба на маладых кідае позіркі.

Такога хараства, якое мела невяста Мая, Святагор не бачыў, не мог налюбавацца на багіню. Хацелася яму яе ўкрасці, схаваць між гор, адно самому на яе глядзець.

Аднак законамі святое Сваргі забаранялася чужых нявестаў красці, за гэта Усявышні пакарае. Калі і ўкраў бы гожую багіню, куды схавацца з ёю. Пад Зямлю? Дык пад зямлёй кіруе Чарнабог...

Так і сядзеў без руху Святагор, як валуны, варочаў свае думы, а выйсця не знаходзіў аніяк.

— Гэй, Святагор, заснуў ты там, ці што? — гукнуў Пярун. — Хадзі мо ў карагод!

— Не, не хачу, мне гэта нецікава.

— Папі суры, — прапанаваў Квасура.

— Я п'яны без віна, — прамовіў Святагор і цяжка прастагнаў ці мо ўздыхнуў.

— Сядзіш, як на памінках! — упікнуў яго Вялес.

— Адсунься, я з-за цябе нявесту дрэнна бачу...

І Святагор замоўк, больш ён нікому слова не сказаў, адно сачыў за юнаю нявестай, якая ў карагодзе была прыгожай самай і голасам высокім запявала, за ёю паўтаралі ўсе багіні:

Скакала, скакала,
Песні спявала,
Танок вадзіла,
Вянок згубіла.
Любы мой ідзе,
Мне вянок нясе,
За руку бярэ,
У садок вядзе.

Яна вяночак з галавы зняла, пусціла на ваду з вясёлай хваляй. А побач Вышань усміхаўся шчасна, на любую глядзеў з замілаваннем. Было каханне ў Маіных вачах, і з гэтае ўзаемнасці сардэчнай на хвалях у вянку з'явіўся Крышань, маленькі бог.

Русалкі Маі падалі дзіця, схіліліся бацькі над родным сынам. Усе замітусіліся багі ў пошуках калыскі для дзіцяці. На гэтым завяршылася вяселле.

Сказаў сабе пацiху Святагор:

— Калі дачка народзіцца ў мяне, я назаву яе таксама Маяй. Яна будзе прыгожай і разумнай. Але ад гэтага ці ж мне лягчэй? Нічога не паправіш, не зламаеш. Зашмат багінь прыгожых, ды ў кожнае свая на свеце доля, як хочаш, так яе і валачы. Нават, калі табе і не па сіле, не да душы... А мусіш, мусіш, мусіш! Хоць бог ты, хоць ты раб... А як балюча, калі тваё жаданне, твая мара выпырхвае з рукі, нібыта птушка...

## 18

Пярун пасля вяселля з Дзівай дзень-два ля жонкі юнай пасядзеў — засумаваў, з гаркотаю падумаў:

— Нашто было жаніцца мне? Дзівосы! Тупыя стрэлы па кутках стаяць, маланкі бляск згубілі, сам лянівы, адно заняты тым, што сплю і ем... Ці ж пра такую долю марыў я?

Гукнуў Чурылу, брата Дзівы:

— Хадзі сюды, чаго сядзіш панылы?

Чурыла сеў на лаўку з Перуном, павесіў галаву.

— Ды што з табою? Давай памераемся сілаю, ці што, — прапанаваў Пярун.

— Я не магу. Каханне сілы ўсе мае з'ядае, — сказаў Чурыла.

— Каго кахаеш ты, што так знямогся?..

— Сказаць баюся, бо гэта наша толькі з ёю таямніца...

— Дурнота маладая! Ажаніся — набрыдне жонка, сам пабачыш, хутка...

— Яна не мне належыць... Вось бяда...

— Чужога не чапай — закон спрадвечны Сваргі... Шукай сваю!

— Адна яна — мая...

— Дурнота маладая... Усе багіні падобныя паміж сабою! Шчабечуць, плачуць, джаляць і смяюцца... Пра што тут гаварыць? З кім сілай мне б памерацца цяпер, каб быць перакананым, што не страціў у жонцы я сваю святую моц!

— Са Святагорам, — падказаў Чурыла. — Ён самы найдужэйшы, пэўна, у Яве.

— Ды я яго сагну ў дугу, пабачыш. Непаваротлівы ён, як гара.

— Шчаслівай перамогі, — адказаў Чурыла.

Але Пярун ужо яго не чуў, ляцеў да гор, ажно вяршаліны пад ім стагналі. Ён уяўляў, як пераможа Святагора ў баі кулачным, ці проста на лапаткі пакладзе.

## 19

Ішла па садзе Дзіва задуменна, з усмешкай згадвала Вялеса:

— Ён мне сказаў: народзіцца Ярыла, ды памыліўся. Дзе ж маё дзіця?

Яна звярнула на сцяжынку тую, дзе стаў Вялес канваліяй духмянай і ўбачыла, што там ляжыць Ярыла, маленькі бог, народжаны са згадкі.

— Сыночак мой, ты ўжо мяне чакаеш? А я й не ведала, прабач, прабач...

Ярыла сеў спярша, пасля падняўся на ножкі моцныя, пайшоў насустрач маці, пачаў расці, праз момант перад Дзівай стаяў юнак прыгожы і русявы.

— Нашто, сынок, ты гэтак хутка вырас? Нацешыцца табою не паспела...

— Не да пацех, матуля. Вунь зямля чакае, трэба араць і сеяць у пару.

— Ды адпачні. Сварожычы пасеюць!

— Тут кожны мусіць сеяць за сябе, уласнае выконваць прызначэнне.

— Як мудра ты, дзіця, гаворыш!

—Я за Усявышнім словы паўтараю. Бывай, матуля, мне пара, пара... Дзе ўзяць каня, плуг, збрую?..

— Чакаюць у хляве прылады ўсе, ад дзеда Дыя да цябе пяройдуць!

Ярыла увайшоў у хлеў, як гаспадар. Каня пабачыў — засвяціўся шчасцем, угледзеў плуг — застаўся задаволены.

— Вось гэта падарунак! Дзякуй дзеду!

Запрог каня Ярыла, ускінуў плуг на воз, з двара паехаў проста ў поле. Яго матуля правяла крыху. І раптам выйшаў ім Вялес насустрач. Ад неспадзявання ёкнула ў багіні Дзівы сэрца, пасля закалацілася адчайна.

— Сынок! Ярыла! Родны! Я бацька твой, — сказаў Вялес шчасліва.

— Дабрыдзень, бацька! Еду ў поле я. Хвалююся, бо першы раз. А ты адкуль?

— Я з пушчы. Там мяне заўсёды знойдзеш. Патрэба будзе, дык прыходзь...

Раптоўна Дзіву злосць апанавала за той падман Вялесаў, праз які яго міжвольна пакахала, яна сказала з'едліва:

— Не слухай, сынку, гэтага манюку. Пярун твой бацька, уладар маланак, а гэта ж усяго Вялес — звярыны бог.

— Не разумею... Бацька-самазванец? — Ярыла здзіўлена зірнуў на маці.

— Цябе я нарадзіў сваім каханнем, — сказаў Вялес. — І буду век любіць! Ты сын мой, што б там маці ні казала!

— Ідзі, Вялес, пакінь нас у спакоі! Ярылу не патрэбны ты зусім, — сказала злосна Дзіва.

— Матуля, ты дарма злуеш, — Ярыла засмяяўся. — Два бацькі мець, — хіба гэта бяда? Не кожнаму, напэўна, так шанцуе!

Ярыла пугай сцебануў каня, паехаў хутка па дарозе. Вялес і Дзіва змрочна разышліся ў розныя бакі.

Дзед Палявы з Жытняю Бабай сустрэлі радасна Ярылу. Яны пачаравалі на добры плён, яечка закапалі курынае ў раллю. Зямля ўздыхнула шчасна і цнатліва, калі яе цалік крануў жалезны плуг. Араў і сеяў малады Ярыла, над ім звінелі жаўрукі высока, зямля спявала, плёскалася рэчка... Здавалася, што кожная праява асобна існавала, а між тым гармонія быццянала ўсіх.

## 20

Ні ў кога не было такіх палеткаў, як у Ярылы, дзе сцяной — ячмень і жыта; нібыта нетры непраходныя — авёс; блакітным морам — лён; духмяным лесам — гнуткія каноплі; гародніна — на дзіва ўсім багам, буйная, сакаўная... Сады такія: золата і барва пладоў прасілася ў далоні! Яны былі салодкія, як мёд!

Дачуўся пра аратага таго і Чарнабог, падкраўся ён да поля, з нары стаў за Ярылам назіраць. Калі ж убачыў, як працуе волат, як упрыгожвае сваю ён Яву, раз'юшыўся і безразважна аратага ператварыў у зайца, сам стаў ваўком і рынуўся ў пагоню.

Ярыла-заяц па палях скакаў, за ім услед драпежны воўк імчаўся, гатовы разарваць і праглынуць. Аббеглі так яны разы чатыры палеткі ўсе. Няма выратавання Ярылу беднаму, пашыбаваў у лес з надзеяю, што там сустрэне бацьку.

У лесе гул і трэск такі пачаўся ад гону за зайцом ваўка, нібыта бура бушавала. Вялес здзівіўся гэтакай праяве, насустрач выйшаў дзёрзкаму ваўку. Ледзь Чарнабог яго заўважыў, зноў Змеем абярнуўся і схаваўся ў барсуковую нару.

Адчараваў Вялес сынка Ярылу, абняў яго, сказаў:

— Вось меч табе, каб бараніцца мог! Цябе ніхто павек не пераможа.

— Я не жадаю, бацька, ваяваць, — Ярыла адказаў.

— На жаль, сынок, ёсць Чарнабог на свеце, які заўсёды будзе шкодзіць нам. Калі мы перастанем думаць пра сябе, з ляноты атлусцеем, ён возьме душы нашыя ў палон, прымусіць слугаваць ягоным чорным справам... У гэтым тайная задума Усявышняга. Не нам з табой яе разгадваць.

## 21

Пярун спяшаў да Святагора, не заўважаў нічога і нікога. На працілеглым беразе ракі купаліся русалкі, расчэсвалі даўгія валасы і нешта гаманілі між сабой. Адна з іх, жвавая пястунка Рось, аклікнула здалёку Перуна:

— Куды нясешся стрымгалоў, Пярун , што нават не зірнеш на прыгажунь? Ці ўжо табе жыццё тваё набрыдла?

— Вас бачу, што за дзіва?

— Плыві да нас!

— Не маю часу.

— Не маеш часу? Вечнасць у запасе!

Рось пасміхалася, рукой яму махала.

— Знайдзі мяне, Пярун, — яна сказала і знікла ў вербалозе непрыкметна.

— Ды бачу я цябе наскрозь.

Рось вынырнула з-за кустоўя, за каменем прысела:

— А цяпер?

Пярун шпурнуў стралу ў валун вялікі, маланка іскры выбіла з яго. Свавольна іх сабрала Рось, пабегла да Сварога, які рыбаліў на рацэ, вачэй не зводзіў з паплаўка зацята. Сказала Рось:

— Сварог, дапамажы, пакуль іскрынкі не патухлі, дай ім жыццё.

— Не замінай! Не бачыш? Я заняты...

— Сварог, табе я рыбы, колькі хочаш, прыганю.

— Я сам магу прыгнаць касяк ляшчоў. Аднак цікава мне злавіць на вуду. Не адрывай мяне!

— Сварог, хутчэй, пакуль не згаслі іскры, мне падаруй сыночка. Яго я буду песціць, шанаваць і дзякаваць табе і Перуну!

Сварог дыхнуў на іскры: з іх узнік Дажбог, сынок русалкі Росі.

— Вялікі дзякуй, літасцівы божа, што ты мяне пачуў!

Дзіцятка Рось да сэрца прытуліла, шчаслівая панесла да русалак, каб разам гадаваць, і прамаўляла ў захапленні:

— Маё дзіцятка! Мой сыночак родны! Дажбог мой залаты! Такія ручачкі твае малыя! Ды вырасцеш і ты магутным богам...

## 22

Святыя горы стрэлі Перуна зацятай цішынёй, ды ён загрукатаў, што рэха панеслася і горы задрыжэлі:

— Гэй, Святагор, ці спіш, ці чуеш, ці дома начуеш? Выходзь да Перуна пагаварыць!

— Такі цудоўны дзень, а ты грыміш, — узняўся над вяршынямі да хмарак вялізны Святагор, папрок быў у яго паглядзе.

— Дачуўся я, што вельмі дужы ты, прыйшоў памерацца з табою сілай.

— Куды табе? — прамовіў гаспадар, ад голасу якога неспадзеўна шухнуў абвал, і доўга з гулам падала каменне.

Перш чым пачаць змаганне, багі адзін аднога змералі паглядамі і закасалі рукавы...

— Гэй, вы, — пачуўся нечакана голас. — Ад вашай балбатні лес заваліла, засыпала квяцісты луг каменнем! Цяпер за вамі трэба прыбіраць!

Пярун са Святагорам паглядзелі ў той бок, адкуль аклікнуў нейчы голас і ўбачылі вясёлага Вялеса.

— Мы паспрачаліся, хто з нас дужэйшы, — сказаў Пярун.

— І што?

— Пакуль што не праверылі... Не ведаем, ці барукацца, ці барацца, ці зброю спрабаваць, — прамовіў Святагор прыглушана, каб горы не развальваць.

— Намеры кіньце гэтыя пустыя, адно панішчыце лясы і горы... Вазьміце мой маленькі хатулёк ды падыміце, а тады пабачым, хто з вас дужэйшы...

Паспрабаваў Пярун хатуль падняць, але і з месца не скрануў паклажу, адно ўгруз у зямлю амаль што па калена.

— Дай мне! — сказаў з усмешкай Святагор, схапіў хатуль, але ледзьледзь прыўзняў. — Ох, ты! Што ж там такое?

— Ляжыць там Чорны камень, у якім змяшчаецца цяжар увесь зямны. Ён мне дўераны, яго нашу заўжды з сабою, каб раўнавагу не згубіў наш свет... У гэтым камені і тая цяга, што называецца любоўю да Радзімы, дзе б ні былі, яна ў душы жыве і кліча нас вярнуцца ў родны кут, — сказаў Вялес.

Прамовіў задуменна Святагор:

— Збылося прадказанне Мокашы... Магутны я, амаль непераможны, ды камень перамог мяне вось гэты!

## 23

Рос Крышань, як усе багі, так хутка, што бацькі яго Мая і Вышань нацешыцца маленькім не паспелі, а ён ужо падлеткам выглядаў. Дзянёк мінуў — і Крышань вырас, высокі, дужы, як належыць богу. Ужо сабе нявесту выглядаў сярод багінь тутэйшых. Стрыбог сказаў яму аднойчы:

— Прыгожыя багіні ў нашай Яве, ды Рада прыгажэйшая за ўсіх!

— Не ведаю... А хто такая Рада? — здзівіўся Крышань.

— Не бачыў ты яе ніколі, жыве яна на востраве марскім. Дачка Уладаркі Мора й бога Сонца... Але бяда. Хто ні прышле сватоў, усім яна заўсёды адмаўляе.

— А ў чым прычына?

— Задачы задае ўсім жаніхам такія, што ніхто іх выканаць не можа.

— Што ж хоча Рада? Я на ўсё гатовы...

— Едзь сам і папытай, — сказаў Стрыбог. — Мяне пакліч, калі патрэба ўзнікне.

Сабраўся ў шлях з надзеяй добрай Крышань, яго бацькі на шчасце паблаславілі. А дні праз тры прыплыў жаніх на востраў. Яго сустрэла з пашанотай Рада, сваёю прыгажосцю асляпіла, сказала Крышаню:

— Хачу з нябёсаў зорку.

— Здабуду, — адказаў жаніх аддана.

Гукнуў Стрыбога, папрасіў яго:

— Дапамажы падняцца мне на неба, каб Радзе зорачку я мог сарваць.

Стрыбог узняўся з Крышанем на неба, той зорку адшпіліў ад небасхілу, уніз зляцеў і перад Радаю прадстаў.

— Вось зорка абяцаная, але ты за яе яснейшая. Каханнем напоўнена душа, яна гарыць, як зорачка, якую ты трымаеш і пальцы апякаеш безразважна.

— Ты, Крышань, мне таксама даспадобы, хацела б я тваёй нявестай стаць, але спярша зрабі такую справу: павінен ты аб'ездзіць тура, запрэгчы ў плуг, раллю ўзараць, ячмень пасеяць, а з ураджаю піва наварыць, каб мелі мы чым частаваць гасцей.

Узяўся Крышань, не марудзячы, за справу. Аб'ездзіў тура, хоць той быў дзікі, і не жадаў нікога слухаць. Пасеяў Крышань сонечны ячмень, палоў яго і даглядаў старанна. Яму Ярыла трохі памагаў. З Квасурам Крышань піва наварыў такога, што калі Хорс пакаштаваў, знячэўку захмялеў і песню зацягнуў:

Вой, як віўся хмель ад балота,
Прывіваўся хмель да варотаў.
Папрасіўся хмель начаваці,
Начаваці хмель, начаваці.
У каго б тут двор ды шырокі?
У каго вялікія вокны?
У каго прасторная хата,
Дзе я мог бы дзяўчыну прасватаць?

Да нявесты Крышань паспяшыў і прамовіў закахана:

— Усё гатова, Рада, да вяселля.

— Я радая, мой Крышань дарагі, адно каса замкнёная мая. Я ключ згубіла ў лузе маладым, мо адшукаеш дзе яго, мой любы. Ты без яго не распляцеш касу, а значыць, і пабрацца мы не зможам...

Хадзіў па лузе Крышань надта доўга, у кветачкі ўзіраўся, ды нарэшце знайшоў ён першаквет, якім касу нявесты адамкнуць, напэўна, можна. З той залатою кветкаю прыйшоў да Рады.

Нявеста кветачку ўзяла — і ад яе чароўнае ўсмешкі нарадзіўся бог кахання Кама. Бацькі схіліліся над сынам шчасна. Іх Уладарка Мора блаславіла, на чоўніку на сушу перавезла. Ім Хорс удзень з нябёсаў пасміхаўся, Дадола ночкаю дарогу асвятляла. Шчаслівы Крышань ехаў да бацькоў з каханай жонкаю і любым сынам. Здавалася, што свет увесь ім усміхаецца з замілаваннем.

## 24

Страчала Сварга Крышаня і Раду хлебам-соллю. Квасураналіваў суру ім шчодра. Малому Каму падарункаў шмат паднеслі: даў Вышань залаты пярсцёнак, бабуля Мая — ружу ў кропельках расы, а Крышань лук тугі яму зрабіў, а маці Рада любасць аддавала.

Пра лёс дзіцяці ўсім сказала Мокаш:

— Ад кахання Кама нарадзіўся, ад яго загінуць мусіць. Але каханне вечнае, таму заўсёды будзе жыць на свеце Кама.

Маленькі Кама тых размоў не слухаў. Ён лук узяў, замест стралы прыладзіў ружу і пачаў цаляць багам у грудзі. Патрапіць у каго — адразу сэрца каханнем нечакана загарыцца, баліць, сумуе, плача...

Сцяжынкаю па садзе Кама бег, убачыў на галіне крумкача і ружаю пацэліў яму ў сэрца. Заплакаў, закрычаў крумкач:

— Нясцерпны боль апанаваў душу, як быццам я ў кагосці закаханы. Але ў каго? Хто мне падкажа? Мо бога гэтага малога павінен я любіць, як сына? Што ж, занясу ў гняздо, няхай жыве са мною...

Схапіў ён Каму нечакана і панёс за мора, толькі вятры свісталі, вылі хвалі, нібы аплаквалі дзіця. Заенчыў Кама з перапуду, стаў клікаць маму, вырываўся з дзюбы.

— Люблю цябе, замоўкні, не крычы — каркнуў крумкач, і Кама выпаў з дзюбы ягонай, імкліва паляцеў уніз, дзе акіян шалеў у прадчуванні шторму.

Ды Уладарка Мора падхапіла любага ўнука на паверхні мора, выцерла слёзы, праспявала калыханку. Соннага ўзяў яго на рукі Хорс, у залатым вазку павёз у Яву, дзе ўжо яго бацькі шукалі.

— Свавольны Кама, нельга крыўдзіць птушак! — абняла яго матуля Рада.

— Сыночак, паслухмяным трэба быць, перш чым каму цаляць у сэрца, сам паспрабуй кахаць, — прамовіў бацька Крышань.

— Цяпер я буду добры, паслухмяны, — ім Кама ўсім паабяцаў.

Пабег гарэза зноўку на прастору запальваць сэрцы юныя каханнем. У маладым бярэзніку пабачыў, як абдымаліся Чурыла і Таруса...

— Што робіце вы тут? — ён запытаў.

— Ламаем дровы, венікі рыхтуем, — адказаў Чурыла.

— Дзе ж вашы венікі?

— Не бачыш? На бярозах скрозь вісяць? Можа, бярозавай жадаеш кашы? Дык пачастуем ...

— Не трэба мне ніякай кашы... Хачу адно каханню навучыцца, — сказаў сур'ёзна Кама.

— Глядзі ты, спрыт які! Хоць малады, ды ранні, — Чурыла пасміхнуўся.

— Няўзнак само цябе каханне стрэне, — прамовіла шчаслівая Таруса. — Ідзі, ты наш крадзеш каштоўны час.

— Нічога я не браў.

— Бярэш цяпер, а сам не заўважаеш.

— Ды дзе яно, што ўкраў я, пакажыце? — развёў рукамі Кама.

— Яно пайшло ад нас і ад цябе, — насмешліва сказаў Чурыла.

— Не разумею вас.

— Ніхто не разумее нас. Шкада! — Таруса млява пазяхнула. — Наведай ля ракі русалак, можа, яны цябе чаму навучаць...

## 25

Штодня блукаў лугамі і палямі мудры Барма і каштаваў на смак ён зёлкі, карыснасць і атрутнасць вызначаў. Не раз здаралася яму і атруціцца, адно малітвамі ад смерці ратаваўся. Ён лекарству Сварожычаў вучыў і ведаў, хоць вечныя багі, аднак не бессмяротныя яны. Век кожнаму адмераны Усявышнім.

Спыніўся Барма пад бярозкай ніцай, якая ўся свяцілася любоўю, пяшчотнаю лістотай шамацела. Такой пяшчоты ён не чуў ніколі ад прыгожай маладой Тарусы, якая жонкаю яму была. Хоць Барма памяркоўны быў і мудры, ды заўважаў, як вее прахалодай ад позірку і словаў маладзіцы.

Душа бярозкі, ціхая русалка, схілілася над вухам, прашаптала:

— Я толькі дрэва, ты магутны бог, ды мне шкада цябе. Ах, так шкада! Цябе зусім Таруса не кахае, яна Чурылу сэрца аддала.

— Я разумею мову дрэў і птушак. І чую цябе, белая бярозка... Навошта нагаворваеш на жонку? Мне з ёю трэба сына гадаваць. У нас жа нарадзіўся хлопчык Ман...

— Не нагавораваю, кажу я праўду. Ідзі ў лясок, убачыш там Чурылу з Тарусаю. Кахаюцца яны...

— Ці трэба ведаць мне пра гэта? — сам у сябе спытаў з дакукай Барма. — Як мудрасць ёй мая не даспадобы, дык чым яе магу прычараваць? Я думаў, што яна — мая душа... А выйшла — толькі боль, туга і горыч...

І не хацеў, панеслі ногі самі яго туды, дзе жонка іншага кахала, дарыла слодыч і не адчувала ніякае зусім сваёй віны...

Іх на палянцы ўбачыў Барма, крыкнуў:

— Не сорамна вам, маладыя, падманваць Усявышняга й мяне...

Спалохана закрыла твар Таруса. Чурыла ціха Барму адказаў:

— Нам сорамна, і страшна, і трывожна... Баімся кары... Але так кахаем моцна, што з гэтым пачуццём пра ўсё мы забываем...

— Дарэмная была мая навука! Я вас вучыў не слугаваць пачуццям! А вы? Хіба вы вучні? Вы — ганьба і папрок маёй душы! Чурыла, для чаго жывеш, скажы?

— Каб свет любіць, кахаць маю Тарусу...

— Дык ведай жа, ты лішні бог у Яве, цябе я ўласнай думкаю рассею, — прамовіў Барма.

І ў той жа момант Чурыла, растаўшы знік. Сняжынка гэтак растае знячэўку, калі апусціцца на цёплую далонь.

Загаласіла, рукі заламала Таруса над месцам тым, дзе была трава прымятая пад целам любага Чурылы, а ўжо яго самога не было:

— Нашто ты, Барма, дзень счарніў мой ясны, нашто развеяў думкаю Чурылу? Я без яго памру таксама... Я не хачу на свеце існаваць! Чурылачка, каханы і адзіны, дзе б ты ні быў, на тым ці гэтым свеце, вазьмі мяне, каханы мой, з сабою!..

— Маўчы! Не сорамна табе за грэх твой цяжкі?..

— Ці ж можа быць каханне грэшным, Барма? Грэх — з некаханым побач існаваць, трываць ягоныя прыдзіркі, злосць, маўчанне... Душыць сябе і забіваць пачуцці... Ты ж мудры, Барма, зразумей мяне!

— Імкнуся зразумець і не магу... Бо злосць і крыўда асляпілі розум! Хацеў цябе развеяць разам з ім... Ды пашкадую дзеля сына Мана, не варта сіратою пакідаць дзіця...

— Забі мяне, забі! Хачу быць там, дзе мой цяпер Чурыла!
— Маўчы! Ты з ім ужо не стрэнешся ніколі.
Таруса на зямлю сырую ўпала, заплакала:
— Вазьмі мяне, зямелька! Я не хачу на белы свет глядзець!
— Пайшлі дамоў, — сказаў ёй злосна Барма. — Няма чаго багоў дарма смяшыць!

## 26

Таруса ледзьве прычакала ночку, а як пачула, што храпе ўжо Барма, схапіла Мана соннага на рукі, пабегла Дыю праўду расказаць пра беднага Чурылу. За ёю следам беглі злыя цені, нібыта Барма сам прачнуўся раптам, каб жонку беглую дагнаць.

Лагодна стрэў Тарусу Дый, але калі пачуў пра гора, ажно затросся ўвесь ад абурэння:
— Нашто звяла майго сынка Чурылу? Загінуў гэткі малады...
— Кахала я, і ён мяне — таксама! Вось наша апраўданне! Нашто няволіце мы душы нашы, як быццам не багі вы, а рабы!
— Што ж, справядлівая твая заўвага! Жыві пакуль у гэтым доме, калі не хочаш Барму слугаваць.
— Вялікі дзякуй, Дый...
Таруса пільна глянула на Дыя і адхіснулася, нібыта сам Чурыла з'явіўся перад ёю, гэтак былі падобныя сын з бацькам.
— Што з табою? Ці блага стала? — Дый спытаў спагадна.
Ягоны голас быў, як у Чурылы, хацелася яго бясконца слухаць.
— Нічога.. Так... Як быццам... Не скажу, — узрушана Таруса прашаптала.
— Я ж бачу, нешта здарылася раптам.
— Ты, Дый, падобны вельмі да Чурылы, нібыта яго вуснамі гаворыш, што забываюся, не разумею... Здаецца часам, што вярнуўся ён... Кахае зноў мяне... Такое шчасце... І бяда такая... Кроў стыне ў жылах! Не, не веру я! Жывы! Жывы ён! Тут! Са мною зноў! Прабач... Я вар'яцею.
Уважліва зірнуў Дый на багіню, і сэрца апякло такою прагай, якую наталіць каханнем толькі можна. Ступіў ён крок да кволае Тарусы, абняў, адчуў падатлівае цела... Але прачнуўся сын Тарусін Ман, спытаў:
— Чаму мы тут? І дзе наш тата?
— Спі, спі, сынок, — сказала з ласкай маці. — Спі, зараз ноч. Я заўтра раскажу табе пра ўсё.
— Не буду спаць... Цябе цалуе дзядзька... Я татку раскажу! А ён яго наб'е! Мой татка дужы!
— Спі, балбатунчык мой... Тут будзем жыць...
— Не буду, не хачу! — заплакаў Ман.
— Цішэй, сынок... Не трэба, годзе... Табе я калыханку паспяваю...
Схілілася Тарусачка над сынам і завяла ціхутка песню:

Як з-за лесу, лесу сіняга
Чарада ляціць гусіная,
А другая лебядзіная.
Бура чорная ўсхадзілася.
Лебедзь ад радні адбілася,
Да гусей чужых прыбілася.
Не змагла лябёдка белая
Па-гусінаму крычаці,
Сталі гусакі, нясмелую,

Праклінаці і шчыпаці.
Узмалілася лябёдачка:
«Вінаватая пагодачка,
Што занесла мяне сілаю
Да гусей, дзе я нямілая».

Заслухаўся, залюбаваўся Дый, не мог вачэй адвесці ад багіні. Нібыта маладосць яго вярнулася, зусім нічога не было ў жыцці, яшчэ не захапляўся, не кахаў, а толькі жыў у прадчуванні шчасця.

## 27

Як толькі Ман заснуў пад песню маці, Таруса твар свой падняла на Дыя, убачыла захопленыя вочы, пайшла яму насустрач у абдымкі, у насалоду, забыццё і шчасце, якое ведала толькі з Чурылам...

Была кароткая ім ночка. Не згледзелі, калі прыйшло світанне, і задрамалі толькі на імгненне, а Сонца ўжо тым часам узнялося, вярнулася дамоў Дадола з працы, убачыла ў пасцелі свайго Дыя, што абдымаў Тарусу маладую.

Такую лаянку тут усчала, сябе не помніла ад злосці, раз'юшылася, нібы львіца раўла, што разбудзіла ўсіх адразу. Заплакаў Ман. Таруса задрыжэла ў роспачы. Прыкрыкнуў на Дадолу злосна Дый:

— Чаго крычыш дарма? Што ў нас? Пажар? Вайна?

— Нахабнік! Ён пытаецца яшчэ! Брыдота! Ганьба!

— Ты пра што, пытаю?

— Што робіць тут распусная багінька?

— Яна ўцякла ад мужа злога!

— А ты яе выратавальнік?

— Так... Ты паслухай... Выпала бяда нам...

— Я бачу, што бяда...

— Не ведаеш, загінуў наш Чурыла...

— Чурыла... Што з ім? Гавары хутчэй...

— Забойца Барма звёў яго са свету...

— Не веру, — гнеўна крыкнула Дадола. — Не веру, мой Чурыла! Мой сыночак! Мой прыгажэйшы самы ў свеце бог!

— Вер ці не вер, а сына ўжо няма. Таруса збегла ад забойцы Бармы...

— Грахі даводзяць бога да забойства... І я яе, распусніцу, заб'ю... Звяла сынка, цяпер і за цябе ўзялася.

— Дадола, супакойся... Я ў сне мо выпадкова абняў яе, падумаў, быццам ты... Нічога не было... Павер, — пачаў бажыцца Дый.

Схілілася Дадола над Тарусай, дыхнула горача і спапяліла яе, толькі ўзляцеў блішчасты прах угору.

— Ну, вось і ўсё. Няма пра што казаць, — прамовіла Дадола.

Дый нават страціў мову. Стаяў, маўчаў, нібы аслупянелы, пасля прамовіў:

— Як жа ты магла?

— Магла, магу... Каб ведаў ты наперад... А хлопчыка вярні старому Барму, ён выхавае мудрасцю яго. Табе ж нікога даяраць не можна...

## 28

Пакуль Пярун шукаў прыгод на свеце, дык Дзіва, жонка любая яго, яму дачку ад смутку нарадзіла, дала імя дзівоснае Дзіванна. Характарам дзяўчо ўдалося ў бацьку, плаксівае, шумлівае, але прыгожае, як маці. Яна спакою родным не давала, крычала дзень і ноч, ды ўсё ж расла, як боскія

ўсё дзеці, не па гадах, а пэўна, па гадзінах, бо як Пярун вярнуўся, вачам не мог даць веры, што бацька ён дачкі высокароднай, якая шпарка бегае па садзе, гуляюць з ёю два ваўкі ручныя.

— Ты бацька мой? — перапытала грозна, прыцэлілася з лука ў Перуна.

— Ці ж можна гэтак татку сустракаць? — спытаў Пярун і пасміхнуўся шчасна, ловячы стралу.

— Казалі: мерацца хадзіў ты сілаю са Святагорам?

— Так...

— Хто ж перамог?

— Вядома, я...

— Цудоўна, ты парадаваў мяне, — дачка сказала і ў адно імгненне ператварылася ў арла, які падняўся ў неба, раскінуў крылы і нібы павіс пад хмарай нерухома.

— Спускайся ўніз, дачка, — сказаў Пярун.

Дзіванна склала крылы і рынулася ўніз, каля зямлі раптоўна абярнулася мядзведзем, пайшла да бацькі. З пашчы звера рыканне вырывалася пагрозна.

— Даволі, я прашу цябе, дачка. Нацешыўся тваім штукарствам. Ды нашто яно, калі ты ўжо багіня?

— Мне падабаецца, — Дзіванна адказала і ўраз ператварылася ў гару, вяршыняю дастаючы аблокі. — Цікава мне адчуць сябе гарою, птушкай, рыбай й зверам...

— Як хутка ты расцеш, Дзіванна! Пакуль гаворым мы, ты ўжо дастала неба...

— Расту, мой бацька, адчуваю сілу вялікую ў сабе! Мо нам з табой пабарукацца?

— Не трэба, донька... Не бог ты, а багіня, нашто табе такую сілу мець? Куды яе пасля падзенеш? Яна ж не дасць табе спакою, будзе увесь час шукаць якога выйсця...

— Вялікі дзякуй за параду, бацька, але я ўсё сама хачу праверыць. Ці гэтак цяжка быць багіняй дужай, як ты сказаў.

— З вялікай сілай лёгка надарвацца.

— А што ўжо слабасільнаму рабіць? — зарагатала весела Дзіванна, ад смеху хмары стукнуліся лбамі, страла маланкі пранізала іх.

Пярун таксама засмяяўся нечакана, ад голасу ягонага ўсе хмары затрэсліся і тысячы маланак аперазалі неба праз імгненне.

Уражана Дзіванна прашаптала:

— Цяпер я бачу, ты дужэйшы, бацька. А мне патрэбна сілы набірацца, каб вартай спадчыннінай быць табе.

— Шчаслівы мець разумную дачку. Хацеў бы падарыць табе што-небудзь. Скажы, што ты жадаеш атрымаць?

— Дай мне каня магутнага свайго, кап'ё і булаву на сто пудоў, паеду сёння я на паляванне...

— Каго хацела б ты ўпаляваць?

— Калі дазволіш, Чарнабога...

— Такія думкі выкінь з галавы. Змей Чорны ў падзямеллі, за мяжою нашай Явы, хто туды трапіць, можа не вярнуцца.

— Я дужая, я ўсіх перамагу...

— Там іншы свет. Цябе там зачаруюць. Ты й не заўважыш, як палюбіш Змея...

— Ніколі, нізавошта!

— Да сілы трэба розум, — сказаў Пярун. — Як розуму не мецьмеш, не дапамогуць булава з кап'ём.

Дарункі бацька перадаў дачцэ, залюбаваўся гожаю багіняй, якая, быццам рыцар самавіты, сядзела на кані, гуляла зброяй.

— Вялікі дзякуй, бацька, за дарунак!

— Табе было б лепш нарадзіцца богам.

Дзіванна засмяялася ў адказ і паляцела на кані ў прастору.

## 29

Вялес здалёк убачыў волатку-багіню. Яна імчала на гнядым кані, наперадзе — ваўкоў вялізных зграя, а ў небе сокал ўслед за ёй ляцеў. Яна кап'ём збівала хмары лёгка, а булавой да сонца дакідала. Спыніўся ўражаны Вялес, спытаў багіню:

— Хто ты? Адкуль? Чыя такая будзеш?

— А што табе?

— Вялес я, уладар, ваўкоў, якіх сабе ты прыручыла, і сокала таго, што вісне ў небе...

— Вялес, я нешта чула пра цябе. Давай з табой памераемся сілай...

— Які ж я бог, калі багіня нават гатовая мяне перамагчы....

— Казаў мне бацька, што вялікі розум перамагае сілу. Праўда гэта?

— Хто ён?

— Пярун...

— Дык ты яго дачка? А як жа твой старэйшы брат Ярыла?

— Ярыла абрабляе ўсю зямлю, ён жне і сее. Так нудна... Памерла б я ад аднастайнасці такой.

— У кожнага сваё ёсць прызначэнне, і доля кожнаму свая даецца. А як завуць цябе, краса-багіня?

— Дзіванна...

— Прыгожае імя. Куды ж ты едзеш?

— У царства Чарнабога, каб з ім памерацца мне сілаю, бо тут усіх шкада.

— Мяне таксама?

— Шкада, такі маленькі дзядзечка ідзе, ледзь кайстру валачэ.

— А падымі, — Вялес паставіў кайстру і хітра пасміхнуўся ў бараду.

— Адным мезенцам...

Дзіванна саскочыла з каня, адной рукою кайстру падхапіла, падняць хацела — не змагла. Аберуч узялася — ды дарэмна.

— Што тут такое?

— Цяжар зямны.

— Не веру...

Вялес закінуў кайстру за плячо, сказаў з усмешкай:

— Праверыла сябе? Дык з богам едзь. А Змея Чорнага не пераможаш. Яго забіць, найперш, трэба ў сабе...

— Не разумею... Ты пра што гаворыш?

— Што яблычак ад яблынькі вядзецца.

— Ты трызніш, дзядзька, ці суры напіўся?

— На розных мовах мы з табой гаворым... Ты — моваю жаданняў маладых, я — сталасцю, што вопыт пэўны мае...

— Не маю часу слухаць балбатню.

## 30

— Пярун, ну і дачка ў цябе! Герой! — сказаў Вялес з усмешкаю вясёлай. — Але, баюся, наламае дроў... Паехала ў краіну Чарнабога. Ці ж ёй адной змагацца з гэтым пеклам? Павінна раўнавага існаваць... Святло і

цень — два вечных антыподы. А як без іх? Ці ноч без дня магчыма? Ёсць Белабог — узнік і Чарнабог. Так свет ураўнаважыў Усявышні!

— Вялес, не хочацца мне верыць у тую навіну, што ты сказаў. Дачку я папярэдзіў, што не варта хадзіць за межы блаславёнай Явы.

— Здаецца, сілы ў волатці зашмат, а гэта розуму часамі шкодзіць. Кап'ё шпурляе: шчэ праколе неба, а булавою цэліць проста ў Хорса. Не помню я, каб хто з багоў старэйшых так непачціва мог сябе паводзіць.

— Твая гаворка не да сэрца мне, Вялес, займіся справамі. Я пра дзяцей сваіх паклапачуся сам!

— Ты і Ярылу маеш на ўвазе?

— Так, і Ярылу.

— Ды Ярыла мой! — сказаў Вялес зацята.

— Яго я выхаваў, да справы далучыў. І не цябе, мяне ён бацькам кліча. А ты ідзі, пакінь мяне ў спакоі, — Пярун у хмарах гэтак загрымеў, што паспяшаў Вялес гаворку скончыць і знік у лесе.

Задумаўся Пярун: «Што мне рабіць з дачкою? Яшчэ жыцця не бачыла зусім, а ўжо імкнецца перайначыць свет».

Ён загрымеў на ўсю святую Яву:

— Дачка, вярніся зараз жа дадому!

— Яшчэ чаго! Я толькі што адтуль, — Пярунніца зацята адказала.

Шпурнуў Пярун пякучую маланку, яе Дзіванна булавой адбіла. Пярун на неба, як страла ўзляцеў, зірнуў уніз, дачку пабачыў каля царства Чарнабога. Звярнуўся ён да Мокашы:

— Дай нерат, злаўлю ў яго нягодную няслуху!

— Дарма імкнешся долю ёй змяніць, — сказала Мокаш. — Гэта немагчыма.

— Прашу, дай нерат!

— Бяры. Ды ўсё дарма...

Пярун накінуў нерат на Дзіванну, яна падрала прадзіва густое навязанай ёй долі і пабегла да той гары, дзе ў безлічы пячораў яе чакалі змеі Чарнабога.

## 31

— Дзіванначка, Пярунніца прыйшла. Як доўга мы цябе ўсе тут чакалі. Жыццё спынілася, нікуды не ішло. Нам не хапае светлыні тваёй. Заззяла царства ўсё з тваім прыходам. Дзіванначка, ты наша прыгажуня! — ліслiва стрэлі Перунову доньку слугі Чарнабога.

Яны Дзіванне рукі аплялі, залашчылі яе, заказыталі. Ад гэтай ласкі, ад лісліўых словаў багіня страціла былую сілу. Забылася, дзеля чаго прыйшла.

— Як добра мне тут з вамі. І не чутно зусім, як бацька мой грыміць! Парвала нерат я, каб вас пабачыць.

— Ты наша, наша... Цябе не аддамо нікому. Як Сонца ты, што дорыць нам святло. Мы без цябе загінем.

Багі бяссільныя супроць лісліўасці таксама. За путы горш яна аблытаць можа розум.

— Ніколі вас я не пакіну, верце. Такіх сяброў, як вы, яшчэ не мела. Ласкавыя, пяшчотныя вы ўсе. Ці я магу хоць што для вас зрабіць? — спытала ў служак змеевых Дзіванна.

Паміж сабою змеі пашапталіся, пасля сказалі:

— Найбольшы вораг наш Сямаргл. Агнём ён вынішчае нас. Хацелі б мы яму адпомсціць. Ці дапаможаш нам?

— Усё зраблю, што толькі пажадаеце...

З вадою нагаворнай змеі паднеслі міску ёй, сказалі:

— Глядзі, Сямаргл вунь едзе полем, сустрэнь яго, спаць пакладзі на чыстую пасцельку, якая ўраз праваліцца ў прадонне. А мы яго ўжо тут сустрэнем.

## 32

На ростані спыніў каня Сямаргл, убачыў камень з надпісам такім: «Паедзеш проста — галаву складзеш; налева — возьмеш шлюб; направа — быць табе багатым».

Паехаў проста па шляху Сямаргл, ды хутка выбіўся на сцежку, якая ў полі непрыкметна знікла. Сам не заўважыў задуменны бог, як апынуўся ў царстве Чарнабога. Сустрэлі яго змеі і пачвары, сцягнуць хацелі волата з каня, але ён іх пачаставаў агнём, яны адскочылі, схаваліся ў пячоры.

Сямаргл назад да каменя вярнуўся, паехаў ад яго дарожкай тою, якая абяцала жонку. Праз лес і рэчку пераскочыў ён і стрэў зеленавокую Дзіванну. Яна пляла вянок з лілей рачных і ціхенька сабе спявала:

— На моры качка купалася,
Ясным промнем умывалася
Ды на беразе сушылася,
Донька ў мамкі прасілася:
— Пусці, мамка, пагуляці,
Паспяваці, паскакаці.
Маці доньку не пускала,
У каморку замыкала.
А ў каморачцы ваконечка,
Мне на вуліцу віднечечка.

Сямаргл спытаў:

— Каму пляцеш вянок? Каго, багіня светлая, чакаеш?

— Прагледзела ўжо вочы я ў чаканні, пакуль Сямаргл прыехаў да мяне. Вянкі пляла штодня, яны ўсе вялі. Ды не спыняла працу я сваю.

— Каб ведаў я, што ты мяне чакаеш, дык прыляцеў бы ўжо даўно на крылах.

— Пісала я табе свае лісты аблокамі, маланкамі на небе, а ты іх не хацеў чытаць чамусьці.

— Не заўважаў дасюль ніякіх знакаў, даруй, Дзіванна, я шкадую вельмі.

— Спрыяе лёс, дык і на гэтым дзякуй. Папі суры, стаміўся ты, напэўна, — гладыш Сямарглу падала яна.

Ён выпіў, захмялеў і толькі зараз згледзеў, што лілею для Дзіванны прынесла змейка, чорная, малая. Яшчэ змей колькі каля ног вілося. Хацеў спытаць, чаму ёй змеі служаць... Але Дзіванна пачала яму вянок лілейны надзяваць на галаву са словамі:

— Сямаргл такі прыгожы. Пыляж і адпачні на гэты камень, за дзень нагрэты сонцам.

— Перш чым засну, хацеў бы ведаць я, чакала ты, каб я тваім стаў мужам?

— Так.

— І надпіс ты на камені зрабіла?

— Я слугаў верных папрасіла напісаць.

— Хто твае слугі?

— Русалкі, берагіні...

— Чаму ж навокал бачу столькі змей? — спытаў Сямаргл у прадчуванні змрочным.

— Гэта русалкі сарамлівыя мае...

— Калі ты жонка, дык кладзіся побач, — сказаў Сямаргл і кінуў Пярунніцу на камень, што служыў ёй ложкам.

Ускрыкнула Дзіванна, і толькі дакранулася да каменя рукою, абрынуўся ён разам з ёю ў прадонне Чарнабогавага царства.

— Дык вось што ты задумала, Дзіванна? Законы Праўды, што кіруюць Сваргай, гавораць: хто капае іншым яму, той у яе трапляе ўрэшце сам.

Вярнуўся зноў да каменя Сямаргл, накіраваўся ад яго па сцежцы, якая абяцала даць багацце, хоць і не верыў надпісу таму. Ён ехаў доўга чыстым полем, пакуль не напаткаў разлогі дуб. У дупле ягоным знайшоў святую Кнігу Ведаў, напісаную на бяросце, павёз яе да Бармы, як вялікі і каштоўны скарб.

Дзіванна ж засталася ў Чарнабога. Калі вярнуцца ў Сваргу захацела, Яга яе ператварыла ў расліну з султанам жоўтых кветак. Расце яна па ўзгорках, на беразе высокім над Дняпром, завуць яе дасюль дзіваннай.

## 33

— Ляці на неба ноччу і збяры ўсе хмары — дойныя каровы; да нас, у падзямелле, прыгані свяшчэнны статак. Бяды хопіць Сварогу, як высахне без дождждыку зямля, — такі загад даў Кадуку Змей Чорны.

— Як добра, Чарнабог, прыдумаў ты! Я сам не здагадаўся б мо ніколі такое кепства ў Яве здзейсніць!

— Даволі балбатні! Рабі, што трэба...

— Усё зраблю, як Чарнабог жадае. Але Дадола свеціць па начах і Дый вартуе неба...

— Дый і Дадола, мусіць, у жалобе, Дзіванна, унучка іхняя, прапала...

— Спрыяльны час, — пацёр Кадук далоні і рушыў у дарогу.

Апоўначы на неба ён узняўся і запыніў кароў нябесных статак. Яны ішлі туды, куды іх гналі, даверыліся волі пастуха і толькі пыл на зорках уздымалі і пахлі сырадоем, як звычайна, як на зямлі пад вечар статак пахне, калі вяртаецца дадому з пашы.

Заўважылі прапажу ў Яве ранкам. Багі сабраліся і разважалі, хто мог злачынства гэтакае здзейсніць.

— Я ведаю, хто на такое здатны, — сказаў Вялес.

А Барма запярэчыў:

— Не маем доказаў, не можам вінаваціць.

— Што скажаш, Дый? Што бачыў ноччу? — спытаў Сварог.

— Дадола захварэла з-за Дзіванны, унучка знікла ў царстве Чарнабога... Ноч ля Дадолы хворае сядзеў, — Дый адказаў.

— Сямаргл, няўжо і ты праспаў?

— Сачыў я за прасторамі зямною, не заўважаў, што робіцца на небе. Скажу вам: цемра гэткая была, што і мяне самога можна было ўкрасці.

— У кожнага з вас апраўданне ёсць, а хто мне растлумачыць, як людзям хлеб вырошчваць? — абурана спытаў багоў Ярыла. — Без хмарак і дажджу мае палі засохнуць, а з імі разам — і мая душа...

У задуменні змрочныя багі замоўклі.

— Вайною пойдзем, спалім іх датла, — сказаў Сямаргл пагрозна і сярдзіта.

— Дадзім ім жару! — падтрымаў Пярун.

— Вам толькі б ваяваць, а розум для чаго багам даецца? — знячэў абурылася Дзіва.

Вялес падняўся і сказаў спакойна:

— Шкада Ярылу, Яву ўсю шкада. Пайду адзін да Чарнабога і паспрабую вывесці наш статак...

Заплакала, загаласіла Лёля:

— Ну, як жа ты адзін? Адумайся, Вялес!

— Маўчы, багіня! Ганьбіш ты мяне! — ён жонку абарваў.

Замоўкла Лёля, толькі ражком бялюткай хусткі сцірала ўпотайкі слязу і з жалем пазірала на Вялеса.

## 34

Вялес прыйшоў у царства Чарнабога, ніхто з нячысцікаў спыніць яго не тое, што не здолеў, а нават не адважыўся. Таму блукаў Вялес у цемры падзямелля мо цэлы дзень, калі нарэшце перад брамай апынуўся, пастукаў, адчынілася яна. Насустрач выйшлі слугі Чарнабога.

— Чаго прыйшоў? — яны ў яго спыталі.

— Да вас мае каровы прыблудзілі, — Вялес ім адказаў.

— Ты, пэўна, памыліўся, іншаземец, у нас сваіх хапае тут кароў.

— Я не да вас прыйшоў, мне трэба Чорны Змей.

Нарэшце слугі прывялі Вялеса ў той пакой, дзе Чарнабог сядзеў на троне, ягоныя галовы між сабою пра нешта гаварылі, спрачаліся і часам рагаталі, агонь з паветрам вырываўся з глотак .

«Вось пачвара! Як жа мне яго пераканаць?.. — Вялес падумаў. — Ды дзеля Явы я на ўсё гатовы».

— Чаго прыйшоў, Вялес?

— Ты злодзей, Чарнабог! Аддай мне статак дойны нашых хмарак, бо не па-боску здзекавацца з зямлі, сушыць яе!

— Той статак мне і вам аднолькава належыць, пад небам мы адным, адзін стварыў нас Усявышні.

— Так. Ды табе той статак без патрэбы. У падзямеллі вільгаці даволі. А на паверхні без вады ўсё згіне.

— Якая мне турбота? Няхай шукае выйсце Белабог.

— Калі не аддасі па-добраму нам хмары, вайною пойдзем мы на тваё царства! Цябе мы і раней перамагалі.

— Не сілаю, а хітрасцю вазьму, — Змей задаволена махнуў хвастом, тры галавы яго зарагаталі. — Але свайго даб'юся.

— Не трэба б Усявышняга гнявіць. Мо паспрабуем мірна зладзіць справу?

Задумаўся Вялікі Чорны Змей, пасля сказаў:

— Шмат будзе каштаваць вам мір са мною.

— Кажы, што хочаш атрымаць?

— Вярну я дойны статак хмар-каровак, калі ты застанешся тут, Вялес, каб тысячу гадоў мне слугаваць.

— Што? Тысячу гадоў, каб слугаваць табе? Ды лепш памерці!

— А гэта й ёсць амаль што смерць. Цябе забудуць на зямлі, Вялес. Калі ж ты вернешся туды, там будзе ўсё інакш. І іншыя народзяцца ўжо баганяты, усім чужы ты станеш, непатрэбны.

— А як мае звяры, лясы і птушкі? Апекавацца імі будзе хто? А там яшчэ русалкі, берагіні...

— Намесніца мая замест цябе паслужыць.

— Хто можа замяніць мяне?..

— Яга ў нас апекуецца жывёлай, дык і тваіх звяроў, як след, дагледзіць.

— Яга?.. Як жа яна...

— Звычайна. Даверыць можна ёй любую справу, яна хоць гаспадыня, і ў гадах, затое без ветру ў галаве, праверана не раз... У Яву адпушчу яе пажыць, пакуль ты будзеш тут.

— Яна мне жыўнасць сапсуе, атруціць злосцю!

— У кожнага свой спосаб выхавання. Згаджайся, час ідзе, канае Ява без вады.

Вялес задумаўся, схіліў буйную галаву на грудзі, у гэтай цішыні пачуў ён раптам, як стогнуць карэнні Дрэва Вечнага і просяць з болем:

— Піць! Вады! Вады! Хоць кроплю!

— Памерці згодны я, каб потым нарадзіцца, калі наступіць тэрмін адпаведны, — сказаў Вялес. — Ды перш хачу пабачыць, як аблокі вернуцца ў нябёсы, каб напаіць святую Яву дажджавой вадой. Адно, шкада маю галубку Лёлю. Як будзе жыць самотна без мяне?

— Зраблю, як хочаш ты, — Змей адказаў. — Вялеса, слугі, на зямлю вядзіце, няхай апошні раз убачыць сонца, у неба неабдымнасць паглядзіць, каб тысячу гадоў пасля не бачыць. А наконт Лёлі не хвалюйся, яна між родных застанецца, ад смутку не памрэ, не бойся.

Вялес душою ахінаў прастору, гарнуўся да бярозкі і сасонкі, русалак песціў позіркам бацькоўскім, усіх любіў, а слёзы ручаямі каціліся з яго вачэй. Ён гэты свет надоўга пакідаў. Галубка Лёля застанецца тут адна, сынок Ярыла сірацінай будзе. Без догляду лясы, звяры і птушкі здзічэюць, як пасля іх прыручыць?..

Вялеса слёзы па шчаках цяклі, з тае пары — ёсць пад зямлёю шмат салёных водаў. Гаючыя яны, боскі напой, нясуць здароўе ўсім, хто паспытае, бо ў іх душа вялікая Вялеса, яго жаданне надзяляць дабром і зноўку на зямлю калісь вярнуцца.

## 35

Згубіў спакой зайздроснік Чорны Змей, даймалі думкі пра галубку Лёлю, якая саламянаю ўдавою жыла пакуль што без Вялеса. Ён абярнуўся сокалам імклівым, у Яву прыляцеў, сеў на галіну пад Лёліным акном.

Багіня Лёля ткала палатно і хораша сама сабе спявала:

Жыла пташачка ў садочку,
Каратала дні і ночкі.
Ясны сокал прыляцеў,
Забраць з сабой захацеў.
Пасадзіў яе за краты.
Чаму птушачка не рада?
Вой, сумна ёй!
Вой, горка ёй!

Жыла мілая ў святліцы.
Стаў ёй мілы часта сніцца.
Як аднойчы прыляцеў,
Забраць з сабой захацеў.
Завёў у бакоўку —
Забывай сяброўку.
Вой, сумна ёй!
Вой, горка ёй.

Зачаравала песня сэрца Змея. Каб пад яе ўладу не патрапіць, зляцеў з галіны, кінуўся ў лясы, але праз колькі часу зноў вярнуўся, бо тая песня ўжо ў душы гняздо звіла, спакою Чарнабогу не давала.

Спявала Лёля пра сваё каханне, пра смутак і тугу, а Сокал слухаў і аднаго хацеў, каб Лёля песні адно яму заўсёды прысвячала. Залопаў крыламі, нібы ў падзяку. Адклала чоўнік здзіўлена багіня, аконца расчыніла і спытала:

— Што тут шукаеш, сокал яснавокі?

— Я прылятаю песні твае слухаць, яны мне саладзей за сон і мёд. Пад іх я быццам страчваю сябе, раблюся падуладным словам тым, якія толькі ты складаць умееш, нібы пляцеш дзівосныя карункі.

— Спяваю я звычайна, мой саколе, гэта табе здаецца толькі.

— Дазволь, багіня, прылятаць штодня мне пад акно тваё і слухаць, слухаць...

— Ляці ў пакой, чаго там пад акном сядзець пад сонцам... Ты замінаць не будзеш...

Так Чарнабог стаў сокалам лятаць да Лёлі кожны дзень, а потым нават нанач заставацца. Яна спявала і як прала, і як ткала, а ён пры ёй, як вартаўнік заўзяты, гатовы слухаць голас яе мілы і любавацца дзіўнаю красой.

Аднойчы Жыва разам іх застала, здзівілася:

— А хто гэта ў цябе?

— Мой верны сокал, — Лёля адказала.

— Чаму ж ён так пажадліва глядзіць?

— Табе здаецца, Жыва...

— А ці даўно ты ведаеш яго?

— Нядаўна... Што з таго? Ён любіць песні, таму і днюе, і начуе тут са мною...

— Прабач, сястра, мо замінаю я? Дык пабягу...

— Пабудзь, як хочаш, з намі...

— Спяшаю, іншым разам мо калі.

Пабегла Жыва да Сварога-бацькі і расказала ўсё яму. Сварог надумаўся на сокала зірнуць, а заадно і пратурыць яго, каб назаўжды забыў сюды дарогу.

Ледзь крокі сокал цяжкія пачуў, у пёрка абярнуўся. За пазуху яго схавала Лёля. Сварог на Лёлю паглядзеў, спытаў:

— Прадзеш? Не сумна тут адной?

— За працаю не заўважаю суму.

— Працуй, не буду замінаць гаворкай, — сказаў Сварог і выйшаў.

Акно шырока адчыніла Лёля і выпусціла Сокала на волю, хоць на грудзях яе ён пачуваў сябе, нібыта ў райскім садзе, і вылятаць не вельмі і хацеў, бо меў намер вярнуцца хутка.

Ды Жыва, каб сястру засцерагчы, натыкала іголачак чароўных у падаконне. Вярнуўся Сокал, крылы пакрываваліў, але да Лёлі заляцець не здолеў. Ёй крыкнуў:

— Любая мая, бывай! Шукай мяне ў глыбокім падзямеллі.

— А хто ты там, палонны?

— Уладар!

І зразумела Лёля, што прыгрэла ля сэрца Чарнабога, прывыкла да яго, пакуль адна без любага Вялеса сумавала.

— Ах, хіжы Чарнабог, і не сказаў, дзе муж мой? Што з ім стала? Чаму Вялес дадому не вярнуўся, хоць статак хмар даўно пасецца над шчаслівай Явай! А мо і мне пайсці ў падземны свет? Калі багі, якіх кахала я, туды сышлі абодва...

## 36

Галубкай стала прыгажуня Лёля і паляцела на край Явы, песеньку буркочучы сабе:

Ясны сокал з галубіцай
Сустрэліся ў святліцы,
Зляталіся, цалаваліся,
Шызымі крыламі абдымаліся.

Лясы ляжалі ўнізе, быццам шкура нікім нябачанага звера; святыя воды гналі рэкі ў мора, струменілі, бы сіненькія жылкі; на полі залацела жыта; блакітам лён, бы возера, разліўся.

Тры крумкачы сустрэліся галубцы, спыталі, што яна шукае.

— Мяне чакае ясны Сокал пад зямлёю, — прамовіла яна.

— Казаў ён пра цябе, калі ты Лёля.

— Так, я і ёсць...

— Ляці за намі, — крумкачы сказалі. — Не азірайся, не пытайся ні пра што.

Унізе прасціралася рака, пакрытая туманам непраглядным. Свяціла сонца, але праз туман нічога не было відаць, там нешта плёскала і хтось стагнаў. Ляцела Лёля, не хацела думаць, пра тое, што наперадзе чакае. Яе вяла пяшчота словаў тых, што закахана Сокал прамаўляў.

Сцямнела паступова, у сутонні яны яшчэ ляцелі доўга, чаплялі крылы сцены, столь, падлогу, кружылі па пячорах, галерэях. Нарэшце прыпыніліся ля брамы, сказалі некаму, што Лёлю прывялі. Праз хвілю выляцеў насустрач Сокал, пяшчотна дакрануўся да крыла, сказаў:

— Шчаслівы я, галубка Лёля, што ты са мной! Хадзем у мой палац. Цябе чакае ён даўным-даўно! Ты найвялікшае маё багацце, якое вельмі я баяўся страціць.

У Лёлі ад такіх пяшчотных словаў сэрца затрымцела і яна прызналася:

— Не здолела жыць без цябе, адна. Там сумна і самотна. З табой душа мая адпачывае.

Яны пайшлі па мармуровых залах, дзе ўсё зіхцела дыяментным бляскам.

— Ці падабаецца табе палац? — сокал спытаў.

— Цябе я толькі бачу.

— Ці здолееш без сонца вечна жыць?

— Мне свецяць лепш за сонца твае вочы.

— Чаму ты не пытаеш пра Вялеса?

— Не ўмеў ён гэтак добра гаварыць. А што з ім будзе?

— Тысячу гадоў ён мусіць спаць у падзямеллі гэтым.

— Аж тысячу... Магу я быць з табой... І слухаць, слухаць...

— Ты можаш назаўжды застацца тут.

— Ты быццам прыпыняеш час. З табой яго не заўважаю, мінулае навечна забываю, цяперашніх імгненняў дастаткова.

## 37

Заўважыў Кама між галін русалку, лук нацягнуў, але галлё закрыла сэрца прыгажуні.

— Спусціся ўніз, — яе паклікаў Кама. — Хацеў бы пазнаёміцца з табой. Я Кама. А ты хто?

— А я русалка Бава.

— Якая ты прыгожая!

— Нас шмат, мы душы дрэваў розных.

І сапраўды сясцёр зеленакосых саскочыла з галін вярбы гурма і Каму захапіла ў карагод.

— Якія вы вясёлыя, красуні! Скакаў бы з вамі цэлы дзень без зморы...

— А мы цябе яшчэ і заказычам!.. Трымайце яго, чуеце! Мацней!

Злаўчыўся Кама, Баве ў сэрца стрэліў ружаю. Яна сказала:

— Пакіньце нас! Ён мой! Яго кахаю!

Русалкі адступілі, адышлі, схаваліся за ніцаю лазою. Кранула Бава чуб віхрасты Камы, сказала ціха:

— Будзь са мной заўжды, не пакідай мяне, інакш памру. Цябе я зачарую, зашапчу, каханнем нашым цешыцца мы будзем.

Ад словаў гэтых сэрца Камы няўзнак гарачай ружай заквітнела, захвалявалася, напоўнілася шчасцем, прамовіў ён, цалуючы русалку:

— Цябе адну кахаю я таксама. Ты засланіла мне сабою свет і прыгажунь усіх. Ва ўсіх абліччах бачу я цябе. Тваіх вачэй святло глядзіць з нябёсаў...

— Мацней кахаю я, чым здатна ты ўявіць...

— Не, я мацней, — ёй запярэчыў Кама.

— Цябе я чарамі так зачарую, што ні хвіліны без мяне не здолееш пражыць!

— Чаруй! Я прагну быць зачараваны!

— Я ад кахання трачу галаву, — ледзь чутна прашаптала Бава.

— А я, здаецца, ўжо яе не маю! Вазьмі сабе мой лук і ружы ўсе мае... Пацэль мне ў сэрца, каб ніколі не згадваў я мінулае жыццё.

— Табе я аддаю ўсе свае чары. Валодай імі, прычаруй мяне, каб я не ведала нікога ў свеце, апроч цябе, цябе, каханы мой!

З апошняй сілы лук напяла Бава, пусціла ружу проста ў сэрца Камы. У момант той ён чарамі ахутаў, зачараваў каханую сваю. Яны пайшлі насустрач, абняліся і ўпалі мёртвыя, згарэлі ад кахання, іскрынкамі ўзляцелі да нябёсаў.

З тае пары сыходзяць часам з неба летавіцы — духі зорныя, што маюць твар мужчынскі ці жаночы, каб на зямлі кахаць і захапляцца. Гэта нашчадкі Камы і русалкі Бавы.

## 38

Не ведаў Крышань, дзе падзеўся Кама. Як ён прапаў, ніхто таго не бачыў: ні Хорс удзень, ні ночкаю Дадола не сустракалі бога маладога. Заўважыў Крышань крумкача ў гайку, спытаў:

— Мо ты майго сынка ўкраў?

— Было даўней, твой сын пацэліў ружай у мяне, параніўшы любоўю. Тады яго хацеў дамоў занесці, але згубіў...

— Дык я цябе заб'ю!

— За што? Твой сын дамоў вярнуўся. А што было пасля з ім, невядома...

— Заб'ю цябе за зло тваё былое!

— Паслухай, Крышань, што табе скажу. І я, і ты — Усявышняму мы служым. Ты не суддзя мне, я табе не вораг. Мы толькі пахаджанцы ў гэтым свеце! Мне жыць яшчэ. А ўжо з крыніцы твайго часу апошняя вада да кропелькі сышла. Калі ты сына пераржыў свайго, твая эпоха прамінула, Крышань.

— Пра што гаворыш ты, не разумею. Ці ж птушцы пра жыццё маё судзіць?

— Я не суджу. Цябе Усявышні кліча. Інакшы наступае сёння час, а Кола Сваргі круціцца далей, адлічвае пачатак новай эры.

— Пустая балбатня! І хто табе паверыць?

Угневаны пусціў Крышань стралу. Але яна змяніла накірунак, пацэліла ў свайго гаспадара. Упаў бездапаможна ён на травы, рукою рану заціскаючы, з пытаннем у вачах: «За што? За што?»

Кроў яго стала возерам Святым, душа ўзнялася да Усявышняга ў нябёсы.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## ДАЖБОГ

### 1

Рака паволі гнала хвалі да берага, пясок перамывала, быў ён нібы сонца, залаты. Яна люляла белыя лілеі, гарлачыкі жаўтлявыя, лістоту зялёную, што на паверхні трымалася нязмушана і лёгка. У вірах таемнае жыццё хавалася ад позіркаў цікаўных. Рака сабой была заўжды занята, ды ўсё ж не забывала адлюстроўваць галіны прыбярэжных дрэў і лоз.

Русалка Рось і сёстры берагіні Дажбога клапатліва гадавалі, яму спявалі разам калыханкі, на хвалях гойдалі і на галінах вербаў, не зглядзелі, як вырас бог няўзнак, стаў волатам магутным і прыгожым. Спасціг ён цуды мудрыя русалак, умеў ператварацца ў птушку, звера, высока лётаць і глыбока плаваць. Любіў ён сокалам у неба падымацца, стуль азіраў прасторы неабдымнасць, крылом паветра рассякаў імкліва, з богам вятроў спаборнічаў у хуткасці, выходзіў пераможцам і пацвельваў:

— Які ты стаў нямоглы ўжо, Стрыбог!

— Усе ідуць да старасці, Дажбог, цябе той шлях не абміне таксама.

— Калі яшчэ яно...

— Пабачыш... Дзень за днём... Пакоцяцца гады, жаніцьба, дзеці, а пасля і ўнукі...

— Стрыбог, я гэткі дужы, што сабе наўрад ці падбяру нявесту...

— Дзівак! Нявест хапае. Вунь, бачыш вершніка? Багіня-волат Мая Святагорка едзе на кані буланым. Няма ёй роўных, гэтулькі ў ёй сілы, што і цябе ў двубоі пераможа. Яна дачка самога Святагора.

— Няўжо? — Дажбог здзівіўся, паляцеў уніз разгледзець Маю Святагорку.

Яна няспешна ехала, драмала і не заўважыла, як сокал малады сеў на плячо ёй.

— Моцна спіш, багіня, — крыкнуў ёй на вуха.

Яна рукой праз сон ледзь узмахнула, нібыта адганяла камара. Тады Дажбог ператварыўся ў тыгра, зароў, што конь узняўся на дыбкі. Праз сон прамармытала нешта Мая і нават не расплюшчыла вачэй.

Дажбог залюбаваўся прыгажуняй, ператварыўся ў бога, з сядла ссадзіў дзяўчыну, пацалаваў у вусны, вось тады яна расплюшчыла няўцямна вочы, спытала:

— Хто ты? І тут чаму ты?

— Жаніх я твой...

— Так, сапраўды, цябе аднойчы сніла... Паехала шукаць... Ды сам знайшоўся ты...

— А я цябе з нябёс убачыў, дзе лётаў сокалам. І пакахаў адразу...

— Напэўна, Мокаш нам напрала долю, і гэтак лёгка рукі нам злучыла. А чый ты сын? — яго спытала Мая.

— Шмат у мяне матуль: русалкі, берагіні, а мама Рось за ўсіх мне найрадней, цябе хацеў бы з ёю пазнаёміць.

— А бацька хто?

— Маланка ў Перуна іскрынкі выбіла, іх Рось сабрала і папрасіла, каб Сварог у іх душу ўдыхнуў, жыву з тае пары. Так мне расказвалі русалкі, калі люлялі на галінах вербаў.

— Хачу я спадабацца тваёй маме.

Яны ўзляцелі ластаўкамі ў неба, панесліся да сіняе ракі, дзе Рось з гарлачыкаў пляла вянок, каб ім пацешыць роднага сыночка.

— Матуля, я з нявестаю прыехаў, — сказаў Дажбог.

Уздрыгнула знячэўку маці Рось, вянок упаў, паплыў з гуллівай хваляй.

— Я радая, сыночак, за цябе!

— Мая нявеста — Мая Святагорка.

— Прыгожая багіня. Блаславляю, абы паміж сабой жылі вы ў згодзе.

— Яго кахаю, — адказала Мая. — Каханне наша чыстае, нібы лілея, што ляжыць на хвалях.

Рось працягнула тонкую руку, лілею вырвала і Маі аддала.

— Якое хараство! Няма нічога прыгажэй за кветку гэту. Яна ракою пахне і каханнем, — прамовіла нявеста.

З лілеі, з залатой, нібыта сонца, сярэдзінкі ўраз нарадзіўся бог, маленькі Каляда.

— Дажбог, сынка паслаў нам Усявышні! Вялікі дзякуй, Госпадзі, табе за твой дарунак шчодры! Як буду я любіць яго і песціць! — сказала Мая.

Над бажаняткам нахіліліся з пяшчотай, з замілаваннем усміхаліся яму.

— Яшчэ не ведае твой бацька, Мая, што ты нявестаю мне стала, а ўжо ў нас нарадзілася дзіця. Ці не пакрыўдзіць гэта твайго бацьку? — спытаў, трывогу тоячы, Дажбог.

— Паедзем, я яму ўсё раскажу...

— Вы едзьце, а дзіця са мной пакіньце, — сказала маладым матуля Рось, якая не хацела з унукам разлучацца.

Дажбог і Мая рушылі ў дарогу. Рось памахала ім услед рукою і стала плесці Калядзе калыску, пасля яго на хвалях калыхала, не згледзела, як неўпрыкмет сама заснула...

## 2

Трывожна пачуваўся Чарнабог, штосьць падсвядома хвалявала яго сэрца. Звярнуўся ён да Мокашы вялікай:

— Скажы, багіня, ці не я магутны самы бог?

— Так, ты магутны, але сёння ў Яве маленькі нарадзіўся Каляда, які дужэйшы за цябе, ты ведай гэта. Аднойчы пераможа ён цябе.

— А хто яго бацькі?

— Дажбог і Мая Святагорка...

— Я зразумеў...

Задумаўся Змей люты. Ад злосці аж заходзілася сэрца. Хацеў ён знішчыць як мага хутчэй і Каляду малога, і бацькоў ягоных. Сабраў нараду, на якой Кадук прапанаваў:

— Пашлю я змеек, выкрадуць дзіця. І Святагорку знішчыць паспрабую.

— Дажбога знішчу сам, — прамовіў Чарнабог.

Праз падзямелле, норы і карэнне чародка вёрткіх і атрутных змей тачылася да рэчкі, дзе драмала над калыскай Рось. Яны нячутна падплылі, русалку атруцілі, калысачку пусцілі па цячэнні. Панеслі хвалі Каляду да мора.

На досвітку заўважыў з неба Хорс самотную калыску на вадзе, а ў ёй малога бога, спусціўся да ракі, узяў дзіця, з замілаваннем разглядаў яго.

— Чый жа ты сын? Ці бачана такое, каб бажаняты плавалі па рэках без догляду дарослых. А мо няшчасце сталася якое?

Панёс да Зараніцы Хорс дзіця.

— Глядзі, каго знайшоў я на рацэ, — сказаў ён жонцы.

— Мілае дзіцятка... Чыё яно?

— Не ведаю. У Мокашы спытаем, ёй пра ўсіх вядома.

— А мо сабе дзіця пакінем? Няхай гадуецца, нам будзе сынам, Дзянніцай назавём яго, — прапанавала мужу Зараніца.

— Ніхто Дзянніцу не заменіць нам. Бацькі, можа, шукаюць бажаня, турбуюцца, начэй не спяць...

— Сваё не пабудуеш шчасце на чужой бядзе, — згадзілася багіня.

Пайшлі яны да Мокашы з дзіцём, каб папытацца, чыё яно, з якою доляй.

### 3

Дажбог і Мая Святагорка ішлі праз поле да гары, дзе бацька Святагор звычайна бавіў час. Вялізны камень стрэлі на дарозе, быў ён шырокі, нібы шлюбны ложак.

— Давай прысядзем, — Мая папрасіла. — Нацерла мазаля я на пяце, трыпутнік прыкладу, каб не балела.

Ледзь дакранулася да каменя яна, як праваліласся з ім разам у прадонне. На момант расступілася зямля і зноў сышлася, пахаваўшы Маю.

Дажбог мячом пачаў сячы зямлю, крычаць:

— Аддай, аддай мне Маю!..

Зямля маўчала, нібыта яна нічога не адчула нават.

Дажбог арлом узвіўся, паляцеў пытаць парады ў Росі. Яе знайшоў атручанаю ён. Прыпаў да маці і заплакаў горка:

— Куды ж падзелася маё дзіця? Хто загубіў маю матулю Рось? Хто разлучыў мяне са Святагоркай? Няўжо я столькі ворагаў нажыў? За што такое пакаранне мне?

Сабраліся русалкі, спачувалі бядзе Дажбога, а адна сказала:

— Праз сон я бачыла, быццам плыла калыска...

— Далёка ж хвалі ўжо яе занеслі за гэткі час, — заўважыла другая.

— Паеду сына любага шукаць па берагах маўклівае ракі, — сказаў Дажбог, пачаў у шлях збірацца.

Ён човен адвязаў, на вёслы сеў, паплыў ракой вірліваю з надзеяю, што знойдзе сына недзе.

### 4

— Знайшоўся! Не прапаў сынок Дажбога і Маі Святагоркі, — сказала шчасна Мокаш Хорсу з Зараніцай. — Магутным богам будзе ён. Бацькі яго назвалі Калядой.

— Чаму ж ён апынуўся на рацэ? — спытала Зараніца.

— Яго ўкралі змеі Чарнабога, пакінулі калыску на вадзе з надзеяй, што маленькі бог патоне. Ды пралічыліся, як бачым...

— Дзіця патрэбна мо бацькам вярнуць? — затурбаваўся Хорс.

— Няма каму... У падзямеллі Мая Святагорка. Бабуля Рось атручана, а бацька Дажбог плыве ракой да акіяна... Такая доля... Не паправіш тут. Гадуйце Каляду і беражыце... Яго задумаў знішчыць Чарнабог...

— Дзіця схаваем ад чужых вачэй, каб аніхто не мог яму нашкодзіць, —

паабяцала Зараніца. — Замест Дзянніцы, будзе ў нас сынок, а мы яму прыёмнымі бацькамі...

— Мы выгадуем гэтае дзіця, ён будзе слаўны, дужы, мудры бог, — прамовіў Хорс, узяў дзіця на рукі, панёс дамоў.

Дарогаю сустрэлі берагіню, яна ад радасці аж пляснула рукамі, сказала:

— Прыклікана Усявышнім я была ахоўваць гэтае дзіцятка. Прынесла яму мёду, каб расло хутчэй.

І берагіня падала гладыш, паўнюткі залатога мёду, духмянага, салодкага такога, што восы зляцеліся на водар з усёй Явы.

— Кыш! Прэч! — рукою адмахнуўся Хорс, рашуча праганяючы назолаў.

Адна аса пакаштавала мёду і ўпала раптам нежывая. Здзіўлёна глянуў Хорс, пусціў яшчэ некалькі вос на мёд, яны пападалі, бы ад атруты. Тады прамовіў Хорс:

— Перш чым дзіця карміць атрутным мёдам, цябе ім, берагіня, накармлю, — падаў гладыш ёй. — Пі! Я пагляджу, як задаволіш сваю смагу!

Ускрыкнула, адскочыла ўбок спалоханая берагіня, ператварылася ў змяю Марану і па траве пад камень папаўзла, праз момант знікла ў норцы.

— Ах, змяя! — заплакала Заранка. — Каб не восы... Паверыла я ёй... Наш Каляда малы, цябе змяя ледзь-ледзь не атруціла!

— Ну, годзе, годзе! Напалохаеш дзіця. Усё мінула, дзякуй богу, — яе суцішыў Хорс...

Да сэрца прытуліла Зараніца малога Каляду, пацавала ў лоб ад радасці, што зберагчы змагла ад лютай смерці.

— Я выгадую цябе, мой Каляда. Разумны будзеш ты і дужы.

## 5

Сямаргл быў найсамотным богам, таму што надта меў гарачы нораў, успыхваў часта ён без дай прычыны і шмат каго дарэмна дапякаў, пасля пакутаваў, бо мучыла сумленне. Таму стараўся больш займацца справай, чым мець стасункі нейкія з багамі. Ён дзень і ноч пры вогненным мячы стаяў на межах роднай Сваргі, сцярог, каб зло ў свет боскі не трапляла.

Аднойчы ён Купальніцу сустрэў, якая на світанку з русалкамі, падданымі сваімі, купалася ў рацэ. Былі ў багінь даўгія валасы, да самых пятаў атулялі целы. Залюбаваўся здзіўлены Сямаргл, так і стаяў, не здатны слова мовіць.

— Сямаргл, — паклікала Купальніца яго. — Хадзі да нас купацца, мілавацца... Не пашкадуеш...

— Купальніца, табой зачараваны... Але такая служба, што не маю права хоць на міг яе пакінуць. Бо Чорны Змей не спіць, чакае, калі сыду я з гэтага паста...

— Сямаргл, куды падзенецца мяжа? Яе мае русалкі павартуюць... А ты ў мае абдымкі апусціся, паслухай, што табе я нашапчу, ніколі ты не чуў салодкіх словаў, якія лечаць сэрца і душу...

— Купальніца, салодкі голас твой, здаецца, што адну цябе і чую... Але мне нельга пакідаць мой пост!

— Сямаргл, падумай, вечнасць так стаяць без радасці, кахання і пяшчоты! Занадта ўжо вялікая ахвярнасць. Забудзь пра ўсё! Хадзі сюды, пад вербы. Тут шчасце нас чакае шмат гадоў.

Сямаргл, сп'янелы ад лагодных словаў, ступіў насустрач маладой багіні, забыў пра абавязкі і пра службу.

— Купальніца, яшчэ ніхто ніколі такіх спакусных слоў мне не казаў.

— Ніхто цябе так не кахаў, як я. Ты нават уявіць сабе не можаш, якое шчасце нас з табой чакае.

— Баюся апячы цябе, — шаптаў, цалуючы Купальніцу Сямаргл.
— Салодкі боль мне дотыкаў тваіх. Жадаю адчуваць іх зноў і зноў.
З гарачых пацалункаў гэтых раптоўна нарадзіліся блізняты Купала з Кастрамой. Бацькі дзяцей ўзялі на рукі і пачалі з пяшчотай калыхаць.
— Якія дзеткі ў нас дзівосныя, Сямаргл! — захоплена Купальніца сказала.
— Не бачыў прыгажэйшых я на свеце. Адразу сына і дачку займеў! Ты столькі шчасця падарыла мне за ноч адну, колькі не зведаў я за ўсё жыццё.
Купальніца Сямарглу падала кавалачак бурштыну, прамовіла:
— Знайшла яго на беразе ракі. Зрабі два амулеты для дзяцей, няхай бурштын ахоўвае іх жыцці.
Сямаргл надвое разламаў бурштын, і дзірачкі прапёк, вяровачкі ўцягнуў, павесіў абярогі на шыйкі сына і дачкі.
— Цудоўна ты зрабіў, каханы, дзякуй.
— Купальніца, не ведае мяжы мая табе ўдзячнасць. Прыляж і адпачні, стамілася ты сёння.
Купальніца прачнулася ў цямноце, ад холаду яна дрыжэла. Здавалася, што ночы ўжо даўно пара б і скончыцца, але пакуль яшчэ не думала світаць. Знячэў заплакалі малыя. Пакуль іх суцяшала, заўважыла Купальніца, што ўсё змянілася навокал. Паныла дрэвы скідвалі лістоту, вялі кветкі, пасівела ад інею трава.
— Сямаргл, прачніся! Свет не пазнаю!
— Га? Ты пра што? — не цяміў агнябог.
— Занадта холадна. І дню пара б пачацца.
— Спрасоння не магу я зразумець, што здарыцца магло.
— Да холаду не адчувальны ты, але зірні навокал. Хоць цёмна, але чуеш, як дрэвы стогнуць ад марозу?
Сямаргл агледзеўся няспешна, пабачыў іней на траве, разгублена сказаў:
— Напэўна, Чарнабог начараваў. Праспаў я службу! Зло прыйшло да нас! І даравання мне не будзе.
— Не дакарай сябе, каханы мой.
— Ты бачыш, гіне на вачах усё!
— Не веру я, што Ява можа згінуць, бо апякуецца Усявышні намі.
— Спяшацца трэба мне, каб грэх мой замаліць.
— І я з табой! — Купальніца сказала, прыполам ахінаючы дзяцей.
— Пайшлі ў мой дом, там месца хопіць нам.

## 6

Дажбог праплыў раку да акіяна, зусім знясілеў у дарозе, а сына так нідзе і не знайшоў. І вырашыў па моры плысці ён. Не можа быць, каб следу анідзе не засталося ад яго дзіцяці.
Махалі вёслы, быццам крылы птушкі, плыў човен акіянскаю прастора́й. Дажбог шукаў калыску сына, ужо губляў апошнюю надзею...
Ад стомы непрыкметна задрамаў, прысніў ён Рось і Маю Святагорку, яны прасілі, каб Дажбог вяртаўся, бо дома сын яго даўно чакае.
— Памерлі вы, не ведаеце нават, што Каляда паплыў ракой да мора. Яго тут і шукаю дзень каторы...
— Вяртайся, — папрасіла Святагорка. — Нам з Таго свету лепш усё відаць.
— Хутчэй, хутчэй, — яму сказала маці.
— Ну, добра, я вярнуся, вось толькі зараз човен павярну...
Прачнуўся растрывожаны Дажбог, агледзеўся: нідзе — нікога. У цем-

ры нават хваляў не чуваць. У небе зоркі стынуць, гэткі холад, што не трапляе зуб на зуб. А човен не калышацца зусім. Крануў ён вёслы, ды яны прымерзлі да ільдзіны.

— Што за праява? Мо вынесла мяне куды на востраў? Такая цемра! Не відно нічога. Адкуль тут лёд? Не разумею я... Ці, можа, гэта сон таксама? Што тут рабіць? Ці пешкі йсці дамоў? Ці мо чакаць, калі растане мора? А дома Каляда адзін чакае... Хаця ці можна верыць снам, калі не ведаеш, чаго чакаць ад явы?

## 7

Дажбог ішоў па акіяне, спрэс пакрытым лёдам, бы бранёю. Такая пустка, халадэча, морак, што рады быў бы хоць якой душы, хоць гуку. Паспрабаваў ён заспяваць, аднак была занадта сумнай тая песня. Аціх, ішоў і згадваў Яву, здавалася, што так лягчэй ісці.

«Калі замерз вялікі акіян, дык Ява, пэўна, мерзне гэтаксама. Што ж здарылася? Чорная бяда абрынулася раптам на зямлю... Несправядліва гэта... Ці мо пануе ў свеце Крыўда, а не Праўда?» — так разважаў Дажбог, калі аднекуль даляцелі гукі дзіўнай песні.

Ці вецер, ці зямля спявалі так, не мог ён зразумець. Спыніўся і прыслухаўся яшчэ. Ляцелі гукі зверху, з паднябесся. Зірнуў туды, убачыў птушку, якая песняй клікала яго і нешта невымоўна абяцала.

За ёю рушыў стомлены Дажбог і не заўважыў, як прыйшоў на бераг, што скаламі спускаўся проста ў мора, цяпер жа быў скаваны лёдам. А птушка клікала, вяла.

— Куды ляціш? — спытаў яе Дажбог.

Яна не адказала, быццам, нікога не жадала чуць.

— Куды ляціш? Куды вядзеш мяне?

У чорную пячору ўляцела птушка, а Дажбог за ёю ступіў. Вялізны камень за спіной ягонай абваліўся, сабою выхад зачыніў. Спявала птушка, у цемрадзі вяла падземнымі шляхамі. І раптам зразумеў Дажбог, што ён у падзямелле трапіў Чарнабога. Хацеў назад вярнуцца. А куды? Хіба ў пячорах, сутарэннях гэтых цяпер магчыма выхад адшукаць?

Наперадзе як быццам пасвятлела, з'явілася багіня ў пераходзе, яна трымала зыркую паходню. Падобнаю на Маю Святагорку яна яму здалася, усхвалявана Дажбог наблізіўся да постаці, каб лепей твар яе разгледзець і ўскрыкнуў:

— Скрозь цябе шукаю, Мая! Шчаслівы бачыць...

— Хацела б Маяй быць, ды я Марана, — прамовіла багіня ледзьве чутна.

— Я ведаю, што Мая Святагорка ў падземным царстве Змея-Чарнабога. Прыйшоў сюды яе адратаваць.

— Спазніўся ты. Памерла твая Мая, не вытрымала нашага паветра, цемры, холаду і цвілі.

— Чаму ж ты так падобна на яе?

— Магчыма, выпадковасць...

— Як выйсці мне адсюль, хачу я ў Яву, — сказаў са смуткам стоеным Дажбог.

— Дазвол на гэта трэба Чарнабогаў.

— А ты не можаш мне дапамагчы?

— Мне нельга... Буду пакарана ўладаром. Падданай ён самавольства не даруе. А да таго прызнацца мушу я, што ты, Дажбог, мне вельмі спадабаўся. Сама хачу цябе тут затрымаць, каб на цябе нагледзецца, мой любы.

— Скуль ведаеш мяне?

— Ды пра цябе гавораць у нас шмат... Пра сына Каляду, пра Маю Святагорку і маці тваю Рось...

— Дык гэта Чарнабог наставіў столькі пастак, каб знішчыць род мой і мяне самога?

— Так, Чарнабог... Ён злосны, жорсткі, страшны, сама яго баюся, ды цябе схаваю ад яго.

— Як трапіў я сюды? Не разумею. Якаясь птушка звабіла мяне.

— Здагадваюся, гэта птушка Сірын. Яе паслала я знарок цябе прывесці.

— Навошта я табе?..

— Цікава. Хацела паглядзець, які ты ёсць.

— Ну, паглядзела, а цяпер бывай.

— Паспееш на зямлю яшчэ вярнуцца. Пайшлі, табе я наша царства пакажу.

Марана за руку ўзяла Дажбога і павяла па лабірынтах пераходаў, паміж слупоў высокіх сталактытыў, што падпіралі неба падзямелля. Паблісквалі алмазамі пячоры, зіхцелі самацветамі і срэбрам. Яе халаднаватая рука была між тым прыемнаю Дажбогу. Ён нават жартам пальцы яе сціснуў. Марана войкнула, зірнула на яго, а потым засмяялася. І рэха разнеслася па гулкіх калідорах.

— Як можна жыць у цемры, без святла? — спытаў Дажбог.

— Калі святло ў душы, навошта звонку?

— Выходзіць, нечысць мае сонца ў душах?

— Нам сонца — морак. Можаш зразумець?

— Спрабую зразумець. Прывыкнуць немагчыма.

— Палюбіш з часам цемру і ацэніш. Яна найлепшы сродак ад трывогі, хвалявання, мітусні.

— Калі зусім я страчу раптам зрок, са мной заўсёды будуць успаміны, якія памяць беражэ таемна.

— Занадта ты згушчаеш фарбы.

— Гусцей ад гэтай цемры я нічога яшчэ на свеце не страчаў.

Яны прыйшлі ў вялізную пячору, дзе быў палац самога Чарнабога. Тут слугі-змеі поўзалі без ліку, занятыя якойсьці пільнай справай. Ахова Змея шчыльна акаляла.

— Нашто ахова тут, дзе ўсе свае? — Дажбог здзівіўся.

— Чым больш аховы, тым важней пасад.

Галовы змея між сабою без перапынку нешта балбаталі, матляліся даўгія языкі, спрачаліся, смяяліся, а раптам і кусацца пачыналі, як ворагі заўзятыя. Тады ахова падпаўзала і разводзіла галовы, каб не пашкодзілі яны сябе.

Марана паглядзела на Дажбога з трывогаю, сказала:

— Баюся я, каб не пазнаў цябе ўладар, расправіцца, не выпусціць жывога.Ператвару цябе ў аленя...

Праз імгненне Дажбог адчуў на галаве цяжкія рогі.

— Я мог бы абярнуцца ў камара.

— Цябе тады так лёгка праглыне ўсялякая змяя ці нават жаба.

Хоць Чарнабог быў балбатнёй заняты, заўважыў ён Марану і спытаў:

— Хто там стаіць з аленем?

— Марана, — яму сказалі.

— Я твар яе не пазнаю.

— Змяніла воблік, толькі і ўсяго.

— Навошта ёй алень?

— Не ведаем. Спытаем зараз.

Падбеглі слугі Змеевы, спыталі:

— Нашто аленя прывяла, Марана?

— Яго я прыручыла, няхай пакуль што пажыве пры мне.

— Алень? — здзівіўся Чарнабог. — Даўно не бачыў жыўнасці ніякай. Падвядзіце, я паглядзець хачу.

Марана падышла з аленем. Прыгледзеўся Вялікі Чорны Змей, сказаў насмешліва:

— Нашто яму падзалаціла рогі? За што вялікі гонар гэткі зверу?

— Люблю ўсё, што блішчыць.

— Табе на неба трэба, там шмат бліскучых зорак! Сонца смаліць, што хочацца схавацца пад зямлю.

— А наша золата блішчыць, алмазы, срэбра яшчэ ярчэй, — Марана адказала.

Змей адвярнуў усе свае галовы, цікавасць, пэўна, страціў да аленя.

— Пайшлі адсюль, — прамовіла Марана. — Ён не пазнаў цябе, на гэтым дзякуй. Схаваемся ў пячоры ад усіх. Даўно вядома: лепш далей трымацца ад гневу і ад ласкі ўладара.

— Не разумею, для чаго я тут?

— Такі твой лёс, — багіня адказала.

## 8

Хорс на світанку абудзіўся, суры папіў і паспяшаў адразу ж у канюшню, каб Шляхам Сонцавым у неба падымацца, адорваючы цяплом і ласкай свет. Спалохаўся, калі пабачыў, што пустыя стойлы. Нібыта ветрам здзьмула коней. Сваім вачам Хорс не паверыў, абурана прамовіў:

— Забыліся, напэўна, коні пугі смак! На волю захацелі! — Але сумненне ўзнікла неспадзеўкі. — Мо маладыя ўзялі без дазволу коней, каб паварʼяцку паўтарыць Дзянніцы лёс. Дзе Каляда? Мо ён?..

Хорс хуценька дамоў вярнуўся, дзверы расчыніў, убачыў: ціхамірна спіць яго прыёмны сын.

— Даруй мне, Усявышні, мой міжвольны грэх, што кепска я пра Каляду падумаў. Ён вырас на маіх вачах і стаў магутным, мудрым богам, — Хорс прашаптаў, нячутна дзверы зачыніў. — Што ж мне рабіць? Ноч зацягнулася. Дзень не пачнецца, пакуль па небе не праедуць коні. Параіцца мне трэба са Сварогам.

Падаўся да Сварога Хорс. Толькі цяпер адчуў ён холад, здзівіўся гэтай з'яве, агледзеўся. З панылых дрэваў лістота ціха ападала, на травах серабрыўся іней.

— Што здарылася з нашай Явай? — усхвалявана Хорс спытаў сябе. — Як мог адразу не заўважыць я? Замерзла ўсё навокал. Счарнелі кветкі, іх апёк мароз. Лістота ападае. З нябёсаў быццам бы злятае попел. Ці гэта зоркі мо пыляць?

Між тым снег паваліў такі вялікі, нібыта Мокаш рвала белыя тканіны на латкі і кідала свавольна ўніз. Яны кружыліся ў хаосе, кранáлі твар і казыталі скуру. Спыніўся ўсхваляваны Хорс, злавіў сняжынку і хацеў разгледзець, яна растала за імгненне. Злавіў другую — той жа вынік.

«Занадта кволыя пасланнікі марозу, — падумаў ён. — Але іх шмат, таму змянілі Яву, дрэвы і кустоўе абляпілі, а краявід, быццам нябожчыка, прыбралі ў белату.

Пастукаў у акно Сварогу Хорс, сказаў:

— Пара ўставаць, даўно ўжо раніца настала.

Сварог здзіўлёна расчыніў акно, спытаў заспаным голасам:

— Калі настала ранне, дык чаму вакол такая цемра, а ты не свеціш з неба? Дзень без цябе не распачнецца. Ты парушаеш звычай Явы!

— Бяда! Маіх укралі коней! Без іх на неба не падняцца мне!

— Злачынства нечуванае! Такога не прыпомню я адвеку! За гэта можна заплаціць жыццём! — Сварог абурана ўскрыкнуў.

— Не ведаю, хто мог зрабіць такое.

— А што гэта з нябёс ляціць? Ці зоркі пагарэлі ад напругі ў чаканні дзённага святла?

— Я думаю, што гэта снег — дзіця марозу. Яго паслаў, напэўна, Чарнабог, які ўладарыць халадамі.

— Ты думаеш, злачынства здзейсніў ён? — спытаў Сварог.

— Не ведаю. Але замерзла Ява. Навокал глянь! Свет гіне! — Хорс заплакаў.

— Даволі слёз! Сварожычаў склікай, каб разам вырашыць, як жыць далей.

Пайшоў па вуліцы журботны Хорс, у кожнае акно пастукаў і абвясціў пра сход. Яму Дадола асвятляла шлях.

Дзятва, якая ўпершыню пабачыла цуд белы, выбегла на двор гурмою гаманлівай. Снег бралі жменькамі здзіўлёна бажаняты, каштавалі ці гулялі ў снежкі. Той-сёй з іх быў па даўняй звычцы босы. Але мароз кусаўся моцна, шмат хто не вытрымаў з малечы, пабеглі грэцца да агню. Нават дарослыя багі агульнай паддаліся весялосці.

Сварог заклікаў да парадку ўсіх і запытаў:

— Як будзем Сваргу ратаваць? Усё замерзла!

Сварожычы маўчалі.

— Скажыце мне, хто холад прапусціў, ахоўваючы Яву? Хто праміргаў, калі ў Хорса кралі коней.

— Мая віна, — сказаў Сямаргл. — Купальніца мяне прычаравала, загаварыла, зашаптала, пра ўсё на свеце я забыўся... Гатовы заслужана панесці кару.

— Не цяжка пакараць цябе, Сямаргл, гэта паспею я заўсёды. Лепш падкажы, як коней нам вярнуць? Мы ж замарозім бажанят, багінь, а пра людзей дык і казаць не варта. Яны бездапаможныя наогул.

— На смерць змагацца буду з Чарнабогам.

— З Сямарглам я пайду. Мы Змея пераможам! Але сабраць, напэўна, трэба войска, — Вышань прапанаваў.

— Вайна? Ізноў вайна? — спытала маці Сва са скрухай. — Падумайце, няўжо няма іначшых сродкаў, каб з Чарнабогам нам паладзіць. Можа, выкуп даць? Вайна знішчае боскі род. І для чаго багам даецца розум?

— Падумаем яшчэ. Пакуль жа войска таксама трэба мець гатовым. Законы Сваргі парушыў Чарнабог. Нам цесна, свет ніяк мы не падзелім, — Сварог заўважыў.

— Спалю я Змея! — выгукнуў Сямаргл.

— І сам згарыш, — Сварог цярпліва папярэдзіў.

— Дык што ж рабіць? Гатовы Яву саграваць агнём!

— Мароз і полымя, бязлітасныя да ўсяго жывога. Пасевы знішчаны! Людзей чакае голад. Як іх паратаваць? — спытаў Ярыла неспакойна.

— Любой цаной вярнуць патрэбна коней. Інакш у цемры й холадзе сядзець нам давядзецца, — адказаў Сварог.

— Гатовы я сустрэцца з Чарнабогам, — прамовіў цвёрда Каляда.

— Ці здолееш? Ці хопіць сілы? — спытаў Сварог.

— Яму дапамагу, — Хорс выступіў наперад.

— Ідзіце і збірайцеся ў дарогу. Вас бласлаўляю на змаганне з Чарнабогам, — сказаў Сварог .

— Я заклінаю вас, перш чым махаць рукамі, падумайце, як след, што, як і лепш зрабіць, — слязу змахнула маці птушка Сва.

## 9

— Сямаргл, куды ізноў ляціш? Пазабаўляўся б з дзецьмі! — Купальніца сказала, і столькі крыўды ў голасе было, што ён сарваўся на высокай ноце.

— Маўчы! Замерзла Ява з-за цябе!

— Ты ўжо шкадуеш, што сустрэў мяне?

— Усе страчаюцца і жэняцца аднойчы, але пры гэтым не прыносяць бедаў Яве. А мы? Я ледзьве не згарэў ад сораму!

— Няма віны маёй. Такі выпадак! Калі надумаў Чарнабог украсці коней, дык адшукаў бы, пэўна, зручны момант. Зашмат бярэш ты на сябе, Сямаргл!

— Ты памыляешся, шмат ад мяне залежыць. Не выканаў свае я абавязкі. Адказваць мушу і панесці кару.

— Якую кару? Ты пра што, Сямаргл? Ці мо сябе раўняеш з Чарнабогам?

— Маўчы! Ніхто ў нас тут не другарадны. У кожнага свой абавязак!

— Твой абавязвк — з дзецьмі пагуляць! Сын і дачка цябе амаль не бачаць!

— Ты ведала, з кім звязвала свой лёс! Я дзень і ноч заняты службай!

— Ты нас не любіш!

— Марныя папрокі! Каго любіць яшчэ мне, як не вас? Сынок Купала мілы і свавольны, багінька Кастрама — ціхмяная пястушка...

— А я ці значу нешта для цябе?

— Нашто напрошвацца на кампліменты? Пустое не люблю казаць!

— Ты нас загубіш! Вельмі ўжо гарачы!

— Маўчы, бо як з сябе я выйду...

— Маўчу, маўчу...

— І каб ні гуку!

Прыбег Купала і паклікаў бацьку:

— Хадзем на вуліцу! Зляпілі зайца мы са снегу! Такі прыгожы! Проста, як жывы! Мама і тата! Кастрама чакае! Хутчэй! Пайшлі!

Глыбокім снегам сын павёў бацькоў на ўзгорак, дзе Кастрама ля зайца завіхалася, прыклейвала яму вусы з травы.

— Умелыя вы, дзетачкі мае, — Купальніца ласкава пахваліла.

— Ці не замерзлі? — запытаў Сямаргл.

— Нам нават горача, — сказала Кастрама і снежкаю ў Купалу запусціла.

Брат на яе абтрос з галіны снег і засмяяўся радасна. Багіня адбегла ўбок і выцірала твар ад россыпу сняжынак, што раставалі на прыгожым твары.

— Гуляйце, толькі будзьце асцярожныя, каб не звяла вас птушка Сірын. Цудоўны спеў яе прыносіць гора, — матуля папярэдзіла дзяцей.

— Мы помнім, помнім, — Кастрама сказала.

Бацькі пайшлі, а дзеці засталіся каля зайца, за рукі ўзяліся і спявалі:

— Ляцела лябёдка,
Пёры пагубляла.
Пухам белым-белым
Яву ўсю заслала.
Пазбіраем пёры
Той чароўнай птушкі.
Будзем сніць дзівосы
На мяккіх падушках.

Вушамі заяц снежны варухнуў і скокнуў у сумёт, бы сілу спрабаваў.

— Ажыў! Ажыў! — Купала закрычаў.

— Лаві яго! Ён уцячэ ад нас! — плаксівым голасам сказала Кастрама.
Купала кінуўся за ўцекачом, дагнаў яго, узяў на рукі, пяшчотна гладзіў і шаптаў:
— Ты мой прыгожы! Мой ласкавы! Навошта уцякаў? Цябе я не пакрыўджу.
Раптоўна птушка побач заспявала.
— Як хораша выводзіць! Нам бы гэтак! — Кастрама сказала ў захапленні.
— А я свістаць умею, — Купала пахваліўся і моцна свіснуў.
— Не трэба! Птушку не палохай! Паслухаць дай. Спявае невыказна! — прамовіла сястра і памкнулася на голас птушкі.
— Куды ты, Кастрама? — Купала крыкнуў. — Вярніся! Мама нам забараніла!
— Я толькі трошкі! Трошачкі зусім! Паслухаю яе!
І ў гэты момант снежны заяц рвануўся з рук Купалы і паімчаў па полі. Купала ўслед за ім пабег, спатыкнуўся і ў сумёце апынуўся. Калючы снег апёк і твар, і рукі.
Калі Купала выцер твар азяблымі рукамі, ні Кастрамы, ні зайца не пабачыў. Адно мяцеліца гуляла полем, што замяла сляды сястры і зайца. Вярнуўся сын дамоў з жалобнай весткай.
Купальніца загаласіла:
— Дачку ўкрала птушка Сірын! Як жыць цяпер? Нямілы свет! Дзіцятка! Дачушка родная мая, вярніся!
Дарма Купальніца пабегла ў поле шукаць сляды дачкі. Яе мяцеліца акрыла хусткай і футра снежнае накінула на плечы, але не памагла дачку знайсці. Сямаргл насіўся па палях дарэмна, агнём імкнуўся прапячы завею. Яна шыпела, дзікім зверам выла.
— Прайду ўвесь свет, але дачку знайду, — Сямаргл сказаў і сціснуў кулакі.

## 10

— Марана, пад зямлёй мне не жыццё, суцэльная пакута, — сказаў Дажбог, і ў голасе ягоным быў невыказны смутак і трывога.
— Не ведаеш, напэўна, ты: Вялес на тысячу гадоў асуджаны сядзець у падзямеллі. Цябе наогул знішчыць Чарнабог.
— Сын Каляда мяне чакае ў Яве, расце ён сіратою!
— Табе таксама нараджу сынка, пабачыш. А пажадаеш, дык дачку — таксама. Ты толькі пакахай мяне.
— Марана, у табе ўвесь час я толькі Маю Святагорку бачу. Утрымліваеш гэтым ты мяне. Інакш зямлю я грыз бы і крышыў пячоры, каб зноў вярнуцца ў Яву.
Дажбог далонямі закрыў свой твар, каб слёзы прыхаваць.
— Не плач, мой любы, глядзі, які каменьчык я знайшла! Іскрысты, быццам зорачка на небе. У ім я бачу твой самотны позірк, твой гожы твар. Яго я ўжо люблю, як і цябе...
Зірнуў Дажбог і ўбачыў, што каменьчык у дзіця пачаў ператварацца.
— Дажбог, я нарадзіла сына з кахання і пяшчоты, назваць яго жадаю Багумірам. Няхай нясе любоў і мір у свет.
Дзіця заплакала. Дажбог узяў яго на рукі, суцешыў і сказаў:
— Няхай расце, каб праўдзе паслужыць і роднай Яве.
— Не пусціць Чарнабог маё дзіця ніколі ў Яву.
— А ты нікому не кажы пра сына... Няхай яшчэ адною таямніцай на свеце будзе больш.

Марана калыхала Багуміра. Быў твар яе прасветлы, нібы ў Маі. Міжвольна ёй Дажбог залюбаваўся і прыгадаў шчаслівы дзень, калі сустрэў ён Маю, мілую багіню, з якою вечнасць марыў раздзяліць...

## 11

— Расце сынок, — прамовіла Марана. — Учора выскачыць хацеў з пячоры. Ледзь таямніцу не раскрыў малы... Ёсць нянька, трэба яшчэ ляльку...

— Што ты буркочаш увесь час, Марана? — раздражнёна запытаў Дажбог.

Ён колькі дзён з пячоры не выходзіў, азыз без руху на сырым каменні, ляжаў і быццам ціха паміраў. Жыццё з яго па кроплі выцякала з цяжкімі думамі пра Яву.

— Кажу я, што знайшла каменьчык, зялёны, нібы весняя трава. Ці падабаецца табе ён?

— Задумала зноў нешта?

— З каменьчыка я нараджу дачку зеленавокую...

— Нашто, Марана, яшчэ адной істоце тут канаць?

— Канаеш ты. А я жыву, кахаю! Я шчаслівейшай зроду не была! Чаму табе са мною не жывецца?

Марана засяродзіла свой позірк на камені зялёным і бліскучым, з яго з'явілася дзіця, багінька.

— Трымай, Дажбог, дачку. Яе завуць Славуняй! Яна сябе праславіць! Роду вялікаму пачатак дасць! Сама я дзецям выбіраю долю...

Узяў Дажбог дачку на рукі, пацалаваў смуглявы лоб дзіцячы, сказаў:

— Жыві. А я памру. Мне невыноснае жыццё ў няволі.

— Хіба каханне можа быць няволяй? — Марана запытала.

— Яно — дабраахвотная турма!

— Цябе, Дажбог, зусім не разумею...

— Марана, Маю я ў табе кахаю. Яе вачэй прыгожых бляск прывідны, усмешку, жэст, але ёсць нешта ў табе, што адштурхоўвае мяне.

— І што гэта, цікава?..

— Твае неразуменне, чэрствасць, злосць, а зрэшты, гэта змеям уласціва ўсім!

— Так, я змяя. Ды я пакуль багіня, не горшая, чым Мая, Лёля, Дзіва... Ты гэта можаш зразумець, нарэшце? Так, я аблічча Маіна ўзяла! Але душа мая кіруе мною!

— Ты ўкрала Маіна аблічча? Ты падманула, звабіла мяне!

— Магу сабе зрабіць які заўгодна твар! Лёлі, Мокашы ці Лады! Дык што з таго? Такі вялікі грэх?

— Ты абкрадаць пасмела нават мёртвых!?

— Аблічча, як адзенне для мяне... Як жарт, не больш таго...

— Я ненавіджу, хіжую, цябе! Ты да дзяцей не падыходзь, змяя! Я сам выхоўваць буду іх па-боску!

— Вой, разышоўся! Сам ён! Ды куды табе? Ляжыш каторы дзень, нібы калека! Мярцвяк жывы!

— Прэч, гадаўка, з вачэй!

— Такім цябе яшчэ мацней кахаю! Знішчай мяне і праклінай, але не пакідай! Цябе мне дастаткова побач бачыць, каб шчаслівай быць!

Зайшліся дзеці плачам з перапуду з-за сваркі, што між бацькамі ўсчалася.

— Вось бачыш, дзетак нашых напалохаў. Цішэй, мае ласкавыя, цішэй... Я з вамі, — Марана стала суцяшаць малых. — На бацьку не звяр-

тайце ўвагі. Ён тут чужы. А вы мае! Мае! Ваш бацька мёртвую кахае Маю. На жаль, багі святое Явы больш любяць мёртвых, чым жывых. Няхай жа Усявышні ім даруе. Яна схілілася над сынам і дачкою і ціха заспявала калыханку:

— Баю-баю! Баю, дзеткі.
Заламана ружа-кветка,
Заламана, затаптаная,
Добрым лёсам непазнаная,
А пазнана горкаю доляю.
Як яе адна адолею?
Баю-баю, баю, дзеткі,
Вы той сумнай ружы кветкі.

## 12

Даймалі думы чорныя Дажбога. Ён прагнуў аднаго — вярнуцца ў Яву, схіляў Марану, каб пайшла з ім разам. Але яна казала, што не здолее прыжыцца ў Яве, дзе ёй ўсё чужое.

Тады Дажбог надумаў уцячы, дзяцей з сабою прыхапіўшы, і момант зручны падбіраў. Ён дачакаўся той часіны, калі Марану Чарнабог паклікаў, патрэба пільная была. Ператварыў дзяцей у жабянят, сам абярнуўся чорным гадам, папоўз па безлічы падземных калідораў. Блукаў ён доўга, а выйсця з-пад зямлі знайсці не здолеў. Як дзеці выбіліся з сілы, мусіў да Мараны зноў вярнуцца. Яна сустрэла позіркам трывожным:

— Дзе вы былі?

— Гулялі... Не можам жа сядзець, як у турме, — ёй адказаў Дажбог.

— Мой любы, так прыемна бачыць цябе гадам! Цуд! Такі прыгожы!

— Ды ўжо ж... Між гадаў жывучы, сам станеш гадам. На ўласнай скуры гэта я праверыў. Гадзючны дух, нібы зараза, ліпне да свядомасці няўзнак.

— Ды годзе, дарагі... Не варта нам спрачацца без прычыны. Тым больш, што трэба ў Яву мне ісці.

— У Яву? Для чаго?

— Ёсць справы там.

— Вазьмі мяне з сабою.

— Навошта? Гэтак я цябе кахаю... А там цяпер і холад, і мароз, баюся нават з-пад зямлі вылазіць.

— Замерзла Ява?

— Уся заледзянела!

— Хачу туды пайсці!

— Я не пушчу цябе, — Марана закрычала. — Зразумей! Кахаю я цябе больш за жыццё! Дзеля цябе пайду на ўсё! Павер! Ты толькі мой!

— Калі ты сапраўды мяне кахаеш, дык адпусці. Глыток хоць волі дай! Я паміраю! Вызвалі мяне!

— Ніколі! Не! І скончана гаворка! Мне трэба йсці наверх!

Дажбог замоўк, нібы змірыўся з лёсам, але сачыў, калі Марана абярнулася змяёй і папаўзла па норах. Ператварыў дзяцей у камароў, сам абярнуўся жабаю вялікай, услед за жонкай паскакаў. Яна ж не заўважала нічога, была занята думкамі сваімі.

У лёхах паступова пасвятлела, і на паверхню выпаўзла Марана, за ёю следам выйшаў і Дажбог. Убачыў ён замерзлую зямлю і прастагнаў ад болю за радзіму. Яна зірнула здзіўлена:

— Ты тут? І дзеці пры табе! Так я і ведала!

— Прабач, інакш я не магу.

— Я разумею... Мне цябе не затрымаць. Будзь вольны! Цябе кахаю болей, чым сябе. Дзяцей пакінь!

— Яны належаць Яве!

— Загінуць... Бачыш, тут няма жыцця!

— Не можа Чарнабог спыніць жыццё, бо без яго і сам ён прападзе — такі закон Сусвету!

— Як будзе цяжка, дык прыходзь, Дажбог! Заўжды буду чакаць цябе і дзетак... Няхай вам шчасціць... Не можам разам існаваць, але мая душа заўсёды будзе з вамі...

— Век буду помніць пра цябе, а большага не абяцаю.

Дзяцей Марана абняла, пацалавала і адарвала быццам бы ад сэрца, пайшла ў завею. Здалёк пачуў Дажбог яе рыданне і паспяшаў хутчэй дзяцей аднесці, бо плакаць і яны распачалі.

## 13

Дажбог туліў сваіх дзяцей замерзлых, казаў пяшчотна ім:

— Не плач, Славуня. Ты добрая прыгожая дзяўчынка, а слёзы сапсуюць твой гожы тварык. Глядзі, патонеш у сваіх слязах, русалкай станеш, усё жыццё сядзець будзеш у рэчцы.

— Не буду, тата... Толькі страшна мне і холадна! Да мамы я хачу ізноў-ку пад зямлю.

— Дзяўчынка, там жа цёмна, непрыгожа... А тут такое неба зорнае! Зірні! Душа мая, як птушка падлятае...

— Тут холадна!

— Заўсёды цёпла тут было раней. Часовы холад — чары Чарнабога... Ты, Багумір, тасама не крывіся, багі ніколі не павінны плакаць, са слёзкамі з нас выцякае сіла.

— Замерзлі ногі і баляць, баляць, — прамовіў Багумір.

— Давай у світку захутаю цябе, каб ты сагрэўся. Мы зараз пойдзем да Сямаргла-бога, ён вогненны і цёплы, там адагрэю вас.

Дажбог узвіўся сокалам над лесам, жытла Сямаргла хутка дасягнуў. Купальніца яго сустрэла, жалобная намітка атуляла яе прыгожы твар.

— Дажбог! Жывы! Мы думалі: загінуў...

— Жывы і нават з дзецьмі ад Мараны. Гэта Славуня, гэта Багумір. Пусці пагрэцца, бо яны замерзлі. А ты чаго ў жалобе?

— Дачка мая малая Кастрама прапала недзе, напэўна птушка Сірын звяла яе сваім цудоўным спевам.

— Яна й мяне да Чарнабога прывяла, а што ўжо пра дзіця казаць...

— Сямаргл памчаўся холад праганяць, шукаць дачку. Я з сынам засталася. Заходзьце, грэйцеся...

— Вялікі дзякуй, Купальніца, за дабрыню. Шукаў я Каляду свайго малога, ды ўсё дарма.

— Жывы твой Каляда!

— Ты праўду кажаш? Дзе ён? Дзе цяпер?

— У Хорса... Хорс знайшоў яго на рэчцы, да берага калысачку прыгнала...

— Мой Каляда жывы! Вы чулі, дзеці! У вас старэйшы брат ёсць! Які цяпер ён? Раскажы, Купальніца, хутчэй...

— Прыгожы, дужы... На цябе падобны...

— Пайду да Хорса.

— Хорс, Сямаргл і Каляда ваююць недзе з Чарнабогам.

— Пайду я ім дапамагаць. Дагледзь маіх дзяцей, Купальніца, прашу...
— Дагледжу, не турбуйся...

## 14

Над Явай панавала ноч. Дадола ясным тварам свяціла без упыну. Сварог, Хорс, Каляда і Вышань ператварыліся ў арлоў і паляцелі на мяжу, якая раздзяляла Наў і Яву. Занесла снегам свет і немагчыма было пабачыць зверху мяжу, якую прааpaў Сварог.

— Глядзіце, Чорны Змей, здаецца, межы скасаваў. Хоць зноўку запрагай яго ў плуг, — сказаў Сямаргл.

— Пячоры снегам замяло таксама, цяпяр дарогу ў Наў знайсці складана, — адзначыў Вышань.

— Што ж нам рабіць? — спытаў трывожна Хорс.

— Дарогу ў Наў пакажа Святагор, ён ведае змяіныя ўсе норы, — упэўнена прамовіў Каляда.

Арлы над белаю раўнінай пакружылі і скіраваліся да гор.

— Спяшаюся я трапіць у царства Чарнабога яшчэ таму, што спадзяюся стрэць там сваю дачушку Кастраму, — сказаў Сямаргл. — Купальніца смуткуе без яе. Дзіця згубіць — пакута невыносная.

— Як хочацца хутчэй убачыць коней! — усклікнуў Хорс. — Я расцалую іх.

Арлы спусціліся ў даліну, ператварыліся ў багоў. Насустрач ім з'віўся Святагор, спытаў разважна:

— Чым паслужыць магу?

— Шукаем уваход у царства Чарнабога. Ён выкраў коней залатых у Хорса, таму на Яву не зыходзіць дзень, затое цемра і мароз пануюць, — растлумачыў Каляда.

— Я пакажу таемную нару, далей ідзіце самі.

— Дзякуй і на гэтым, — Вышань адказаў.

Звярнуў гару магутны Святагор і раскапаў нару да Чарнабога, шырокім жэстам запрасіў:

— Ідзіце! Шчасця вам!

## 15

Багі ў глыбокую пячору апусціліся, і ўбачылі, што цягнуцца ў трох накірунках галерэі.

— Пайшлі сюды, — прапанаваў Сямаргл, палаючы, быццам паходня, і асвятляючы астатнім шлях.

Усе паспешліва памкнуліся за ім, блукалі доўга пад зямлёй, без ліку зварочвалі налева ці направа, калі стаміліся, заўважылі, што зноўку ў той самай апынуліся пячоры з якой свой пачыналі шлях.

— Цяпер налева пойдзем, — прапанаваў Сямаргл, — той калідор падманны быў.

— А можа, лепш направа? — выказаў сумненне Вышань.

— Напэўна, давядзецца зноў на дапамогу клікаць Святагора, — прамовіў Хорс.

— Іду на дапамогу! — пачуўся з цемрадзі басок Дажбога.

— Дажбог! Жывы! — узрадаваўся Хорс.

— Жывы! Жывей быць проста немагчыма!

Дажбога радасна віталі ўсе, толькі Каляда не набліжаўся, здалёк сачыў за тым, што адбываецца.

— Дажбог! Зірні, як вырас твой сынок! — усклікнуў Хорс. — Ну, што ж вы? Каляда! Твой бацька да цябе вярнуўся!

— Сынок! Якое шчасце! Ты са мной! — абняў Дажбог усхвалявана сына.

Збянтэжана ўсміхаўся Каляда, непрыхавана шчасцем ззялі вочы.

— Як ты знайшоў нас, бацька?

— Купальніца пра ўсё мне расказала.

— Падзем'е не для нас, мы заблудзілі, — паскардзіўся Дажбогу Хорс.

— Я толькі што вярнуўся з Наві. А як ішоў адтуль, шлях каменнямі пазначыў, з іх дапамогаю мы хутка знойдзем Чарнабога.

Сямаргл запалаў, нібы паходня, за ім багі паспешліва пайшлі. І хутка ў галерэі Дажбог свае каменьчыкі заўважыў, узрадавана ўскрыкнуў:

— Найкарацейшая гэта дарога. Ішоў па ёй услед я за Марэнай.

Чым падыходзілі багі бліжэй да замка Чарнабога, тым больш Сямаргл хваляваўся. Палаў, як вогнішча, палохаючы змей сустрэчных. Багам магутным шлях ніхто не здолеў заступіць. Яны ўвашлі пад сутарэнні замка. Алмазным бляскам сцены зіхацелі. Да столі рэха крокаў узлятала і разыходзілася па святліцах. Насустрач выпаўз шматгаловы змей, спытаў разгублена:

— Ужо вы тут? А дзе была мая ахова?

— Прыйшлі сюды таемным шляхам, адкуль ніхто нас не чакаў, — сказаў Дажбог.

— Хто здрадзіў мне? Хто таямніцы нашы выдаў? — Змей закрычаў.

— У кожнага свае сакрэты. Тлумачыць я табе не буду, адкуль вядомы таямніцы мне твае.

— Як вы асмеліліся да мяне прыйсці? Ці бачана такое?

— Не варта нервавацца, Чарнабог! — Хорс адказаў. — Прыйшлі мы па сваё дабро. Аддай нам нашых коней залатых!

— Валодаем мы Сваргай разам, дык, значыць, коні мне належаць гэтаксама, — здзекліва прамовіў Чорны Змей.

— Нашто яны табе? Святло ты ненавідзіш!

— Люблю на іх глядзець я так, як вы.

— Нам не да жартаў! Замярзае Ява! — прамовіў злосна Хорс. — Загінуць коні тут! Патрэбная ім неба шырыня!

— Нічога не жадаю ведаць. Няма мне справы да няшчасцяў вашых.

— Ты злодзей, Чарнабог! Цябе на паядынак выклікаю! Гатовы біцца я на смерць, — крыкнуў гнеўна Каляда.

— Занадта малады! Табе мяне не перамагчы ніколі!

— Пабачым, што пакажа час.

Мячом махнуў штосілы Каляда і галаву змяіную адсек, яна ж ізноўку прырасла ў імгненне. Змей Чорны выдыхаў агонь і засціў дымам вочы Калядзе, і малаціў хвастом, нібы дубінай. Зноў замахнуўся Каляда, але дарэмна, колькі ні сек галовы Чарнабога, яны вярталіся назад і прырасталі. Так біўся Каляда, пакуль не зразумеў: дарма губляе сілу. Тады ён Змея асядлаў, мячом стаў паганяць, пакрыкваў сам пры гэтым:

— Цяпер я адпачну! Заўжды мяне насіць ты будзеш на спіне, як панцыр чарапаха! — Каляда зарагатаў, ды так, што сутарэнні там-сям абвальвацца раптоўна пачалі.

— З табою падымуся я ў нябёсы! Ты нават і касцей сабраць не зможаш, калі цябе я скіну з вышыні! — штосілы Змей зароў.

— Ляці, куды заўгодна, ды ад мяне табе не ўратавацца!

Падняўся Чарнабог вышэй за хмары, ледзьве Дадолу не прыбіў ад злосці, ды Млечным Шляхам пагнаў яго ўпарты Каляда да Усявышняга.

Там, дзе свяціўся трон, дзе вобраз Усявышняга праменіўся, Змей Чорны ў пакоры распластаўся.

— Як ты адважыўся сюды падняцца? Навошта вылез з-пад зямлі, дзе жыць табе заўжды належыць? — пачуўся страшны судны голас. — Абрынуты ў прадонне цемры будзеш! Пазбавішся даверанае ўлады!

— Нахабны Каляда мяне прыгнаў сюды! Не ведаў я, дзе паратунак адшукаць! — спалохана прашамкаў Чарнабог, ды ў гэты момант скінуты быў з неба; расхінулася прад ім зямля і сквапна праглынула.

— Толькі чвэрць года холад будзе панаваць у Яве, зямельцы даючы спачынак! — гучала наўздагон.

Зноў апынуўся пад зямлёй разам з Чарнабогам Каляда.

— Вось і прыехалі! — ён весела сказаў.

Змей Чорны перад ім ляжаў, здранцвелы і маўклівы.

## 16

Канюшня Чарнабога замкнёная была на сем замкоў. Магутны Каляда плячом штурхнуў вароты, замкі пасыпаліся, як гарох. Багі толькі ўвайшлі ў канюшню — адразу коні пачалі іржаць, вітаючы гаспадара свайго.

— Мае вы дарагія! Нарэшце, адшукаў я вас! — Хорс коней абдымаў і цалаваў.

— Шчаслівы Хорс! Знайшоў сваю прапажу! А мне ні з чым дамоў вяртацца давядзецца, дачку сваю не здолеў адшукаць. Не будзе чым Купальніцу суцешыць, — Сямаргл сказаў у скрусе.

— Пакуль дачку не ўбачыў мёртваю, чакай, — яму параіў Хорс.

Пусціліся багі ў зваротны шлях. Знясілена ледзьве ступалі коні, аб кожны камень спатыкаліся.

— Замучылі, нягодныя пачвары, дзівосных нашых коней! Як шкада! — сказаў самотна Каляда.

— Нічога! На волі адпаю сытою, пшаніцаю адборнай адкармлю! Зноў будуць бегаць конікі па небе і саграваць цяплом вялікі свет, — прамовіў Хорс. — Ты Каляда адважны! Пераможца! Тым ганаруся, што пры мне ты рос. Такога б зяця мне займець.

— Удзячны шчыра, Хорс, табе за сына, — з усмешкаю Дажбог сказаў. — Я сёння шчаслівейшы ў свеце бацька.

Збянтэжаны такою пахвалой, прамовіў Каляда:

— Ці не зарана святкуем перамогу? Глядзіце нехта пазбіраў каменне, з якім знайшлі мы шлях да Чарнабога.

У прадчуванні новага няшчасця захваляваліся багі.

— Не варта хвалявацца. Нас коні вывезуць, яны на белы свет заўжды дарогу знойдуць, — запэўніў Хорс усіх.

І сапраўды, не шмат мінула часу, як выйшлі коні з падзямелля, паветра свежага ўдыхнулі, пайшлі памалу снежнай раўнінай.

## 17

Страчала Ява пераможцаў хлебам-соллю. Багіні коням залатым сыту паднеслі. З удзячнасцю ў адказ іржалі коні.

Насустрач Хорсу Радаўніца выйшла, сказала ўсмешліва:

— Вярнуўся, бацька! Гэтакая радасць! І залатыя коні зноўку дома! Мы вельмі хваляваліся за вас.

— Каляда пасіліў Чарнабога!

— Я верыла, што так яно будзе.

— Яшчэ адна ў мяне ёсць радасць, донька.

— Якая, тата? Гавары хутчэй.

— Табе я выбраў жаніха, багіня!
— У царстве Чарнабога? Не жартуй!
— Я жартаваць не думаў. Ці згодная стаць жонкай Каляды?
Збянтэжана багіня счырванела, не ведаючы, што і адказаць.
— Ці, можа, ты нязгодная? — спытаў разгублена ў багіні Каляда.
— Я згодная.
— Тады рыхтуйся да вяселля, — і Хорс у лоб дачку пацалаваў.
Насустрач мужу выйшла Зараніца з вітаннем:
— Мілы Хорс! Ты дома! Якое шчасце — бачыць мне цябе!
— Парадую цябе і тым, што Радаўніцу я за Каляду сасватаў.
— Хацела б радавацца, ды ці час нам пра вяселле думаць, калі зіма навокал нас пануе, — стрымана сказала Зараніца.
— Вяселле зладзім, як вясна надыдзе, — прамовіў Каляда. — Сады ледзь зацвітуць, апранутыя ў беласць, тады і Радаўніца зможа з пялёсткаў вэлюм дзіўны апрануць.
Купальніца Сямаргла абвіла за шыю і загаласіла:
— Вярнуўся без дачкі ты! Як мне жыць? Надзея найапошняя сканала! Забі мяне, Усявышні! Невыносна гэткі боль трываць!
— Не плач, каханая. Хоць мы багі, не ўсё ад нас, на жаль, залежыць, — пачаў Сямаргл багіню суцяшаць. Не варта турбаваць дарма Усявышняга. Калі на тое будзе воля боская, дык вернецца дачушка Кастрама.
Купальніца заплаканы свой твар далонямі ў адчаі затуліла, але не здолела суняць рыданні. І тут Дажбог спытаў лагодна:
— Купальніца, скажы мне, калі ласка, дзе мае дзеці?
Яна скрозь слёзы паглядзела і паказала ўбок рукою:
— Вунь жа яны — Славуня з Багумірам.
Дажбог зірнуў і не паверыў сваім вачам: дарослыя ўжо сталі дзеці.
— Славуня! Багумір! Ці гэта вы? Ніколі не пазнаў бы вас.
— Вярнуўся, тата! — дачка прыпада да грудзей Дажбога.
— З вяртаннем, бацька! — мовіў сын баском.
Дажбог дзяцей ласкава абдымаў і сцяміць аніяк не мог, ці дзеці выраслі так хутка, ці ён задоўга затрымаўся ў тым паходзе. Сказаў ён Калядзе:
— Знаёмся, гэта твае малодшыя брат і сястра. Шануй іх, і жывіце дружна.
Сястра з братамі абняліся, Славуня нават праслязілася:
— Шкада, што мамы з намі тут няма.
— Яна нас бачыць сэрцам мацярынскім, але ёй наша Ява невыносная, — Дажбог прамовіў задуменна.
Да іх нясмела Жыва падышла, сказала шчыра:
— Нарэшце разам вы. За вас я рада.
— Шчаслівы дзень! — Дажбог згадзіўся. — З'ядналася, нарэшце, уся сям'я!
— Дажбог, вярнуўся ты з прытулку мёртвых, бадай, інакш, як цудам, гэта не назваць. Адно я не магу спасцігнуць, як мог ты пакахаць Марану?
— Яна прысвоіла аблічча Маі, гэткі падман мяне зачараваў. Але я з цягам часу зразумеў, што мы чужыя. Галоўнае — не знешнасць, а душа.
— Мне радасна, што перамог палон ты,ману і смерць! — захоплена скала Жыва.
— А я счаслівы, што ў Яве помняць пра мяне, чакаюць, любяць.

## 18

Страчала новы дзень малітвай Ява:

Святы Хорсе, любы свету,
Кола сонца каці ў лета,
Спявай песню,
Радзі весну,
Стрэлы промняў
Цэль у зіму,
Няхай холад з ёю згіне.
Святы Хорсе, любы свету,
Кола сонца каці ў лета.

Запрог Хорс коней залатых у калясніцу, па белым полечку паехаў, падняўся ў неба — пасвятлела раптам. Спачатку коні спрытна паскакалі, ды хутка стома іх апанавала, не здолелі яны падняцца вышай і хутка апусціліся дадолу.

— Ах вы, мае натомленыя коні, — прамовіў Хорс са шкадаваннем. — Далося ў знакі вам жыццё ў Чорнага Змея. Ды веру: вернецца да вас былая сіла. Мы холад пераможам Чарнабогаў. Напоўнім Яву цеплынёй, святлом!

Па краю неба праімчала калясніца, заплакалі на дахах ледзяшы, але за ноч замерзла зноўку Ява.

Аднак жа дзень за днём усё вышэй Хорс падымаўся, бо коні сілы паступова набіраліся. Даўжэлі дні патроху, і болей Ява саграваласяпад промнямі, што нам дораць жыццё. Аднойчы коні доўга так былі на небе, што дзень стаў роўны ночы. Снег раставаў, тут жа сплываў вадой у рэкі, якія раптоўна выйшлі з берагоў. Вада шумела, прыбывала, змывала ўсё і разбурала. Яна да жытлаў нават падступіла і хлюпала пад ложкамі і лавамі.

Сабраў Сварог сыноў, сказаў ім:

— Паводка падступіла. Не доўга гэтак да патопу.

— Што ж нам рабіць? Як ратаваць людзей? — спытаў Дажбог.

— Няхай багі ўздымаюцца на неба. А людзі могуць перачакаць бяду ў гарах.

## 19

Памалу вада спадала, вызваляючы жытло, размытыя дарогі і палі. Дажбог і Жыва з неба аглядалі разбураны, непазнавальны свет.

— Зямлю трэба нанова абжываць пасля паводкі, — сказала Жыва. — Яна руплівых рук чакае.

— Гатовы гэтым я заняцца неадкладна. Дабраахвотнікаў знайду сабе, — Дажбог сказаў.

— Якая Ява ў нас цудоўная была, каб зноў усё вярнуць.

— Мы зробім прыгажэйшаю яе...

— Глядзі, Дажбог, вунь сумны лесавік блукае паміж дрэў. А там русалкі на вярбе сядзяць.

— Зямля наша жывая.

Да Жывы і Дажбога Лада падышла, ім усміхнулася ласкава:

— Я заўважаю, дзеці, што даўно вам добра разам. І благаслаўляю вас на годнае сумеснае жыццё.

— Так нечакана, — прашаптала Жыва.

— Доўгачакана, — адказаў Дажбог. — Вялікі дзякуй, Маці Лада, што зразумела сэрцаў парыванні.

— Хто ж зразумее вас, калі не я. Ідзіце на зямлю, яе зноў абжывайце, скрозь сейце радасць, шчасце і жыццё. Сварожычы вам дапамогуць.

— Ярылу возьмем, будзе нам араць, людзей навучыць гэтай добрай справе; Стрыбога, каб прыводзіў хмаркі дажджавыя; Сямаргла, каб падтрымліваў агонь, — сказала Жыва.

— Усё ў вас атрымаецца! Я ведаю. Ды перш давайце сядзем за святочны стол, адзначым ваша, родныя, вяселле...

— Дажбог, што скажуць твае дзеці? — трывожна запытала Жыва.

— Яны дарослыя, у іх сваё жыццё. Цябе кахаю я, дык быць вяселлю.

Сабраліся багіні і багі ўшанаваць Дажбога з Жывай, ім шчасця пажадаць у шлюбе, шмат дзетак і бясконцага жыцця. Гучалі песні ў гонар старых і маладых багоў:

Маці Лада сонцам свеціць,
Бацька Сварог каравай месіць,
Сварожычы ваду носяць
Ды ў Рода долі просяць.
Дай, Родзе, долю маладой,
Каб не зналася з бядой.
Дай, Родзе, долю маладому,
Каб не знаўся ён з бядою.

## 20

Ярыла ранкам белую кашулю, нібы на свята апрануў, пайшоў на поле, дзе глеба ўжо яго чакала. Конь плуг цягнуў рахмана, пракладваючы баразну. Пярун аратага заўважыў з неба, вясёлым грукатам яго вітаў:

— Паллю твае палі дажджом, густая будзе рунь. Табою ганаруся, мой Ярыла! Такога сына мець...

— Ярыла мой! — сказаў Вялес, які раптоўна вылез з цёмнае нары.

— Вялес! Вярнуўся! — загрымеў Пярун.

— Як бачыш!

— Пашкуматалі трохі там цябе.

— Яшчэ чаго! Я сам магу пашкуматаць каго заўгодна.

Пярун зляцеў уніз, Вялеса, запытаў:

— Чым здолеў адкупіцца?

— Са мною Чарнабогу было цесна.

— Падумаць толькі! Вялеса пад зямлёю затрымаць. Я думаў, што ты перавернеш усю Наў, — зарагатаў Пярун.

— Гляджу — здзіўляюся: змянілася ўсё надта.

— Перажылі паводку мы такую, была яна падобна на патоп.

— Шкада, што не было тады мяне!

— Мінула ўсё, зноў Яву абжываем.

— Пайду Ярылу дапамагаць! Хто гэта там арэ з ім побач? — спытаў Вялес.

— Новыя багі і людзі.

— Казаў мне Чарнабог, калі вярнуся, маладых багоў народзіць Ява. Я буду ім чужы. Мяне забудуць.

— Ён не ўлічыў пры гэтым, што старыя багі жыць будуць вечна, — сказаў Пярун, паляпаў па плячы Вялеса, як быццам выпрабоўваў. — Як пачуваешся?

— Выдатна! Нясу з сабой зямны цяжар, зямное прыцягненне! Хочаш падняць?

— Не! Не варта! Ёсць справа тэрміновая ў мяне.

Пярун на чорных конях паімчаўся, але чуваць яшчэ быў доўга грукат колаў.

Русалкі, берагіні, палевікі, лесавікі, балотніцы збягаліся гурмою да Вялеса, віталі радасна яго і абдымалі, смяяліся і плакалі ад шчасця:

— Вярнуўся бацька наш і гаспадар! Яга больш намі кіраваць не будзе!

— Чаму не спадабалася Яга?

— Бо на балотах нечысць развяла! — сказаў з пагардай Лесавік.

— У кожнага свой нораў. Я паўплываю на яе, — паабяцаў Вялес.

Натоўп вакол яго ўсё рос і рос. Прыйшлі звяры: зубры, ваўкі, лісіцы. Зляцелася ўсё птаства. Такі пачаўся гоман, што Род прыкрыкнуў з неба:

— Цішэй там на зямлі. З-за вас не чую зорнай песні.

## 21

Ярыла баразну выводзіў роўна, была яна, нібы страла, што мкне за даляглядаль. Зямля ўздыхала шчасна, калі ўразаўся ў яе нарог, гатовая радзіць. Араты плуг вёў адмыслова, араў не глыбока, а так, каб пладаносны пласт, паводкаю намыты, радзіў найлепей.

Міжволі Жыва любавалася Ярылам, штосьці вышываючы каля акна. Дажбог таксама быў заняты справай, рабіў ён бочачку для мёду, ды часам кідаў позірк на багіню. Яе ён да Ярылы раўнаваў.

— Чаго ты на аратага глядзіш? — спытаў ён жонку.

— Хачу такога ж сына, як Ярыла. Вырошчваць хлеб уласнымі рукамі — найлепшая на свеце справа.

— Шчаслівы буду, як народзіш сына.

— Я вышыла яго на палатне, душу ўдыхну — і будзе ён жывы.

Дажбог адклаў стамеску ўбок, да Жывы падышоў, зірнуў на вышыванне, здзівіўся:

— Ды ў цябе тут два сынкі...

— Так, два. Першы — Араты, а другі — Касец, яшчэ ён будзе даглядаць жывёлу. А зрэшты, справы хопіць тут усім.

— Ёсць, Каляда, у мяне, магутны сын, ёсць Багумір, сардэчны і прыгожы, Славуня ёсць — ласкавая дачушка. Калі яшчэ падорыш двух сыноў — найшчаслівейшы буду бацька, — усмешліва сказаў Дажбог, абняў лагодна Жыву.

Удваіх яны ўдыхнулі душы ў дзетак — і бажаняты раптам ажылі, заплакалі знячэўку:

— Ціха, ціха, маленькія мае, — шаптала Жыва, люляючы сыноў.

І тыдзень не мінуў, а ўжо блізняты з Ярылам побач працавалі ў полі, а ён вучыў іх, як старэйшы брат.

## 22

У дзіўнай Яве ў квецень прыбраліся сады. Ружовыя і белыя галіны люлялі кветкі, водар выдыхалі, да іх шумліваю гурмой ляцелі пчолы. Гулі сады іх зумканнем бадзёрым.

Стрыбог пялёсткаў незнарок кранаўся, яны злятаті, абсыпалі глебу, нібыта цёплы снег.

Багіні юныя вадзілі карагод, спявалі голасна і гожа, іх галасамі поўнілася неба:

Едзе вясна, едзе,
Хто яе не згледзеў!
На залатым кані,
У зялёным саяні,
На сошцы седзячы,
Сыру зямлю аручы.
Вязе, вязе вясна,
Вязе, вязе красна
Ясныя дзянькі,
Чыстыя дажджы,
Красныя цвяточкі
Нам на вяночкі!

Здавалася, з пялёсткаў вішні была сукенка ў Радаўніцы сшыта. І з захапленнем Каляда сачыў за любаю нявестай. Багі хвалілі маладых і кубкі ўздымалі з хмельным мёдам.

У гонар Каляды Хорс тост сказаў:

— Жаніх наш слаўны выратаваў коней, каб яны святло дарылі Яве. І гэтае вяселле — чароўны сімвал абуджэння глебы, надзея на добры ўраджай. Будзьце шчаслівыя заўжды, жывіце вечна ў радасці, любові. Мы любім вас, за вас п'ем, маладыя.

Падараваў Дажбог нявесце галінку вішні, а яна сардэчна падзякавала свёкру, водар удыхнула. З галінкі раптам на руках нявесты ўзнікла бажанятка.

— Нам Усявышні першынца паслаў, — сказала Радаўніца ў захапленні.

— Наш сын! Такая радасць! — ускрыкнуў Каляда.

За шчасце маладых і за здароўе сына ахвотна госці кубкі паднялі і выпілі да дна.

— Мы сына Радзегостам назавём у гонар нашых дарагіх гасцей, — казаў шчаслівы бацька.

— Расці, мой Радзегост разумны, дужы, — шаптала Радаўніца з любасцю над сынам.

Заранка над унукам нахілілася і спавіла ў воблачка яго.

— Хачу я ўнучку Сваргу паказаць, — прамовіў Хорс.

Ён Радзегоста пасадзіў у калясніцу, пагнаў па небе коней залатых, гаворачы пры гэтым:

— Глядзі, маленькі бог, які цудоўны свет!

З тае пары і павялося: святкуюць людзі Каляду ў пачатку матухнызімы, калі на лета сонца паварочвае. А Радаўніцу адзначаюць, калі сады цвітуць, надзею дорачы на будучае шчасце. У гэты дзень тых згадваюць, хто незваротна ў Наў пайшоў, ды помнячы пры гэтым, што душы продкаў ўсё ж зрэдчас наведваюць нашчадкаў.

## 23

Касец з Аратым, як толькі перанялі ў Ярылы навуку сейбітаў, сабе ўзялі надзел зямлі ўрадлівай і хату вырашылі будаваць над рэчкаю, дзе рос вялізны куст лазовы. Так шкадавалі гэтую зямлю.

Куст высеклі, спалілі хлуд, зруб узвялі сасновы, залаты, з бярвенняў, што зімой нарыхтавалі, калі драўнінны сок драмаў у каранях. Будоўлю пачалі ў чацвер, на маладзік, на ўсходні кут вянца-падрубы паклалі жменьку жыта і авечай поўсці на плённы ўраджай і на прыплод.

Жывіцаю і борам пахла ў хаце. Святога запрасілі ведуна, каб асвяціў вадою загаворанай, жывым агнём жытло і жыхароў. З бацькоўскай хаты ў горшчыку вуголле прынеслі, высыпалі ў печ і развялі агонь. На покуць урачыста паставілі дзяжу з цестам на хлеб. І надта ж задаволены былі, што справілі ўлазіны да халадоў. Хлеў талакой паставілі, была гатовая сядзіба — радуйся, жыві.

Бацькі Дажбог і Жыва прыдзірліва агледзелі сядзібу, у хлеў зайшлі, дзе дзве каровы жавалі жвачку смачна, дзе коні фыркалі над сенам у яслях, парадаваліся за сыноў, ім пажадалі плёну і дастатку.

## 24

Вясною, ледзь снягі сысці паспелі, трава яшчэ не паднялася нават, а ўжо сярод двара, на агародзе, на прызбе, з-пад сцяны лазняк прабіўся. Колькі лазу ні высякалі, яна нязводна прарастала зноў. Араты і Касец змірыліся і вырашылі пачакаць ды паглядзець, што ж будзе.

Лаза так разраслася, нібы лес, няма нідзе ні сцежкі, ні дарожкі, усё на градах знішчыла. Бяда! Заходзілі суседзі паглядзець. Адзін параіў соль пад карані падсыпаць; другі сказаў: заліць патрэбна варам... Але пустыя ўсе былі парады, нязводнай заставалася лаза.

Хацелі ўжо гаспадары на іншае перабірацца месца, але наведаў неяк іх Дажбог, здзівіўся:

— Што ж вы, дзеткі, у гэткім дзікім жывяце кустоўі?

— Не ведаем, што і рабіць нам, бацька. Лаза, як насланнё якое, яе агонь з вадою не бяруць. Падумваем, мо хату перанесці?

Дажбог зірнуў на хату, на лазу, што паднялася ўжо над дахам, сказаў:

— Зрабіце вось што. З дожджыкам выкапайце кожную лазіну і пасадзіце на беразе ракі. Калі ўсё зробіце, як след, дык да вясны ўвесь куст да рэчкі сам перабярэцца.

Дажбог толькі прамовіў тыя словы, адразу заімжэў дробненькі дожджык, сыны за працу хуценька ўзяліся. І спраўдзілася ўсё, што бацька прадказаў. Праз тыдзень з агарода і двара лаза сышла, на беразе ракі павырастала новых шмат кустоў.

## 25

Вянок пляла красуня Кастрама. Жылося цяжка з Бабаю-Ягою, таму багіня болем і тугою дзялілася з ракою, лесам, лугам. Тут быў яе прытулак самы лепшы, ніхто не крыўдзіў і не абражаў, любілі тут яе і разумелі. Свавольны вецер гладзіў валасы, шалеў і абсыпаў пялёсткамі багіню.

— Дуронік вецер, не чапай мяне, — казала Кастрама са смехам.

— Лячу я міма толькі...

— Сплягу вянок, а ты яго не здымеш.

— Не ведаеш зусім ты, Кастрама, што я магу быць моцны, быццам бура! Падняць цябе магу, на край зямлі занесці!

— Няўжо? Не веру! — Кастрама вясёлым смехам залілася.

— Не верыш? Падхаплю...

— Яга будзе сварыцца...

— Я падуладны аднаму Стрыбогу!

— Дык занясі мяне, Дагода-вецер, у іншы, у цудоўны край! Мне сніцца ён, нібыта там жыла калісьці, але нічога ўспомніць не магу.

— Спытайся ў Ягі, яна мо знае, пра што твой сон.

— Яна не любіць размаўляць са мной. Нервуецца, крычыць, злуецца...

— Ляцім, — рашуча вецер ёй сказаў. — Яга нас не дагоніць, вось пабачыш.

Дагода закруціўся ўраз на месцы, слупом падняўся, падхапіў багіню, панёс у Яву, апусціў на лузе. Яна на беразе ракі прысела, спляла вяночак, на ваду пусціла і заспявала:

Вы лугі мае,
Вы зялёныя!
На вас красачкі
Усе барвовыя.
Красачку сарву
І вянок спляту.
Ты скажы, вянок,
За каго пайду.

Пайшла багіня следам за вянком, з надзеяй, што да шчасця прывядзе ён. Яна мінала спелыя палеткі, дзе шчыраваў на полі бог Ярыла, яму дапамагалі Араты і Касец, сустрэла Хорса ў залатым вазку, багіню Дзіву ў лесе ля канвалій... Юнак прыгожы, што плыў у чаўне падняў яе вянок, гукнуў на бераг:

— Краса-багіня, гэта твой вянок?

— Так, мой!

— Яго злавіў я. Ты нарачоная мая цяпер...

— Выходзіць, так...

Юнак да берага прыстаў, шчасліва ўсміхнуўся Кастраме:

— Якая прыгажуня маёю будзе жонкай...

— І ты таксама гожы бог. А як завуць цябе?

— Купала.

— Я Кастрама.

— Калісьці меў сястру я Кастраму, ды птушка Сірын выкрала яе.

— Няшчасная дзяўчынка! Як шкада...

— А ты чыя дачка?

— Бабы-Ягі, але яна мяне ніколі не песціла і не любіла. Я падчаркаю ёй была хутчэй. Таму ўпрасіла ветрыка Дагоду, каб перанёс мяне ў прыгожы край. І вось я тут.

— Пабрацца мусім мы, красуня Кастрама, як кажа звычай Явы.

— Калі такі ў вас звычай, дык згодна я на шлюб. Прыйшоўся ты да сэрца мне таксама.

## 26

Вяселле віравала і гуло, багі пілі суру за маладых. А Кастрама ў бялюткім вэлюме свяцілася, як сонейка, ад шчасця і кахання. Купала, юны бог, што ёй няўзнак сустрэўся, стаў самай дарагой істотай. Хінулася душою да яго, нібы ён быў на свеце самы родны.

Бацькі Купалы прынялі нявесту, як дачку: Сямаргл, агністы і пякучы, абняў яе, цяплом дыхнуў у твар. Купальніца яе пацалавала, заплакала:

— І ў нас была дачушка Кастрама, але яе мы назаўжды згубілі...

— Казаў Купала мне, вам спачуваю...

— Дык, пэўна, ты заменіш нам дачку.

— Я так хачу ўрасці ў вашу сям'ю, бо тут адна я. Мой родны лес, што гадаваў і песціў мяне, адсюль далёка. Я прыляцела з ветрам, каб знайсці тут сваё шчасце.

Зноў Ява балявала, а Квасура мёду наліваў гасцям паўнютка ў кубкі. Дажбогаў Багумір дапамагаў яму, старанна пераймаў дасціпнасць словаў,

жэсты. Упершыню ён сам для гэтага вяселля асурыў мёд. Быў горды надзвычайна. Хвалілі госці добрую суру. Квасура падліваў ды прыгаворваў:

— Каб пілося, елася, ды яшчэ хацелася! Чарачка, каточак, кацiся ў раточак...

Крычалі госці:

— Горка! Горка! Горка!

Абняў Купала Кастраму, пацалаваў, здалося, шчасця найвялікшага ніколі яшчэ ў жыцці ён і не адчуваў. Нявеста счырванела сарамліва, твар захінула вэлюмам бялюткім, бы сонейка схавалася за хмарку.

Багі пілі суру, вадзілі карагоды да знямогі, пасля спявалі тое, што клалася на шчырую душу:

Чаго, яблынька, адна
Стаіш сярод поля?
Сёння напаткала
Цябе твая доля.
Больш не будзеш жыці
Адна-адзіночка,
Мы цябе пасадзім
Ў нашым садочку.
Годзе табе, Кастрама,
Адной бедаваці,
Сёння ты займееш
І бацьку, і маці.
Сёння цябе шчасце
Тваё напаткала.
Аддаём цябе мы
Замуж за Купалу.

Ды час прыспеў, пакінуць маладых сам-насам.

Купала зняў з нявесты вэлюм, касу яе расплёў і толькі зараз згледзеў на шыі ў любай гэткі ж абярэг, які і сам насіў.

— Адкуль ён у цябе? — спытаў жаніх.

— Не ведаю, — нявеста адказала.

— Чаму ж ты не дазналася ў матулі?

— Не звыкла з ёю шмат я гаварыць. Яна была занята надта справай і гойсала на ступе па лясах... А што?

— Дакладна гэтакі на шыі і ў мяне... Вось паглядзі, бурштынавы каменьчык. Кавалачак бурштыну мае бацькі на двое разламалі, з аднога зрабілі абярэг сястры маёй, з другога — мне. Калі злучыць іх... Бачыш? Супадаюць...

— Купала, значыць, я твая сястра? — разгублена сказала Кастрама. — Ніколі не змагу тваёй стаць жонкай...

— Гэта памылка нейкая... Бацькоў давай спытаем...

Сямаргл успалыхнуў:

— Мо супадзенне?

Купальніца заплакала:

— Знайшлася Кастрама, мая дзяўчынка. — Якая ж вырасла ты прыгажуня, ды без мяне, на жаль...

— Як жыць, нам? Калі мы брат і сястра? — спытаў разгублена Купала, з надзеяй паглядзеўшы на бацькоў, як быццам ведалі яны ягоны лёс наступны.

— Ніяк... Нічога не хачу, — прамовіла адчайна Кастрама. — Бывай, мой любы брат Купала.

Яна руку яму ледзь падала, каб назаўсёды развітацца, як воляю Усявышняга яны раптоўна сталі ярка-жоўтай кветкай з прыкветнікамі з ультрамарыну, сабранныя ў суквецці. Заплакалі Купальніца й Сямаргл, расліну

тую перанеслі ў сад і даглядалі як любімых дзетак. Увосень кветка адцвіла, насенне вецер па зямлі рассеяў, з тае пары завуць расліну «брат з сястрой».

Стагоддзі прамінулі, ды дагэтуль у самы доўгі летні дзень люд ушаноўвае багоў Купалу з Кастрамой, прыносіць ім вянкі ў ахвяру і спадзяецца на спрыянне.

Багіня Кастрама ўдалася ў бацьку, свет ачышчае полымем яскравым, здароўе дорачы, надзею, сілу.

Кастраму мы апраналі,
Разам весну праважалі.
Пройдзе вясна акругаю,
Будзем чакаць другую.

Купала чысты, як вада крынічная, нораў узяў Купальніцы-матулі, зямлю ўмывае шчодраю расою. Купалін вечар вогнішчам палае, патрэсквае сасновымі паленцамі, гучыць вясёлай шматгалосай песняй:

Хто не пойдзе
На Купалле,
Лада-Лада,
На Купалле!
Дык той будзе
Пень-калода!
Лада-Лада,
Пень-калода!
А хто пойдзе
На Купалле,
Лада-Лада,
На Купалле!
Будзе чысты,
Як бяроза!
Лада-Лада,
Як бяроза!

## 27

Сабралі добры ўраджай Касец з Аратым. У кош насыпалі буйнога зерня с першага снапа і кветкамі ўпрыгожылі яго. Вялізны каравай спяклі, назвалі Багачом яго. Празорым днём, калі лістота дрэў паспела золатам ужо набрацца, пайшлі браты да бацькі з маці, каб плён уласнай працы паказаць. Ішлі, спяваючы, і разлягаўся лес ад рэха, іх песню паўтараючы:

А ў нашай старонцы
Ласкавае сонца!
Срэбныя бярозы,
Сосны залатыя!
А мы маладыя!

Квасура стрэўся па дарозе ім з барылкай на плячы, спытаў братоў:
— Куды сабраліся?
— Да маці з бацькам у адведкі.
— І я да іх. Хачу Дажбога з Жывай пачаставаць мядком.
— Як праспяваем песню добрую пра пчол, мо нас таксама пачастуеш, — сказаў Касец і песню зацягнуў, Квасура з Аратым бадзёра падхапілі:

Пчолачкі рыжыя
Узімку выжылі.
На поле лятуць,
Гудуць, гудуць.
З поля лятуць —
Мядок нясуць.

І тут сустрэўся ім Вялес, які гнаў статак, сустрэчных шчыра павітаў.
— Куды ты гоніш сыты статак свой? — спытаў Квасура.
— Дажбогу хачу падзякаваць за ўраджайны год.
— Яму нясём таксама падарункі, — прамовілі браты-блізняты.
— Нам па дарозе! Пойдзем разам, — сказаў Вялес і заспяваў:

Дзве сотні кароў
Кажуць: будзь здароў.
На пашу ідуць,
Траву скубуць.
З пашы ідуць —
Малако нясуць.

Нарэшце стрэўся ім яшчэ Сямаргл, які агонь нёс малады Дажбогу, каб распачаць ім новы дбайны час.

Дажбог вароты расчыніў шырока, гасцей сардэчна запрасіў у дом. Загнаў Вялес свой статак незлічоны. Квасура ўручыў барылку мёду. Сыны на стол паклалі каравай, паставілі кош зерня маладога.

Матуля Жыва прыняла дарункі, падзякавала шчыра і пачала гасцей жаданых частаваць.

— Ешце на здароўе, дарагія! Нас адарыла Матухна-Зямля ўраджаем! Род блаславіў на шчаснае жыццё. Сёння зраўняецца дзень з ноччу, а коні Хорса замарудзяць бег, каб адпачынак глебе даць зімой. У гонар свята Багача, што нам спрыяе, запалім мы агонь, які нас будзе грэць да самае вясны і асвятляць нам вечары за працай, калі мы будзем прасці, ткаць і шыць. Прамовіла ледзь чутна Маці-Жыва малітву да агню:

Бацечка-Агонь,
Душы разняволь,
Крылы распрастай,
Угору узлятай.
Ліха прагані,
Нас абарані.

Сямаргл лучыну распаліў новым агнём, які святлом напоўніў душы і Кола Года зноўку распачаў.

З тае пары і адзначаюць людзі свята восені Багач, якім Дажбога з Жывай ушаноўваюць. З тым святам да людей прыходзяць новы хлеб, дастатак, шчасце.

Спрадвечна коціцца за сонцам Кола Года, адлічваючы эры і эпохі. Зіма, вясна, лета і восень прыходзяць зноў і зноў, прыносяць будні святы, прысвяткі. Жыць Роду вечна па Законе Праўды, што дадзены Усявышнім.

Бацечка-Род!
З году ў год
Дай нам сілку
На новую ніўку.
Беды згараць
У новым агні.
Бацечка-Род,
Нас абарані.
Слава! Слава!

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

## НАТАЛЛЯ РУСЕЦКАЯ

* * *

Я іду па расталай зіме,
слотным снегам апошнім,
па зямлі,
набрынялай вясноваю прагаю жыць.
Я іду па халоднай вадзе,
мяккім небам абложным,
ў вышыні
нада мною захмарнае срэбра дрыжыць.

Я нясу каляровы букет
чорна-белай парою,
як вясёлка,
выходжу з ракі і знікаю ў рацэ.
А самотны мой цень
след у след патрапляе за мною
і раскроеным яблыкам
сэрца сціскае ў руцэ.

* * *

Я глытала ноч, нібы мора,
як сваё салёнае гора —
ў чорным кубку шукала дно,
не пілася ночка нагбом.

Горлам ноч сцякала бясконца,
нечакана зірнула сонца,
а наўкол маіх сініх воч
недапітай стаяла ноч.

* * *

Будавала — парассыпалася,
выцінала — не паўкладалася,
не кахала — хоць сустракалася,
палюбіла — ды развіталася
і ніколі больш не спаткалася...

Раскідала — пабудавалася:
мара хаткай утульнай сталася.
Вецер дзьмуў, а яна трымалася.
Я да шлюбу ў ёй прыбіралася,
як пайшла, то больш не вярталася...

* * *

Аднастайных дзён маіх гарлачыкі
толькі ўчора звялі на вакне.
І нікому, пэўна, не заплачацца
ні па красках гэтых, ні па мне.

Ці даўно з табою развіталіся?
Што чакаць нам разам ад жыцця?
Я хачу, каб сонца пасміхалася
так табе, як мне тваё дзіця.

* * *

Пустыя соты любых вуснаў —
пілі з іх вусны не мае.
На больш прыроды не стае —
адзін глыток п'янкі, спакусны.
І што з таго, што ты вярнуўся?
Я не магла перацярпець...
Даўно забыліся цябе
мае патрэсканыя вусны.

* * *

Хто мяне шукаў — не знайшоў,
не заўважыў, побач прайшоў;
хто мяне ўлавіў — не ўтрымаў,
дом на ключ ён не замыкаў;
хтосьці меў мяне, ды згубіў,
бо паўсюль з сабою вадзіў;
а хто нават марыць не мог,
да таго прыйшла на парог
і сябе пільную сама,
мне адсюль дарогі няма.

* * *

Інквізітарка Восень
паліць бязвіннае лісце:
чырванеюць нябёсы,
зямля — сівее,
адвечная чарада падзей
шыбуе ў вырай.

**АДАМ ГЛОБУС**

# ДЗЕД

*СЛОВЫ ПРА ДЗЕДА МАЙГО УЛАДЗІМІРА*

### Аддаленасць

Углядаюся ў мінулае. Яно расплываецца, як акварэль на вільготнай паперы. Вобраз дзеда зусім далёкі, як сон; нібыта ён — мой дзед Валодзя — і не меў той вызначальнай ролі ў маім станаўленні, якую ён меў. Заўсёды, калі жыццё пераломлівалася, страчвала каштоўнасць, а жах і няпэўнасць авалодвалі маёй душой, згадваўся дзед, ягонае простае сялянскае жыццё. Я казаў сабе, калі твае творчыя і палітычныя ілюзіі рассыплюцца, калі грошы скончацца, калі сябры знікнуць, ты вернешся ў вёску Babaкомшчына і будзеш пасвіць каровы, і ў полі пад вялікім небам пісацьмеш вершы. Менавіта вобраз дзеда Валодзі доўгі час даваў мне кропку апірышча. Зямля, поле, дарога, хата, карова, калодзеж, рэчка, лес. Усё гэта — аснова, усё непарыўна было звязана з дзедам. Цяпер не так. Ён — успамін. Мне цяжка пачуць ягоны голас. Даводзіцца доўга напружана настройвацца, каб усё ж пачуць яго слова, слова, сказанае голасам дзеда Валодзі. Яшчэ я чую яго. Яшчэ ўсё чую...

### Акварэль

На Неўскім праспекце мама купіла мне акварэльныя фарбы. Яны называліся «Ленінградскія». Набылася вялікая каробка і яшчэ з дзясятак колераў, што прадаваліся ў маленькіх ванначках уроссып. Усю дарогу дадому, у Менск, я думаў пра акварэльныя малюнкі. Колькі розных сюжэтаў і кампазіцый з'яўлялася ў маіх марах... Безліч. Эрмітаж мяне ўразіў. А найбольш здзівіў Шардэн. «На дзюбцы пэндзля ў яго не фарба, а само жыццё», — перад нацюрмортам Шардэна сказала маміна сяброўка Кіра, мастацтвазнаўца з Эрмітажа. «Само жыццё...» Найлепшымі фарбамі я мусіў намаляваць «жыццё». Пасля Зімняга палаца, Ісакіеўскага сабора, вуліцы Растрэллі, сфінксаў каля акадэміі мастацтваў, бронзавых коннікаў, я намаляваў свайго дзеда Валодзю на ровары. Намаляваў вялікае, крытае саломаю гумно і высозныя срабрыста-крохкія таполі пад рэдзенька-шарым небам. Дзед быў у кепцы і клятчастай сіне-белай кашулі. Акварэль рабілася доўга і старанна, але расчаравала мяне так, што была падраная на дробныя шматкі і выкінутая ў смеццеправод.

## Вы

Тата з братамі звярталіся да майго дзеда толькі на «Вы». Баба казала пра яго «наш бацька». Слова «бацька» нейкім чынам засталося ў нашай сям'і за дзедам Уладзімірам. Бо да свайго бацькі мы казалі «тата», а мама гаварыла «Чэсь», «мой Чэсь», мае дзеці звярталіся па-сталічнаму «Вячаслаў Уладзіміравіч...» Мне вельмі падабалася да дзеда з бабай звяртацца на «Вы». Наогул, «ты» не далюбліваю, нейкае яно не зусім нашае. Нібыта ўсе свае, нібыта блізкія, сяброўскія, таварыскія, а насамрэч «Вы» да свайго дзеда правільна, а калі так, то яно і вернецца.

## Хада

Адметнасць хады дзеда Уладзіміра я заўважыў на фотаздымку, які зрабіў тата ў Маскве. Па Чырвонай плошчы крочыў мой брат Мірык. Вастраносыя чаравікі, джынсы, усмешка, сабор Васіля Бажаволка. І раптам я згадаў здымак дзеда. Боты, клячастая кашуля, кепка, гумно, крытае саломай... Агульнае, падобнае? Хада. Унук і дзед аднолькава рухаюцца, аднолькава выкідаюць нагу наперад, і насок ідзе крышку ў знешні бок. Такое ўражанне, што па Чырвонай плошчы ідзе малады дзед Валодзя, а па вясковаму падворку крочыць стары Міраслаў. І тата, і я мелі той жа самы крок, тую самую хаду. У мяне кепскі зрок, таму, каб пазнаць чалавека, я запамінаю паставу, хаду, рух паставы. Для мяне вельмі важна, як чалавек ідзе, таму я лёгка пазнаю знаёмага ў натоўпе. Зрэшты, што ёсць жыццё? Чалавек выйшаў з дому і вярнуўся дамоў. Дзіўна другое: дзед і ўнук ідуць з дому дамоў аднолькавай хадою.

## 10 сантыметраў

Тата быў вышэйшы за бацьку на 10 сантыметраў. Для таты чамусьці было важна, што ён вышэйшы. У дзяцінстве тата казаў мне: «Я вышэйшы за твайго дзеда, ты павінен вырасці вышэйшым за мяне, калі дзед мае 163, я — 173, дык ты мусіш мець 183 сантыметры росту...» З разваг пра рост толькі пачынаўся пералік маіх будучых абавязкаў. Бо я мушу быць багацейшы за тату ў столькі разоў, у колькі ён багацейшы за дзеда. Мушу займець большую папулярнасць і стаць на больш высокую прыступку ў сацыяльнай іерархіі грамадства... У выніку я зразумеў, што задачы невыканальныя, што занятак майго дзеда — праца на зямлі, культывацыя глебы, не менш значны за дыпламатычныя пасады і кіраўнічыя рэгаліі. Можа, з-за гэтага разумення мой рост толькі 180, а жаданне ўпісвацца ў жорсткія структуры дзяржаўнага кіраўніцтва мізэрнае. Часам мне падаецца, што каштоўнасці дзеда: зямля, дождж, бараны, дом, сад, гарод, малако — больш вартасныя за каштоўнасці бацькі: мова, Радзіма, Беларусь, кнігі, літаратура... Пераўзысці, пераўзыходзіць дзеда і бацьку я не збіраўся і не збіраюся. Для мяне ўсё ж найбольш каштоўным з'яўляецца іншае: не сама карова, а пасвенне каровы, не напісаны раман, верш, твор, а магчымасць пісаць. І яшчэ пра рост... Калі я цэлы дзень прабасцяюся па Барселоне, дык рост мой робіцца 176 сантыметраў. Правяраў не адзін раз.

## Кепка

Дзед любіў кепку. Ад маразоў да маразоў ён хадзіў у светлай, у шары ранцік, кепцы з вялікім брылём. У хаце быў убіты ў сцяну спецыяльны

цвік адмыслова для дзедавай кепкі. Тата, як і дзед, усё жыццё прахадзіў у кепцы, а мне ўсё карціць мяняць уборы: то я ў берэце, то ў капелюшы, то ў скураной кепачцы, то ў палатнянай, то ў вязанай шапцы. Няма ў мяне пастаянства, наогул не ўспрымаю галаўныя ўборы як свае, мне і валасы, чым карацей падстрыжаныя, тым лепш пачуваюся. Толькі мне заўсёды хацелася мець у сваёй хаце ўбіты ў сцяну адмыслова мой цвік для маёй кепкі. Пайду і ўваб'ю.

## Чытанне

Наш дзед Валодзя пачаў чытаць толькі ў 70 гадоў. Усё жыццё цяжка працаваў на зямлі і на чыгуначнай станцыі грузчыкам. Калі бальшавікі забралі зямлю, а за імі немцы спалілі хату, выбіраючы паміж калгасам і станцыяй, дзед выбраў чыгунку, бо яна ўсім уладам і рэжымам патрэбная. Работа на станцыі вызваляла ад войска, дзед нікому ніколі не даваў прысягі, ён адпрацаваў за траіх, а мо і за дзесяцярых мужыкоў са зброяю. Жыццё дзеда Уладзіміра цалкам стваральнае. І толькі ў 70 яго з грузчыкаў перавялі ў вартаўнікі. Вартуючы макулатуру, дзед panaпрыносіў у хату старых падручнікаў па літаратуры і стаў чытаць. Чытаў выключна прозу і абураўся на непраўдзівасць, ілжывасць напісанага пра вайну, пра вёску, пра Беларусь. Дзядзька Сава спрабаваў яго пераконваць у патрэбнасці фантазіі і мастацкасці, на што дзед сурова адказваў, што выдуманае і з496вершаванае ў малітоўніках для жанчын, а мужчынскае мусібыць пераканаўчае і праўдзівае.

## Манеты

У дзедавай хаце была стопка, дзе стаялі кубельцы з салам, бочкі з зернем, віселі мяхі з крупамі. Там панавала заўсёдная прахалода, і ў найспякотныя дні я спаў у стопцы. Яшчэ тамака стаяла скрынка з цвікамі, дзе паміж згаданых цвікоў пракідаліся і манеткі зніклых дзяржаў: капейкі расейскай імперыі з двухгаловым арлом, злотыя часоў Пілсудскага, пфенінгі Трэцяга рэйху, састарэлыя медзякі СССР. Дзед трымаў манеты з цвікамі, каб, прыбіваючы якую бляху ці толь, рабіць шырэйшую «шляпку» ў цвіка. Я быў выпрасіў у дзеда тыя манеты, а потым, сам не ведаю чаму, ссыпаў назад у цвікі, і не шкадую.

## Баран

«Бэра-Бэра-Бэра-Бэра...» — мы, я і дзед, так клікалі свайго барана, выманьваючы яго са статку, што вяртаўся з поля, кавалкамі чорнага хлеба. Бэра бег да нас, выводзячы за сабою і чацвёра авечак. Хлеб баран любіў. Еў са смакам. Пакарміўшы, можна і пакатацца на баране. Дзед падсаджваў мяне, чатырохгадовага, на шырокую цёплую спіну. Я браўся за гладкі рог, дзед, трымаючы за другі рог, абводзіў барана вакол падворка. Авечкі чакалі каля гумна, побач з кароваю Зоркаю, што піла ваду з вядра. Мае дзеці не каталіся на баранах, толькі на конях і толькі на спартовых.

## Дратаванне

Ёсць у свінні звычка рыць зямлю. Каб яна не рыла ў гумне, яе дратуюць. Дзед навучыў мяне дратаваць кабанчыкаў. Ён прывёз іх — яго і яе ў мяху. Купіў на нядзельным кірмашы ў мястэчку. Кабанчык быў белы, а

свінка рабая, у чорныя плямы. Дзед адшчыкнуў два кавалкі меднага дроту, завастрыў іх на наждаку і папрасіў мяне патрымаць кабанчыка. Я моцна прыціснуў свіную галаву да зямлі, а дзед спрытна прабіў дротам лыч і закруціў яго, пакінуўшы вялікую пятлю, каб, калі кабан вырасце, пятля не разадрала лыч і не выпала. Каб дратаванне рабілася зараз, а не трыццаць пяць гадоў назад, я б сказаў: «Мы зрабілі свінні пірсінг», а так даводзіцца гаварыць «дратаванне». Зрэшты, слоўца «дратаванне» можна ўжываць замест «пірсінг». Дзіўным было тое, што падчас пірсінгу кабанчык нацурыў, а свінка абрабілася. Добра, што дзед папярэдзіў мяне, і я не ўфэндаўся.

## Мяхі

Капаю з дзедам Уладзімірам пограб. Сонца. Спёка. Пот у вочы цячэ. Дзед махае рыдлёўкай уровень са мною і яшчэ распавядае пра тое, як працаваў грузчыкам на чыгунцы... «Усе думаюць, што грузчык мусібыць вялікім. Не абавязкова. Грузчык можа быць і малы. Галоўнае, каб спрыт меўся. Каб ведаў: як закінуць мех на плечы, як несці, як скінуць. Можаш быць вялікім, як гара, а няправільна падымеш і парвешся...» Пасля абеду я адмаўляюся капаць пограб, дзед дакопвае без мяне. Мусіць, і рыдлёўку, як тыя мяхі, трэба ведаць як браць.

## Вера

Наколькі рэлігійная была баба Броня, настолькі абыякава да ўсяго хрысціянскага ставіўся дзед Валодзя. З усіх царкоўна-касцёльных абрадаў ён шанаваў выключна святы, бо як сапраўдны беларус святкаваў як праваслаўныя, так і каталіцкія, жончыны. Слова «Бог» я ад дзеда Уладзіміра я ні разу не пачуў. Ці то мала гаварыў з ім, ці то слухаў няўважліва... Хоць не, слухаў я дзеда ўважліва, бо ставіўся да яго з вялікай павагаю.

## Хата

Калі памёр дзед Уладзімір, і мы, старэйшыя мужчыны, засталіся ў хаце пасля жалобнай вячэры, каб вырашыць лёс маёмасці, упершыню я адчуў, як пасунуўся час, як з маладога чалавека я ператварыўся ў мужчыну, чыё слова мае вартасць, важкасць, кошт. Тры дзедавы сыны: Чэсь, Сава, Ян і старэйшы ўнук завялі гаворку, што каму пяройдзе. З-за стомы і гарэлкі гутарка пайшла ў крывы бок. Тата як старэйшы хацеў, каб яго слова было галоўнае. Сава, які пражыў усё жыццё побач з бацькамі, адно ўсміхаўся, бо ведаў вынік той гаворкі наперад. Дзядзька Ян, абапіраючыся на аўтарытэт таты і меркаванне аднавяскоўцаў, меў намер прадаць хату. Я чамусьці падтрымаў Саву. Ён адзіны, хто жыў на нашае зямлі, хто дапамагаў дзеду штодня, хто заслужыў тую невялікую спадчыну. Тата з Янам зазлавалі на мяне, але выйшла ўсё адно на Сававу карысць, бо ні я, ні Ян, ні тата, як з'ехалі пасля пахавання, так больш ні разу ў дзедаву хату і не зайшлі, а дзядзька Сава кожнае лета жыве ў ёй. Перабіраецца са свайго мястэчка Наваельня ў нашую вёскуВаракомшчыну, бульбу садзіць, сад даглядае. Ні таты, ні Яна ўжо няма, але я не паспеў пераканаць іх у правільнасці сваіх слоў, сказаных на карысць Савы, бо дзедава хата для іх была хутчэй сімвалам веры, чым рэальнай будынінай з бярвенняў. З такімі стратамі нельга змірыцца, як са смерцю бацькоў.

14 — 20.08.2002

## РАГНЕД МАЛАХОЎСКІ

*Рагнед Малахоўскі нарадзіўся ў 1984 годзе ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). Сям'я вярнулася на радзіму ў Нарачанскі край. Пасля заканчэння Нарацкай сярэдняй школы паступіў у БДЭУ, дзе вучыцца на факультэце банкаўскай справы. Друкаваўся ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва".*

### НАРАЧ

Калі бярэ ў палон душы пакой,
Так хочацца пагаманіць з табой.
Дрыготкім голасам цябе гукаю,
З надзеяй водгуку ў адказ чакаю.

Паветра полымем на захадзе гарыць.
Ніхто не ў сілах сонца загасіць,
Вада ж сабрала прамяні ў ражок.
Заранкі памяць — поўні паясок.

Блукаў па ім калісьці я адзін,
Шукаючы каханне між вятроў.
Аб гэтым будзіць вечны напамін
Мне шэпат прыбярэжных чаратоў.

Як бы з чароўнага гаршчочка-спарыша
Таемным духам поўніцца душа.
Самотнай хваляй вечар адхлынае,
Нячутна ноч край любы ахінае.

Падкову-бераг хвалькі амываюць,
Пясочак мякка-залаты шліфуюць.
А з неба моўчкі зоры назіраюць
І люстра аксаміт святлом цалуюць.

Бурліцца з-пад гары ручай — крыніца,
Частуе любы край жывой вадою.
На бераг з хваль выходзіць беражніца.
«Хадзем са мной», — ківае галавою.

Вось гэта цуд, — такое ці бывае?
Аж пацямнела уваччу Нарочча.

А прыгажуню хваля паглынае
І срэбрам амывае стан дзявочы.

Так казачна з табою ноч праходзіць
У марах, пацалунках, дрогкіх снах.
А заўтра вечар новых дум народзіць,
І будзем зноў шаптацца ў чаратах.

Істужкаю зляцела зорка ўранні,
Упала на высокі бераг твой.
Заплюшчыў вочы, загадаў жаданне —
Ніколі б не расстацца мне з табой!

## ШАСНАЦЦАЦЬ СЕКУНД

Мне сорамна.
Я не такі, як усе.
Не ўмею раскрыць сваё сэрца
Каханай, адзінай.
Але пакрысе
Я ўсё ж адамкну усе дзверцы
У сусвет асалоды духоўнай,
Туды,
Дзе соладка дрэмле бясчассе,
Дзе горыч палынную чорнай бяды
Размые сапраўднае шчасце.

І толькі шаснаццаць секунд у мяне,
Каб позірк сустрэць развітальны,
Але не магу.
Не хачу.
Нат у сне.
Дванаццаць секунд...
І крыштальны
Душу назаўсёды параніў прамень.
Не трэба спяшацца —
Паспею.
Секунда...
І заўтрашні сонечны дзень
Сустрэць я адзін не пасмею.

Ты — мара,
Што свет сагравала ўначы.
І жыць немагчыма ў прасторы
Халоднага лёду.
Дык як зберагчы
Каханне ў падзеленым моры,
Свабоду?
Я гонару веру,
Што не падштурхне
Цябе да мяжы.

Я баюся,
Што чорт зарагоча пацешна з мяне,
Калі без каханай прачнуся.

Вайна паміж думкамі,
Праўда — свая.
Прычыны яе не цікавяць.
Пятля самазману.
Дзе ўдача мая?
На волі пачуцці знікаюць.
З табой адчуваю:
Яшчэ я жыву.
Калі без цябе —
Паміраю.
Расплюшчваю вочы.
Пасля абарву
Заслон забыцця.
Я кахаю.

## ВЫПРАБАВАННЕ ЧАСАМ

Даўно...
Эх, як даўно
я ў роспачы
мог назіраць твой цень
на вільготным асфальце,
дакрануцца злёгку
да гарачых вуснаў
і назаўсёды...
назаўсёды сэрца апячы,
і ўтапіцца
ў светла-русых
валасах.
Расстанне
ўзяло сваё...
Ты побач,
але я не бачу.

Толькі пот халодны
маладзіковай ноччу
мне нагадвае цябе,
і фотаздымак —
падарунак —
сведка жыцця майго
на сцяне пацёртай.
Час бяжыць,
як увесну ручай,
і нарэшце
я змог зразумець,
што яго абагнаць
і спазнаць
сэнс жыцця
можна толькі,
калі ты са мною.

## НЕ ЎМЁРЛІ МЫ

Абернецца бясконцасць у імгненне.
І на камлыгу лёсу лягуць слёзы.
Патрэсканае вечнасцю каменне
Распаліцца карой старой бярозы.

Спакус былых развеюцца пажары,
Што чыстыя памкненні спапялялі.
Жыцця пад дых знянацкія удары
Нас падаць на калені прымушалі.

Імчацца коні памяці бязмежнай.
Глыбокай ночы высахла рака.
З далоні немаўляці незалежнай
Свет зведаў водар краскі-васілька.

Свядомасцю прасветліцца сумленне,
Туман густы ахутае дамы.
Сябе спазнаўшы, наша пакаленне
Дакажа свету, што не ўмёрлі мы.

### ЖЫВІ, БЕЛАРУСЬ!

Ой, сэрца, чаму ты так б'ешся,
Чаму не сціхаеш балець?
Радзіма, калі ты прачнешся,
Душа мне не будзе шчымець.

Свядомасць гукае на бітву.
Свабода ўжо не за гарой.
І плач замяняе малітва.
Твой сын назаўсёды з табой.

Узнёслая песня краіны
Ізноў зазвініць у грудзях.
Разбітыя ўшчэнт успаміны
Уздымуць бацькоўскі наш сцяг.

Чаму, Беларусь, ты сумуеш?
Красуй, адраджайся, жыві!
Ты волю сваю загартуеш,
І сэрца не будзе ў крыві.



## БРАНІСЛАЎ СПРЫНЧАН

### ЗАПАВЕТНАЕ

Весяляць, як позіркі дзяўчат,
Сінія расінкі незабудак,
І між вербаў ніцых над запрудай
Свеціцца зарою далягляд.

Певень змоўк, і заіграў пастух —
Мяккі гук старыннай акарыны
На зямлі славутага Скарыны
Вабіць слых і акрыляе дух.

А крыніцы светлы ручаёк,
Як «Жалейка» ранняга Купалы,
Што ў юнацтве мне ў душу запала,
Песняй зачароўвае здалёк, —

Песняю аб шчасці на зямлі,
Музыкай шчымлівою аб горы...
А ў кустах на светлым касагоры
Падпяваюць-свішчуць салаўі.

Пералівы блікаў — там і тут.
І так люба мне пад ценем дуба,
Згадваючы Коласа Якуба,
Выдыхнуць душой:
«Мой родны кут...»

Кожным словам «Новая зямля»
Мне ў жыцці надзейная апора,
Як і сосны векавога бора,
І лугі, і збажына ў палях...

Я гляджу на кветку васілька —
І гучыць у кроплі гэтай сіняй
Голас Багдановіча Максіма —
Строфы несмяротнага «Вянка».

Залаты, а сёння ў сівізне
Дзьмухавец схіляецца галоўкай,
І радкі «А дні ідуць...» — ад
Броўкі
Ціха наплываюць да мяне.

Благаслаўлёны гэты дзень, калі
Ў згодзе і з травой, і з каласкамі
Глебу цвёрда чую пад нагамі
І па роднай я іду зямлі.

### РАДЗІМЫ ДАЛЯГЛЯДЫ...

Шкада, як час падлічваю, —
Прайсці б шляхі ўсе нанава:
Ад Радуні да Клічава,
Ад Рудні да Іванава.

Ды павітацца б з Оршаю,
А там — сцяжынкай вузкаю —
Да паплавоў някошаных
Раздолля беларускага...

А як жа мне асеннія
Зрок далягляды радуюць:
Азіміна — зяленівам,
Гаі — барвяным прадзівам.

Цень і святло ў расколінах —
Нябачна грань пяройдзена:
І адмірання колеры,
І колеры народзінаў...

Зганю набытак стрэсавы
Дарогаю вячэрняю, —
Сушняк успыхне весела
На вогнішчы ля Чэрвеня.

Паданне, як не казка мне
Пра гэты край успомніцца:
Паўстання кліч сялянскага
І ўцёкі панскай конніцы.

Сабраная не гулямі,
Не звыклая згінацца, —
Рацць ваяроў з Ігумена
Разбіла Яна Паца...

А на дажынках люба мне
Сустрэцца з хлебаробамі
Як у гасціннай Любані,
Так і ў старым Старобіне.

Па вуліцы Гуляева
Прыйду да абеліска, —
Тут, ад вайны, зямля яго
І вечная прапіска.

Названы сынам слынным —
Я гэтым ганаруся —
Зямляк мой з Украіны
Ў скрыжалях Беларусі.

Адлегласці і ростані
Зноў сыдуцца ў Старобіне, —
І аб Радзіме ў роздуме
Памкненні знікнуць дробныя.

Я ўспомню пра Гаркушу,
Пра пінскі рэйд Нябабы, —
Трасуць, ды не аглушаць
Гісторыі ухабы.

Не ўсіх часоў раскручаны
Легенды і завоіны,
Ды ў былях людзі Случчыны
Слывуць — сяўцы і воіны.

За веру і за звычаі
Прайшла праз экзекуцыі,
На слуцкім небе знічкаю
Заззяла Соф'я Слуцкая.

Ёй і ў цішы ўрачыстасці,
І ў час грымот і замеці
Красой святой і чыстаю
Свяціць і жыць у памяці...

Ніў несучы мелодыю,
Па стужках следа саннага
Я ноччу навагодняю
Дайду і да Іванава.

Каляды — час з прыпаркаю.
Пацее буталь кроплямі.
З марозу — добрай чаркаю
Сагрэюся ў Антопалі.

Сустрэнуся з калядкамі,
З вясёлымі пацешкамі,
З паглядамі-загадкамі
І з маладымі ўсмешкамі.

І выступіць праяваю
«Каза» ў той вечар звычная:
У Лунінцы — бялявая,
Чарнявая — ў Драгічыне.

І ўспомню пад парошаю,
Як у часы юнацкія
Хадзіў я механошаю
З каляднай шумнай браціяй...

А сонца велікоднае
Ўзвяселіцца над Вязынкай,
Пайду туды — выгодна мне:
Я й там не буду пасынкам.

Паэзія не позніцца —
Купалы хата ў згодзе з ёй, —
Радзіма перад позіркам
І ўсё, што намі пройдзена.

## ВОЧЫ КАНЯ

Толькі ў полі я каня пабачу,
Што глядзіць на сонечны ўзыход,
Памяць ціхенька ў душы заплача
І вяртае ў сорак пяты год.

Самаходкі, гільзы, тракі танкаў,
Чорная, ірваная браня,
І на тле крывавай гэтай п'янкі —
Светлы воблік рыжага каня.

Крыж худы, скасмыленая грыва.
Толькі — малады — не праміне
Нораў паказаць свой і гулліва
Ён хапае за руку мяне.

Ну а я, падлетак, той вясною,
Той, не раз праклятаю парой,
На гады аглушаны вайною,
Зразумець ці мог яго настрой?

Каб адпрэчыць ад свавольных жартаў,
Коніка агрэў я пугаўём...
І пайшлі, пайшлі — у працы ўпартай,
Як ва ўпрэжцы цяжкай, дзень за днём...

Прада мной — нявоpанае поле,
А на ім — асот ды лебяда.
Не дарма ж сяляне кажуць з болем,
Што за горам цягнецца бяда...

Не зважаў я, — ці нацёрта шыя? —
На каня хутчэй надзеў хамут...
І цяпер, бывае, ноччу ные
Ў сэрцы жаль ад конскіх тых пакут...

І цяпер глядзяць з тых дзён, як сорам,
Вочы цёмна-сінія каня
На мяне здзіўлёна і з дакорам, —
І нічым мне смутак не суняць...

## ГРОМ НА ЗЯЛЁНАЕ ГОЛЛЕ

Сёння без лішняй замінкі
Зніклі пупышак сны —
Выбухнулі лісцінкі
Ў цёплых праменнях вясны.

І загрымела далёка
Дзесьці ў паднебным краі,
Кволаю павалокай
Зазелянелі гаі.

Вестку вясны над зямлёю
Ў хмарах маланкі нясуць,
Дожджыка проса буйное
Прагна лісцінкі дзяўбуць.

Досвед не хібіў ніколі —
Гэта прыкмета з дабром:
Гром на зялёнае голле —
То жыватворны гром.

## АЛЕНЬ

*Святлане*

Аленя сцежка й след ваўчыны, —
Драпежны шал крыві не моўк:
Праз пакаленні ўрок вучылі,
Як выжываць: алень і воўк.

Дзе лес, дзе поле — без аглядкі, —
З-пад капытоў курыцца дым:
Алень бяжыць ва ўсе лапаткі —
І шэры воўк бяжыць за ім.

Так у напрузе штохвілінная —
За пераваламі перавал —
Аленя ў руху несупынным
Вякамі вецер шліфаваў...

Вось ён — у цішыні марознай
Замёр, аж сеў снягір на рог,
І два струмкі ляцяць праз ноздры
Гарачай параю на мох.

Пастава гордая ў аленя —
Якая лепка! Поўсць, як шоўк...
А што няма ў аленя лені,
Усё ж віноўны шэры воўк...

**ЖЫТА**

Іду прасёлачнай дарогай,
Дзе каляіны ў забыцці,
Міжволі думаю пра Бога,
Пра сэнс быцця ў маім жыцці.

І паўстае, што пражыта, —
Адказ дае пра карані,
Звініць — гайдае колас — жыта
Ў дабраславеннай цішыні.

***Пераклад з рускай Васіля Зуёнка.***



ЛЕАНІД ГАЛУБОВІЧ

# ПАЭТЫ НЕ ПАМІРАЮЦЬ

Уцеклых не ў выратавальны сон,
а ў Вечнасць, у якой свае законы,
іх возьме Ноч пад зорны парасон
і зберажэ ад глуму іх імёны.

*В. Гадулька*

**14** ліпеня 1986 года, амаль у дзень свайго Хрыстовага ўзросту, Васіль Сахарчук напісаў мне ў вёску на клеччыне са сваёй Жабінкі: *«Я тут паэта адкрыў — працуе рабочым у саўгасе — піша па-беларуску. І няблага. Нечым да цябе падобны. Клічуць яго — Васіль Гадулька. Харошы хлопец. І да ўсяго яшчэ добра нямецкую мову ведае. А гэта ўжо перспектыва і для перакладчыцкай работы... Трэба будзе з яго вершамі на «Маладосць» ці «ЛіМ» выйсці...»*

Аднак атрымаўшы яго ліст, асаблівага значэння факту з'яўлення новага правінцыйнага паэта на Берасцейшчыне я не прыдаў. Адзначыў пра сябе, але не больш таго. Па тым часе своя галава штодня балела — не да Гадулькі было. А дарма, бо правінцыя, як той ненажэрны канібал, «пажырае» сваіх дзяцей... Каб выжыць там ці хоць бы выехаць адтуль, трэба было мець бычынае здароўе і конскую цягавітасць. Яны стараліся, але не маглі сысці з таго месца, дзе ляжалі іх сэрцы, — з бацькаўшчыны. Там і засталіся. Паэтамі і людзьмі. Калі адышоў першы (В.Гадулька), то другі клапаціўся пра яго спадчыну і памяць... І не дарма, бо вось жа, мала-паціху памяць вяртаецца. А калі стаміўся і адышоў другі (В.Сахарчук), то павінен быў з'явіцца нехта трэці, — не, не для таго, каб быць ім трацейскім суддзёй, а для таго, каб захоўваць іх дух у нашым часе. (Шматпакутны зборнік вершаў Васіля Сахарчука «Мой вечны бор» каторы год нібыта абяцаюць выдаць у «Мастацкай літаратуры», а вось рукапіс кніжачкі не менш таленавітага Васіля Гадулькі «Кропелька сонца» за дзесяць гадоў чакання так і не пабачыў свету ні ў Мінску, ні ў Брэсце, дзе пыліцца і цяпер у выдавецтве С.Лаўрова. Праўда, па няпэўных чутках, апошнім часам з'явіліся і ў гэтым пытанні нейкія пазітыўныя зрухі.)

Але азірнёмся крыху назад і заглянем у гісторыю нашага, канкрэтна пастаўленага тут, пытання. Вось што пісаў Васіль Сахарчук Генрыху Далідовічу, дасылаючы рукапіс зборніка свайго сябра для магчымага выдання ў бібліятэцы часопіса «Маладосць» яшчэ 12 студзеня 1993 года: *«Васіль Гадулька — чалавек вельмі сціплы, таму мне давялося літаральна прымусіць яго, каб ён сабраў свае вершы ў папку. Гэта несумненны талент,*

*прытым надзвычай патрабавальны да сябе. Сведчанне таму — дакладнасць паэтычнай формы, выверанасць думкі і вобразаў, гармонія рацыі і пачуцця, высокая культура радка, выдатнае веданне мовы і, нарэшце, гранічная шчырасць. Ён увесь — у сваіх вершах. І можна толькі здзіўляцца, як ён, працуючы ў саўгасе, не агрубеў душой і знаходзіць час для творчасці. Такога паэта нельга пакідаць на волю лёсу, бо ён адзначаны Боскай ласкаю. Прачытайце некалькі яго вершаў, напрыклад, на антычныя матывы ці «Актавы» і вы адразу пераканаецеся ў гэтым. (...) Вельмі хочацца спадзявацца, што рукапіс гэтага паэта не будзе доўга чакаць чаргі. Калі ёсць магчымасць, уключыце яго ў план 1993 года. Ён варты таго, тым болей не надта моцны здароўем. Мы зробім добрую справу, калі падтрымаем яго талент».*

Але — не: сыты галоднага не разумее, падтрымлівалі найчасцей якраз тых, хто прабіваўся сам...

А праз шэсць месяцаў Васіль Гадулька сканаў, не дацягнуўшы да ўласнага прароцтва, якое сам, іранізуючы ад трэцяй асобы, занатаваў па просьбе мясцовых бібліятэкарак: *«Гадулька Васіль Уладзіміравіч нарадзіўся 17 мая 1946 года ў в.Федзькавічы Жабінкаўскага раёна ў беднай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, але на апошнім курсе, расчараваны ў прафесіі настаўніка, кінуў інстытут і працаваў доўгі час на будоўлі, а пасля — паляводам у мясцовым саўгасе. Вершы на расійскай мове пачаў пісаць яшчэ ў школе. Друкавацца не спрабаваў, лічачы гэтае сваё захапленне паэзіяй, як пазней замежнымі мовамі — нямецкай, англійскай, французскай, іспанскай і польскай — толькі асабістым сваім хобі. Прыкладна з 1985 года пачаў пісаць па-беларуску. Вершы друкаваліся ў раённай газеце «Сельская праўда», абласной — «Заря», у штотыднёвіку «ЛіМ» і ў зборніку «Дзень паэзіі». Рыхтаваў кніжачку вершаў і баек, але перадрукаваць яе не паспеў: зімой 1992 года ў страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, незразуметы, расчараваны і пакінуты ўсімі, трагічна памёр і пахаваны на могілках у в.Федзькавічы Жабінкаўскага раёна».*

Роўна на адзін год памыліўся паэт у сваім прароцтве. Усё астатняе, на вялікі наш жаль і сорам, супала ва ўсім да неймавернасці.

Тыя рукапісы Васіля Гадулькі, якія я маю ў сябе, сведчаць пра яго ўдумную начытанасць, непаказны інтэлект і светлую душу. Лепшыя яго вершы важкія і трывалыя, бы камяні ў падмурку дома. Глыбокай цютчаўскай пераемнасцю вее ад яго першабытных карэнных слоў. Настолькі густа і шырока пераплятаюцца яны ў падземных падтэкстах, што разложыстая, паднебна-гудлівая крона іх трывожнага зместу падчас засцяняе нам зыркае сонца рэчаіснасці дзеля глыбокай чалавечай развакнасці... Як гэта ні дзіўна гучыць у наш цынічны час, а па вялікім рахунку, паэт Васіль Гадулька сканаў ад любові, якая, перапоўніўшы, захлынула ўсю яго зболеную істоту, так і не знайшоўшы свайго адрасата дзеля ўзаемнасці... І гэта страшна. Бо, на вялікі жаль, у сучасным свеце на дабро і любоў усё меншы і меншы попыт, а ўсё большы — на зло і нянавісць.

...Сёння, святочным травеньскім (майскім!) падвячоркам, прагульваўся я ў прылесках Зялёнага Луга, непадалёк ад Курапатаў. Амаль за кожным кустом — п'янка, вогнішча са смажанінай, брыдкаслоўе, задзёр... І толькі непадалёк віднеючага Уручча згледзеў я на пяньку пад старой смалістай хвойкай адзінока-сцішаную, як пудлівую лясную птушку, пажылую жанчыну пенсійнага ўзросту, якая... чытала кніжку. Па зацёрханай вокладцы і

важкай таўшчыні тома ўгадвалася ў ёй нешта прызнана класічнае: мажліва — Тургенеў, мажліва — Мележ... А на сырой вузкай лясной сцежцы, ужо пры выхадзе да спарткомплексу «Працоўныя рэзервы», сустрэліся мне надзіва сур'ёзныя, а мажліва й закаханыя, маладзёны — ён і яна, гадоў па дваццаць, — размінаючыся з якімі, і зачуў я мімаходзь імя філосафа Рычарда Рорты(?!)... Не ведаў пра такога, і ўнутрана пачуваўся прысаромленым. Але я пакорпаюся ў сваёй хатняй бібліятэцы і, пэўна ж, дазнаюся...

А нехта (ды амаль ніхто) не ведае пра берасцейскага паэта Васіля Гадульку і вось жа таксама, спадзяюся, займее магчымасць пазнаёміцца з яго ўнутраным і духоўным светам праз гэтую публікацыю.

Агулам, зыходзячы з заўважанага мной падчас згаданай праходкі, можна канстатаваць, што на тры сотні «праздно» гуляўшых там прыходзілася не больш трох глыбока мыслячых людзей... Пасля нескладаных падлікаў высноўваем, што на дзесяць мільёнаў насельніцтва Беларусі маем усяго дзесяць тысяч чалавек, на якіх і трымаюцца спадчына і культура нашага народа...

Кажуць, што гэта нармальныя лічбы. Пакуль. Толькі б гэтыя прапорцыі ў далейшым не зніжаліся...

Дзеля таго і слова — Паэту.

*СПАДЧЫНА*

## ВАСІЛЬ ГАДУЛЬКА

* * *

Ранкам клён зялёны на маім падворку
дзіўную з лагодным ветрам вёў гаворку:
«Дружа мой крылаты! Ветру хутканогі!
Бачыш: там на ўскрайку лесу, бліз дарогі
расцвіла чаромха ў вэлюме вясельным?
Прыляціш — напоіць гаркавата-хмельным
водарам пялёсткаў, белых — як сняжынкі,
што ўсыпаюць пухам сцежкі і сцяжынкі...
Ты з ёй прывітайся, ты з ёй пазнаёмся.
Скаргу майго сэрца перадай чаромсе.
Соладка ў палоне мар і летуценняў
дзён чакаць пагодных, а ў пару цвіцення
я ўдвая самотны. Крыўдна мне і горка
пазіраць удалеч са свайго падворка
на яе ў святочным, сонечным убранні
аб нязбытным з ёю марачы спатканні.
Бо хоць і даўно я да яе імкнуся,
ды такі ўжо лёс мой: з месца не скрануся...
Папрасі, скажы ёй, сціплай і нясмелай:
хай мне хоць хусцінкай памахае белай».

## УСМІХНІСЯ

Што ў нябачных сэрца сховах
тоіш ты на самым дне,
цяжка выказаць у словах —
лепей усміхніся мне
і пра ўсё, што ў сэрцы тоіш,
здагадацца мне дазволь.
Словам рану не загоіш,
а ўсміхнешся — пройдзе боль,
і ў вачах растануць рэшткі
даўняй крыўды і маны,
пацяплеюць ад усмешкі,
запраменяцца яны
невымоўным, безгалосым
патаемным пачуццём...
Над маім няпростым лёсам,
над скалечаным жыццём
ты ўзышла зарой світальнай,
апаліла мне душу.

Я ў сабе свой боль нашу
і нічога не прашу,
толькі ўсмешкі даравальнай.

## СОН

Ад пяшчотнага дотыку
першых сонечных промняў
я прачнуўся на досвітку
і адразу ж успомніў —
хоць яшчэ карагодзіла
ў млявых думках спрасоння:
да мяне ты прыходзіла
ў сне, што сніўся мне сёння.

Завітала, нябачная,
ты ў мой дом без прынукі,
і з пяшчотай, удзячны, я
цалаваў твае рукі,
шчокі, вочы смяшлівыя,
вуснаў пругкую мякаць.
І такі быў шчаслівы я,
што хацелася плакаць.

Успамінам сагрэтае
ў дзённых клопатаў прозе
пачуццё ўва мне гэтае
яшчэ доўга не пройдзе.

Будзе соладка марыцца:
што, калі неўзабаве
з намі ўсё гэта здарыцца
ўжо не ў сне, а на яве?..

* * *

Памяць сэрца — крыніца пакут невычэрпных,
успамінаў аб страчаным шчасці нясцерпных.

Зыркай восеньскай знічкай ты цемру рассекла —
каб аслеплае сэрца зноў кінуць у пекла.

Працінае душу крыўд атрутнае джала,
і шкада зыркай знічкі, што ў цемры прапала...

## СМЕРЦЬ

*Васілю Сахарчуку*

Зыркім вогнішчам зары над лесам
летні дзень паволі дагараў.
Збіты шпаркім чорным «мерседэсам»
на шашы сабака паміраў.

Ён стагнаў-скуголіў, быццам плакаў.
Ледзьве да абочыны дапоўз.
З горла колеру пунсовых макаў
кроў на рыжую сцякала поўсць.

Адчуваў, што выжыць немагчыма,
але жыў яшчэ і жыць хацеў,
і вільготнымі ад слёз вачыма
моўчкі ў высь пустых нябёс глядзеў.

Позірк прадсмяротны, несабачы,
боль нясцерпны і туга ў вачах...
Я ў тым позірку знянацку ўбачыў
чалавечы — перад сконам — жах.

Смерць была і будзе шматаблічнай,
але кожны ўцяміць пакрысе:
перад рэчаіснасцю трагічнай —
перад смерцю — роўныя мы ўсе...

Ён сканаў, і ў сэрца мне, як быццам
упілося вастрыё ляза:
так яму балюча стала — біцца.
І з вачэй скацілася сляза.

### СПЁКА

Аж млосна на сэрцы,
аж вусны пасмяглі, здаецца.
Сцякае смуга валасоў
ручайкамі на лоб твой спацелы.
Вадой рачной пахне,
ад дотыку рыбінай б'ецца
пад тонкім купальнікам
пругкае, гнуткае цела.

Крык першы здзіўлення і радасці
выдыхся ў ціхія стогны —
з грудзей у салодкай знямозе
і з вуснаў гарачых...
Гайдаюцца лодкамі ў хвалях рачных
твае голыя сцёгны.
Гайдаецца свет у вачах
і бліскучага сонца гарлачык.

### ПЕСНЯ

Не сумую, душой не пакутую
без цябе, боль мой, радасць мая,
калі зноў, у дзяцінстве пачутую,
тую песню прыгадваю я:
«Там за гаем зеляненькім
брала ўдова лён драбненькі...»

Спакваля змест яе і мелодыя
тонкай ніццю ўпляліся ў мой лёс.
Песня дарам прарочым валодае
і таму так кранае да слёз:
«Дазволь, маці, ўдову ўзяці —
ўдова будзе шанаваці...»

Неўпрыкмет часу бег замарудзіцца,
каб у сэрцы змагла прарасці —
хай усё, што ў ёй сказана, збудзецца,
што яшчэ не збылося ў жыцці:
«Счаравала мужа свайго,
шчэ й счаруе сына майго...»

* * *

Чакай: калі ў дажджлівы, сумны дзень
нарэшце выгляне пад вечар праз аблокі
і раптам адлюструецца ў вадзе
блакітных лужын твар зары пунсавашчокі;
калі здалёк на ўсходзе бачныя ледзь-ледзь
пачнуць патроху хмаркі ружавець
і неба, у якога шэры твар быў,
зайграе ўсплёскам свежых колераў і фарбаў
і ў кроплях заблішчыць расплаўленая медзь —
тады ты выйдзеш на дажджом абмыты ганак
і ўмомант ад маршчын разгладзіцца чало;
скупы на радасць быў захмараны твой ранак,
затое вечар шчодры на святло —
на схіле дня яно вяртаецца, як рэха
світання, да пары схаванага ў імгле.
І ёсць для сэрца ў тым запозненым святле
і радасць, і салодкі сум, і боль, і ўцеха.

* * *

Асенні ліст не ведае таго,
што з ветрам жартачкі — не для яго.
Ты чуеш, як маё трапеча сэрца
пад ветрам позірку халоднага твайго?..

* * *

Шоўк валасоў тваіх чорны, як смоль.
Вочы — нібыта дзве спелыя вішні.
Зноў я жабрак, ён жа — прынц і кароль.
Зноў ты з ім разам, а я — трэці, лішні.

Лішні, але ад цябе ні на крок
не адыду... Сам сабе ненавісны —
кінуў бы ўсё! Ды глядзяць у мой бок
вочы, нібыта дзве спелыя вішні.

## ПРЫГОЖЫ ВЕРШ

Верш прыгожа ўспыхнуў, і на крок
змрок спалохана хіснуўся ўбок.
Свет набыў дзівосныя адценні.
Але толькі на адно імгненне:
верш прыгожа ўспыхнуў і згарэў
феерверкам асляпляльных промняў
і нікому сэрца не сагрэў,
і ніхто нічога не запомніў.

* * *

Зноў з-за хмаркі выплыў месяц,
а ў вачах і сэрцы — змрок.
Бляск фальшывы не ўваскрэсіць
і не вылечыць твой зрок.

Тым, хто ў ноч — у ёй, бясконцай,
усляпую ідучы —
цэлы век не бачыў сонца,
цяжка зрок свой зберагчы.

Так яно, бадай, і лепей:
невідушчаму лягчэй.
У начы, бы ў цёмным склепе,
лепш зусім не мець вачэй...

Адхінаю ўбок фіранку:
цемра — чорны сплаў свінца.
Толькі б дачакацца ранку —
не аслепнуць да канца.

## ВЕРТЭР, ЕВА І ДОН ЖУАН

Ён сэрца ў ёй шукаў —
знайшоў халодны камень.
Дарэмна, прагнучы
дзвюх розных душ зліцця,
штодня
трымаў ён перад ёй экзамен
на вернасць і на шчырасць пачуцця.

Рагочуць, радуюцца ў пекле д'яблы:
зноў рогі Вертэру наставіў Дон Жуан.
І не спатрэбіўся яму біблейскі яблык,
каб спакусіць яе на грэх і на падман.

## ВЭРТУМН І ПАМОНА

Бог пораў года, ветру і дажджоў,
Вэртумн няўрокам у багіню дрэў і кветак,
Памону, моцна закахаўся гэтак,
што выйсця лепшага ў адчаі не знайшоў,
як з мэтай прыгажуні спадабацца
любымі сродкамі, любой цаной
прыхільнасці абранай дамагацца,
штораз мяняючы на іншы выгляд свой.
Любое меў ён дар прыняць аблічча:
то грозны воін ён, то малады марак.
І ўсё-такі не мог злавіць ніяк —
Памона на вачах знікала таямніча,
хавалася ў густой лістоце дрэў,
прыняць яго ў чужым абліччы не жадала.
І гэтак кожны раз яму не шанцавала,
пакуль памылкі ён сваёй не зразумеў...
Калі ж ён вырашыў больш не хітрыць —
самім сабою стаць перад каханай,
аблічча ёй сваё сапраўднае адкрыць —
быў ёю з радасцю прыняты нечаканай.
Пабраліся яны і разам зажылі
з тае пары ў сапраўднай шчырай згодзе
і ў клопатах аб тым, каб кожны год палі
прыносілі ўраджай і ўсё цвіло ў прыродзе...

О мудрасць першабытнай даўніны!
Наіўнае, а сэнс глыбокі мае:
сапраўднае каханне не прымае
ні хітрасці ніякай, ні маны.
Чаму ж мне ўсё-такі ад гэтай казкі сумна?
Ці не таму, што ў нетрах сэрца я
зайздрошчу ўдачы закаханага Вэртумна?
Хай зайздрасць і не чорная мая,
аднак употай крыўдна мне да болю,
што покуль я не стаў самім сабой,
пакуль, чужую мне, выконваў ролю —
да часу быў аблашчаны табой,
але адрынуты, як белая варона,
калі ў каханні больш ілгаць табе не мог.
Прычым — не з-за таго, што я не бог,
але таму што ты таксама — не Памона.

## ГАМЕР І ГЕЛЕНА

Гамер ёй сонечнае даў імя,
багіняй даў ёй моц над сэрцамі ўладарыць —
каб закаханы ні аб кім больш, акрамя
яе, ні думаць не жадаў, ні марыць.
Што ў прыгажуні валасы, як лён,
а вочы колеру вады ў блакітным моры —

хоць быў сляпы, а ясна бачыў ён
і ўвекавечыў у магутным творы
красу, якая ў сэрцах таямніча
хвалюе кроў, туманіць розум, кліча
спазнаць і шчасця ўзлёт, і першабытны грэх
і, увасобленая ў позірк любы,
зычліва дорыць нам падман зямных уцех
і ў цемры асвятляе шлях да згубы.

### САНЕТЫ

#### I

Жахлівы сон адразу ж нас разбудзіць —
усхвалявана сэрца б'е ў званы,
і доўга потым успамінам студзіць
душу той, перажыты, жах начны.

Калі ж ёй радасныя сняцца сны,
прачнуцца кожны раз душа марудзіць —
каб іх вясёлкавы настрой не спудзіць,
каб і на яве сніліся яны.

Каханне — гэта светлы сон душы,
які калісьці мне ў начной цішы
надоўга вобраз твой навеяў мілы.

Я знаю: сон той скончыўся даўно
і ўжо мне ранак стукае ў акно,
а я прачнуцца ўсё не маю сілы.

#### II

Чаўном з-за лесу сонца выплывала,
ахутанае ранішняй імглой.
З нябёсаў коўдру зорных сноў зрывала,
сцірала з сэрцаў цень санлівых мрой.

Дзень скончыўся, і згасла за гарой —
пайшло туды, дзе ўчора начавала.
Ноч напаўзла, як чорная навала,
ды небакрай гарыць яшчэ зарой.

З табой мне сонечна было ўвесь дзень,
а без цябе на сэрца лёг, як цень,
адчай і тчэ ў ім цемры павуціну.

Але застаўся ў ім яшчэ адзін
нязгасны, яркі пра цябе ўспамін,
і светла ў ім яшчэ — ад успаміну.

## ЧОРНАЯ ГОСЦЯ

Лісток пажоўклы ў голлі клёна
ад ветру ўздрыгвае, трымціць.
А ранкам чорная варона
ў мой двор аднекуль прыляціць
і каркне, седзячы на жэрдцы:
«Дар-ма...» І сапраўды — дарма
шукаў ты ў ачарсцвелым сэрцы
той скарб, якога ў ім няма.
І не было. Але пакуль ты
ў няведанні шчаслівым жыў,
крумкач над сэрцам не кружыў
і не азмрочваў цень пакуты
бясхмарны бег бясхмарных дзён
жыцця, якога ў нетрах змроку
зыход трагічны не відзён
няўцямнаму людскому веку...
Няведанне ратуе нас —
дае нам жыць і спадзявацца,
але такі прыходзіць час,
што ўжо няма куды дзявацца
ад жудаснага адкрыцця,
калі знянацку — таямнічы
ў тваіх вачах — Падман Жыцця
ў пачварным паўстае абліччы.

***Публікацыя Л. Галубовіча.***



НІНА РЫБІК

# «МАЛЕНЬКІ АСТРАВОК МАЁЙ ЗЯМЛІ...»

Што я ведала пра Астравеччыну, калі ў канцы 1989 года сабралася пераехаць сюды на пастаяннае месца жыхарства са сваёй роднай Хойнікшчыны, якая назаўсёды застанецца ў памяці як найдаражэйшы сэрцу край маленства, радзіма, адабраная і знявечаная Чарнобылем? Што гэта раён на поўначы Гродзенскай вобласці, на самай граніцы з Літвой, які, акрамя таго, мяжуе яшчэ з Мядзельскім раёнам Мінскай вобласці і Пастаўскім Віцебскай, а таксама з Ашмянскім і Смаргонскім раёнамі Гродзеншчыны. Што гэта «край няпужаных птушак», як выказалася мая сяброўка, якой давялося тут бываць і якую ўзрушыла хараство амаль не кранутай згубным дотыкам цывілізацыі астравецкай прыроды. Што «Астравец — свету канец» — гэта ўжо любімае выслоўе калегі, які, дарэчы, і параіў мне папытаць тут шчасця, а дакладней — месца работы і хоць якога-небудзь жылля. І тое, што Астравец чарнобыльскае воблака нейкім чынам абышло ці, ва ўсякім выпадку, не пасыпала яго сваёй згубнай атрутай так густа, як маю маленькую радзіму, — гэта пацвердзіла адна з маіх зямлячак, чалавек, не ў прыклад мне, надзвычай практычны, якая перш чым перабрацца на Гарадзеншчыну прывезла адтуль і праверыла на даступных ёй прыборах забруджанасць радыеактыўнымі элементамі ўсяго, што толькі можна было, — ад хатняга малака і бульбы да лясных грыбоў і нават моху, і затым не спраўлялася расказваць каляжанкам, дзе гэта яна знайшла ў Беларусі такое чыстае месца.

Гэта, апошняе, і адыграла рашаючую ролю: стаміўшыся больш як за тры гады ад пастаяннага страху за здароўе дзяцей, ад гвалтоўнай адлучанасці ад прыроды, калі пастаянна свідравала думка, што лес, рака, трава — нашы ворагі, а збіраць грыбы, лавіць рыбу — гэта амаль што самагубства, мы за найвялікшае шчасце лічылі басанож прайсціся па росным лузе, зварыць на вогнішчы юшку, сплесці вянок з палявых кветак...

### ЗНАЁМСТВА

Астравец з першага погляду ўразіў сваёй зелянінай: лес падступаў да самай ускраіны гарадскога пасёлка, і запаведныя грыбныя ды ягадныя мясціны пачыналіся ледзь не за дзвярыма пад'езда. І нават традыцыйны гарадскі парк зваўся тут лесапаркам і, у адрозненне ад некаторых іншых сваіх гарадскіх братоў, закаваных у асфальт і бетон, панылую шэрань якіх не магла схаваць чэзлая зяляніна насаджаных дрэў і кустоў, быў хутчэй лесам, чым паркам: з магутнымі гонкімі соснамі, кучаравымі ліпамі ды гнуткімі ляшчынамі, засланы дываном духмянага разнатраўя. А рэчку Кавалеўку, якая служыла лесапарку своеасаблівай мяжой з поўначы, амаль у межах гарадскога пасёлка запруджвалі бабровыя плаціны.

Маленькі астравок маёй зямлі —
Зялёны Астравец над срэбнай Лошай.
Такі прыветны і такі харошы —
Як сонца, бор і родныя палі, —

так пісаў пра Астравец Уладзімір Караткевіч, які неаднойчы тут бываў. І з ім, як і з Адамам Мальдзісам, які сцвярджае, што, акрамя Навагрудчыны і, можа, Мазыршчыны, такіх прыгожых мясцін, як на Астравеччыне, няма больш нідзе, нельга не пагадзіцца. У кнізе «Астравеччына, край дарагі...», якая з'яўляецца ў раёне бестселерам і бібліяграфічнай рэдкасцю, Мальдзіс пісаў пра сваю малую радзіму з замілаванасцю і любоўю: «Астравеччына, пры ўсёй яе някідкай, спакойнай прыгажосці, сапраўды зачароўвае разнастайнасцю, зменлівасцю пейзажаў. Тут ёсць усё! На поўдні, нібы клешні краба, праляглі адгор'і Ашмянскага ўзвышша. Далей на поўнач ідзе Нарачанска-Вілейская нізіна, прарэзаная катлавінамі рэк. Лоша, перагароджаная плацінай Янаўскай ГЭС, утварае вялікае вадасховішча. У далінах рэк багата тарфавіскаў і ройстаў — балот, парослых багуном і журавіннікам. Далей на поўнач пычынаюцца сасновыя бары,ператканыя бярозаю, асінаю і ляшчыннікам. Зноў немаведама адкуль бяруцца пасмы ўзгоркаў. А сярод іх раптам выблісне азёрнае вока Падкасцёлка ці Падліп'я. Выблісне і адаб'е заціхлыя вяршаліны дрэў на навакольных курганах. На поўначы, дзе на Сарачанку нанізана Каймінская група азёраў, або ўздоўж Полацкага тракту, ля Катлоўкі, ледавік у свой час так мудрагеліста пахадзіў і наварочаў, што ўсе віды беларускага ландшафту можна пабачыць, стоячы на адным месцы. Адным словам — беларуская Швейцарыя».

У Астравеччыну цяжка не закахацца з першага погляду, з першай сустрэчы. А больш грунтоўнае знаёмства з гэтым непаўторным краем, яго таленавітымі людзьмі, цудоўнай прыродай, багацейшай гісторыяй, разуменне яго унікальнасці прыходзілі паступова, з часам і перарасталі ў больш глыбокія пачуцці — прызнанне, павагу і шчырую любоў.

## ПАДАРЫЎ СВЕТУ АСТРАВЕЧЧЫНУ

Веданнем Астравеччыны — а менавіта веданне і разуменне спараджаюць любоў — не толькі я, але і многія мясцовыя жыхары абавязаны чалавеку, зямляцтвам з якім можа ганарыцца як любы астраўчанін, так і кожны беларус, — прафесару Адаму Восіпавічу Мальдзісу. Ужо толькі за магчымасць быць асабіста знаёмай з ім, гутарыць, набіраючыся мудрасці, я бясконца ўдзячна лёсу — і Астравеччыне.

Колькі б ні было сказана пра яго бескарыслівую адданасць роднай зямлі, як бы ні адзначылі яго заслугі перад Айчынай, — усё гэта, па майму глыбокаму перакананню, будзе недастатковай ацэнкай здзейсненага гэтым незвычайным па меры сваёй таленавітасці, працавітасці і сціпласці чалавекам. Сёння можна прыгадаць многае: пра вяртанне на Радзіму не толькі з яго дапамогай, але і непасрэдна ім шматлікіх рэліквій культурнай і духоўнай спадчыны беларусаў; пра сотні імён знакамітых беларускіх сыноў, аб якіх мы даведаліся дзякуючы прафесару Мальдзісу; пра прыадкрытыя яго нястомнай даследчыцкай дзейнасцю і бойкім пяром захапляльныя старонкі жыцця нашых суайчыннікаў у мінулых стагоддзях; пра яго унікальную працу па стварэнню біябібліяграфічнага даведніка «Беларускія пісьменнікі»; пра сотні навуковых, публіцыстычных, мастацкіх работ — артыкулаў, манаграфій, кніг, — кожная з якіх стала ў свой час своеасаблівым адкрыццём.

Але сёння, у гэтым невялікім нарысе, хочацца найперш сказаць пра тое, што Адам Мальдзіс, ураджэнец вёскі Расолы Астравецкага раёна, зрабіў для сваёй маленькай радзімы, для Астравеччыны.

...У кожнага чалавека жыве ў душы недатыкальнае для іншых цяпельца — успамін пра родны кут, у кожнага ёсць месца, дзе недзе пад яблыняй закапана яго пупавіна, куды яго неадольна цягне з усіх дарог і жыццёвых вандровак, нягледзячы на тое, пацалавала яго некалі капрызная спадарыня Фартуна або зрынуты ён лёсам ці самім сабой на самае дно жыцця. Але ў многіх адносіны да сваёй малой радзімы хутчэй спажывецкія: пабыў ля роднай хаты, укленчыў перад крынічкай, ратуючыся ад спёкі, сарваў яблык з пасаджанай некалі і ўжо састарэлай — глядзі ж ты, як ляціць час! — яблыні... І, пакінуўшы тут свой душэўны боль, набраўшыся жыватворнай энергіі для новых здзяйсненняў, мы зноў вяртаемся, як спяваў вядомы расійскі бард, «у мітусню гарадоў і патокі машын» — нас чакаюць вялікія справы! А пра радзіму ўспамінаем толькі тады, калі зноў прыцісне, і сэрца як абцугамі сцісне туга, і спатрэбіцца гаючае паветра родных мясцін, каб знайсці ў сабе сілы для жыцця.

Іншыя адносіны да радзімы ў Адама Мальдзіса. Увабраўшы ў сябе ўсё лепшае,

што маглі даць зямля Астравеччыны і яе людзі, ён увесь час, з году ў год, нястомна, сторазова вяртае даўгі...

У свой час Адама Восіпавіча, як успамінае ён ва ўжо згаданай кнізе «Астравеччына, край дарагі...», вельмі ўзрушыла перакананне аднаго з пісьменнікаў, што ў Беларусі няма Астравецкага раёна, — пра Островец Свентокшыскі ў Польшчы ён чуў, а вось пра Астравец беларускі — не. І Мальдзіс па слову, па сказу, па старонцы збіраў у архівах, навуковых даследаваннях, розных публікацыях звесткі пра гісторыю роднага Астравецкага краю, яго людзей і дасылаў у раён — усе гэтыя матэрыялы ў першую чаргу друкаваліся на старонках раённай газеты «Астравецкая праўда». Поўнасцю прысвечана гісторыі, справам і людзям роднага краю яго кніга-нарыс «Астравеччына, край дарагі...», якая выйшла ў свет у 1977 годзе, і мастацкая аповесць, сатканая з гістарычных матэрыялаў і мясцовых легенд «Восень пасярод вясны» (1984 год), а таксама мноства публікацый у перыядычным друку. Без перабольшання можна сказаць, што Адам Мальдзіс падарыў свету Астравеччыну, а Астравеччыне — сваю адметную гісторыю.

Прыкладаў таму — безліч. Адзін з найбольш яскравых — эпапея з вяртаннем на радзіму постаці Іосіфа Гашкевіча (з асаблівым гонарам хачу адзначыць, што гэты выбітны чалавек — двойчы мой зямляк: дзяцінства яго прайшло на маёй роднай Гомельшчыне, у вёсцы Якімава Слабада Рэчыцкага павета, а апошнія гады жыцця Іосіф Антонавіч правёў у маёнтку Малі, што непадалёк ад Астраўца). Так, кніга Васілія Гузанава «Адысей з Белай Русі», у якой распавядаецца пра поўнае нечаканасцей і прыгод, здзяйсненняў і пакут жыццё гэтага выдатнага чалавека, падарожніка, вучонага, даследчыка, дыпламата, першага расійскага консула ў Японіі, якому паверылі і якога палюбілі непрымальныя да ўсяго іншаземнага японцы, выйшла ў свет яшчэ ў 1969 годзе, а ў 1993 годзе была перакладзена на беларускую мову Янкам Саламевічам. Але менавіта дзякуючы нястомнай дзейнасці Адама Мальдзіса імя гэтае цяпер шырока вядома ў Беларусі, а на Астравеччыне яго ведае кожны — стары і малы. У 1994 годзе ў Астраўцы ўстаноўлены помнік Іосіфу Гашкевічу работы таленавітага скульптара Валерыя Янушкевіча, у Мальскай сельскай бібліятэцы працуе прысвечаная слыннаму земляку музейная экспазіцыя. Прафесар узяў на сябе нялёгкую ролю непасрэднага арганізатара Першых (1995 год) і, нягледзячы на хваробу, Другіх (2002 год) міжнародных гашкевічаўскіх чытанняў, у якіх прынялі ўдзел вядомыя навукоўцы, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, работнікі культуры, краязнаўцы, журналісты з Беларусі, Расіі, Японіі. Гэтыя чытанні не толькі дапамаглі адкрыць дагэтуль невядомыя старонкі жыцця «белавалосага консула», але і сталі новымі вехамі ў развіцці сяброўскіх сувязей паміж Расіяй, Беларуссю і Краінай Узыходзячага Сонца, а таксама прыўнеслі шмат цікавых звестак і імён у гісторыю Астравеччыны.

З дапамогай Адама Мальдзіса жыхары Астравеччыны даведаліся яшчэ пра аднаго свайго слыннага земляка — мастака Мар'яна Богуша-Шышку, якога англійскі мастацтвазнаўца Эрык Ньютан назваў мастаком стагоддзя. 94 гады пражыў гэты таленавіты жывапісец, і амаль 70 з іх былі прысвечаны актыўнай творчай дзейнасці. Геаграфія яго персанальных выставак — Гданьск, Люблін, Гдыня, Кракаў, Варшава, Рым, Фларэнцыя, Парыж, Гамбург, Лондан... А падаравала свету гэтага унікальнага чалавека Астравеччына: нарадзіўся ён у 1901 годзе ў вёсцы Трокенікі. «Раскапаў» гэта, дапамог вярнуцца на радзіму творчай спадчыне мастака зноў-такі Адам Мальдзіс.

Тое ж можна сказаць і пра таленавітага мастака Льва Дабжынскага, які самавызначыўся як творца, калі жыў у вёсцы Лоша, што непадалёк ад Астраўца. На жаль, ён трагічна загінуў у маладым узросце. Але Адам Восіпавіч адшукаў і дапамог землякам звязацца з яго сястрой Надзеяй Бітэль-Дабжынскай, таксама, дарэчы, вельмі цікавым чалавекам, польскім урачом і таленавітай пісьменніцай, якая перадала ў Лошскую сельскую бібліятэку ксеракопіі малюнкаў брата, у тым ліку і тых, што былі непасрэдна звязаны з тутэйшымі мясцінамі, вяла з землякамі актыўную перапіску. У многім дзякуючы старанням прафесара на магіле Льва Дабжынскага ў Лошы ў 1991 годзе быў адкрыты помнік пры ўдзеле шырокай грамадскасці Беларусі і Польшчы.

Не без удзелу Адама Мальдзіса захоўваецца на радзіме памяць пра Казіміра Сваяка (Стаповіча) — каталіцкага святара і беларускага пісьменніка, які нарадзіўся ў вёсцы Барані, а служыў святаром у вёсцы Клюшчаны. Ён быў сапраўдным беларускім асветнікам, нястомна нёс веды і культуру народу, мне здаецца, што постаць гэтага самаадданага патрыёта яшчэ чакае таленавітага пяра даследчыка яго поўнага самаахвярнасці і трагізму жыцця.

Таленавітую музычную спадчыну пакінуў пасля сябе яго брат — кампазітар Альбін Стаповіч.

І якое б прозвішча мы ні ўзялі — пісьменніка і святара Янку Быліну (Яна Семашкевіча), што нарадзіўся ў вёсцы Лакцяны; збіральніка беларускага фальклору, паэта і публіцыста Старога Уласа (Уладзіслава Сівога-Сівіцкага), пэўны перыяд жыцця якога звязаны з вёскай Варняны; знакамітага польскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Генрыка Сянкевіча, які некаторы час жыў і працаваў у маёнтку Дубнікі паблізу Варнян, — заўсёды побач, хоць і крыху ў цяні, стаіць прозвішча Адама Мальдзіса як вяртальніка спадчыны, прапагандыста твораў і здзяйсненняў сваіх знакамітых землякоў. Ведаючы шматграннасць таленту самога Адама Восіпавіча, часам думаеш: колькі ж яго асабістых твораў мы страцілі з-за таго, што ўсе свае сілы і час ён аддае для вяртання нашчадкам амаль што страчанай імі спадчыны... Але сам прафесар лічыць, што гэта — больш важна. Магчыма, гэта і так...

Дзякуй вам, Адам Восіпавіч, і за нашу гісторыю, і за вашу нястомнасць, і за тое, што вы ёсць — у Астравеччыны і Беларусі!

## КАРАЛІ ЗЕЛЕНАБРОВАЙ ВІЛІІ

Стаю на стромкім беразе зеленабровай Віліі, і быстрая рачная вада, здаецца, зносіць з дня сённяшняга ў мінуўшчыну — міжволі ловіш сябе на думцы, што гэтак жа віляла-пятляла яна між крутых берагоў і сто, і тысячу год назад, вось толькі неслі да яе гаючых вод свае задуменныя галавы, сплаканыя ці, наадварот, шчаслівыя вочы зусім іншыя мужчыны і жанчыны... З усходу на захад працінае Астравецкі раён гэтая хуткаплынная прыгажуня, і на яе зялёна-блакітную стужку густа нанізаны пацеркі вёсак, вёсачак, мястэчкаў, хутароў, і кожнае з гэтых паселішчаў — жывая гісторыя.

Міхалішкі — найбольш буйное з іх, бо ў гэтым месцы перасякліся шляхі Віліі і гістарычнага Полацкага тракту. Сюдой ішлі на ўсход з ваяўнічымі намерамі войскі Баторыя, Карла XII, Напалеона. Тут, у Міхалішках, адпачываў у мясцовага пана Бжастоўскага Пётр І. Тут і сёння стаіць і прымае вернікаў старажытны касцёл, пабудаваны ў стылі барока для манахаў аўгустынцаў у 1653 годзе дойлідам Пенсам. А багатае ўнутранае ўбранства, разьбу для шасці алтароў выканаў італьянскі скульптар Перэці — той самы Перэці, які афармляў славуты віленскі сабор Пятра і Паўла. Дапамагалі яму мясцовыя вучні, Жалевіч, напрыклад. Пра гэта, як і пра паноў Бжастоўскіх, уладальнікаў Міхалішак, мы таксама даведваемся з кнігі А. Мальдзіса «Астравеччына, край дарагі...»

Адна з самых прыгожых і арыгінальных караляў у густым россыпе вілейскіх вёсак — Быстрыца. «Гэта адно з самых старадаўніх пасяленняў на Астравеччыне. У хроніках Стрыйкоўскага і Каяловіча гаворыцца, што тут знаходзілася першая сталіца Вялікага княства Літоўскага. Каля Быстрыцы, ля хутара Лінаморгі, ёсць старадаўняе гарадзішча або язычаскае ахвярнае месца, пад назвай «Замкаўшчына» падрабязна апісанае Тышкевічам. У 1390 годзе Ягайла заснаваў тут адзін з першых у княстве касцёлаў і пасадзіў манахаў-пакутнікаў. Як цэнтр аднайменнага стараства Быстрыца пазначана на карце Т. Макоўскага 1613 года, выдадзенай у Амстэрдаме». Гэтая цытата — таксама з вышэйпамянёнай кнігі А. Мальдзіса пра Астравеччыну. Адам Мальдзіс расказвае, як у старадаўнія часы па Віліі густа плылі стругі, байдакі, лайбы, плыты. У 1856 годзе праз Быстрыцу прайшло да тысячы плытоў з лесам. Мясцовыя флісакі сплаўлялі драўніну ў Прусію. А па дарозе назад, ля Катлоўкі і Міцкун, іх падпільноўвалі разбойнікі. Па Віліі плылі ўверх, да Міхалішак, гарматы, якія Стэфан Баторый браў з сабой у паход супраць Івана Грознага. А яшчэ раней тут была камора, дзе бралі пошліну — мыта (адсюль — сённяшняя мытня?). Захаваўся прывілей аб гэтым Сігізмунда І, пісаны ў 1542 годзе ў Вільні на старажытнай беларускай мове.

Сённяшняя Быстрыца на сталіцу не цягне — не самая вялікая вёска ў Астравецкім раёне, нават не цэнтр калгаса ці сельсавета. Але ёсць у ёй нешта такое... Ну, тое, па чым нават у прыбіральшчыцы пазнаюць графіню — парода, ці пачуццё ўласнага гонару, самасвядомасці — як гэта лепш назваць, не ведаю. Паветра тут асаблівае, ці што? Настоенае на гісторыі, на водарах векавога сасновага бору і лугавога разнатраўя. Таму, напэўна, і людзі тут асаблівыя — сучасныя, абцяжараныя сённяшнімі шматлікімі клопатамі і праблемамі, — і ўсё ж праз гэтую будзённую заклапочанасць не-не ды і прагляне пагляд гжэчнай князёўны ці пастава сярэдневяковага рыцара...

Узяць, да прыкладу, Іосіфа Браніцкага. Навошта, скажыце, чалавеку трымаць вадзяны млын у век прагрэсу і электрарухавікоў, калі ўсё, што хочаш, можна змалоць за лічаныя хвіліны любой пажаданай якасці? Але ж гэта — памяць пра бацьку, які сам, сваімі рукамі, некалі зрабіў яго, камяні вазіў ажно з-пад Вільні, і любіў, і глядзеў яго, як сваё дзіцятка. За гэта ў свой час, як саветы прыйшлі, ён ледзь не загрымеў у Сібір. А затым, ужо пры калгасе, лічыўся пры ім, часткі калектыўнай уласнасці, млынаром, наёмным работнікам — перасіліў крыўду і боль, каб зберагчы свой млын, у якога, яму здавалася, душа смылела не менш, чым у самога гаспадара. Таму і захаваўся стары млын у той час, калі ад яго братоў ужо і камянёў не засталося. Так, сыну давялося, калі дазволілі прыватызацыю, яшчэ і грошы заплаціць за справу бацькавых рук, але затое млын Браніцкіх цяпер зноў — уласнасць сям'і, якая, трэба спадзявацца, гэтак жа беражліва будзе захоўвацца нашчадкамі, і ён гэтак жа спраўна і беражліва, як і стагоддзе назад, прымае ў сваё ўлонне напоенае жыццядайнай сілай зямлі збожжа, каб вярнуць яго гаспадарам мяккай мукой...

Вочы ў вочы гжэчнай Быстрыцы паглядае з другога берага Віліі апошняя хата яе колішняй сяброўкі — вёскі Перавознікі, у якой засталася адзіная жыхарка — слынная ткалля Яніна Іванаўна Бутовіч, ручнікі ды дываны якой ва ўсёй Беларусі, ды што там — ва ўсім свеце — і ў Англіі, і ў Японіі, і ў Польшчы, і ў Літве прадстаўляюць Астравеччыну. Пажылая жанчына, яна гоіць шматлікія болькі шэптам свайго лесу, водамі сваёй адвечнай спадарожніцы жыцця — ракі, шчырай малітвай у старажытным Быстрыцкім касцёле (дзеля гэтай малітвы сямідзесяціпяцігадовая бабуля кожную нядзелю самастойна пераплывае на лодцы Вілію) — і ніяк не хоча ехаць у горад да дзяцей: як жа яна там будзе без усяго гэтага, без свайго лесу, рэчкі, касцёла, кроснаў?

Памочнікі бабы Яні, як і многіх іншых вяскоўцаў, — быстрыцкія настаўнікі Багачовы: Вера Аляксандраўна разам са сваім мужам Мікітам Іванавічам прыехала сюды 40 гадоў назад, і яны далі пачатак сямейнай дынастыі: цяпер у мясцовай базавай школе працуюць абедзве іх дачкі, Людміла і Надзея. Няма, напэўна, у вёсцы чалавека, якога б ні вучыў нехта з па-жыццёваму мудрых і душэўна шчодрых Багачовых, — мо яшчэ і адсюль гэткая асаблівая дабрыня і святло тутэйшых людзей?

А ўлюбёны ў сваю вёску, якую паэт Мікола Мятліцкі вобразна назваў «радзімкай на рачным брыве», Станіслаў Віюк лічыць, што ведаць пра тое, што быстрыцкія мясціны — найлепшыя ў свеце, павінны як мага больш людзей, і таму мяркуе заняцца папулярным сёння, але, на жаль, не вельмі развітым у Беларусі экалагічным турызмам. Прычым гэта не нейкія там «манілаўскія пражэкты»: Станіслаў распачаў да гэтай справы грунтоўную падрыхтоўку — мае ўжо і месца, дзе прыняць гасцей, і неабходны мінімум зручнасцей, і адпаведную праграму прадумаў. Прычым усё гэта будуецца пакуль што без усялякай там староннняй спонсарскай дапамогі, на ўласным энтузіязме.

Яшчэ адзін чалавек, ахоплены энтузіязмам, жыхар тутэйшых мясцін Мечыслаў Змітровіч, па асноўнай прафесіі — рабочы Катлоўскага лясніцтва, а па стане душы — таксідэрміст-аматар, майстэрству якога маглі б пазайздросціць многія прафесіяналы, таксама самастойна, па покліччу сэрца, стварыў у сябе дома, у вёсцы Трокенікі, музей астравецкай фауны, пабудаваўшы для гэтага нават спецыяльную хацінку. І сабраў там практычна ўсіх бегаючых, лятаючых, поўзаючых насельнікаў мясцовых лясоў, каб маглі з гэтым багаццем пазнаёміцца дзеці, школьнікі, госці раёна — ды проста ўсе жадаючыя.

## НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

Быстрыца — не адзіная вёска на карце Астравецкага раёна, дзе гісторыя і сучаснасць спляліся ў цесны вянок, перацякаючы адна ў адну. Ёсць жа яшчэ і Варняны, якія лічацца неафіцыйнай сталіцай Астравеччыны — гістарычнай, культурнай, нацыянальнай.

Гісторыя Варнян налічвае больш за 600 гадоў, першая згадка пра гэтае мястэчка ў пісьмовых крыніцах адносіцца да 1391 года. У канцы XVI стагоддзя Варняны належалі Яну Абрамовічу, лідскаму старасце, пісьменніку і асветніку, які выхоўваўся пры двары Мікалая Радзівіла Рудога. Яму прыпісваюць аўтарства некалькіх кніг, але да нас дайшла толькі адна — «Погляды ліцвіна аб набыцці таннага збожжа і прода-

жы яго даражэй». Менавіта Ян Абрамовіч заклаў у Варнянах кальвінісцкую царкву, школу і бальніцу.

Сапраўднага росквіту дасягнулі Варняны ў другой палавіне XVIII стагоддзя, калі іх уладальнікамі з'яўляліся вядомы дзеяч Рэчы Паспалітай Ежы Абрамовіч і яго жонка Марыяна. На месцы драўлянага храма імі ў 1767—1769 гадах былі ўзведзены мураваны касцёл і плябанія. У адным ансамблі з касцёлам у пачатку XIX стагоддзя былі пабудаваны палацава-паркавы комплекс і жылыя сялянскія дамы на плошчы. Варнянскі ансамбль унікальны, ён адзіны ў сваім родзе ў Беларусі, бо сюды ўвайшлі тыповыя цагляныя дамы, пабудаваныя спецыяльна для сялян. Восем жылых дамоў выходзілі фасадамі на рынкавую плошчу. Кожны дом быў разлічаны на дзве сям'і прыгонных сялян, яны злучаліся паміж сабою высокімі мураванымі сценамі з арачнымі праездамі.

Гэта ўсё — сведчанне гісторыі. Як і тое, што ў канцы XIX стагоддзя воласць Варняны налічвала 12 акруг са 130 вёскамі, у якіх было 1015 дамоў і жыло 12 469 жыхароў. У самім мястэчку Варняны былі на той час каталіцкі касцёл, яўрэйская сінагога, будынак валасной управы, прыходская школа, невялікі цагляны завод, 18 магазінаў, кожны тыдзень праводзіліся кірмашы.

Дарэчы, цэнтр створанага ў складзе Беларускай ССР у 1940 годзе Астравецкага раёна першапачаткова меркавалася зрабіць у Варнянах і ён там нават нейкі час знаходзіўся. Але затым выбар быў зроблены на карысць Астраўца з-за блізкасці чыгуначнай станцыі.

Унікальнасць Варнян яшчэ і ў тым, што большасць помнікаў даўніны тут не зруйнавана-разрабавана «ўдзячнымі» нашчадкамі, а захавалася да гэтага часу — і тыя ж сялянскія дамы, і велічны касцёл святога Георгія, праўда, у часы ваяўнічага атэізму ў ім быў размешчаны сельскі дом культуры. Але жыхары Варнян лічаць, што гэта, магчыма, пайшло нават на карысць святыні, дапамагло захаваць яе — усё ж лепш, чым там месцілася б якое-небудзь сховішча ядахімікатаў ці склад. Ва ўсякім выпадку, касцёл перададзены вернікам у 90-я гады ў добрым стане.

Асобная размова пра гонар Варнян — пабудаваныя ў канцы XIX стагоддзя млын і неагатычная вежа-альтанка на востраве пасярод сажалкі. Яны з'яўляюцца сапраўдным упрыгожаннем вёскі, яе своеасаблівай візітнай карткай. Але былі такімі не заўсёды — быў час, калі стаялі закінутымі ў чаканні незайздроснага лёсу многіх іншых помнікаў гісторыі. Ды ў Варнян ёсць яшчэ адна асаблівасць — ім заўсёды шанцавала на добрых людзей, кіраўнікоў, якія ўмелі шанаваць і паважаць дасягненні і тварэнні рук сваіх папярэднікаў.

Сённяшні старшыня сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва Уладзіслаў Эдвардавіч Рук — менавіта з такіх. Калі ён (па тым часе — адзін з самых маладых кіраўнікоў у раёне) прыняў гаспадарку, тады яшчэ калгас імя Чапаева, і млын, і вежа-альтанка знаходзіліся ў заняпадзе. Тады, у сярэдзіне 90-х, асноўным пытаннем для калгасаў было (як, зрэшты, застаецца і цяпер): як выжыць? І, напэўна, ніхто б не папракнуў старшыню, каб ён «не заўважыў» занядбанага стану помнікаў гісторыі і культуры — хапала іншых праблем. Больш таго, калі калгас заняўся адраджэннем іх, некаторыя аднесліся з недаверам: маўляў, дзівак-чалавек, не мае больш куды грошы дзяваць, ці што?

Але Уладзіслаў Эдвардавіч палічыў справай гонару — і не толькі свайго асабіста, але і ўсіх варнянцаў — вяртанне да жыцця таго, што пакінулі продкі ў спадчыну. І калгаснымі будаўнікамі старому варнянскаму млыну было нададзена другое жыццё: ён пераўтвораны ў прасторны і ўтульны дом сямейных урачыстасцей. А старадаўнюю і ў той жа час вельмі сучасную, набыўшую пасля рамонту другое жыццё вежу-альтанку, да якой вядзе пад'ёмны мосцік, вяскоўцы завуць «вежай закаханых».

Шанаванне і зберажэнне гісторыі, нацыянальных традыцый, культуры — адна з адметных рыс характару У. Э. Рука. Але — не галоўная. Ён лічыць, што гісторыю трэба ведаць і шанаваць, але жыць толькі мінулым, успамінамі — гэта першая прыкмета правалу любой справы. Каб жыць і развівацца, трэба пастаянна рухацца наперад. Уладзіслаў Эдвардавіч гаворыць, што Варнянам пашанцавала, бо на пасадзе кіраўнікоў гаспадаркі ў яго былі добрыя папярэднікі: у свой час для развіцця калгаса шмат зрабілі Уладзімір Паўлавіч Постраш, Мар'ян Вацлававіч Шагун.

Але калі быць справядлівым, то нельга не адзначыць, што найбольшых поспехаў калгас дасягнуў, калі яго старшынёй калгаснікі абралі У. Э. Рука — кіраўніка новай фармацыі, прагрэсіўнага складу мыслення, адукаванага і перадавога. Сёння гэта ад-

на з лепшых гаспадарак раёна, у якой укараняюцца новыя прагрэсіўныя тэхналогіі, дзе дабіваюцца высокіх паказчыкаў ва ўсіх галінах сельгасвытворчасці. У свой час Уладзіслаў Эдвардавіч пайшоў на смелыя крокі, каб вывесці з заняпаду свінагадоўчы комплекс, хаця і ў раёне, і ў калгасе ішлі даволі сур'ёзныя размовы пра неабходнасць яго закрыцця з-за стратнасці. А цяпер гэты комплекс пастаянна ўваходзіць у тройку лідэраў у Гродзенскай вобласці, трымае на плыву ўвесь кааператыў, ды і ў агульных паказчыках раёна адыгрывае значную ролю.

Але ў гаспадарцы ніколі не спыняюцца на дасягнутым, тут пастаянна жывуць новымі планамі, задумамі, кіруючыся тым прынцыпам, што запланаваць — гэта зрабіць палову справы. Пераабсталявалі на больш выгадны і эканамічны метад утрымання адно з адкормачных памяшканняў свінакомплекса, сталі думаць, як зрабіць гэта і ў астатніх. Паглядзеў старшыня, пабываўшы ў Чэхіі, што там кароў утрымліваюць па метаду «шведскага стала» і якую гэта дае карысць, — загарэўся ідэяй зрабіць тое ж і ў сваім калгасе. І не проста загарэўся — неўзабаве дзве фермы будуць пераабсталяваны для ўтрымання жывёлы па бяспрывязным метадзе. А ў аснову любой дзейнасці кіраўнік ставіць пытанні эканомікі, справядліва зазначаючы, што калі калгасная вытворчасць будзе прыбытковай (менавіта такой яна і з'яўляецца ў Варнянах), то можна будзе і надзённыя патрэбы людзей задаволіць, і вытворчасць развіваць, і на адраджэнне гістарычнай і культурнай спадчыны сродкі знойдуцца. І можна не сумнявацца: не згубіцца ў Варнянах багатае гістарычнае мінулае, акрэсленай і прадказальнай будзе будучыня.

## З КЛЮШЧАНСКАЙ ПАРАФІІ

Разважаючы пра мінулае і сучаснае жыццё Астравеччыны, я злавіла сябе на думцы: мясціны, багатыя гістарычнай спадчынай, і потым, праз гады і дзесяцігоддзі, прыцягваюць да сябе людзей неардынарных, духоўна адораных, таленавітых. Прыклад таму — вёска Клюшчаны, ці дакладней будзе сказаць Клюшчанская парафія, якую можна лічыць цэнтрам беларускага нацыянальнага свядомага адраджэння канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

Вёска Клюшчаны па ранейшых мерках лічылася мястэчкам. Яна была цэнтрам вялікай парафіі, мела такія атрыбуты местачковасці, як драўляны касцёл Маці Боскай, пабудаваны ў канцы XIX стагоддзя, помнік архітэктуры драўлянага дойлідства; пастарунак, школу, пошту, рамізу (пажарную), краму.

У гэтай парафіі, у вёсцы Лакцяны, у 1883 годзе нарадзіўся Ян Семашкевіч (Янка Быліна) — свядомы ідэйны беларускі святар, таленавіты паэт, які ў сваёй паўсядзённай пастырскай дзейнасці і літаратурнай творчасці нёс людзям беларускае слова.

Прыкладам самаахвярнага служэння беларускаму народу можна лічыць жыццё Казіміра Сваяка, які закончыў Віленскую духоўную семінарыю і пэўны час служыў ксяндзом-пробашчам на радзіме, у Клюшчанскім касцёле. Гэтыя гады можна назваць залатымі для беларускай моладзі, якая гуртавалася вакол свайго святара. Нягледзячы на ўціск уладаў, у тым ліку і касцельных, і слабае здароўе — ён быў хворы на сухоты, Казімір Сваяк апантана служыў ідэі духоўнага і нацыянальнага адраджэння свайго краю. Ён прамаўляў у касцёле навуку на роднай мове — нечуваная па тых часах, ды не надта частая і сёння смеласць; ствараў у парафіі беларускія школкі — толькі ў 1916 годзе іх было адкрыта ажно сем; аб'яднаў вакол сябе моладзь у беларускую арганізацыю «Хаўрус сваякоў» і ладзіў з ёй канцэртныя і тэатральныя пастаноўкі, якія карысталіся вялікай папулярнасцю ў мясцовага насельніцтва. Казімір Сваяк актыўна супрацоўнічаў з «Нашай нівай», газетай «Беларус», пісаў для іх вершы, эсэ, нарысы. Адзіны выдадзены пры жыцці зборнік вершаў «Мая ліра» ставіць яго ў шэраг найбольш адметных беларускіх паэтаў таго часу. Дзякуючы Казіміру Сваяку і яго маладым сябрам-беларусам, на Клюшчаншчыне гасцяваў разам з Паўлінай Мядзёлкай Янка Купала — яны глядзелі пастаўлены вясковай моладдзю ўрывак з п'есы «Паўлінка», а затым разам гулялі і весяліліся. Успаміны пра гэта і сёння захоўваюць мясцовыя жыхары.

У многім дзякуючы сяброўству з Казімірам Сваяком адбылося нацыянальнае самавызначэнне другога слыннага сына гэтай зямлі, беларускага патрыёта Адольфа Клімовіча. Нарадзіўся ён у вёсцы Казаноўшчына, што побач з Клюшчанамі, а пахаваны, па яго запавету, на клюшчанскіх могілках. Інтэлігент еўрапейскай культуры,

выпускнік Пражскага універсітэта, адзін з лідэраў беларускай хрысціянскай дэмакратыі, супрацоўнік Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, таленавіты журналіст, рэдактар і выдавец — усе гэтыя словы пра яго, вялікага і сціплага чалавека, інжынера Адольфа Клімовіча.

У тутэйшых мясцінах нарадзіліся і жылі, праслаўляючы іх сваімі творамі, таленавітыя майстры — рэзчыкі па дрэву Вікенцій Францавіч Ягела і Міхаіл Міхайлавіч Валуевіч.

І ўжо зусім дзіўным, але вельмі паказальным можна лічыць той факт, што нават чалавек, першапачаткова далёкі ад беларускай гісторыі і культуры, трапіўшы на дабратворную клюшчанскую зямлю, наталяецца яе энергіяй і жыццядайнасцю. Я — пра Вольгу Караткевіч, маладую жанчыну, якая нарадзілася і вырасла на Далёкім Усходзе, там выйшла замуж за палешука Анатоля Караткевіча і прыехала з мужам у Беларусь. Сям'я пасялілася ў Клюшчанах — цяпер ужо не мястэчку і нават не самай вялікай вёсцы. Вольга стала працаваць у Спондаўскай сярэдняй школе, выкладаць біялогію. Яна гэтаксама, як і кожны, хто пазнаёміўся з непаўторнай, зачароўваючай прыгажосцю тутэйшых мясцін, палюбіла іх шчыра і самаахвярна. Жанчына, шануючы багатую гісторыю і традыцыі сваёй новай радзімы, вывучыла беларускую мову — дарэчы, як сама прызнаецца, вучыла яе па творах слыннага цёзкі па прозвішчу свайго мужа Уладзіміра Караткевіча, якога таксама не пакінулі раўнадушным чары астравецкай зямлі. А яшчэ яна разам са сваімі вучнямі распрацавала экалагічны праект — з эканамічнымі выкладкамі, канкрэтнымі распрацоўкамі — па захаванню і вывучэнню унікальнай мясцовай прыроды, які быў высока ацэнены на абласным узроўні. І менавіта тут, у Клюшчанах, праявіўся ў Вольгі талент мастачкі, вельмі арыгінальнай і самабытнай. Поўныя цеплыні і святла карціны яна стварае... з футра. Персанальныя выстаўкі Вольгі Караткевіч працавалі ў Мінску ў галерэі «Славутыя майстры» і ў літаратурным музеі ў Траецкім прадмесці.

## АСТРАВЕЦ — СВЕТУ ПАЧАТАК

Так ужо склалася з-за шэрага аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын, як гістарычных, так і сучасных, што гарадскі пасёлак Астравец, з'яўляючыся адміністрацыйным цэнтрам раёна, тым не менш на ролю «сталіцы» краю «не цягнуў» ніколі. Сваю гісторыю ён адлічвае з 1462 года. Але заўсёды — і пры царскай уладзе, і пры панскай Польшчы — гэта было глухое мястэчка, нават не цэнтр воласці ці гміны, усяго толькі парафіі. У канцы XIX стагоддзя тут было толькі 22 дамы. Няшмат змянілася і пасля таго, як Астравец стаў цэнтрам раёна — у першай палавіне мінулага стагоддзя, па сведчанню відавочцаў, у райцэнтры была толькі адна вуліца з мураванымі дамамі. Вядома, у 80—90-х гадах Астравец істотна разросся, набыў неабходны для райцэнтра мінімум зручнасцей і выгод. Але ўсё роўна адчувалася ў ім заўсёды нейкая прыгнечанасць — нібы недавер да ўласнага высокага статусу.

Так было да нядаўняга часу.

Адам Дзмітрыевіч Кавалька, прызначаны на пасаду старшыні Астравецкага райвыканкама амаль чатыры гады назад, перакананы, што Астравец нічым не горшы за іншыя раённыя цэнтры Гродзенскай вобласці. І хто гэта выдумаў, што ён — свету канец? Наадварот, Астравец, як вароты Беларусі на мяжы з Прыбалтыкай, можна лічыць пачаткам свету. І выгляд яго павінен быць адпаведны, як і належыць хай сабе і невялікаму, але сучаснаму і ўтульнаму еўрапейскаму гарадку.

Прыкладна такая задача ў якасці адной з асноўных была пастаўлена кіраўніком раённай вертыкалі. Вядома, стэрэатыпы ламаць цяжка, асабліва калі яны запаланілі масавую свядомасць. Але часам — проста неабходна. Бо інакш — балота і застой. Цяпер, калі Астравец за два-тры гады пераўтварыўся — добраўпарадкаваўся, папрыгажэў і працягвае харашэць дзень пры дні, — здаецца, усе паверылі, што і ў нас жанчыны могуць хадзіць на працу ў туфліках, не абцягваючы папярэдне абцасы жалезнымі набойкамі — бо інакш абутку не назапасішся. І паступова астраўчане прывучаюцца да думкі, што тут таксама можна жыць не проста зручна, але і прыгожа, калі, вядома, і самім прыкласці да агульнай справы рукі.

А добраўпарадкаванне, якое пачалося ў раёне задоўга да аб'ўленага Прэзідэнтам года навядзення парадку, і, падобна, ні ў якім выпадку не закончыцца пасля першага студзеня, пакрочыла далей — на раён, у вёскі: сельскія жыхары таксама маюць

права на ўтульнасць і камфорт. У мінулым годзе шмат чаго ў гэтым плане было зроблена ў Кямелішках і аднайменным сельсавеце. Сёлета напярэдадні вялікага свята з нагоды стогадовага юбілею аднаго з прыгажэйшых не толькі ў раёне, а і ў краіне касцёла Святой Тройцы вялікая работа па добраўпарадкаванню была зроблена ў Гервятах і навакольных вёсках. Распачата яна і ў Варнянах: сельскагаспадарчы кааператыў, сельскі Савет дэпутатаў і райвыканкам плануюць надаць гэтай вёсцы адпавядаючы яе статусу выгляд.

Старшыні райвыканкама давялося ламаць закасцянелыя стэрэатыпы не толькі ў плане адносін да ўмоў жыццядзейнасці, але і ва ўсім астатнім. Спачатку, на першым часе, асноўным аргументам праціўнікаў перамен было адвечнае, што не падлягае абмеркаванню: «Гэтага не можа быць, таму што гэтага не можа быць ніколі», за якім стаяла звычайнае жаданне плыць па цячэнні, нічога не мяняючы. Аднак паступова людзі зразумелі, што адсядзецца ў халадку ні ў кога не атрымаецца і што падтрымкі, разумення і дапамогі ў А.Д. Кавалькі можа дабіцца толькі той, хто рупіцца нешта зрабіць, пераадольваючы цяжкасці, рухаецца наперад, імкнецца дасягнуць сёння большага, чым учора, а заўтра — пайсці яшчэ далей.

За невялікі час, калі раён узначальвае Адам Дзмітрыевіч Кавалька, на Астравеччыне адбыліся прыкметныя зрухі да лепшага. Сельскагаспадарчы раён, які традыцыйна займаў апошнія месцы ў абласных зводках амаль па ўсіх паказчыках (і для апраўдання гэтага знаходзіліся дзесяткі слушных прычын), цяпер упэўнена трымаецца ў тройцы лідэраў — і гэта на моцнай сваімі дасягненнямі ў вытворчасці малака і мяса і атрыманні высокіх ураджаяў Гродзеншчыне. З дапамогай раённага і абласнога бюджэту ў гаспадарках раёна прыкметна абнавіўся машынна-трактарны парк, набыты новыя сучасныя збожжа- і кормаўборачныя камбайны, трактары, іншая тэхніка. У многіх гаспадарках з'явіліся свае магутныя камбікормавыя цэхі, здольныя забяспечыць каларыйным і збалансаваным па пажыўных рэчывах кормам рацыён калгаснай жывёлы. А галоўнае, на чым няспынна акцэнтуе ўвагу страшыня райвыканкама і што дасягнута немалымі намаганнямі, — любая вытворчасць, у тым ліку і сельскагаспадарчая, павінна прыносіць прыбытак, бо інакш яна не мае ніякага сэнсу. У пераважнай большасці сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў так яно і ёсць, хоць яшчэ некалькі гадоў таму гэта ўяўлялася амаль што нерэальным. Ажывілася і дзейнасць нешматлікіх прамысловых прадпрыемстваў раёна.

Планаў і задум у старшыні Астравецкага раённага выканаўчага камітэта Адама Дзмітрыевіча Кавалькі мноства. Датычацца яны ўсіх бакоў жыцця раёна — і сельскай гаспадаркі, і прамысловасці, і сферы абслугоўвання, і сацыяльна-культурнага жыцця. Часам, гэтыя планы палохаюць недасведчаных сваёй смеласцю і неардынарнасцю. Але тыя, хто лепш ведае Адама Дзмітрыевіча, не сумняваюцца: у яго хопіць сіл і настойлівасці давесці пачатае да канца. А значыць, неўзабаве ўсе, а не толькі астраўчане, паверацць, што Астравец — свету не канец, а ўсяго толькі пачатак.

**АРКАДЗЬ РУСЕЦКІ**

# У ТРЫВОЗЕ ЗА РАДЗІМУ

Паэт Алег Салтук пачатак сваёй творчай працы адносіць да 1965 года, калі з бласлаўлення Аляксея Пысіна ў газеце «Магілёўская праўда» з'явіўся яго першы верш. Першы літаратурны настаўнік будучага паэта не памыліўся: за больш чым тры дзесяткі гадоў паэтычнай творчасці А. Салтуком напісана шмат паэм, мноства вершаў, зроблены дзесяткі перакладаў вершаў з рускай і ўкраінскай моў. Адначасна і творы беларускага паэта гучалі на рускай, украінскай, польскай, балгарскай, нямецкай мовах. Творчыя набыткі А. Салтука занітаваны ў кнігах вершаў і паэм «Пачатак дня», «Працяг», «Святло зямлі», «На далонях жыцця», «Трывога лёсу» (1974—1996 гады), друкаваліся ў калектыўных зборніках («Молодые поэты Беларуси», «Слово по кругу», «Истоки», «Беларусь моя»), перыядычным друку, гучалі ў перадачах па радыё і тэлебачанню. У біяграфічным слоўніку беларускіх пісьменнікаў літаратуразнаўца Л. Гарэлік сярод асноўных матываў паэзіі А. Салтука вызначае найперш любоў да радзімы і роднай зямлі, партызанскай Ушаччыны. У абсягах творчай зацікаўленасці паэта — гераічная памяць беларускага народа, нялёгкія армейскія будні, клопат і трывога нашых дзён, пачуцці кахання, сяброўства, вернасці, няпростыя чалавечыя ўзаемаадносіны. Уважлівае прачытанне вершаў і паэм А. Салтука дазваляе вылучыць шматаспектнасць творчасці паэта, у аснове абагульняючай характарыстыкі якой ляжыць настойлівае, усёабдымнае, я сказаў бы, апантанае імкненне паэта да спасціжэння глыбіннай сутнасці светаіснавання, а сцержнявым момантам — канкрэтна-вобразнае асэнсаванне духоўна-гістарычных вытокаў фарміравання нацыянальнай самасвядомасці. Падаецца ўсё гэта на лірычным фоне паэтычнага аналізу складаных маральна-этычных і філасофскіх праблем, успрыняцця паэтам зменлівага і хуткацечнага быцця, духоўнай спадчыны, традыцый і звычак продкаў, шматгалосся жывой вечнасці. Не абыдзена ўвагай і праблема ролі паэта ў нашым мітуслівым, супярэчлівым жыцці. Будучы адным з тых творцаў, каго, па словах В. Яраца, «лёс пасвіць на асфальце і прасёлках», А. Салтук часта дэманструе нечаканыя, але заўсёды глыбока заземленыя варыянты паэтычнай думкі, прасякнутай непарыўнай сувяззю ці то з родным беларускім, ці то са славянскім пачаткамі. У вершах і паэмах, у паэтычных вобразах, якія ўзнікаюць «з душэўнай і духоўнай патрэбы» (А. Марціновіч), у лёсе і жыцці лірычнага героя А. Салтука заўсёды праследжваецца пачуццё шчырай удзячнасці сцежкам маленства і маладосці, перакрыжаванням сталасці, што вывелі і вядуць паэта па жыцці і неабсяжных прасторах роднай Бацькаўшчыны. Генадзь Бураўкін неяк адзначыў, што ў вершах Алега Салтука пачуццё дачынення да трывог і глабальных праблем свету «вельмі асабістае, лірычнае, калі можна так сказаць, ціхае і прыходзіць яно не столькі тады, калі ён у думках акідвае поглядам планету, а часцей за ўсё тады, калі ён задумваецца аб лёсах аднавяскоўцаў, аб гісторыі роднага краю, аб станаўленні свайго пакалення». Паміж паэтам і яго Радзімай (вялікай Белай Руссю і «малой» вёсачкай Рыжэнькі ды рэчкай Нярэшняй), яго землякамі, дарагімі і памятнымі для сэрца людзьмі, падзеямі і мясцінамі ўстанавілася тая моцная непарыўная сувязь, без якой няма ні паэзіі, ні духоўнасці, ні ўвогуле чалавечнасці. Сувязь з роднымі мясцінамі — гэта не толькі сустрэчы з блізкімі людзьмі, знаёмымі і дарагімі з дзяцінства рачулкамі, палямі і дарогамі. Паэт вяртаецца на Радзіму, што да-

ла яму мову, праз слова, якому надае сілу і крылатасць. Пры гэтым (апошняе трапна падмеціў В. Ярац) выказваецца любоў да Бацькаўшчыны без эстраднага завывання і халоднай манументальнай дэкларатыўнасці. Канечне, творам А. Салтука ўласцівы эмацыянальнасць і прыўзнятасць, духоўная напоўненасць, публіцыстычнасць, дзякуючы якім сучаснае і мінулае, асабістае і агульначалавечае зліваюцца ў непарыўнае цэлае, дзе чытач знаходзіць не толькі «вогненныя сполахі і незагойныя водгукі мінуўшчыны, але і спадзяванне, веру ў неўміручасць, у працяг» (В. Яраш).

Першы зборнік твораў А. Салтука «Пачатак дня» і апошні (па часе выдання) «Трывога лёсу» раздзяляюць больш чым дваццаць гадоў. Можна адназначна сцвердзіць, што гэта былі гады паэтычнага сталення, пакутлівых пошукаў і знаходак, напаўнення паэтычных абсягаў новымі тэмамі, больш сталым, больш аналітычным, заглыбленым, філасофска-этычным падыходам да іх асэнсавання (не проста сцвярджаць эстэтыку звычайнага!), а таксама навацый у структурнай паліфаніі верша, рытмічнай і графічнай шматстайнасці. Маем на ўвазе неаднастайнасць метрыкі суседства розных версіфікацыйных форм і прыёмаў арганізацыі матэрыялу. Увагу А. Салтука прыцягваюць не толькі настрой сялянскай хаты, але і працэсы ў развіцці грамадства і чалавечых узаемаадносін, тыя з'явы, якія твораць жыццё, твораць паэта і яго свет. Прычым гэтыя працэсы і з'явы ўспрымаюцца аўтарам не ізалявана адно ад другога, а ва ўзаемасувязі, пэўнай залежнасці і ўзаемаўплыве. Адзін прыклад.

Вось навукова-філасофскі ланцужок: «нацыя — калектыў — асоба». Для паэтычнага асэнсавання гэтай трыяды А. Салтук знаходзіць свае падыходы і словы. Напрыклад, аб нацыі: ламалі нас, беларусаў, «распіналі на дыбах, плахах і крыжах», «але ўставалі мы з каленяў, не паміралі, а жылі». Аб земляках: «У Шуміліне пасынак сёння я, ва Ушачах — даўно сынок. Землякі, мае родныя, сонныя, не чутно мяне ў вас, не відно». Нараджаюцца такія думкі, складваючы вобраз Радзімы, такія словы і радкі таму, што для паэта (як і для кожнага з нас) «мясціны бацькі, мясціны маткі» і ёсць той «дым Айчыны», пра якую, калі ты сапраўды аддадзены ёй, не будзеш кожны раз гаварыць высокім словам, але якая жыве ў сэрцы, душы, памяці, дзе б ты ні быў. Аб сям'і (для паэта менавіта яна выступае ў якасці першаснага калектыву): тут у першую чаргу добрыя словы пра маці («Ты для мяне незгаснае святло. Няхай цябе агорне і вартуе анёлка найсвяцейшае крыло»), пра бацьку («Стары, сівенькі мой стары, часцей адзін ты днём і ноччу: схаваў матулю дол сыры, а жыць да нас ісці не хочаш»).

Канечне, каранямі сваімі гэта праблематыка заглыбляецца і ў «Пачатак дня», і ў «Працяг», і ў «Святло зямлі». (Не можа чалавек, асабліва калі ён натура паэтычная, жыць без свайго вызначальнага пачатку!) Менавіта ў першых кнігах паэта склалася яго тэматычная зацікаўленасць. Вось, напрыклад, другі зборнік вершаў «Працяг», у якім чытач знаходзіць успаміны паэта <u>аб зямлі маленства</u> («У нас лясная старана...», «Равесніку», «Старая студня», «Лапоча крыламі певень...», «Патухлі ў вёсцы даўно агні»), роздум аб непарыўнасці сувязей дзяцей з бацькамі і Радзімай («Радзіме», «Размова з лесам», «За перамогу сёння выпіў...», «Не пасміхайцеся з мяне, не кпіце...», «Белавежа», «Дарога»), клопаты аб лёсе сусвету і чалавечай памяці («Адкажыце, чаму...», «Памяць», «Выклятая балада», «Малююць дзеці на асфальце...», «Вітаю сонца ўзыход»), лірычныя радкі аб каханні («Калі размаўляюць вусны...», «Бэз пялёсткі купае ў росах...», «Хацела неяк мора запаліць...», «Святло тваіх вачэй...»). У многіх творах ёсць цікавыя захады да паэтычнага пранікнення ў сутнасць з'явы, цікавыя фарматворчыя падыходы, нечаканыя метафары, параўнанні («Верасень келіх з краямі наліў — восень на царства вянчаецца», «Лістапад асцярожна, на дыбачках ходзіць...», «Вечныя толькі багі, бо сэрца не маюць жывога» і інш.).

Тэматычна ўсё гэта знойдзе свой працяг у зборніках «Святло зямлі» і «На далонях жыцця». Але падыходы аўтара да рэалізацыі азначаных накірункаў, як мне здаецца, некалькі адрозніваюцца ад папярэдніх, іх канкрэтна-вобразнае ўвасабленне прымае больш рэальныя і ў той жа час абагуленыя рысы і дасягаецца праз адносіны паэта да такіх беларускіх знакамітасцей, як Францыск Скарына і Уладзімір Караткевіч, Янка Купала і Алег Янчанка («На далонях жыцця»), Фелікс Тапчэўскі, Ігнат Буйніцкі, Еўдакія Лось («Святло зямлі»). Вось эмацыянальна-экспрэсіўныя, але балюча-праўдзівыя радкі з верша «Памяці У. С. Караткевіча»:

...Ныллі недзе няўлоўна званы,
Можа, ў Вецебску, можа, ў Гародні,
Ведаў ты, як пражыць без маны
І адкуль, і якога мы роду.

Каласы ўжо чакалі сярпоў.
Незабыўны той час, незваротны.
Адышоў?
Не — дадому прыйшоў,
Задуменны, шчаслівы, гаротны.
Ты ляжыш пасярод зямлі.
І вярба, і чазенія ў скрусе.
БЫЎ.
ЁСЦЬ.
БУДУ.
Не будзеш калі —
Значыць, Бог уцячэ з Беларусі!

Душэўна-балюча гучыць і верш-прысвячэнне паэтэсе Еўдакіі Лось:

Усё было. Усё было.
Мы сёння толькі паўтарэнне...
Зямлі кранулася святло,
І пачалося празарэнне.
Што без яго мы? Камяні —
Былых часоў нямыя сведкі,
А голас ёсць і ў цішыні,
І размаўляць умеюць кветкі.
А як падслухаць, разгадаць
І голас той, і гукі гэты?..
Ляцяць у вырай і ляцяць,
Каб не вярнуцца больш, паэты.

Прозвішчы творцаў нацыянальнай (ды й славянскай — у зборніку «Трывога лёсу» з'явіцца цыкл вершаў, прысвечаных А. С. Пушкіну) мастацкай культуры (у тым жа зборніку «Трывога лёсу» змешчаны верш «У вянок Максіму Багдановічу», вершы-прысвячэнні Р. Барадуліну («На сваце паэзіі»), Я. Янішчыц («Сувязная багоў») зусім не выпадковасць. З аднаго боку, гэта добрая і ўдалая спроба ў паэтычнай форме асэнсаваць гістарычны шлях развіцця беларускага мастацтва, занатаваць праз канкрэтныя прозвішчы тыя ўражлівыя асабіста-гістарычныя з'явы, якія, быццам бурштын, не губляюць з часам сваіх якасцей, а становяцца яшчэ больш велічнымі і прыцягальнымі. З другога, гэта як бы прыступкі да паэтычнага асэнсавання такой складанай філасофскай з'явы, як мова, разуменне яе сутнасці, яе ролі і месца ў гістарычным і культурным развіцці нацыі.

Працягам азначанай тэмы выступаюць вершы са зборніка «Трывога лёсу», прысвечаныя гісторыі нашага краю, яго сівой мінуўшчыне. І як самыя значныя, адметныя сімвалы эпох выдзяляюцца старажытны Полацк і постаці знакамітай асветніцы Еўфрасінні Полацкай, майстра-ювеліра Лазара Богшы, паэта Максіма Багдановіча. Была далеч у нашай гісторыі, адзначае паэт. Яна прадстае перад сучаснікамі знакамітымі асобамі, сярод якіх Усяслаў Чарадзей — першы беларускі дзяржаўнік. А наперадзе — бясконцасць жыцця, дзе ў спелым жыце заўсёды будзе «сіні васілёк».

У разважаннях Алы Кабаковіч аб творчасці А. Салтука ёсць цікавы, трапны выраз: «Мова ва ўжытак кожнаму дастаецца спадчынна». У тым ліку і паэту. А вось, як кожны з нас (у тым ліку і паэт!) здолее распарадзіцца такім неацэнным скарбам, гэта ўжо іншая справа (не сакрэт, што і на сённяшні дзень адносіны да роднай мовы — як да другой дзяржаўнай і г. д., і г. д.). Пры гэтым для чалавека творчага, як мне здаецца, выразна праследжваюцца дзве іпастасі — адносіны да мовы як з'явы гістарычнай, нацыянальнай, філасофскай і адносіны да роднага слова як матэрыяльнага выражэння ўсеагульнага паняцця «мова».

Даследчыца ўдала выказала думку, што паэтычная творчасць — гэта заўсёды прыручэнне слова. Напэўна, гэта так — у паэзіі без «прыручанага» слова не абыдзешся. Як не абыдзешся і без разумення глыбіннай сутнасці першаасновы слова — мовы, мовы бацькаўскай, дзедаўскай, тых нашых прашчураў, хто, як каменьчык за каменьчыкам, адбіралі яе гістарычныя набыткі, апрацоўвалі, шліфавалі, каб у рэшце рэшт мова наша беларуская заззяла на небасхіле моў сусвету адметнай, незгасальнай зоркай. І гучыць гэта слова ў бацькоўскіх вуснах і паэтычных творах («Словы матчынай мовы так у сэрца запалі, што у вершах нанова праз гады прарасталі...»), родных песнях («...А ў сэрца ўсё б'ецца песня матчына й белы свет») і на саладцкіх абеліcках («Цішыня на варотах распята. Ад болю белыя пліты: у сорак трэцім, у сорак пятым

забіты, забіты, забіты...»). Родная мова для паэта — гэта і сутнасць існавання: «У век імклівы, // У век суровы // Шукай высновы // У яве слова // Бацькоўскай мовы», і сутнасць творчасці:

Буду стаяць на сваім:
Паэзія — гэта ўздым,
Паэзія — гэта падзенне,
Малітва і ачышчэнне,
Неба крутая бязмежнасць,
Лёсу твайго непазбежнасць.
Паэзія — гэта натхненне,
Праўда, давер і сумленне.

Не ўсе гэта, на жаль, разумелі і разумеюць. У паэме «Спатканне» А. Салтук выказваецца зусім адназначна:

...Было хвалююча сказаць,
Што ў слове дух і гарт народа,
Дык як сягоння з тых спагнаць,
Хто сваё слова лічыць шкодным?
Каб на мяне, вось што б зрабіў:
Такіх усіх і без размовы
У першы клас бы пасадзіў
У школу з беларускай мовай.
Цярпліва б і з душой вучыў,
Каб на жыццё навукі стала,
Што беларус спрадвеку быў,
А з ім — і Колас,
і Купала.

Гэта ў рэшце рэшт самае святое ў жыцці паэта — яго Радзіма, якая дала слова, мову, шчасце і талент распараджацца імі. Таму і думае, і дбае паэт пра ісцінnасць слова, давер і павагу да яго: «Каб слова праверыць, // На абрус пакладзі яго матчын, // Што на святы яна засцілае. // Калі больш пасвятлее ад слова // ў хаце — // Гэта добра».

Таму і патрабавальны паэт да сябе, да сваёй творчасці.

У зборніку «На далонях жыцця» А. Салтук сфармулюе сваё разуменне паэтычнай творчасці, свае адносіны да паэзіі:

Жыву і веру,
Веру нездарма:
Я не апошні з іх, сыноў вясковых.
Выток мой там, пачатак і аснова,
Там спадзяюся адшукаць я словы,
Якіх пакуль у слоўніках няма.
*(«Вера»)*

Такім чынам, зліваюцца ў адзіна «слова», «мова», «творчасць», «паэт», як бы набліжаючы А. Салтука да паэтычнага спасціжэння сутнасці Радзімы, яго прыналежнасці і адказнасці за яе. У зборніку «Трывога лёсу» гэты тэматычны пласт акрэслены найбольш выразна. Канечне, шмат пражыта і перажыта: нялёгкае пасляваеннае дзяцінства (верш «Жорны» — «а жорны не зламаеш, бо трэба хлеб пячы»), слёзы бацькі і дзеда ад болю франтавых раненняў (вершы «Успамін бацькі», «Самота», «Таямніца»), радасць і горыч кахання («Не гадала ты і не марыла...», «Да цябе і блізка, і далёка...», «Над стрэхамі снежны дымок...», «Я п'ю з крыштальнага бакала...» і інш.). Сфармуляваўшы аднойчы жыццёвае і творчае правіла: «Ды толькі годнасць чалавека, паэт, ніколі не губляй!» («Аўтапрысвячэнне»), паэт імкнецца цвёрда следаваць яму. Найбольш паказальным у адносінах да самааналізу з'яўляецца, на мой погляд, верш «Штрыхі да аўтапартрэта», своеасаблівая паэтычная споведзь аўтара аб пройдзеным жыццёвым шляху, сваім жыццёвым крэда. Нязмушана, нават некалькі ўрачыста гучыць яго голас, калі размова ідзе аб тым, што дорага, што ўзвышае чалавека над паўсядзённасцю быцця, робіць яго высакародным і добрым. Але гнеўна гучаць радкі, у якіх асуджаюцца крывадушша, подласць, прыстасаванства. Да месца будзе па-свойму прачытаны (лепш сказаць перафразаваны) верш «Ты ніколі не быў фарысеем», які аўтар гэтых радкоў уручыў паэту А. Салтуку ў дзень яго 50-годдзя:

Ты ніколі не быў фарысеем,
Затое сабою заўсёды быў.
І зямельку араў, і жыцейка сеяў,
І з дзяцінства прыроду любіў...

Я мяркую, маэстра, што слова
Не адну шчэ абудзіць душу.
Гэта праўда: усё ў свеце часова.
Тым не менш —
Да сяброўства прашу...

Здавалася б, усё ў гэтым свеце гарманічна, павінна заўсёды адпавядаць людскім узвышаным настроям і пачуццям. На жаль, у жыцці бывае па-рознаму. І паэт душой і сэрцам адчувае такую дысгармонію: «Сляпымі сталі нашы душы, бязвер'ем вочы зараслі... Згубілі ўсё, усё, што мелі ад нашай спадчыны святой», забываючыся пра тое, што ў жыцці вызначальным з'яўляецца добрае, вечнае, светлае (як антонаўкі, што заўсёды падаюць у баразну), а не выпадковае, штучнае, наноснае.

Своеасаблівым абагульненнем, зваротам-заклікам быць верным Радзіме гучаць наступныя радкі: «Жывіце шчасліва і дружна, сябры, землякі і радня, каб нехта чужы і дасужы сваё ў нас усё не адняў». І далей паэт заклікае:

Адна ў нас такая зямелька,
Дзе кожнаму месцейка ёсць.
Не будзе яе — хоць у пельку,
Таварыш, спадар, ягамосць.

Але да таго часу, калі «зямная глыбіня» стане «апошнім прытулкам», лірычны герой А. Салтука пастаянна адчувае святло роднай зямлі, імкнецца, каб яно вечным дабром асвятляла Бацькаўшчыну, людзей, якія жывуць і працуюць на Беларусі. Ніхто не ведае, куды закіне яго жыццёвы лёс, але кожны, хто памятае свой выток, хто глыбока пусціў карані ў жоўтыя нівы і зялёныя сенажаці, следам за героем верша А. Салтука «Прызнанне» скажа: «Да слёз // Памятаць буду святло бяроз // І дарагой Беларусі // За самай высокай гарой пакланюся». І далей:

Запытаюць цябе, чый ты сын,
Адкажы, мой сынок:
— БЕЛАРУС Я!

Адметна тое, што ў творах А. Салтука сумесна з яркім выражэннем асабістых пачуццяў уражліва гучаць і філасофскія матывы разумення, еднасці беларусаў са славянскімі каранямі:

На рубяжах святла і ценяў,
На пакалечанай зямлі
Мы паднімаліся з каленяў,
Не паміралі —
Мы жылі.
Спявалі, галасілі ўголас
Сярод пустэч,
Сярод балот.
Нібы прыбіты градам колас,
Да сонца браўся мой народ.
Адкуль у нас такая сіла,
Магутная, як крыгалом:
Нас і палолі, і касілі,
Цапамі войнаў малацілі,
А мы расцём,
А мы жывём!

*(«Беларусы»)*

Рвалі супастаты карані,
Голле секлі і ў агні палілі,
Каб на мове — божа барані —
На бацькоўскай мы не гаварылі.
...Вечарэе сінь над галавой,
Жыта палавее за дарогай.
Курганоў упэўнены спакой —
Пахаваюць ворага любога.
Дзедаў тут стаяў калісьці дом.

Тут — таемнасць матчынага слова.
Тут мая Няпрадва,
Ту мой Дон,
Тут маё і поле Кулікова.
*(«Мая зямля»)*

...І каб зямляк земляка
Не забываў ніколі...
Выцякла Бацькаўшчыны рака
З вечнай бясконцасці, з болем.
*(«Выйшлі з бясконцасці мы...»)*

Моцна гучыць у творчасці А. Салтука тэма славянскай еднасці, еднасці нашай гісторыі, нашых лёсаў, той духоўна-генетычнай асновы, якая не знікла ў вяках і стагоддзях, захаваўшы адметнасць беларусаў, іх нацыянальную свядомасць, менталітэт.

Стагоддзі сплылі,
Як карчы.
Братэрствам каранаваныя
Радзімічы і крывічы —
Светлага дня адранак.
Не ў дзяльбе,
А ў сяўбе жывучы,
Не далі сябе адпрэчыць
Радзімічы, крывічы —
Разам навечна.
...Крок —
Да пляча плячо.
Строй паламаць немагчыма.
Крэўнасць наша —
Ад крывічоў,
Ад радзімічаў —
Наша радзіма!
*(«Еднасць»)*

Аб пастаяннай і пільнай увазе А. Салтука да праблем славянскага жыцця і культуры сведчаць шматлікія творы. Напрыклад, такія, як цыкл вершаў «Чэрвень над Віслай» (зборнік «На далонях жыцця»), вершы «Дуэль», «Сяргею Ясеніну» («Пачатак дня») і іншыя. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца лірычны цыкл з шасці вершаў «Пскоўскія фрэскі», што вянчае зборнік «Трывога лёсу», дзе ў поўнай меры праяўляецца лірычны талент паэта, бачна, як без усялякай напышлівасці (хоць некаторая ўзнёсласць і праглядаецца) аддаецца даніна павагі сучасніка-творцы да паэтычнага генія («Я ішоў з маленства і з маленнем да цябе, мой праведны Паэт»), адкрытае захапленне прыгажосцю славянкі-пскавічанкі («...З якою годнасцю ідзе! ... Яе турчанкай хоць адзень, у ёй не згубіцца славянка»), тонкі сарказм у адносінах да маладых манахаў («Кніжку старасвецкую гартае. Ні маны, ні думак сатаны ... А на стан дзявоцкі трапяткі, нібы косю, сінім вокам косіць»), нарэшце, свае ўражанні ад рэк Вялікай і Сораці, той адзінай імяннной алеі, што знаходзіцца ў парку над Сораццю («І засталася алея з імем адзінае той... Сораць люляе лілею. Госпадзі, супакой»).

Для свайго героя паэт знаходзіць у акаляючым жыцці такія рэаліі, якія цэментуюць жыццё роднай старонкі, жыццё славян у адно адзінае, непарыўнае цэлае. Як мне здаецца, у адносінах да Беларусі такім сімвалам стала рэчка Нярэшня (якую толькі і знойдзеш на геаграфічнай карце Шумілінскага раёна). Маленькая рэчка Нярэшня для паэта — гэта і жыццёвыя вытокі («Ёсць у мяне свае вытокі, і пачынаюцца яны з Нярэшні — рэчкі неглыбокай, сястры малодшае Дзвіны...»), і крыніца творчага натхнення, і месца роздуму над пражытым і ўбачаным. Праз любоў да сваёй Нярэшні паэт высвечвае шэраг агульназначных грамадскіх праблем, вырашэнне якіх непадуладна паэтычнаму пяру. Гучаць яны эмацыянальна-абвострана, нават трывожна. Вось радкі з паэмы «Спатканне», у якой цесна пераплецены сацыяльнае з маральным, духоўнае з экалагічным:

Дзень ідзе, і я іду
У зару яшчэ маладую.
Ў радасць крочыў, прыйшоў у бяду —
І смуткую.
Баравіны шумелі тады
І сяло, як вулей, гуло,
Нібы крыгі, сплылі гады,

Агарнула суму крыло.
Дзе паляны сунічныя, дзе
На Дзвіне крутыя віры?
Лес, мой лес, як жа ты парадзеў —
Хоць лічы сасонкі ў бары!
Школы новай бялеюць муры.
Кабінеты — цяпло і святло —
Ёсць усё, толькі менш дзетвары,
Чым у нашай драўлянай было.
У Парэччы —
Чатыры двары.
У Далуеве...
Што лічыць?
Амаль кожны двор тут стары —
Не бабулек жа ў школе вучыць —

*(Усё выдзелена аўтарам. — А. Р.)*

Так, усё ёсць у нялёгкім вясковым быце (непрадуманыя меліярацыйныя работы, высечаныя лясы, састарэлыя вёскі і людзі), але ў голасе паэта ўсё ж пераважвае аптымістычны пачатак:

І вады дадуць табе крыніцы,
І апоўнач дужыя ласі
Выйдуць з пушчы да цябе напіцца.
На купалле моладзь прыбяжыць
У святочнай да цябе абнове.
Трэба верыць, рэчка, трэба жыць, —
Мой выток,
Пачатак
І аснова!

Дарэчы, і маленькія рэчачкі (Нярэшня і Ушача, Дарэйка і Вулянка), і больш значныя (Дзвіна, Палата, Віцьба) — своеасаблівы фетыш паэта, даніну якому ён аддае ў кожнай сваёй кнізе. Ды й сам паэт адкрыта прызнаецца: «У мяне ёсць тры рачулкі, светлы боль, мая любоў. Мне без іх на свеце мулка, з імі сэрца б'ецца гулка і бунтуе ў жылах кроў... Ёсць на свеце тры рачулкі — берагі маёй тугі...» Уменне ўбачыць, заўважыць, адчуць чалавечую (і сваю) роднасць на зусім рэальнай глебе сённяшняй рэчаіснасці — важкая адметнасць у творчасці А. Салтука. Напрыклад, у апошнім паэтычным зборніку «Трывога лёсу» паэт змясціў каля дзесятка вершаў, прысвечаных, здавалася б, такім празаічным і будзённым тэмам, як паляванне — традыцыйнае і, грыбное («Грыбны дождж», «На паляванні», «Сябру», «Далёкае», «Па грыбы» і інш.). Але ж змест іх — аптымістычны, цёплы, насычаны паэтычнымі замалёўкамі прыродных з'яў, родных лясных абшараў, узаемаадносін чалавека і прыроды. Паэт прызнаецца: «Ад цішыні даўно адвык, ды вусціш выпала такая, што чую — чорны баравік праз мох бялюткі прарастае». Паэтычна і вобразна. Толькі той, хто ведае нашу прыроду, хто любіць яе непадробную прыгажосць, мог рашыцца на такія параўнанні.

Тэма Вялікай Айчыннай вайны ў творчасці А. Салтука прадстаўлена надзвычай шматпланава і шматаспектна. Свае адносіны да вайны паэт фармулюе праз асэнсаванне асобных эпізодаў (рыпучы пратэз ветэрана, асколак, што піла знайшла ў дрэве, заржаўленыя кулі ў кожным дрэве ці суку, уцалеўшая ад расстрэлу дзяўчына, крывавы блакадны прарыў, салдацкія захаванні ля дарогі з Віцебска на Лёзна, бацькоўскі ваенны медаль, жыццё ўдавы Адэлі), якія ў рэшце рэшт складваюцца ў панарамнае палатно народнай памяці, дзе трагічна-суровымі сімваламі выступаюць нескароная Брэсцкая крэпасць і балючая Хатынь, трагічная блакада Ушацка-Лепельскага партызанскага краю і кожны чацвёрты загінуўшы беларус:

У зямлі маёй памяць моцная,
У народа — яшчэ мацней.
Абеліскам на брацкіх могілках
З кожным годам усё цясней.
Едуць сёння здалёку і зблізку
Пакланіцца, ўзяць жменьку зямлі...
Манументы і абеліскі
З нашай памяці прараслі.
Гэта памяць усё пераверне
Праўдаю,

Як зямлёю сырой...
У тваю нязломнасць я веру,
Неўміручая
Крэпасць-герой.
Веру вам,
Каміны Хатыні,
Вас ні жах, ні агонь не скарыў.
Веру вам,
Сцяжыны святыя,
Партызанскія —
На Прарыў!
*(«Смутак памяці»)*

Памятай пра вайну і пакланіся народу, які змог у ёй выстаяць і перамагчы, — вось лейтматыў вершаў і паэм А. Салтука аб ваенным ліхалецці. Жыві, сучаснік, радуйся і... памятай. Памятай, што зброі ў гэтым свеце назапашана дужа шмат і яна (ці тыя, хто ёй валодаюць) заўсёды шукае месца для свайго скарыстання.

Не абыдзена А. Салтуком і такая традыцыйная для паэтычнай творчасці тэма, як каханне. Але ж быць у ёй традыцыйным, значыць, згубіць сябе. Мо таму, паэт шукае і знаходзіць свае, адметныя падыходы, трапныя цёплыя словы. У кожнага з нас ёсць тая адзіная, якой рашаемся аднойчы адрасаваць сваё прызнанне. У А. Салтука чытаем:

Святая, мусіць, ты,
Калі дасюль яшчэ
Цяпла тваіх вачэй
Хапае мне на ўсіх маіх сцяжынках.
*(«Ты не лічы ў хвіліны нематы...»)*

Неяк непрывычна, нават дзіўнавата гучыць просьба героя да сваёй абранніцы. Але якая шчымлівасць, якая адкрытасць пачуцця: «Напішы мне пісьмо // На лісточках кляновых, // У азёрную сінь абмакнуўшы пяро».

У распрацоўцы тэмы кахання ў зборніку «Трывога лёсу» з'яўляюцца новыя матывы. Гэта ўжо не безагляднае юначае захапленне (хоць успаміны аб той далёкай пары адчуваюцца ў вершах вельмі яскрава), а хутчэй пара роздуму і асэнсавання ўчынкаў — эмацыянальных, разважлівых ці эгаістычных. «Хопіць і папрокаў, і праклёнаў — адгарэла, хай яно згарыць! У вачах глыбокіх і зялёных больш мяне нікому не ўтапіць» («Былое»).

І яшчэ аб адным. Аб нязменнай увазе А. Салтука да вуснай народнай творчасці, узбагачэнні яго паэтыкі народнай мудрасцю, насычэнні твораў метафарамі, нечаканымі параўнаннямі. Адметнасць, аднак, не толькі ў запазычанасці з народнага і выкарыстанні яе: ідзе працэс узбагачэння ўласнай паэтычнай мовы, стварэнне сваіх неалагізмаў, новых словаўтварэнняў. Словам, ідзе працэс сцвярджэння сваёй паэтычнай дарогі, усталяванага ў творчасці аднойчы прадэкларыраванага правіла «Не пець з чужога голасу!» І ў пацвярджэнне — адзін толькі прыклад. Гэта выхад паэта за межы ўласных зямных праблем. У «Трывозе лёсу» аўтар, бадай што, упершыню адыходзіць ад уласна зямных праблем. Не-не ды і прамільгне зварот да сакральнага, боскага, назіраецца спроба шукаць ісціну жыцця праз зварот да Бога. «Ды, дзякуй Богу, я жывы». Думка гэтая рэфрэнам працінае многія вершы А. Салтука, яшчэ больш звязваючы іх з духоўнасцю народа, яго векавой традыцыяй верацярпімасці.

Перад сённяшнім чытачом А. Салтук прадстае паэтам сталым, творчым, шукаючым. Гэта Асоба з адкрытай і актыўнай творча-грамадзянскай пазіцыяй: пяро паэта заўсёды скіравана на асэнсаванне агульначалавечых і значных асабістых праблем. Чытач адчувае яго заклапочанасць лёсам беларусаў, якія перажылі страшны Чарнобыль, здзіўляецца яго далікатнасці і тонкасці пры асэнсаванні тэмы любові, кахання, узаемаадносін паміж блізкімі людзьмі. Не засяроджваю ўвагу на шматгамнасці пачуццяў паэта, звярнуся да наступнага аспекту — заклапочанасці паэта нашым заўтрашнім днём: «Вялікі і праведны Божа, дай сілы нам зло перажыць!..» Асабістае ж жаданне паэта больш сціплае: «І адно, напэўна, засталося, без яго няма чаго і жыць — дачакацца (Божа, каб збылося!): жніўны ранак... Спелае калоссе... І насустрач мне ўнук бяжыць» (Спадзяванне»).

Трыццаць год гучыць на паэтычнай хвалі голас А. Салтука. Гучыць меладычна, настойліва, прыцягальна, ахопліваючы новыя прасторы і аўдыторыі. Але творчая няўрымслівасць паэта, багацце думак, творчых планаў, імкненне быць на віраўлінах жыцця — усё гэта добрае сведчанне таго, што галоўная Песня, галоўнае Слова А. Салтука яшчэ наперадзе.

НАТАЛЛЯ АТРОХАВА

# ФАКТ У ЛІТАРАТУРЫ,

## альбо Роздум над творчасцю Анатоля Бароўскага

З радасцю для сябе адкрыла празаіка Анатоля Бароўскага.

Неяк закранула прыкмечанае ў друку меркаванне дасціпных крытыкаў адносна таго, што ў апошнія гады беларуская паэзія, проза, драматургія амаль не папаўняюцца новымі талентамі, што «працэс уваходу ў літаратуру» залежыць не столькі ад аўтара, колькі ад выдавецтваў, часопісаў, крытыкаў».

Мне ж захацелася даказаць, і не толькі таму крытыку, а найперш самой сабе, што перш за ўсё аўтар павінен мець талент, мець за душою любоў да чалавека, да свайго народа, выразна ўсвядомленую грамадзянскую пазіцыю, мужнасць, смеласць і шырокія культурныя далягляды.

А гэта (і не толькі!) ёсць у творчасці А. Бароўскага. Пісьменнік пракладвае сваё, адметнае рэчышча ў сучаснай нацыянальнай літаратуры. Гэта той самы «новы талент», новая зорка, што загарэлася на небасхіле беларускай прозы.

У сваіх нататках я найперш імкнуся асэнсаваць вытокі творчасці пісьменніка, вызначыць тэматычную і жанравую разнастайнасць яго твораў, асаблівасці ўнутранага мастацкага свету. У гэтай сувязі важна прааналізаваць агульныя стрыжнявыя праблемы, што хвалююць празаіка, даследаваць мастацкую сутнасць яго твораў. Для дасягнення абранай мэты важна найперш раскрыць сутнасць трох задач — прасачыць эвалюцыю пісьменніцкага таленту А. Бароўскага; раскрыць мастацкую адметнасць твораў; асэнсаваць значэнне жанрава-стылёвых і тэматычных пошукаў пісьменніка.

Кнігі А. Бароўскага «Каліна пад акном», «Азірніся ў каханні», «Чорны бусел — белы цень», аповесці «Бронік-афганец», «Ахутавана», надрукаваныя ў часопісе «Маладосць», іншыя творы — значны, якасна новы этап у творчасці празаіка, што быў падрыхтаваны ўсёй папярэдняй журналісцкай працай. Дарэчы нагадаць, што пачынаў А. Бароўскі з газетна-часопісных нарысаў, у якіх аўтар сягаў у глыбіню душы чалавека.

Шчырасць і праўдзівасць, назіральнасць і арыгінальнасць падыходу да жыццёвых з'яў, здольнасць паказаць істотнае, глыбокае, схаванае ў глыбіні стагоддзяў і сацыяльна важнае для чытача, пільная ўвага да душы чалавека, яго перажыванняў і болю, — усё гэта характарызуе галоўныя накірункі пісьменніцкай зацікаўленасці Анатоля Бароўскага.

Дэбютаваў А. Бароўскі кнігай прозы «Каліна пад акном». Перад гэтым, праўда, у агульным зборніку «Знаёмства» выйшла яго аповесць «Тросніца». У «Каліне» змешчаны тры аповесці пісьменніка, сярод якіх — «Вера-Вераніка» і «Шыпшынавы цвет», а таксама апавяданні — «Каліна пад акном», «Верасы», «На схіле дня», «Сустрэча». Героі твораў А. Бароўскага — нашы сучаснікі, што жывуць у вёсцы і ў горадзе, і ў кожным з іх аўтар адкрывае адметныя рысы характару і шматстайныя спектры ўнутранага свету, багацце душы. Галоўнае, што яднае герояў А. Бароўскага, — гэта мэтанакіраванасць, цэльнасць характараў, высокая духоўнасць.

Не хацелася б завастраць увагу толькі на азначаных творах, бо яны яшчэ не ў поўнай меры характарызуюць празаіка А. Бароўскага. Нельга падняцца на наступ-

ную прыступку, не ступіўшы на першую. Што да «першай прыступкі» творчага станлення А. Бароўскага, то варта адзначыць, што празаік здолеў паглядзець на жыццё па-новаму, убачыўшы ў маленькіх на першы погляд з'явах агульнае і тыповае для краіны. Асобасны пачатак чалавека пісьменнік імкнецца спасцігнуць у лірычных, асабістых, нават інтымных абставінах. Даследчык маральна-этычных нормаў у паводзінах чалавека — так можна сказаць пра аўтара «Каліны пад акном».

Між іншым, ужо ў гэтай кнізе А. Бароўскага можна заўважыць схільнасць (ці патрэбу, неабходнасць?) мастака да выкарыстання сялянскіх, вясковых рэалій, і таму не дзіўна, што ў дыялогі і ў аўтарскую мову пісьменнік уводзіць квяцістыя, жывыя народныя словы: корпацца, загалуніўшыся, тамака, ета самае, дрон корань, упарыўся, інш. А. Бароўскі, знаходзячыся яшчэ на той «першай прыступцы», стараецца пісаць свае творы па высокім сацыяльным і мастацкім рахунку, імкнучыся ахапіць і спасцігнуць законы і стыхію жыцця аналітычнай думкай пісьменніка-філосафа.

Далей гэтыя набыткі і творчае крэда знойдуць сваю разгорнутасць, яскрава і арганічна пяройдуць у наступную кнігу — «Азірніся ў каханні». Так, дарэчы, называецца аднайменная, амаль фантастычная аповесць, якую аўтар жанрава выдзеліў з астатніх.

У аповесці шмат фантастычнага, нерэальнага: галоўны сюжэтны стрыжань заснаваны на спалучэнні рэальнага і містычнага, свядомага і падсвядомага, сучаснага і мінулага, прыгодніцкага і рэалістычнага. Аднак адзначаны містычны ўхіл твора выразна падкрэслівае маральную праблематыку аповесці. На думку даследчыка творчасці А. Бароўскага С. Ханені, «роздумы над жыццём герояў — гэта вынік матэрыялізацыі этычных аўтарскіх поглядаў. І чым далей ідзе ў бок містыкі А. Бароўскі, тым большая нагрузка выпадае на герояў, і тым больш відавочна становіцца этычная аўтарская пазіцыя». Містычная плынь, такім чынам, даволі дакладна выяўляе аўтарскае светаўспрыманне.

Героі А. Бароўскага — барацьбіты за жыццёвае хараство, творцы, душэўны стан якіх не дазваляе задавальняцца ўжо набытым, а ісці наперад, шукаць нечага новага, адкрываць нязведаныя далягляды. Менавіта такія людзі блізкія самому аўтару; А. Бароўскі, як ніхто іншы, разумее ўсіх, хто імкнецца да новых гарызонтаў.

Аповяд у аповесці вядзецца ад імя мастака Антона Зялёнкі. Галоўны герой — майстар, які па сваім светаадчуванні вельмі падобны да Майстра Булгакава з рамана «Майстар і Маргарыта». Гэта чалавек-шукальнік, творца, усё жыццё якога прысвечана шуканню праўды.

Незвычайны пачатак аповесці. Аўтар як быццам вядзе размову з чытачом, адкрывае куточак сваёй душы, дзеліцца сваім адчуваннем прыроды, сваім творчым неспакоем: «...мне здаецца, што калі я падыду да свайго рубяжа, дык будзе тое вось такой менавіта парой: лісцёва-завейнай, з жоўтым адценнем. Яно і будзе адпавядаць ростані з вечным, зямным, непадуладным ні часу, ні абставінам».

Восень, лістапад, ліставей... Тры словы, а як дакладна перадаюць яны сэнс гэтай пары роздумаў, аналізаў, разваг, калі хочацца думаць і разважаць не толькі аб уласным, але і аб нечым маштабным. Аўтар арганічна ўводзіць у твор міфічнае: з'яўляецца Айцец, з якім герой аповесці пачынае свой адметны дыялог. У выніку Айцец абяцае выканаць для Зялёнкі тры цуды-жаданні. Адзін — для каханай, другі — для ворага, трэці... для няшчаснага.

Пісьменнік нездарма не паказвае, што Бог выконвае жаданні толькі для асабістых выгод мастака. І гэта сведчыць пра глыбокае разуменне пісьменніка вялікай этычнай філасофіі Біблії. Сэнс гэтага разумення факусіруецца найперш у катэгорыях самаахвярнасці.

Мастак Пушкарчук і яго сябар Зялёнка, паэт Арлоў, Наташа... Героі А. Бароўскага жывуць у нерэальным свеце, але робяць і зямныя справы. Паэзія, укладзеная аўтарам (аказваецца, А. Бароўскі яшчэ і цудоўны паэт) у вусны Арлова, неаднаразова радуе чытачоў твора. І гэта — яшчэ адна адметная рыса пісьменніцкага стылю. Аўтар любіць і жыве паэзіяй, паэзіяй прасякнуты і думы яго герояў. Для герояў А. Бароўскага словы, вершы — як малітва, своеасаблівы гіпноз, «нейкі цуд, ад якога зыходзяць цёплыя біятокі. Яны ўсяляюцца ў чалавека, выцягваюць з яго злыбеду і боль». Усе героі аповесці сустракаюцца ў Арлова, дзе наладжваюцца паэтычныя сустрэчы, названыя аўтарам «Днямі душы».

У скляпенні, куды паклікаў сяброў Пушкарчук, можна змеціць шмат чаго цікавага. Прыкутыя да сцяны сатлелыя косці і каля іх «Суцяшальнік для закаханых»

Сігізмунда. Цэлы арсенал зброі: мячы, дзіды, сякеры, гакаўніцы і пішчалі... На сцяне — зробленая з каляровых камянёў мазаічная карціна Спаса, партрэт Гаўрыіла Мазырскага. Аўтар, падобна Караткевічу, уводзіць у твор элементы прыгодніцтва і гістарызму. І тут зноў пачынаюць «спрацоўваць» элементы містыкі: на працягу ўсяго падарожжа па скляпенні чуецца нечы смех, вынесеныя рэчы (манета, зброя і кніга) раптам ператвараюцца ў друз. Але на слайдах, што здымаў Зялёнка, прыкутыя да сцяны шкілеты аказваюцца прыгожымі дзяўчынамі-паляшучкамі, на тварах якіх адбіваецца жах і пакута.

Хутка стане зразумелым, што двума цудамі і іх вынікамі Зялёнка ўсё ж застанецца незадаволены. Таму трэці цуд вырашае патраціць «з розумам», — аддаўшы яго паэту-інваліду. І паэт у выніку адужаў і пайшоў. Але ж... перастаў жыць Зялёнка.

Хочацца адзначыць, што аповесць А. Бароўскага не толькі з болем, але і з глыбокай любоўю, сумленна і шчыра, а часцей даволі пераканаўча спавядае чытачу таемныя думкі пра спрадвечнае і вельмі патрэбнае чалавеку — пра людскую еднасць, вытокі любові і мужнасць. А яшчэ пра незнішчальную сілу жыцця і высокае неба пачуццяў. Сама мова аповесці пластычна-маляўнічая, меладычна-зладжаная. Часта сустракаюцца пытальныя сказы, і кожны з герояў спрабуе на гэтыя пытанні знайсці свае адказы, каб пазней разабрацца і ў сваім жыцці, і ў жыцці сваёй Радзімы.

Аповесць А. Бароўскага населена мноствам персанажаў — вяскоўцаў і гараджан, маладых і людзей сталага веку, мужчын і жанчын. І вось яны пачынаюць размаўляць... Тады здаецца, што само Палессе звініць-гамоніць у мове дырэктараў заводаў і дзядоў-палешукоў, акадэмікаў і леснікоў. У творах А. Бароўскага напоўніцу пануе маляўнічае анімістычнае светаадчуванне, што дазваляе разняволіцца хараству прыроды. У аповесці празаіка суседнічаюць і старонкі гісторыі роднага краю, і роздум над асушэннем балот, над жыццём сучаснай вёскі. Шмат старонак прысвечана праблемам людзей. Гэта і каханне, якое асвятляе сваімі промнямі жыццё герояў, і вайна, водгаласы якой раз-пораз з'яўляюцца ў жудасных снах і ўспамінах галоўнага героя — Косціка Міхалапа, і бор з яго насельнікамі, якія ў кнізе надзелены чалавечымі якасцямі і пачуццямі. Перад вачамі чытачоў паўстае прасторнае жытнёвае поле і змарнелая, атручаная хімікатамі зямля. Дадамо сюды яшчэ і тое, што ёсць у прозе А. Бароўскага мноства вытворчых эпізодаў, жывыя дыялогі герояў, выразныя пейзажныя замалёўкі, дзякуючы якім абагульнены панарамны малюнак Палесся паўстае ва ўсёй сваёй шырыні і жыццёвай супярэчнасці.

Пераўтварэнне зямлі ў творах А. Бароўскага — гэта найперш пераўтварэнне Чалавека. Чалавек і прырода знітаваны ў адно цэлае, і кожны залежыць адно ад аднаго, як таго і вымагае закон існавання. Галоўны герой аповесці, як ужо было сказана, — ляснік Косцік Міхалап. І аўтар нездарма абраў для свайго героя менавіта такую, найбольш звязаную з прыродай, прафесію. Герой А. Бароўскага чуйны, адкрыты прыроднаму хараству, чалавек. Яго думкі, мары ўсё жыццё неадрыўна звязаны з лесам і яго маленькімі жыхарамі: барсуком Паласацікам, ласямі Царом і Царыцай, гадзюкай Модніцай, ваўком Рэцыдывістам. Звяры ў аповесці разумеюць, пра што гавораць людзі, перажываюць, аналізуюць, дапамагаюць ім. Добра адчуваючы адносіны чалавека, лясныя насельнікі ведаюць, каго трэба асцерагацца, а да каго можна падысці без страху.

Лес для Косціка — гэта «царква, гэта храм, перад якім яшчэ на парозе трэба выціраць ногі. Лес — гэта Бог». І таму ляснік жыве яго клопатамі, чытае яго, як раскрытую кнігу. Разумеючы законы прыроды, герой А. Бароўскага перакананы, што парушэнне іх пагражае знішчэннем усяго жывога на зямлі.

Праблемы лесу — гэта ўласныя праблемы Косціка, які не можа абыякава глядзець на тое, як гінуць пад кулямі паляўнічых звяры, як паміраюць з-за атручаных палёў птушкі, як бяздумна нішчацца дрэвы. Спрабуючы заступацца і змагацца за ўсю зганьбаваную прыроду, герой аповесці А. Бароўскага часта натыкаецца на глухую сцяну абыякавасці чыноўнікаў, прабіць якую ён не мае магчымасці. І — сілы.

Але не адзінокі Косцік у сваіх жыццёвых памкненнях і светаадчуванні. Даволі каларытна ў гэтай сувязі намаляваны пісьменнікам і вобраз Мікіты Ладуцькі. Стары штукар, фантазёр, жартаўнік, гэты чалавек адначасна добра разумее і свет мастацтва. Злепленыя ім з гліны фігуркі людзей і жывёл разыходзіліся нават па ўсёй краіне. Ляпіў Ладуцька і сваіх аднавяскоўцаў. Невыпадкова, што на вяселле Косціка і Паліны народны майстар прынёс для падарунка жартоўныя скульптуркі. Любіў стары і лес: сваю скруху, боль, што застаўся ў ім яшчэ ад вайны, давяраў толькі старому бору.

Яшчэ адно. Як гэта ні балюча ўсведамляць, але ў сучасным жыцці зноў набывае вялікую разбуральную сілу ўлада розных папер.

Невыпадкова пісьменнік завастрае ўвагу чытача менавіта на ўсясільнай уладзе ананімак, ад якіх, здаецца, нікуды не схавацца. Але заўсёды існуе найвышэйшы суд. І яго ў аповесці Бароўскага праводзяць гістарычныя асобы мінулага: Вятчынка, кіраўнік паўстання Ярка, Бронька, Чэрцень, Ігналь, князь Радзівіл... Менавіта ў іх гонар і назвалі мясцовыя жыхары навакольныя ўрочышчы і бары. Гістарычныя постаці займелі свой голас і прачнуліся, не вытрымаўшы, ажылі — а былі ж дрэвамі і драмалі доўгі час, бо «...душна стала. Дыханне не хапае — хіба будзеш дыхаць смуродам? Што вы робіце? Спыніцеся! Без стрэлаў паміраюць, падаюць на зямлю дрэвы-людзі!..» Яны ж ажылі-ўсталі для таго, каб правесці суд над кожным жыхаром, у кожнага дабіцца адказу, чаму так здарылася. Кожны быў вінаваты перад зямлёю, перад памяццю продкаў, перад сваім родным кутком. І вельмі сімвалічна, што ў гэты час пайшоў дождж, пырснулі першыя кроплі «...і таму можна было падумаць, што людзі плачуць — па шчоках цяклі слёзы. А калі хто і сапраўды плакаў, то і тое адпавядала ісціне». Гэтыя кроплі былі кроплямі ачышчэння, усведамлення таго няшчасця, што нарабілі людзі, то былі слёзы раскаяння і — пакаяння. Вятчынка звяртаецца да людзей з імем Бога, зачытвае ім Апакаліпсіс, бо «...ведалі продкі, маіх продкаў прашчуры моц рэлігіі. І ў той вялікай Казцы-былі ёсць вялікі намёк — з добрымі пажаданнямі. Продкі вашы — той Бог».

Пісьменнік імкнецца данесці да нас думку пра тое, што ўсе мы залішне ўзвысілі сябе, зрабіўшыся ўладарамі ўсяго існага, забыліся пра тое, што Айцец стварыў усіх роўнымі для жыцця, даўшы кожнаму свой абавязак — абараняць усё існае, даваць жыццё і несці з сабой святло. Не цемру ночы, а святло жыцця.

Так, усё жыве, усё жывое, яно побач з чалавекам і на зямлі, і ў вадзе, і ў небе — у траве, у балоце, у самім паветры. І ўсё — са сваімі пачуццямі, вядомымі чалавеку альбо яшчэ не разгаданымі, усё — са сваёй радасцю ці болем, сумам альбо пратэстам, з удзячнасцю чалавеку альбо перасцярогай. Аўтар быццам пытаецца: чаму чалавек яшчэ так часта фанабэрыста ўпэўнены, што прырода, зямля — гэта ягоная ўласнасць? Чаму чалавеку так цяжка і складана прабіцца да думкі, што прырода не толькі вакол, але і ў нас саміх? І тут, здаецца, не будзе памылкай назваць А. Бароўскага гэтак жа, як некалі назваў Міхась Стральцоў Максіма Гарэцкага: прыроджаны апавядальнік. Бо, акрамя ўсяго, А. Бароўскі валодае вось гэтай разняволенай «манерай расказваць, весці апавяданне» — проста і заўсёды ўмела, зацікаўлена, што ўказвае на значнасць чалавечай асобы апавядальніка, markdown, рознабаковасць яго жыццёвага вопыту. Разам з тым аўтар зусім не заклапочаны дазіроўкай у паказе стваральных і разбуральных работ, не выдае рэцэптаў і павучанняў, прымушае чытача думаць і разважаць самому. Толькі бачыцца тое, як быццам радкі пісьменніка ствараюць карункі дрэва, дзякуючы якім сумленная і занепакоеная душа стваральніка апавядае нам пра тое, як жыццяважнае падымаецца ад глыбокіх зямных каранёў у вышыню, разрастаючыся і сплятаючыся там з пытаннямі, што хвалявалі людзей ва ўсе часы.

Проза Анатоля Бароўскага шматгранная і шматтэмная. Але ў эпіцэнтры яе стаяць эстэтычныя пошукі з этычнай праблематыкай. У сваіх творах аўтар на новым узроўні пераасэнсоўвае агульначалавечыя культурныя здабыткі. І часта для гэтага ён выкарыстоўвае містычна-ўмоўнае адлюстраванне жыцця. Элементы містыкі мы бачым найперш у яго аповесці «Азірніся ў каханні» (размова Зялёнкі з Богам, знікненне чароўных скарбаў, знойдзеных у падзямеллі, магчымасць выканання жаданняў); ёсць містычнае і ў асобных эпізодах аповесці «Княжабор» (сны, трызненні ў час хваробы Косціка). У аповесці «Ахутавана» рэальнае настолькі цесна знітавана з містычным, што на гэтым заснаваны галоўны сюжэтны стрыжань твора.

«Містычны ўхіл твора не перашкаджае, а, наадварот, толькі падкрэслівае канкрэтнасць маральнай праблематыкі аповесці. Роздумы над жыццём герояў — гэта вынік матэрыялізацыі этычных аўтарскіх поглядаў. І чым далей ідзе ў бок містыкі А.Бароўскі, тым большая нагрузка выпадае на герояў, і тым відавочней становіцца этычная аўтарская пазіцыя. Містычная плынь дакладна і ясна выяўляе аўтарскае светаўспрыманне» (С. Ханеня).

Сам аўтар называе сваю аповесць кнігай аб мроях. Яе сюжэт — гэта мроі аўтара, мары аб будучым, вольным і светлым заўтрашнім дні. І галоўная мара — незалежнасць краіны, яе нацыянальнае адраджэнне, яе моц і магутнасць. А яшчэ больш вышэйшая мара — краіна Ліцьвінія, у якой гавораць толькі на роднай мове, у якой усе

да аднаго памятаюць аб сваіх каранях — гістарычным мінулым, у якой шануюць мову і Бога. У гэтай краіне-дзяржаве на чале стаіць Касмічная Рада, задача якой — запоўніць белыя плямы гісторыі, аднавіць вырваныя чужынцамі старонкі гістарычнага мінулага.

Незвычайныя і насельнікі гэтай краіны-мроі. Гэта — звышчалавекі, людзі «пятай расы», якія надзелены фантастычнымі здольнасцямі. Людзі адчуваюць боль і радасць усяго існуючага на зямлі — жывога і нежывога, бо цесна звязаны з Сусветам і валодаюць незвычайным уменнем пераўвасабляцца, пераносіцца ў прасторы і часе, быць нябачнымі, жыць пад вадой, чытаць думкі іншых, лячыць, жыць у любым стагоддзі мінулага і будучага часу. Касмічная Рада вучыць чалавека адчуваць сваю годнасць, вяртае да першапачатковых вытокаў існавання і існасці, «каб ён, ліцьвін, у душы займеў гонар называць сябе грамадзянінам сваёй вольнай і незалежнай Радзімы і не прымаць тую, бястварую і бяздушную, якая даўно прыгнечана і акупавана заваёўнікамі... Аўтар марыць у сваім творы аб тых часах, калі чалавек вучыўся ў прыроды і жыў з ёю ў згодзе і адзінстве. Калі што і забіраў у яе, то і аддаваў абавязкова.

Аўтар вылучае своеасаблівы падмурак, на якім трымаўся спрадвеку і павінен трымацца зараз чалавек. Здаровы спосаб жыцця, чыстае паветра, жаданне рабіць заўсёды толькі добрае. Менавіта па гэтых і шмат якіх іншых прынцыпах і жывуць звышлюдзі пісьменніка. Яны валодаюць не толькі чароўнымі фізічнымі магчымасцямі, але і ў духоўным сэнсе з'яўляюцца звышдасканалымі і звышмагутнымі. Галоўнае іх дасягненне — разумець чарадзейную магію слова, бо «...напачатку было слова. Чалавек стаў чалавекам толькі тады, калі навучыўся гаварыць і разумець слова. Яно, слова, нараджала думку, а думка ў сваю чаргу — дзеянне. Тады можна смела сцвярджаць, што слова — гэта не пусты гук, які не зловіш, не адчуеш, не дакранешся да яго. Яно, слова, як і ўсё жывое ў свеце, мае форму і глыбіню, магутнасць энергіі думкі. Гэтая ж энергія можа ўступіць у змаганне са злом, перамагчы і ўліць у клеткі арганізма яшчэ большую сілу і моц, энергію жыцця...» І таму кожны звышчалавек (але тым не менш — чалавек звычайны — для Ліцьвініі) для здзяйснення сваіх жаданняў выкарыстоўвае магію слова, якая заключана ў слове «ахутавана»...

Ахутавана... Як незвычайна і таямніча гучыць яно! А вось як аўтар растлумачвае яго значэнне ў аповесці: «...дык вось што азначае чароўнае слова! Памерці — і зноў нарадзіцца, нарадзіцца — і зноўку памерці. Памерці для таго, каб забыцца, што было з табою колькі хвілін таму. Ад таго і прыходзіла радасць нараджэння, і апаноўвала з новай сілай шчасце існавання на зямлі, абнаўлення з адной якасці ў штосьці іншае — чароўнае і незвычайнае, непадобнае на ранейшае існаванне. Кожны раз — нараджэнне. Нараджэнне душы. Нараджэнне кахання і Любові — вечнай крыніцы, якую падараваў нам Усявышні. Тады ў чалавека нараджалася новае жаданне і ўлівалася новая энергія, новая ненатольная смага. То і быў вечны рухавік, які ніяк не могуць прыдумаць на Зямлі людзі. А ў прыродзе ён існуе даўно. І будзе працаваць бясконца. Ахутавана!» («Ахутавана». Маладосць. 1998. № 5.)

Сам герой аповесці — Антон Клімовіч — не адразу прыходзіць да таго філасофскага ўсведамлення слова «ахутавана», але ў гэтым яму дапамагае каханая Яніна, якая ўвесь час побач і падтрымлівае героя твора ў цяжкія хвіліны.

У сваім звычайным жыцці Антон працаваў інжынерам на заводзе, ніколі не вылучаўся сярод сяброў. Але пасля смерці (разбіўся самалёт, у якім ён ляцеў) з дапамогай Яніны раздзяляецца на дзве асобы, адна з якой — Яён (так назваў свайго двайніка Антон). З цягам часу каханая растлумачвае герою твора яго сутнасць, дапамагае зразумець сваё прызначэнне на зямлі. І Антон з кожным днём сталее, набіраецца ведаў і мудрасці, зрабіўшы для сябе выснову, што «найвышэйшая мудрасць і ўменне — ствараць Добрае і перамагаць Зло». Мір і спакой ва ўсім свеце настане, паводле меркавання Антона (а значыць, і самога аўтара), толькі тады, калі кожны з людзей паспрабуе адчуць, што належыць да ўсіх народаў, да ўсяго Свету цалкам, і прыме Сям'ю-Свет як сваю ўласную і родную. Кожны павінен жыць клопатамі і болем роднай Ліцьвініі, імкнуцца да Вышэйшага Разумення Шчасця. Але чалавек не заўсёды можа сам зразумець сваю сутнасць, і ў гэтым яму павінны дапамагчы іншыя. І гэта — яшчэ адна задача людзей пятай расы. Таму і сам Антон Клімовіч шукае самага патрэбнага чалавека. Ім стае Змітрок Кісялёў, які працуе ў пункце прыёму шклатары. Паступова Антон пачынае працаваць разам са Змітраком. Падтрымлівае сябра, вылечвае яго ад цягі да алкаголю. Працуючы там, дзе кожны дзень сустракаешся з адмоўнай энергіяй

азлобленых людзей, герой аповесці А. Бароўскага задае сабе пытанні: чаму ў людзях так шмат злога і агіднага? Няўжо ўсё жыццё чалавека — гэта дробязныя клопаты, неўладкаванасць, пастаянная патрэбнасць нешта знайсці, «дастаць», «прабіць», купіць, прадаць? Ці для гэтага створаны чалавек? І тады ж прыходзіць да высновы: якая ж усё-ткі складаная істота ці стварэнне — Чалавек! І які ж ён у той жа час безабаронны і кволы. Разумеючы, што кожнаму спачатку трэба зразумець самога сябе, Антон Клімовіч едзе да сваёй былой жонкі Людмілы. Урэшце, аналізуючы сустрэчы з Людмілай, Клімовіч жахаецца: «Святы Божа! Я прыехаў, каб пераканацца ў вінаватасці жонкі, а пераканаўся, што сам у сто разоў больш вінаваты, чым яна! Эгаіст, калун, пень, кавалак ільду! Ды такога і слова няма, якім можна абазваць цябе!...»

Але дзе б ні быў Антон, яго ў першую чаргу вярэдзяць праблемы роднага краю, непакоіць памяць гістарычнага мінулага. Ён ідзе па гарадку над Прыпяццю, але не адчувае з ім роднасці. Бо спяць ліцьвіны, нават і ў сне маўчаць, не пратэстуюць. Звыкліся, змірыліся з тым, што згублена зямля продкаў, палітая крывёю пращчураў у барацьбе за незалежнасць, за гонар, за вольны край. І шукае выйсце, супакаенне ў чароўных словах: «Ахутавана! Ахутавана!» Адчувае герой, як робіцца чалавекам Космасу, далучаным да ўсяго існага на Зямлі. Усведамляе сэнс свайго прызначэння і адметнасці, пачынае адчуваць сваю душу.

Уся аповесць пранізана светлымі промнямі кахання герояў. Яно ў іх такое ж незвычайнае, як і само жыццё. Іх сэрцы і душы — адно цэлае, непарыўнае. Наогул тэма кахання прысутнічае ў кожным творы Анатоля Бароўскага, бо яно для аўтара — той свет у цёмным скляпенні, тая сіла, што ўкладвае сэнс у жыццё, той магутны вечны рухавік, які прымушае нас імкнуцца да светлага і чыстага. Каханне нябачнымі промнямі ахутвае герояў Бароўскага, дапамагае выстаяць у хвіліны выпрабаванняў. А іх на долю чалавека выпадае шмат.

Героі аповесці «Ахутавана» Антон і Яніна жывуць не толькі ўласнымі пачуццямі і праблемамі. Іх (у першую чаргу) непакояць агульначалавечыя праблемы і найперш — лёс радзімы, яе будучыня і мінулае: «...нас прыніжалі, зневажалі, заганялі ў ярмо няволі і рабства. Яркія, светлыя старонкі нашай гісторыі жорстка вырывалі з людской памяці». Вырывалі тыя, хто паланіў родную зямлю, называючы палон дапамогай. Яны знішчылі найлепшыя старонкі, і героі бачаць сваю задачу ў тым, каб «аднавіць іх у Кнізе Праўды», тым самым выканаўшы адзін з Боскіх запаветаў. Героі аповесці разумеюць, што толькі тады перастануць балець іх сэрцы аб роднай старонцы, калі яны вернуць украдзенае з кнігі гісторыі. Каб тое здзейсніць, героі пісьменніка выпраўляюцца ў падарожжа ў мінулае, каб самім, на свае вочы, зафіксаваць няпростае мінулае, сэрцам адчуць цяжар тых дзён. Яніна з дапамогай рэтрапартацыі адпраўляецца ў часы Вялікага княства Літоўскага і ператвараецца ў палачанку Параску, яе вачыма глядзіць на жудасныя падзеі, што адбываюцца ў храме Еўфрасінні Полацкай у час прыезду Пятра Першага. Яна, Параска, як сапраўдная дачка сваёй зямлі, сваёй радзімы, не можа дараваць цару і яго памагатым той здзек, што здзейсніўся ў «Сафійцы»: «...то было ўсё супраць логікі. Супраць чалавечнасці і Бога. Але я ёсць сведка яму: праз мае вочы будучыя пакаленні павінны ведаць пра гэткі жах, гэткае крывавае злачынства. Засведчу, як па калені ў крыві хадзіў той бязбожнік». Параска адчувае, што яна — не мёртвая гісторыя. Яна — не безжыццёвы радок у ёй, а жывы сведка, што абвінавачвае і захопнікаў, і таго, хто падпісваў «высочайшие указы и мемориалы» аб людскім зняволенні. Як крык душы, як стогн самой зямлі і сёння чуецца заклік гераіні Бароўскага: «Родныя мае! Землякі! Ніколі не забывайцеся на далёкае мінулае! Бо вялікі грэх возьмеце на сваю душу!..»

Антон для сваёй гістарычнай «камандзіроўкі» выбірае Тураўшчыну і Мазыршчыну 1654 года. Там у XVII стагоддзі рамантычны герой пісьменніка змагаецца за незалежнасць роднага краю.

Містычныя падарожжы герояў дапамагаюць зразумець чытачу неабходнасць вяртання народу яго сапраўднай гісторыі. І зноў, як піша ў вышэйадзначаным рэфераце С. Ханеня, «перавод рэальных праблемаў у плоскасць містыкі спрыяе пытанню аб прыродзе дабра і зла, якое з асаблівай вастрынёй паўстае ў пераходныя часы, калі пэўныя ўклады, што канкурыруюць паміж сабой, рэзка палярызуюцца». Выкарыстоўваючы містычную плынь, аўтар намаляваў сваю мару-краіну, населеную звышлюдзьмі. І адзін з іх — герой аповесці. У гэтым — вера аўтара ў тое, што і звычайны чалавек абавязкова можа стаць чалавекам вышэйшай — пятай расы, для чаго трэба

мець самае простае — чыстую, адкрытую для Дабра і Кахання, душу, дзякуючы якой любое жаданне чалавека можа стаць рэальнасцю.

Паўтаруся: знаёмячыся з прозай Анатоля Бароўскага, атрымала шмат задавальнення. Адкрыла для сябе яшчэ аднаго цудоўнага пісьменніка, творчасць якога блізкая маёй душы, майму светаўспрыманню. Анатоль Бароўскі ў сваіх творах, у сваёй прозе ўмее надзіва таленавіта пазначыць каларыт быцця, спрасоўваць у адзінае цэлае мову паданняў і летапісаў, царкоўных кніг і жывога дасціпнага слова палешукоў. У яго прозе спалучаюцца такія эмацыянальныя, мысліцельныя, побытавыя пласты, якія хвалююць чытачоў.

Героі пісьменніка паўстаюць перад намі ва ўсёй паўнаце, складанасці і супярэчлівасці, іх характары выяўляюць сваю праўду, свой погляд на жыццё.

Калі ў творах Анатоля Бароўскага сустракаешся з тымі эпізодамі, дзе пісьменнік вядзе гаворку пра самае, здавалася б, інтымна-асабістае, то ловіш сябе на думцы, што аўтар як бы падслухоўвае патаемныя думкі многіх, каб вярнуць, але ўжо ў выглядзе аграненага алмазу. Усё гэта сведчыць аб невычэрпных запасах душэўнай шчодрасці і вялікай сіле эмацыянальнага ўздзеяння, пра мастацкі талент творцы.

Прыемна думаць, што ёсць на Гомельшчыне пісьменнік, улюбёны ў сваю Ліцьвінію, у сваю «краіну пад белымі крыламі», у яе сучаснае, мінулае і будучыню. Пісьменнік, які зачаравана апявае хараство і гармонію, верыць у ідэалы дабра і справядлівасці, апантана любіць свет і святло, зялёнае дзіва зямлі і таямніцы кнігасховішчаў, слова і клопат творчага ўзрушэння.

Ведаю, што на выхадзе новыя творы пісьменніка, у якіх аўтар, упэўнена, яшчэ больш паглыбіць свае мастацкія прыёмы.

Прафесар Іван Штэйнер адзначаў: «Сваё неяк не заўважаецца. І мы доўгі час неяк не заўважалі творчасць свайго земляка Анатоля Бароўскага — цікавага, удумлівага аўтара не адной кнігі аповесцей і апавяданняў. У яго творчым набытку і грунтоўная кніга публіцыстыкі «Чорны бусел — белы цень».

Выкладаючы ў сваёй Буйнавіцкай сярэдняй школе, што ў Лельчыцкім раёне, родную мову і літаратуру, не раз звяртаюся да творчасці празаіка і паэта Анатоля Бароўскага, вучу на яго творах дабрыні і любові да свайго роднага краю, вытокаў нашай гісторыі, станаўлення нашай незалежнай дзяржавы.

Нядаўна ўбачыла свет новая кніга празаіка — «Пякельны рай», у якую ўвайшлі тры аповесці — «Білет удачы», «Ахутавана» і «Пякельны рай». Упэўнілася: тут — новыя адкрыцці, новыя знаходкі. Анатоль Бароўскі ставіць перад намі важнейшыя пытанні і разам з намі спрабуе адказаць на іх моваю грунтоўнай прозы.



ГАННА МІЛЬКО

# АСАБЛІВАСЦІ ЛЕКСІЧНАЙ ІНТЭРФЕРЭНЦЫІ ВА ЎМОВАХ РУСКА-БЕЛАРУСКАГА БІЛІНГВІЗМУ

Як вядома, маўленне — гэта люстэрка, у якім адбіваецца агульная культура чалавека і грамадства. У Рэспубліцы Беларусь праблема культуры беларускага маўлення надзвычай актуальная. Гэта звязана з асаблівасцямі сучаснай моўнай сітуацыі, якая характарызуецца як камунікацыйна незбалансаваная, бо пры фармальным раўнапраўі дзвюх дзяржаўных моў дамінантнае становішча займае руская мова. Ёй аддае перавагу большасць беларусаў-гараджан, аб чым сведчыць апошні перапіс насельніцтва, які быў праведзены ў 1999 годзе. Нягледзячы на тое, што 86,5 % беларусаў назвалі сваёй роднай мовай беларускую (каля 6 млн. 984 тыс. чалавек), толькі 41 % з іх размаўляе па-беларуску дома, а 59 % беларусаў звычайна карыстаюцца дома рускай мовай. Аналіз даных перапісу паказвае, што з 6 млн. 984 тыс. чалавек, якія назвалі роднай мовай беларускую, толькі 3 млн. 345 тыс. выкарыстоўваюць гэтую мову дома, прычым каля 63 % з іх складаюць вясковыя жыхары. Сказанае пацвярджае думку Б.А. Плотнікава пра тое, што сферы ўжывання беларускай мовы «нагадваюць своеасаблівыя рэзервацыі, па-за межамі якіх выкарыстанне беларускай мовы ўспрымаецца як ненатуральная і нязвыклая з'ява» (Плотнікаў Б.А. Унутраныя фактары сучаснага стану беларускай мовы // Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя. — Мн., 1998. — С. 37).

Беларуская і руская мовы з'яўляюцца генетычна і структурна блізкімі. Гэтая блізкасць і функцыянаванне на адной тэрыторыі «быццам бы ліквідуюць перашкоды перад свабодным і нават непрыкметным для неспецыяліста ўзаемапранікненнем элементаў гэтых моў на розных узроўнях — фанетычным, марфалагічным, сінтаксічным» (Ровдо И. С. Учет влияния различных языковых элементов на значение слова при обучении в школах БССР // Народная асвета. — 1983. — № 12. — С.42). Ужыванне элементаў адной мовы ў маўленні на другой мове — інтэрферэнцыя — выяўляецца ў інтэрферэнцыйных памылках — інтэрферэмах. У вусным маўленні, магчыма, больш адчувальным з'яўляецца ўплыў беларускай мовы на рускае маўленне, асабліва на фанетычным узроўні. У пісьмовым маўленні больш маштабны ўплыў рускай мовы.

Пад *лексічнай інтэрферэнцыяй* разумеюць «выкарыстанне ў тэкстах на аднай з моў носьбіта двухмоўя раўназначных слоў другой мовы, у тым ліку аднакарэнных, але па-рознаму аформленых у словаўтваральных адносінах, а таксама

выкарыстанне слоў мовы, на якой утвараецца тэкст, у значэннях, уласцівых словам другой мовы» (Супрун А.Я., Кліменка Г.П. Некаторыя псіхалінгвістычныя асаблівасці беларуска-рускага двухмоўя // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. — Мн., 1982, 96).

На лексічным узроўні праяўляюцца як станоўчыя, так і адмоўныя вынікі ўзаемадзеяння моў. Станоўчы вынік лексічнага ўзаемадзеяння — гэта запазычанне. Але «запазычанне з'яўляецца неабходным толькі тады, калі ў мове няма адпаведнага слова» (Янкоўскі Ф. М. Абыякавасць да роднага слова // Літаратура і мастацтва. № 38. 11 мая 1957г.). Калі ж ужыванне лексікі адной мовы ў маўленні на другой не абумоўлена функцыянальна, яно павялічвае маўленчую збыткоўнасць і з'яўляецца фактам інтэрферэнцыі.

Праблема лексічнай інтэрферэнцыі вельмі складаная, бо слова заўсёды звязана з паняццем, у кожнай мове свой спецыфічны спосаб сэнсавага члянення свету. Лексіка кожнай мовы налічвае тысячы адзінак, якія цяжэй паддаюцца ўпарадкаванню. Гэта значыць слоўнікавы склад мовы з'яўляецца сістэмай «адчыненай», рухомай і найбольш пранікальнай для інтэрферэнцыі. Лексічныя нормы менш выразныя, строгія, што звязана з параўнальна свабодным выкарыстаннем розных лексічных сродкаў для выражэння аднаго і таго ж сэнсу. Лексічная норма «дрэнна паддаецца уніфікацыі і фармалізацыі, бо лексіка больш пранікальная для рознага тыпу пазамоўных уздзеянняў» (Горбачевич К. С. Нормы современного русского литературного языка. — М.: Просвещение, 1978, 40).

І. П. Слесарава наогул лічыць, што «амаль уся лексіка, як гэта ні парадаксальна, суцэльная галіна інтэрферэнцыі, бо надзвычай рэдкія словы ў дзвюх мовах, якія цалкам супадаюць па значэнні». Сказанае пацвярджае словы У. Вайнрайха аб тым, што «пры масавым двухмоўі лексічны ўплыў адной мовы на другую можа дасягаць велізарных памераў».

Лексічная інтэрферэнцыя выклікаецца рознымі тыпамі лексіка-семантычных сыходжанняў і разыходжанняў паміж мовамі ў кантакце. Крыніцай лексічнай інтэрферэнцыі можа быць няпоўнае супадзенне лексіка-семантычных і тэматычных груп слоў, частковае супадзенне сінанімічных радоў, семантычнай структуры і спалучальнасці слоў, розная матывацыя слоў, якая адмоўна ўплывае на выбар слова з іншай мовы, неразмежаванне міжмоўных амонімаў і паронімаў, адрозненні ў антанімічных адносінах слоў.

У залежнасці ад відаў разыходжанняў выдзяляюць наступныя віды лексічнай інтэрферэнцыі:

1) уласна лексемная інтэрферэнцыя;
2) лексіка-семантычная інтэрферэнцыя;
3) лексіка-граматычныя інтэрферэнцыя;
4) лексіка-сінтаксічная інтэрферэнцыя.

*Уласна лексемная інтэрферэнцыя* — гэта «неўсвядомленае выкарыстанне лексемы, уласцівай мове А, у маўленчай дзейнасці на мове В пры дакладна дыферэнцыраванай устаноўцы на стварэнне аднамоўнага тэксту» (Николаева О. М. Лексическая интерференция // Типология двуязычия и многоязычия в Беларуси. Мн.: Беларуская навука, 1999). Усе факты інтэрферэнцыі гэтага віду цяжка нават прадказаць.

Аднак не ўсе выпадкі перанясення лексем адной мовы ў тэксты на другой мове можна лічыць праяўленнем інтэрферэнцыі. Перанесеныя лексемы могуць выконваць пэўныя ідэйна-мастацкія задачы для рэалістычнага паказу рэчаіснасці і таму быць функцыянальна абумоўленымі. Фактам інтэрферэнцыі з'яўляюцца функцыянальна не абумоўленыя лексемы.

Сутнасць *лексіка-семантычнай інтэрферэнцыі* заключаецца ў тым, што ў маўленні на адной мове выкарыстоўваюцца словы ў значэннях, характэрных для другой мовы.

Прычынамі лексіка-семантычнай інтэрферэнцыі могуць быць фальшывая

ідэнтыфікацыя значэнняў — адпаведнасць аднаму мнагазначнаму слову адной мовы некалькіх эквівалентаў з рознымі значэннямі ў другой мове; несупадзенне семантычнага аб'ёму мнагазначных слоў; адрозненні ва ўнутранай форме слова; розны аб'ём лексіка-семантычных груп; разыходжанні ў семантычным плане інтэрнацыянальных слоў; выпадкі міжмоўнай аманіміі і паранініміі.

*Міжмоўныя амонімы* — гэта «словы, якія з'яўляюцца рознымі па значэнні, але супадаюць у плане выражэння (калі адрозненні ў іх форме матывуюцца наяўнасцю заканамерных адпаведнасцей)» (Ровдо И. С. Межъязыковая омонимия в системе русской и белорусской лексики // Веснік БДУ імя У .І. Леніна. Серыя IV. — 1979. — С. 29).

Нават у білінгваў, якія дастаткова добра валодаюць абедзвюма мовамі, у спантанным вусным маўленні могуць узнікаць памылкі, звязаныя з неадрозненнем міжмоўных амонімаў, напрыклад: *плот, маніць, ліха, час, нядзеля, благія, качка, устаць, спор, сварыцца, жаль, газавы* і інш. Міжмоўныя амонімы паводзяць сябе па-рознаму ў няроднасных і роднасных мовах, у вусным і пісьмовым маўленні. «Яны больш небяспечныя ў пісьмовай мове» (Будагов Р. А. Как мы говорим и пишем. — М.: Изд-во МГУ, 1973. — С.47). У сувязі з гэтым праблема «фальшывых сяброў перакладчыка», як называюць міжмоўныя амонімы і паронімы, выступае перш за ўсё як праблема пісьмовага маўлення. Прычына іх узнікнення абумоўлена нацыянальнай спецыфікай лексікі кожнай мовы. Як вельмі трапна заўважыла Н.Б. Мячкоўская, «нефальшывых сяброў» у перакладчыка не бывае: любыя падобныя два словы розных моў пры больш блізкім разглядзе аказваюцца нятоеснымі і паводле аб'ёму значэнняў, і паводле месца ў сваёй лексічнай падсістэме» (Мечковская Н.Б. Социальная лингвистика. — М.:1996).

Асноўнай крыніцай лексіка-семантычнай інтэрферэнцыі з'яўляюцца «частковыя семантычныя адпаведнасці, найбольшую небяспеку ўяўляе *міжмоўная полісемія* — з'ява, пры якой семантычныя структуры фармальна тоесных мнагазначных слоў дзвюх моў часткова супадаюць.

*Лексіка-сінтаксічная інтэрферэнцыя* — выкарыстанне слоў адной мовы замест словазлучэнняў другой мовы, калькаванне семантычнай структуры шляхам запазычвання лексіка-сінтаксічнай мадэлі, запазычванне граматычнай структуры аналітычнага наймення з роднай мовы.

Пры ўзаемадзеянні блізкароднасных беларускай і рускай моў маштабы лексічнай інтэрферэнцыі даволі вялікія. А. А. Гіруцкі лічыць каталізатарам лексічнай інтэрферэнцыі ва ўмовах руска-беларускага двухмоўя блізкасць фаналагічных сістэм і графікі беларускай і рускай моў (Гируцкий А. А. Белорусско-русский художественный билингвизм: типология и история, языковые процессы. — Мн.: Университетское, 1990). Але, нягледзячы на тое, што толькі 10-20 % слоў у беларускім тэксце цалкам адрозніваецца ад рускіх (Супрун А. Е. Некоторые особенности белорусско-русского двуязычия // Русский язык как средство межнационального общения. — М., 1977), у працэсе развіцця беларускай і рускай моў адбылося размежаванне іх лексіка-семантычных сістэм. Таму наяўнасць мноства агульных лексічных рыс не сведчыць пра тоеснасць лексічных сістэм гэтых моў. Кожная з іх мае свае спецыфічныя рысы на лексічным узроўні. З пункту гледжання фармальных адносін вылучаюць тры класы руска-беларускай лексікі: 1) *амалексы;* 2) *паралексы;* 3) *гетэралексы.* У кожнай з моў лексемы, блізкія па паходжанні, могуць развівацца своеасабліва: у адной мове слова можа быць адназначным, у другой — мнагазначным. У адным значэнні словы могуць быць амалексамі, у другім — паралексамі, а ў трэцім — гетэралексамі. Адрозненне, спецыфіку моў падкрэсліваюць *лексічныя лакуны* (лексічная адсутнасць аднаслоўных адпаведнікаў: отчество — імя па бацьку (у беларускай мове, паводле І. С. Роўды, налічваецца каля 2000 лакун); *гетэралексы* (рознакаранёвыя лексемы, якія маюць адно значэнне, але ўтвораны ад розных каранёў, цалкам адрозніваюцца па форме і з'яўляюцца адметнай асаблівасцю лексічных сістэм

блізкароднасных моў: *ноябрь — лістапад), паралексы* (нерэгулярныя адрозненні ў фанетычным, марфалагічным і граматычным афармленні роднасных раўназначных лексем дзвюх моў: *богатство — багацце.* М. І. Канюшкевіч лічыць, што «менавіта паралексія «вінавата» ў тым, што так цяжка беларусы-білінгвы вызваляюцца ад ілюзіі тоеснасці абедзвюх моў» (Конюшкевич М. И. Синтаксис близкородственных языков: тождество, сходства, различия. — Мн.: Университетское, 1988. — С. 25).

У сувязі з тым, што руская мова ў Беларусі функцыянальна дамінуе і большасць носьбітаў двухмоўя валодае ёй лепш, чым беларускай, мацнейшым з'яўляецца рускі лексічны ўплыў на беларускае маўленне. Некаторыя даследчыкі адзначаюць толькі спрыяльны ўплыў рускай мовы як крыніцы ўзбагачэння беларускай лексікі. На думку Г. І.Кулеш, «імкненне да ўзрастання ступені лексічнай агульнасці паміж рускай і беларускай мовамі спрыяе не развіццю спецыяльных моўных рыс, а іх страце беларускай мовай» (Кулеш Г. І. Да праблемы рускага лексічнага ўплыву // Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя. — Мн., 1998. — С. 124).

Для назвы рускамоўнай лексікі ў беларускай мове існуе тэрмін «русізм». Пад русізмам разумеюць «словы ўласнарускага паходжання, а таксама рускія словы царкоўнаславянскага, цюркскага паходжання і інтэрнацыяналізмы, якія прыйшлі ў беларускую мову праз рускую» (Літвіноўская А. Г. Гукавая традыцыя і беларуская лексічная норма // Веснік БДУ. — Серыя 4. — 1995. — № 1. — С.35).

Калі русізмы ўжываюцца ў маўленні на беларускай мове ўсвядомлена, то гэта функцыянальныя русізмы. Напрыклад, яны могуць выступаць у якасці сігналу аб мове персанажаў, у якасці сродку лаканічнасці, экспрэсіўнасці, вобразнасці, індывідуалізацыі мовы персанажаў, падкрэсліваць неаднолькавыя функцыянальныя адносіны беларускай і рускай моў. Пры гэтым тлумачэнне русізма можа быць дадзена ў аўтарскай мове, беларускае і рускае словы могуць быць ужыты паралельна. Калі русізмы не выконваюць пэўнай мастацка-стылістычнай задачы, ужываюцца стыхійна, неўсвядомлена, без пэўнай мэты, не апраўданы маўленчымі патрэбамі, яны нефункцыянальныя, кваліфікуюцца як лексічныя інтэрферэнцыйныя памылкі ў беларускім маўленні пад уплывам рускай мовы і з'яўляюцца парушэннем лексічных нормаў беларускай літаратурнай мовы.

У беларускамоўным перыядычным друку маштабы лексічнай інтэрферэнцыі вельмі шырокія. Нефункцыянальныя русізмы — гэта сапраўднае бедства нашай прэсы (Прыгодзіч М. Р. Ленасць думкі, Або як выцясняюцца з друку беларускамоўныя словы // Культура мовы журналіста. — 1990. — Вып. 5. — С.11). Прычынай іх ужывання з'яўляецца недастатковае валоданне журналістамі беларускай мовай, мысленне на рускай мове і механічны пераклад на беларускую.

На старонках беларускіх газет і часопісаў можна назіраць усе вышэйназваныя віды лексічнай інтэрферэнцыі. Найбольшых маштабаў дасягае *ўласна лексемная інтэрферэнцыя:*

*— Мне зразумелае жаданне людзей набыць тую ці іншую пакупку ў гэтым* ***сплашным*** *дэфіцыце тавараў* (ЛШ. 01.01.91. С.2). Рускаму прыметніку *сплошной* у беларускай мове адпавядаюць словы *суцэльны, безупынны, бесперапынны, адзін.*

*— Прывыкла ўжо да таго, што яна вечная* ***зацейніца...*** (ЛШ. 23.03.91. С.3). У прыведзеным прыкладзе ўжыты русізм *зацейніца,* беларускія варыянты — *выдумшчыца, штукарка, забаўніца.*

*— Просім аб выдзяленні Паўлоўскаму кватэры ў Савецкім раёне з кухняй...а таксама з пляцоўкай ліфта на* ***этажы*** (НГ. 29.01. 92. С.3). *Этаж* па-беларуску *паверх.*

*— Я прысела побач на* ***скамейку...***(Рэсп. 19.05.93. С.6). Слова *скамейка* — нефункцыянальны русізм. Яму адпавядаюць у беларускай мове лексемы *лаўка, заслон, услон, зэдлік.*

*— Можна было б ужо сёння правіць малебен у гонар інстытута* ***спасення*** *чалавечай душы* (Рэсп. 07.04.93. С.9). Па-беларуску *выратаванне.*

*— Беспрацоўе стала ператварацца для яго ў існы* ***ад*** (Рэсп. 22.04.93. С.10). Слова *ад* з'яўляецца русізмам, па-беларуску *пекла.*

*— Электрапоезд Кіславодск—Мінводы віхрам уварваўся на станцыю Мінутка,* ***узвізгнуў*** *тармазамі і нечакана застыў* (Наст. 08.05.99. С.3). Па-беларуску *завішчаць, запішчаць.* Магчымая прычына ўжывання русізма — наяўнасць у беларускай мове слова *візгат.*

*— В.А. Сухамлінскі ў сваіх працах выкарыстоўваў народныя афарызмы,* ***пасловіцы,*** *легенды, творы мастацкай літаратуры* (Наст. 21.01.99. С.1). Рускай лексеме *пословица* адпавядае беларускае слова *прыказка.*

*— Зараз людзі ўжо ведаюць, што смяротная* ***казнь*** *адбылася і часопіс «мёртвы»* (БЧ. 26.03.99. С.10). *Казнь* па-беларуску *кара, пакаранне смерцю, пакута, мука.*

*— Голас на тым канцы тэлефоннай сувязі не выклікаў сумнення, што яго ўладальнік знаходзіцца або толькі што выйшаў з нейкай* ***перадрагі*** (ЛШ. 20.03.99. С.2). Рускаму слову *передряга* адпавядаюць беларускія *калатня, калатнеча, пераплёт.*

*— Ці ёсць* ***падзвіжкі*** *да лепшага?* (ЛШ. 25.09.99. С.2). Слова *падзвіжкі* — нефункцыянальны русізм, які ўжываецца, магчыма таму, што ў беларускай мове выкарыстоўваюцца словы *падзвіжнік, падзвіжніца.* Яму адпавядае беларускае слова зрух.

*— Дарэчы, яшчэ адзін беларус — Аляксей Грышын — заняў дзесятае месца, апусціўшыся на яго з чацвёртай пазіцыі з-за падзення ў фінальным* ***прыжку*** (НВ. 21.01.99. С.4). *Прыжок* па-беларуску *скачок.*

*— І, па-трэцяе, на даху пабудоў вясковага гаспадара вырасце ўдосталь корму для казы ці* ***кролікаў*** (НВ. Снежань 1996. С. 2). Ужыванне рускай лексемы *кролік* (замест *трус*) можна растлумачыць высокай ступенню тоеснасці тэматычнай групы «Свойскія жывёлы».

*— Выйсці туды можна было толькі з* ***папам*** *і мамай* (БД. 1999. № 4. С.158). Русізм *папа* (замест тата), магчыма, ужыты з прычыны высокай тоеснасці тэматычнай групы «Сваяцтва».

*— Кажуць, што лётчык, які праводзіў бомбакіданне,* ***памяшаўся*** (БЧ. 08.10.99. С.7). Лексемы *памяшацца* акадэмічны тлумачальны слоўнік не прыводзіць. У РБС-93 *помешаться — звар'яцець, страціць розум.*

*— Шматлікія* ***царапіны,*** *сінякі і пераломы на целе засведчылі, што яна з адчаем змагалася з садыстам за жыццё...*(НВ. 12.06.98. С.1). Замест русізма *царапіны* патрэбна ўжываць слова *драпіны.*

*— Маладое дзяўчо ў старанна адпрасаваным халаце з* ***чолачкай*** *пад бялюткім каўпаком доўга выслухвала Лявона Лявонавіча* (НВ. 26.03.99. С.2). Русізму *челка* адпавядаюць у беларускай мове словы *грыўка, чубок.*

***— Празрэнне*** *прыйшло да мяне раптоўна* (НВ. 26.01.99. С.1). Па-беларуску *прасвятленне.* Ужыванню русізма, магчыма, садзейнічае наяўнасць у беларускай мове лексем *празорца, празорлівы.*

*— І дадаў:»У такіх умовах нам не да* ***пляскаў*** *і не да забавы»* (НВ. 06.03.99. С.2). У беларускай мове рускаму назоўніку *пляска* адпавядаюць словы *скокі, танцы.*

*— Яна гаварыла* ***громка,*** *каб чулі ўсе прысутныя* (ЛШ. 27.03.91. С2); *Мне сорамна за тое неразуменне, недаацэнку прафесійнай і — не пабаюся* ***громкага*** *слова — сапраўды гістарычнай ролі карпатлівых занатоўшчыкаў (...) падзей грамадскага жыцця ў сённяшняй Беларусі* (НВ. 26.01.99. С.1). У акадэмічным тлумачальным слоўніку словы *громка, громкі* адсутнічаюць. Гэтым русізмам адпавядаюць беларускія лексемы *гучна, гучны, голасна, голасны, моцна, моцны.*

Акрамя прыведзеных прыкладаў, у прааналізаваных матэрыялах сустрэліся перанесеныя рускія лексемы *сундук (куфар, скрыня), сарай (гумно, пуня, хлеў, адрына, павець, паветка, вазоўня), упаўне (цалкам, зусім), ітак (значыць, такім чы-*

*нам, дык вось), няўгодны (непажаданы, нежаданы, нялюбы), хрупкі (крохкі, кволы, ломкі), шляпа (капялюш), шарф (шаль, шалік), лакаміцца (ласавацца), Раждзжаство (Каляды), зжымацца (сціскацца), зонцік (парасон), паскульваць (папіскваць), ванючы (смярдзючы), пакойная жонка (жонка-нябожчыца), сыракапчоны (сыравэнджаны), неабаснавана (неабгрунтавана), смірэнне (пакора, пакорлівасць, ціхмянасць), уклон (ухіл, нахіл, схіл, накат), скотны двор (жывёльны двор, двор для жывёлы)* і інш.

У прааналізаваных матэрыялах маюць месца і з'явы *лексіка-семантычнай інтэрферэнцыі,* якая можа быць выклікана *міжмоўнымі амонімамі:*

— *У 19. 40, калі каля прылаўка засталося некалькі чалавек, свабодныя прадаўцы хуценька апрануліся і (...) сталі выключаць* ***свет*** (ЛШ. 14.03.91. С.3). У акадэмічным ТСБМ слова *свет* мае наступныя значэнні: 1. Зямля з усім тым, што на ёй існуе; 2. Сусвет; 3. Планета; 4. Чалавечае грамадства; 5. Якая-небудзь сфера жыцця ці з'яў у прыродзе; 6. Якая-небудзь сфера, галіна дзейнасці людзей; 7. Кола людзей, аб'яднаных агульнай прафесіяй, прыналежнасцю да якога-небудзь асяроддзя; 8. Зямное жыццё ў процілегласць незямному. Усе названыя значэнні гэтага слова з'яўляюцца аманімічнымі рускай лексеме *свет* (у значэнні асвятленне), якой адпавядаюць беларускія лексемы *святло, асвятленне.*

— *Пакланіцца ў пояс, што дажыла да такіх гадоў, спрацаваўшыся на саўгасных палетках, ніколі...* ***не адказаўшы*** *кіраўніцтву ў* ***просьбе*** *выйсці на дапамогу* (НГ. 16.09.99. С.1). Дзеясловы *адказаць — отказать* з'яўляюцца міжмоўнымі амонімамі: беларускі дзеяслоў *адказаць* адпавядае рускаму *ответить,* а рускі дзеяслоў *отказать* — беларускаму *адмовіць.* Неадрозненне міжмоўных амонімаў прыводзіць да скажэння зместу выказвання.

— *Перад тым, як завяршыць сваё існаванне, былое Міністэрства Абароны СССР паспела зрабіць нямала* ***благіх*** *спраў. Напрыклад, Рэспубліцы Беларусь былі перададзены бясплатна будынкі і збудаванні ваенных гарадкоў № 707 у Польшчы і № 1 у Венгрыі* (НГ. 17.01.92. С.1). У беларускай мове прыметнік *благі* мае наступныя значэнні: 1. Які не мае станоўчых якасцей *(благая зямля);* 2. Які не адпавядае патрабаванням маралі, дрэнны ў маральных адносінах *(благая кампанія);* 3. Нездаровы, худы, з хваравітым выглядам *(благі з твару);* 4. Непрыемны для іншых *(благія манеры, благі характар)*; 5. Які не абяцае нічога добрага; несуцяшальны *(благія сны);* 6. Недастатковы для якой-небудзь мэты, у якіх-небудзь адносінах; 7. Які выклікае агіду; гадкі, непрыстойны *(благія выразы, благія словы).* Ні адно з гэтых значэнняў у гэтым выпадку не падыходзіць, бо з кантэксту вынікае, што словазлучэнне *нямала благіх спраў* мае станоўчае значэнне. Прычынай памылкі з'яўляецца выкарыстанне рускай лексемы *благой — добры* (устар.), аманімічнай беларускай. Фармальная тоеснасць лексем прывяла да атаясамлівання на ўзроўні зместу.

— *Гэтыя некалькі* ***часоў*** *на польскай дарозе менавіта мяне ніколькі не пакрыўдзілі...*(НВ. 11.02.99. С.1). Беларуская і руская лексемы *час* з'яўляюцца міжмоўнымі амонімамі: па-руску *час* — па-беларуску *гадзіна,* беларускае слова час адпавядае рускаму время. У дадзеным выпадку слова *час* з'яўляецца русізмам, бо ўжыта ў значэнні *гадзіна.*

У прааналізаваных матэрыялах сустракаецца вялікая колькасць інтэрферэм, якія ўзнікаюць у выніку *міжмоўнай полісеміі* — няпоўнага супадзення лексіка-семантычных груп слоў у беларускай і рускай мовах, частковага супадзення сінанімічных радоў, адрозненняў у антанімічных адносінах слоў, частковага несупадзення лексічных гнёздаў:

— *Расходы насельніцтва* ***на пакупку*** *тавараў і аплату паслуг склалі 11129 мільярдаў рублёў...* (Зв. 10.04.96. С.1); *За апошнія два гады ўдвая зменшылася пакупка кватэр* (НВ. 07.02.98. С.2). Рускай лексеме *покупка* адпавядаюць дзве беларускія лексемы: *пакупка (купленая рэч) і купля (працэс, дзеянне).* Несупадзенне аб'ёму лексем у беларускай і рускай мовах прыводзіць да памылковага ўжы-

вання слова *пакупка* ў працэсуальным значэнні. П.У.Сцяцко лічыць, што слова *пакупка* і ў значэнні *купленая рэч* з'яўляецца русізмам. Яе адпаведнік — *купленка.*

— *Справілася ў адной хаце з работай — спяшайся ў другую, бо там такса-ма чакае* ***немачны*** *стары чалавек* (БД. 1998. № 12. С.58). Інтэрферэнцыйная памылка выклікана няпоўным супадзеннем сінанімічных радоў: *немощь — немач; немощный — нядужы, слабы.*

— *Ці прыйшліся вам даспадобы* ***блюды*** *беларускай кухні ?* (Алеся. 1999. № 1. С.9). У беларускай мове слова *блюда* мае значэнне *«вялікая талерка»*. Рускае слова *блюдо* мае большы аб'ём, чым беларускае: *вялікая талерка і страва.* Прычына інтэрферэнцыйнай памылкі — частковае супадзенне сінанімічных радоў.

— *Усе гэты парадак добра ведаюць, ды не ўсе яму* ***следуюць*** (ЛШ. 20.02.99. С.4). Ужыванне русізма выклікана няпоўным супадзеннем сінанімічных радоў: *след — след, следом — следам, следопыт — следапыт, следовать — кіравацца, трымацца, прытрымлівацца.*

— *Не дапамагло і тое, што галоўны рэдактар часопіса перадаў на з'ездзе пісьменнікаў намесніку* ***главы*** *Адміністрацыі прэзідэнта Івану Пашкевічу ліст у абарону часопіса* (БЧ. 26.03.99. С.10). Слова *глава* мае ў рускай мове наступныя значэнні: 1. Галоўная асоба (галава, старшыня, кіраўнік, правадыр); 2. Раздзел кнігі, артыкула. У беларускай мове старaславянскае слова *глава* ўжываецца толькі ў значэнні *раздзел кнігі, артыкула.* У прыведзеным прыкладзе слова ўжыта ненарматыўна. Правільны варыянт — *кіраўнік Адміністрацыі.* П.У. Сцяцко лічыць гэтае слова русізмам ва ўсіх значэннях і рэкамендуе ўжываць замест *глава* слова *раздзел.*

— *Пастараліся, каб водныя масы* ***адкачвала*** *мотапомпа* (МП. 29.01.92. С.4). Значэнне рускага дзеяслова *откачать — адпампаваць, выпампаваць; вярнуць прытомнасць (адкачаць тапельца).* Беларускі дзеяслоў *адкачаць — вярнуць прытомнасць (адкачаць тапельца).* У рускай мове гэты дзеяслоў мае больш шырокае значэнне. Слова *адкачвала* ўжыта ў неўласцівым яму рускім значэнні.

— *Яго абнадзейвае, што ўрад упершыню загаварыў, па сутнасці, тым жа языком, якім мы гаворым, што неабходна мяняць падыходы да развіцця эканомікі...* (НВ. 06.11.99. С.1). Руская лексема *язык* мае шырэйшае значэнне, чым беларуская, і адпавядае беларускім *язык* і *мова.* У дадзеным выпадку ўжыты русізм.

— *Ім не хочацца* ***таўкацца*** *ў натоўпе...* (Нав. 21.08.98. С.2). Рускай лексеме *толкаться* адпавядаюць беларускія *штурхацца, пхацца, стукаць, адпіхвацца.* Прычынай выкарыстання русізма магла стаць наяўнасць у беларускай мове слоў *таўкатня, таўканіна (хаатычны рух, ціcканіна ў натоўпе), таўкучка (бойкае месца, дзе прадаюць рэчы з рук).*

— *Між іншым своеасаблівая* ***музыкальная*** *энцыклапедыя «Пра музыку ад «А» да «Я» скончылася на літары «К» на 57-й перадачы* (БЧ. 06.01.99. С. 7). Рускай лексеме *музыкальный* адпавядаюць дзве беларускія — *музыкальны (здольны да музыкі) і музычны (які мае адносіны да музыкі).* У прыведзеным прыкладзе слова ўжыта ў неўласцівым яму значэнні пад уплывам рускай мовы. Нарматыўнае ўжыванне — *музычная энцыклапедыя* (у значэнні *«які мае адносіны да музыкі»).*

— *Яму, канешне ж, цяжка ўцяміць, што птушкафабрыка* ***прадстаўляе*** *сабой не толькі інкубатары, а і гектары зямлі* (НВ. 19.11.98. С.1). У беларускай мове дзеяслоў *прадстаўляць* мае наступныя значэнні: 1. Паказваць, прад'яўляць *(прадставіць атэстат);* 2. Знаёміць з кім-небудзь, рэкамендаваць *(прадставіць госцю);* 3. Узбудзіць хадайніцтва аб узнагародзе або павышэнні ў чыне *(прадставіць да ўзнагароды).* Дарэчы, дзеяслоў *прадставіць* у пададзеных у ТСБМ значэннях П.У. Сцяцко лічыць таксама русізмам, якому адпавядаюць дзеясловы *падаць, паказаць.* Рускі дзеяслоў *представлять* мае больш шырокае значэнне. Замест русізма прадстаўляць сабой у беларускай мове ўжываюцца дзеясловы *ўяўляць, з'яўляцца.*

— *У Расіі заводы абкладзены камерцыйнымі* ***кругамі*** (БД. 1999. № 10. С.63). У рускай мове слова *круг* (група людзей) мае шырэйшае значэнне, чым у беларускай мове: *круг — кола, асяроддзе, гурток.* ТСБМ для абазначэння грамадскіх, прафесійных груповак людзей рэкамендуе ўжываць назоўнік *колы.* РБС-93 таксама прапануе назоўнік *колы: партийные, политические, литературные, общественные круги — партыйныя, палітычныя, літаратурныя, грамадскія колы.* Такім чынам, правільны варыянт у гэтым выпадку: *камерцыйнымі коламі.*

— *Сіроп разліваў па* ***блюдцах*** *і ставіў іх на лётку* (ЛШ. 20.01.99. С.3). Выкарыстанне русізма *блюдце* можна растлумачыць няпоўным супадзеннем сінанімічных радоў: *блюдо — блюда, блюдце — сподак.*

— *У дзіцячым узросце яны не прыводзяць ні да якіх змяненняў у арганізме, але з цягам часу (...) парокі сур'ёзна* ***сказваюцца*** *на здароўі* (Наст. 05.09.92. С.3); *І гэта (...) становўча* ***сказваецца*** *не толькі на іх матэрыяльным дабрабыце...*(БД. 1999. № 10. С.83). Рускі дзеяслоў *сказываться — сказаться* мае наступныя значэнні: 1. Казаць, паведамляць; казацца, гаварыцца; 2. Адбівацца, выяўляцца. У беларускай мове дзеяслоў *сказацца* (разм.) ужываецца толькі ў значэнні *быць вымаўленым, сказаным* — гэта значыць, семантычны аб'ём рускага дзеяслова шырэйшы, чым беларускага. Дзеяслоў *сказваецца* ўжыты ў прыведзеным прыкладзе па аналогіі з рускай мовай у значэнні, якога ён не мае ў беларускай мове. Правільны варыянт: *адбіваецца не толькі на іх матэрыяльным дабрабыце.*

— *Вадзіцель машыны* ***скрыўся,*** *не аказаўшы дапамогі* (НВ. 27.03.99. С.2). У ТСБМ дзеяслоў *скрыцца (схавацца, знікнуць, утаіцца)* адсутнічае, а падаецца дзеяслоў *скрыць* — утаіць што-небудзь ад каго-небудзь *(скрыць адрас, скрыць нядобрую вестку).* Няпоўнае супадзенне сінанімічных радоў садзейнічае ўжыванню русізма *скрыцца: скрыть — скрыць, скрыться — схавацца, знікнуць, утаіцца.*

— *Не стану расказваць аб яго на дзіва плённым і шчодрым творчым* ***наследдзі*** (Рэсп. 05.01.99. С.3). Ужыванню русізма *наследдзе* (замест беларускага слова *спадчына*) садзейнічае наяўнасць у беларускай мове слоў *наследаванне, наследаваны, наследавацца, наследаваць, наследнік, наследніца, наследны,* якія выкарыстоўваюцца паралельна са словамі *спадчына, спадчыннасць, спадчыннік, спадчынніца, спадчынны.*

— *Племзавод* ***павінен*** *дзяржаве мільярды рублёў* (БД. 1999. № 4. С.42). Слова *павінен* ужыта па аналогіі з рускім *должен,* якое мае большы аб'ём, чым беларускае *павінен:* 1. *Должен* (*павінен* — абавязаны, вымушаны што-небудзь рабіць або мець якую-небудзь якасць); 2. *Должен (иметь долг) — вінен, вінаваты.* У прыведзеным прыкладзе трэба ўжыць слова *вінаваты.*

— *Напярэдадні ўрачыстасцей на Піншчыну прыбыла навукова-творчая экспедыцыя «Дарога да святыняў» з* ***Благадатным*** *агнём...* (БГЧ. 1999. №.4. С.91). ТСБМ не падае прыметнік *благадатны.* У РБС-93 *благодатный — багаты, раскошны, добры, цудоўны, шчаслівы, спрыяльны, жыватворны.* Замест русізма павінна быць ужыта слова *жыватворны.* Выкарыстанню русізма садзейнічае, відаць, наяўнасць у беларускай мове «алагічных» стараславянскіх слоў *благавешчанне, благаславенне, благаславенны, благаславёны, благаславіць, благаслаўляць, благачынны.*

— *Ад'езд з Масквы Фёдарава не быў* ***бегствам,*** *тым больш тайным* (БЧ. 03.09.99. С.8). Выкарыстанню русізма *бегства (уцёкі, уцякацтва)* спрыяюць беларускія словы *беглы, бегма, бегчы.*

— *Нельга* ***аставіць*** *без увагі яшчэ адно неабгрунтаванае абвінавачванне, зробленае польскім аўтарам...*(Рэсп. 24.08.99. С.7). Акадэмічны ТСБМ не падае дзеяслоў *аставіць,* у РБС-93 *оставить — пакінуць, кінуць.* Прычыны ўжывання русізма — няпоўнае супадзенне сінанімічных радоў у рускай і беларускай мове: *остаться — астацца, остаток — астатак, оставить — пакінуць, кінуць.*

*Лексіка-граматычная інтэрферэнцыя* праяўляецца значна радзей, чым улас-

на лексемная і лексіка-семантычная. Да інтэрферэнцыі гэтага тыпу можна аднесці выпадкі частковага разыходжання фармальных характарыстык беларускіх і рускіх лексем пры іх адрозненні ў граматычных адносінах:

*— Вельмі эфектыўнае выкарыстанне здробненай і запаранай соевай саломы ...і адходаў ачысткі* ***сямян*** *для корму жывёле* (Рэсп. 29.12.99. С.9). Рускай лексеме *семена* адпавядае беларуская *насенне.* Пры частковым фармальным разыходжанні гэтыя словы маюць адрозненне і ў граматычных адносінах: у рускай мове слова *семена* ўжываецца толькі ў множным ліку, у беларускай слова *насенне* — толькі ў адзіночным.

*Лексіка-сінтаксічная інтэрферэнцыя* выяўляецца ў выкарыстанні ў беларускім маўленні рускіх словазлучэнняў замест тоесных ім лексем:

*— Часткова магчыма вырашыць праблему забеспячэння* ***раслінным маслам*** (Рэсп. 29.12.99. С.9). Рускаму словазлучэнню *растительное масло* адпавядае беларуская лексема *алей.*

*— Як кінуць вокам —* ***заліўныя лугі*** (БД. 1993. № 3. С. 81). Рускаму словазлучэнню *заливной луг* адпавядае беларуская лексема *поплаў,* якая падаецца ў кнізе І.Р.Шкрабы як самабытнае беларускае слова.

Пад уплывам рускай мовы ў беларускім маўленні з'яўляюцца *калькі і паўкалькі. Калька* — гэта «ўзнаўленне ўнутранай формы замежнага слова» (Хауген Э. Языковай контакт // Новое в лингвистике. Выпуск VI. Языковые контакты. — М., 1972. — С.113). А. Літвіноўская разглядае калькі як «нешта сярэдняе паміж запазычаннем (таму што пры калькаванні запазычваецца ўнутраная форма, ці ідэя слова) і неалагізмамі (таму што фармальная абалонка слова ствараецца з матэрыялу роднай мовы)».

Няўдалыя калькі і паўкалькі можна сустрэць і ў матэрыялах перыядычнага друку:

*— Інтэр'ер магазіна вабіць наведвальнікаў гармоніяй святла, паветранай, лёгкай гамай беласнежных панеляў сцен і фіранак на вокнах, новых прыгожых паліц з багаццем* ***усемагчымых*** *тавараў* (ЛШ. 16.01.99. С.1). Слова *ўсемагчымы* з'яўляецца калькай рускага слова *всевозможный,* якому адпавядаюць беларускія эквіваленты *ўсялякі, разнастайны.*

*— З пачатку эпідэміі на грып і вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі... 226 чалавек...* ***гаспіталізаваны,*** *смяротных выпадкаў не зафіксавана* (НВ. 09.02.99. С.1). Лексема *гаспіталізаваны* з'яўляецца паўкалькай рускага дзеепрыметніка *госпитализированы,* які адпавядае беларускаму дзеепрыметніку *шпіталізаваны.* А наступны выпадак нават цяжка растлумачыць з пункту гледжання логікі:

*— Гаспадар* ***гашпіталізаваны*** *ў абласную бальніцу з агнястрэльным раненнем у жывот* (МП. 27.08.92. С.3). Тут ужыта кантамінацыйная форма, маюць месца і фанетычныя працэсы.

*— На праведзеных 8 красавіка сустрэчах ішла канкрэтная размова аб рэканструкцыі сталеплавільнага цэха ў Жлобіне па вытворчасці* ***араматычных*** *вуглевадародаў Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода...* (Зв. 10.04.96. С.1). У дадзеным выпадку мы бачым паўкальку рускага прыметніка *ароматический,* якому адпавядаюць беларускія словы *духмяны, пахучы, водарны.*

*— Цікава, што* ***мядовавусны*** *Уладзімір Замяталін прапанаваў стаць спонсарам нават нашай газеце, але мы адмовіліся* (Нав. 28.05.99. С..8). Хутчэй за ўсё аўтар хацеў сказаць, што ў яго героя *мядовыя вусны (медовые уста),* але ад назоўніка *вусны* не ўтвараецца прыметнік *вусны,* як гэта атрымалася ў дадзеным выпадку.

*—... у якіх пражываюць* ***неблаганадзейныя*** *сем'і* (ЛШ. 20.03.99. С.2). Паўкалька стараславянізма *неблагонадежный* (па-беларуску *нядобранадзейны, ненадзейны, няпэўны).*

*— Да паслуг наведвальнікаў бібліятэкі інстытута маецца каля 6000 кніг па*

*living тэматыцы, 460 відэазапісаў... вялікая колькасць кампакт-дыскаў, **аўдыазапісаў*** (БГЧ. 1999. № 1. С.56). Няўдалая калька рускага слова *аудиозапись* (пабеларуску *аўдыязапіс*). Магчыма, памылковаму ўжыванню садзейнічала аналогія са словам *відэазапіс*.

— *Улічваючы трагічныя маральна-псіхалагічныя **паследствы** шкодных прывычак і СНІДу... варта падкрэсліць асаблівую важнасць прафілактычнай работы* (ЛШ. 13.02.99. С.2). Калька рускага слова *последствия*, у ролі беларускага адпаведніка якога ўсё часцей ужываецца лексема *наступствы* (ад дзеяслова *наступіць)*.

— *Яны **негалосна** прызнаныя ў вёсцы лепшымі гаспадарамі* (БД. 1999. № 10. С. 86). Русізм *негалосна* — калька рускага прыслоўя *негласно*, якому ў беларускай мове адпавядаюць словы *тайна, сакрэтна*.

— *У архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваюцца шматлікія папкі з лістамі-зваротамі ад (...) людзей вельмі розных узростаў, грамадска-сацыяльнай **вагомасці...*** (БД. 1999. № 8. С. 146). Русізм *вагомасць* з'яўляецца калькай рускага назоўніка *весомость* — *важкасць, значнасць, пераканаўчасць*.

— *Заўсёды ветлівы і **словаахотлівы...*** (ЛШ. 21.07.99. С.3). У акадэмічным ТСБМ няма складанага прыметніка *словаахотлівы*. Гэта калька рускага прыметніка *словоохотливый* (па-беларуску *гаварлівы, гаваркі*). Прычынай стварэння калькі, відаць, паслужыла наяўнасць у беларускай і ў рускай мове слова *ахвота* — *охота*.

Прааналізаваныя прыклады матэрыялаў беларускамоўнага перыядычнага друку паказваюць, што ўплыў рускай мовы на беларускае пісьмовае маўленне даволі значны. Хоць лексічная інтэрферэнцыя ў большасці выпадкаў не прыводзіць да разбурэння камунікатыўнага акту, яна павінна расцэньвацца як адмоўны фактар. Інтэрферэнцыя істотна зніжае ўзровень культуры маўлення, а памылкі няправільнага выкарыстання значэння слова могуць прывесці да няправільнага разумення выказвання.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

**БГЧ** — «Беларускі гістарычны часопіс».
**БД** — «Беларуская думка».
**БЧ** — «Беларускі час».
**Зв.** — «Звязда».
**ЛШ** — «Ленінскі шлях» (Горкі).
**МП** — «Магілёўская праўда».
**Нав.** — «Навіны».
**НВ** — «Народная воля».
**Наст.** — «Настаўніцкая газета».
**НВ** — «Народная воля».
**НГ** — «Народная газета».
**РБС-93** — Руска-беларускі слоўнік. Мінск, 1993.
**Рэсп.** — «Рэспубліка».
**ТСБМ** — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў 5 тамах. Мінск, 1977 — 1984.

## ЛАРЫСА РАМАНАВА

# «ДЛЯ КРАСЫ ПАВЕСЬ НА КУЦЕ...»

*«Сучасны чалавек жыве ў свеце, дзе ўсяго нібыта шмат, але ўсё нейкае павярхоўнае, выпадковае і не мае ніякага агульнага сэнсу».*

Ю. Барысевіч

### ПАЯДНАННЕ ЖАХЛІВАГА І ПРЫГОЖАГА

У тэрміналогіі народнага календара ткацтва Заходняга Палесся ёсць паняцце «шара гадзіна»: «Шара гадзіна ўродзе как празьнік: трэба аддыхнуць, павячэраць, а потым абратна прадуць». Некаторыя тэрміны ткацтва, уяўленні пра святы, зафіксаваныя ў «Палескім народным календары» С. М. Талстой, і тыя, што былі запісаны мною, а таксама Ірынай Чыжовай, Генадзем Лапаціным (з захаваннем моўных асаблівасцей) на Гомельшчыне, згадваю тут дзеля большай пераканаўчасці. Шара гадзіна — гэта тое ж змярканне, калі меркне, знікае дзённае святло, або — сутонне: тоны, колеры, мелодыі дня зліваюцца, суладжваюцца, сутойваюцца ў адзін чароўны колер ночы, у чорны колер штрыха, якім акрэсліваецца час, межы, меркі.

Мы чытаем і адначасова пішам кнігу, якая не мае пачатку і канца, — Кнігу Вечнасці, калі гартаем, адлічваем яе старонкі: ноч — дзень, чорны ліст — белы ліст. На белым лісце крэслім свае падзеі, подзвігі, падзенні. Чорны ліст звычайна мала хто адважваецца перагарнуць, таму што там — нябыт, нішто, разам — пачатак і канец.

Самае найпершае і найвялікае пачуццё — гэта адчуванне свайго ўдзелу ў вялікім Свяце-трагедыі — быцці. Бываюць дні, калі адкрываецца веліч і дасканаласць створанага Госпадам Богам свету; няма нічога нязначнага і непатрэбнага: усё жывое і нежывое дапаўняе адно адное. Бываюць моманты, калі не палохае тое нябачнае, што прыходзіць знянацку, — смерць. Бываюць імгненні, калі адчуваеш сябе часцінкай Божага свету... ты — не канец і не пачатак, а толькі працяг... у тваім не то жыцці, не то існаванні ёсць нейкі патрэбны сэнс, няхай ён нават ніколі не стане табе вядомым... калі ты ёсць, цябе любіць Бог... Ён даў адчуць і зразумець гэта... любоў — найвялікі цуд, які даецца ўзнагародай за аддаленую блізкасць да Яго святла. Ахвяра і падарунак для Яго — поўнасцю белы, вытканы і вышыты гэтаксама белымі льнянымі ніткамі ручнік-набожнік («абразьнік») —

сведка празрыстага, некранутага, старазапаветнага часу, сімвал Сусвету, дзе кожнае асобнае жыццё насельнікаў дома (гасподы — так казалі раней) быццам літара Боскага тэксту, які пазней накрэсліцца і прачытаецца.

У шырокім сэнсе кніга звязана з сімволікай ткацтва; тое, што неабходна для душы і цела, «звітак» і «світка» паходзяць з аднаго кораня «Vitae» (лац.) — жыццё. Засяванне поля льном атаясамліваецца з утварэннем Сусвету, які кожны раз узнаўляецца ў кнігах.

Сусвет, паводле старажытных верававнняў славян, падобны на яйка. «Казалі, нада яешню прэжч, калі лён пасееш». «Хазяйка вынясе лянок, высыпае ў сявалку, кладзе два яечкі. Яечкі паложа ў зямлю, калі сеяць, а тады забірае дамоў з сабой. Аддаць нада было два яйкі таму, хто лён сеяў, закон быў такі». Неабходнасць засяваць поле льном асабліва падкрэсліваецца: «Без лёну, так як і без хлеба, без вады — ні туды, ні сюды», «лён Гасподзь саздаў, штоб людзям была посная пішч і адзежа для людзей — у знак памяці старыннай жызьні».

Хвіліны пераходу дня ў ноч на Усходнім Палессі пазначаны словам «сцісканне»: час нібыта сціскаецца, сонца коціцца на Ніз, сыходзіць за край небасхілу.

Людзі даўно прыкмецілі: ёсць гадзіна добрая і гадзіна ліхая. Каб абмінуць бяду, прыгаворваюць: «Не ў ліхую гадзіну будзь сказана!» Асабліва небяспечнымі лічацца 12 гадзінаў дня і 12 ночы, калі сонца (боства) знаходзіцца ў зеніце, калі яно сыходзіць на самы Ніз. Роўна ў поўдзень, якую б працу ні выконваў чалавек, яе трэба спыніць на хвіліну, пачакаць, а потым рабіць далей.

Час Свята (Праздника) пачынаецца менавіта з заходу сонца, у момант пачатку яго шляху праз Дно, і заканчваецца з узыходам сонца. Свята пачынаецца, і пачынаюць дзейнічаць забароны на розныя віды работ, а таксама — на сон. Нельга спаць, калі заходзіць сонца, — можна заснуць і не прачнуцца. Дзейнічае таксама забарона ўставаць падчас свята да ўсходу сонца, каб распаліць у печы, ткаць або прасці — сутыкаць супрацьлеглыя стыхіі: «Ведзяннё — 4 дзекабра. Была такая прымаўка. Часоў не было тады, глядзяць па Валасажыру. Людзі ў 4—5 гадзін устаюць. Найбольш мужчыны прыкмячаюць, глядзяць у неба. Баба раз устала, села прасьць. На другі дзень яна прала. Адкрываецца шыбачка, і ёй — кідзель дванаццаць верацён, і сказана: «Каб к раньню ўсё згатавала, пакуль разьвіднее». Маладзіца спужалася, на каторае верацяно нітачку накінула, на каторае — дзьве. Моліцца: «Прасьці, што я ў празьнік устала!» — «Ну што, згатавала? Давай!» Як падала, так упала. Ці то ат страху, ці Гасподзь наслаў. Ні ўставайце к празьніку зараней. Ляжыце давідна!»

Лён сеялі ў канцы траўня ці на пачатку чэрвеня на лепшым полі: к балоту, у логу, у нізкім. У кастрычніку лён мялі, трапалі, абчэсвалі. Прасці пачыналі перад Піліпаўкай (28 лістапада — 6 студзеня): «Увечары, нанач трэба прасьці. Прадзеш да поўначы, нада і ноччу прасьць. Час прасьпіш, а тады ўставай, печ тапі. К Калядам выткуць першыя кросны».

Прадзенне — падрыхтоўка прадзіва (нітак, якія пазней выпіхнуць з дня ўчарашняга, каб стварыць дзень сённяшні, расказаць пра дзіва жыцця) звычайна адбывалася восенню, у прадонны, небяспечны час: «До празьніка, а асобенна до Коляд, трэба допрасьць обязацельно, а то Каляда спужаець...»

У кароткія восеньскія дні і на пачатку зімы жанчыны згадвалі назвы святых «празьнічкаў», праца з воўнай, ніткамі, прадзівам прыпынялася. «На Трох Святых не пралі, не ткалі. Багародзіца — не пралі. Не ткалі на Міколу, на Міхайла, на Раство, на Васілле. На Юрыя не пралі, не вышывалі». Асабліва святочным і небяспечным днём лічыцца пятніца — дзень, з якім звязаны ўяўленні пра Параскеву Пятніцу: «Пятніца — святы дзень, у пятніцу не пылі, не зялі, у пятніцу не жлукцілі».

Час Прадзення пасля цыкла Калядных святаў змяняецца Часам Ткацтва — напісання тэкстаў — магічных (магутных), бо яны вынікнулі з Дна і ўвасобіліся ў рэальную матэрыю (матэрыял), у адзенне, скацеркі, ручнікі, дзякуючы (дзенькуючы) працы рук — павуцінкай з дна апраметнай (вобраз Руноскэ Акутагавы), ці — лесвіцай у неба, «ручнік на крыж вешаюць, каб была дарога ў неба». Відаць, рушнік — больш даўні корань слова, чым ручнік (абодва словы — сучасная літаратурная норма). Магчыма — рушэнне і вынік — абрадавая тканіна, надзвычай багата ўпрыгожаная, пазначала Самыя Межы, Крайнія Дні, Святыя, Крывыя, Сухія, Варавітыя дні — так кажуць аб святах, час Рушэння (зменаў) і быў своеасаблівым знакам, словам, звернутым і прамоўленым да нябёсаў: «На Новы год вяжуць, возьмуць рушніка, на жэрдцы зав'язуюць, а на Крэшчэньне розвязуюць, то ўжо канец Коляды». Колер, якасць ручнікоў, вывешаных у Чырвоным Куце, верагодна, выяўляюць стаўленне людзей да разнастайнасці часу. На працягу года ручнікі не раз мяняюць. Адбываецца гэта якраз перад найбольшымі гадавымі святамі: «У Пiлiпаўку — старыя віселі, плашэйшыя, на Раждзяство вешалі лаўчэйшае, у пост вешалі беленькі рушнік».

Ткалі найболей пры дзённым святле «новага», вясноваго сонца, у Вялікі пост, час, люстрава адпаведны Піліпаўскаму посту, Нізу, сыходу «старога» сонца. «У пост ткалі да Вялікання. На лета кросны выносілі. Каб іх не бачыць, заматвалі ў што-небудзь».

«Адзенне» — гэта тое, што носяць удзень. Ноччу ж спяць у «начным», ці — у «споднім», што мае адносіны да «пода» (Ніза, Края), да якога так часта набліжаешся ўва сне, на белай «бялізне».

Тканнё — стварэнне Свету — гэта «правая» праца, бо пачынаецца словамі: «Госпадзі, благаславі мяне, грэшную!» Ткалі спецыяльнае, «абы дзень» — за адзін дзень — абыдзеннае палатно, для таго, каб пазбавіцца бяды, якая пагражала ўсёй вёсцы. Ткалі аброчныя ручнікі, якімі абракаліся — прасілі дапамогі звыш, і нават: «Ад чорнай балезьні (эпілепсіі. — **Л. Р.**) зьнімуць з крыжа ручнік, абвяжуць вакруг пояса, тры дні ручнік пабудзя не зьнімаючы, тады назад нясуць на кладбішча. Радзі балезьні так робяць».

Палатно, якое бывае спачатку полае — неадзначанае, касмічна белае, праз нейкі час становіцца адзеннем — ачалавечваецца, красуе, цвіце вышытымі ці вытканымі краскамі, прыроднымі фарбамі. «Крушынай, ягадамі андаракі красілі пасьля вайны ў цёмна-сіні, пачці чорны цьвет». Для свята было адпаведнае адзенне: «Толькі ў празьнік вышываную рубашку адзявалі, дома хадзілі ў белых. У пост андарак адзявалі, і ў васкрысеньне. А не ў пост — спадніцу адзявалі. Дома пашыеш андарак — хлеба зь печы выняй — і на андарак. Перад тым яго складачкамі складзеш, адзенеш — андарак як гармоня». «А цяпер уся краса ўйшла. Эта такое лахмоцьце... І не надзяюцца добра. То ж сьмярцёнае людзі ўсё выцягваюць, сваё сьмярцёнае. На Ушэсьце апраналі смярцёнае... І пройдзе ў карагод, пабудзе, праветрае. І болей — ні танцаў у ёй, у этай адзежы, нікакіх танцаў». «Ён раўнівы дужа быў. Я прыбяруся, адзенуся красіва, а ён: «Ты ўжо для каго так прыбіраішся?!» Тады, бывала, жэншчыні нільзя было йціць па ваду без фартуха. Казалі ў старыну: жэншчына ніхарошая, што без фартуха йдзе па ваду... Старому чалавеку нільзя на той сьвет без фартуха іціць. І ў царкву ж ідуць так».

У кветках, якія скрозь, у розных кампазіцыях упрыгожваюць тканыя, вышытыя рэчы, неба паядноўваецца з зямлёй. Гэта пачатак Завязі, Плоднасці, але гэта й пачатак Жахлівага. Дні, калі кветкі выяўляюць свой сакральны таямнічы змест, гэта, як ні дзіўна, Святыя дні — дні святаў, варажбы, калі не толькі сонца іграе, але і нячыстая сіла. «На Купала сонца грае і на Розыгры грае — усякімі цветамі — чырвонымі, сінімі... «лікуецца сонца на Благавешчаньне і на Паску — красным і

зялёным цьветам». «На Яна цвытэ папорот адын раз на рік і цвытэ она в пывноч, трэба пылноваць того момента... зловыты того цвытка і тогды будэш знаты, як говорыць скотына». «А это, як кажуць, на Івана — у нас такій празьнік — Іван Купала — это ўжэ знахоры або знахоркі гуляюць... Вы жэ знаеце, шо нечысьцікі там бегаюць. У йіх свойі... сьвяткі ёсьць. Ето йоны розьдзеюцца і біегаюць, куды ім надо, жэншчыны». Чалавек, які знойдзе і сарве чароўную кветку, стане ўладаром стыхій — магам, зможа зразумець мову звяроў, птушак, раслін, спазнае незвычайныя для чалавека веды, хоць, можа, ён проста на некаторы час вернецца ў рай, дзе чалавек і звер жылі калісьці мірна, і чалавек быў часткай прыроды: бязгрэшны і несмяротны, жыў «праздно». «Ніхто на самой справе нічога не хоча рабіць», — словы, што аднойчы прагучалі амаль як абраза, маюць міфалагічны сэнс. Пра гэтае ж кажа Х. Э. Керлот, аўтар «Слоўніка сімвалаў»: «Не працуючы, чалавек можа быць вольны ад парадку зменаў, якія развіваюць гісторыю, і, такім чынам, вызваліць сябе ад часу і прасторы для вяртання ў стан рая».

Адпачынак — «шара гадзіна», 12 гадзін дня і ночы, літаральна ўсе святы, якія святкуюцца («празьнікуюцца»; індаеўр. «kuen» — святкаваць, свяціць, святы — азначае мір паміж чалавекам і прыродай, стан шчасця (соучастия). Гэта Час Малітвы — размовы з Богам.

На Купалле, а таксама ў час любога свята, надта блізка сустракаюцца дзве стыхіі: сонца (святло) і цемра. Таму — «Кожны анёл — жахлівы» — кажа Райнэр Марыя Рыльке, для чалавека, бо чалавек у гэтыя хвіліны аказваецца на Мяжы Межаў, Дна, дзе толькі «вецер Сусвету нам студзіць і паліць аблічча, магчыма, на месцы Таго, Адзінага, «Хто гэтую пастку надзвычай пяшчотна ў сваіх руках трымае». Сам Бог (бoства) таямнічы настолькі, што, напрыклад, мусульмане адмовіліся пісаць ягоны вобраз. «Бог — страшны, — расказвае свой сон Марыя Магдаліна Ісусу Хрысту. — Я нічога не ведаю пра Бога, акрамя таго, што аднолькава страшна быць і выбраннікам Ягоным, і тым, хто выклікаў на сябе яго гнеў» (Ж. Сарамага. «Евангелле ад Ісуса Хрыста»). Відаць, для таго, каб прыручыць, ачалавечыць стыхію (небяспечныя дні святаў), чалавек дае ім свае імёны: «Кожны празьнік свой прокладзень мае»: Антоны Віхравеі (16 жніўня), Мікола Качанны (9 жніўня), Давід Сунічнік (9 ліпеня), Самсон Сенагной (10 ліпеня), Васіль Сонечнік (4 красавіка), Герасім Гракоўнік (17 сакавіка), Спірыдон Сонцаварот (25 снежня) і г.д.

Для таго, каб утрымаць «пачатак Жахлівага» (Райнэр Марыя Рыльке), «прымірыць» дзень і ноч, зіму і лета, канец і пачатак, святло і цемру, не парушалі межы асобных часавых прастораў: «Кросны нельга было пакідаць на ноч адкрытымі, асобенна напроціў празьніка не кідалі адкрытых красён, закрывалі скацеркай, уціркай (так падсвядома закрываеш на ноч недачытаную кнігу». Таму «лён мочаць толькі на маладзіку», «як родыця хто на межы, дак дзітэй не будзе», «як не ў правільный дэнь сноваць будзеш, то душа мёртвага будзе прiходзіць», «і ў пятніцу ткаць можно, то толькі ў празьнікі нельзя. Есьлі празьнічэк якій, а ты бердом да набіўкамі стукаеш, так граза велікая, перен б'е», «все празьнікі опасные, дак не робяць. Празьнікі усі страшные, особенно Паска, Труйца», «...усе празьнікі варовітые», «у Каляды галоўні не залей, каб скот не прыносіў мёртвае патомства», «кажуць, паложана так — сонца зьдзелаць. Мы вот лён паложым — абізацільна нада сонца зьдзелаць. Галоўкамі ўсяродак, кружочык такі. Тут кончыкі, што зь зямлі вырваны, а сюды — галовачкі. У кучачку штоб былі. Тады лён харашо ўлежаіцца, і вецяр ні падымая яго. Вецяр жа ж можа падняць сьцежачкі етыя і панесьць. А так нічога...», «кароў выганялі — яны тады па нідзелях шчыталі. Вот пост. Первую нідзелю не выганяюць. Втарую — нільзя, на трэцьцяй — можна, на пятай можна і на сёмай. А на шостай ні выганяюць — гнілая. Нядзеля

так называецца. Восьмая — тож гнілая. Гнілая — так яна плахая. Што-та вот случалася...», «с кроўю доіцца карова — тады шапталі. Кожная гаспадыня магла пашаптаць? ( — **Л. Р.**) Нет, нет, нет! Ета нада вучыцца. Вы знаіця — нада ілі первы. (дзіця ў сям'і. — **Л. Р.**), ілі пасьледні. Вот я была б первая. І ат міне польза была б... А ежэлі я втарая, трэцьцяя — ат етага пользы німа. Так кажуць».

Час Калядаў — час гадавога звароту сонца — час святы, прыгожы, але й небяспечны для чалавека. Асабліва небяспечныя першыя 12 дзён новага года — мадэль наступных 12 месяцаў і, напэўна, панядзелка — першага дня тыдня. Панядзелак — «цяжкі», «пусты» дзень: «у понідзілок ні сіюць — на пусты дзень», «Розыгры — ...понедзілок. Не можна ісці на поле і робіты», «В Розыгры шчоб не шыл, не прял». Каляды — самы магічны час усяго года, бо ў гэтыя дні словамі калядных песень можна спраектаваць будучае.

Святочны ручнік падчас Ражаства ў Чырвоным Куце, напэўна, у такой жа ступені з'яўляецца часткай каляднага абраду, як і наступныя дзеянні: «На ту Коляду снапок паставяць у кутку, салому клалі, за то, што Хрыстос нарадзіўся ў сене». Святочны ручнік вісіць усе Каляды. Любы ручнік на іконе — нібы знак: на тая ж самая вясёлка, што з'явілася ў нябёсах сведчаннем абяцання Божага не насылаць больш натоп на людзей.

На Крышчэнне мы літаральна дакранаемся да вечнай плыні часу, калі п'ём «пасьвячоную» — асвечаную сонцам-святлом-крыжам ваду, самы першы сэнс якой — напітак жыцця. Каляды заканчваюцца абрадам ачышчэння, ці вяртання да стану вады, — так заканчваецца цыкл Калі-Югі, апошні з чатырох цыклаў Югі.

Птушкі — пасрэднікі паміж зямлёй і нябёсамі, паміж Богам і людзьмі: «Калісь даўней, як сьвяцілі ваду на Крышчэньне, пускалі жывога голуба з рукава. Завяжуць чырвоную нітачку к назе, пяюць «Іардань» і выпусьцяць яго. Голуб быў белы. «Як прылятаюць птушкі з цёплага выраю, плісіцу ўбачыш, так бяры зямельку і кідай угору і крычы: «Штоб высокі лён рос!» Тры разы кідаеш».

## ПРА СТАРЫХ І МАЛАДЫХ

У поле зроку маскоўскіх журналістаў, якія ў студзені гэтага года рабілі здымкі для беларуска-расійскай перадачы «Сялянская застава» на Гомельшчыне, у в. Казацкія Балсуны, выпадкова трапіла хата, дах якой крыты саломай. Пры яркім святле сонца на фоне высокіх блакітных воблакаў жытняя салома здаецца золатам: столькі святла! Жыта — хлеб — аснова жыцця, — гэта вядома кожнаму, але й салома, якой у Бібліі адведзены сэнс непатрэбнага, у вясковым побыце мае сваё прызначэнне.

Я пазнаёмілася з гаспадыняй гэтага дома — Варварай Уладзіміраўнай Давыдзенка — усмешлівай, гасціннай жанчынай. Шмат цікавага распавяла яна пра мінулае Казацкіх Балсуноў: пра звычай 31 студзеня, у дзень святога Панаса, садзіць на покуці, пад абразамі, гусака (яму давалі з'есці некалькі бубак перцу), каб гусі вяліся, каб гусак добра сцярог сваю чараду, пра тканыя хусткі-«карасьлявікі» з чырвонымі «сякеркамі» па «чыстым белым полі», якія завязвалі тут жанчыны да 1920—30 гг., пра тканыя фартукі, якія называлі «кацамі» (яны былі такія ж нягнуткія і трывалыя, як і кацы, сплеценыя з саломы, якія клалі на падлогу ў хаце). А гэта было сказана аб працавітасці і заможнасці казацка-балсунскіх жанчын: «На рубахах, тожа на рукавах такія папярочныя палоскі былі... І патом — такія «ромбачкі» былі, тожа на рукавах. Тутака палоску натчэць. А тады — етыя ўжо «ромбачкі», «сякеркі» етыя. Ета тожа зваліся — адзін і тое ж званіе — «карасьлявые» етые. А што палоскамі прамымі ўперак — ета паў-

сёмістыя былі. Дак во етых сарочак як нашыяць! Ета бедная жэншчына, што етых 25 рубашак. А то — 50 нашыя! А ці яна іх панося? Ну, і ляжаць. Да тых пор ляжаць, пака дыркі палучацца на іх. Дак павыкідая, да і ўсё. Вон што тады дзелалі».

Варвара Уладзіміраўна — і сама добры майстар: яна і ткала, і вышывала, і зараз вяжа з ваўняных нітак цёплыя рэчы. У яе — сваё разуменне прыгажосці: «К настольніку (скацерцы) раней кікіцы прыдзелывалі... А то во яна — як аблізаная. А во калі пачапаю боляй чаго — так яна ўродзе бы й дае. Як і дзеўка тая: як прычэшыцца, прымажыцца — дак яна і пахожа на красавіцу, а як кудлатая якая — дак якая яна тады? Дак так і ета...»

Славутыя казацкім паходжаннем Казацкія Балсуны і зараз застаюцца вёскай, якую можна назваць «жывым музеем». Гэтак у некаторых краінах свету называюць спецыяльна збудаваныя (ці адноўленыя) музейна-этнаграфічныя комплексы, дзе людзі ўжываюць у побыце рэчы XVIII — XIX стст. і займаюцца традыцыйнымі народнымі промысламі. Мінулым летам, не чакаючы дапамогі ад калгаса, некаторыя з вяскоўцаў самі абмалацілі жыта цапамі. Госць вёскі — паляк ці немец, які быў тут на той час, засведчыў убачанае на плёнцы свайго фотаапарата: дзе яшчэ ўбачыш такую даўніну бясплатна ў еўрапейскіх краінах? Калі ж паехаць на жніво ў Стаўбун і Янова, то можна ўбачыць і больш сучасныя спосабы абмалоту збожжа, якое вырасла на прысядзібнай зямлі вяскоўцаў. Малоцяць, канечне, без камбайна; такое і ў сне не прысніцца замежным вынаходцам.

Даўней, у дні памінання продкаў — у пятніцу ці ў суботу перад Масленіцай, на Масленыя Дзяды, казалі: «Дзяды не зналі бяды, а нашы ўнукі зазналі мукі». Гэтая прыказка — аб жыцці старога пакалення і новага, у тым ліку — аб нашых бацьках і аб нас, сённяшніх. Чаму ж так кажуць? Чым абавязана ўсякае наступнае пакаленне сваім папярэднікам?

У легендах, запісаных у XIX ст. Раманавым, вядомым беларускім этнографам, у некаторых мясцінах Беларусі, у масленічных гульнях-забавах (катанне з гары на санках, стаўленне масленічнага слупа) гучыць рэха старадаўняга звычаю, вядомага і ў Беларусі, і, паводле фільма «Нараяма», у далёкай Японіі: у канцы зімы старых нямоглых бацькоў іх дзеці ці блізкія людзі адвозілі ў лес ці куды падалей за паселішча — паміраць. Маладыя ж у гэты час імкнуліся стварыць новыя сем'і. Пра гэта сведчаць абрадавыя гульні моладзі: «Жаніцьба Цярэшкі», «Гульня ў Яшчура», вешанне калодкі (дзяўчаты вешалі хлопцам калодкі за тое, што яны не паспелі ажаніцца да Масленіцы).

Відаць, у гэтым звычаі быў жыццёвы сэнс: навошта клапаціцца пра тых, хто ўжо адпрацаваў сваё? Лепш працаваць на сябе!

Што ж здарылася ў людской гісторыі, дзякуючы чаму адносіны да старых, да «дзядоў» змяніліся?

У народнай памяці, у легендах — адказы на гэтае пытанне:

«Калі быў голад бальшы, град асобенна адсёк усё на сьвеці... Старык жыў у іх іскрыта. А сеяць німа чым. Ён і кажа: «Знаш, мой сын? У цябе мякіна ё? Калі етыя малоціш снапы... Так раньшэ ж малацілі, садзілі... называліся — ёўні. Такіе будкі, прымерна, як мая хацёнка. Туды содзяць тые снапы, а тады кладуць так во, і так. А тады цапамі лупяць яго...» Ну, дак ён і кажа: «Мякіна ё. Калі ета ўжо ўбіраем, зярно аддзяляем, веяць старыкі». Такіе былі лапатачкі, яны — саўкі такея. Яны так сядзяць і швікаюць: мякіна — у адну сторану ляціць, а зярно — у другую. Зярно — так, касой лажыцца, а мякіна — посьлі. Тоя зьмятаюць, мякіну тую, скату аддаюць. Ён і кажа: «У цібе не сахранілася мякіна да аціра?» Аціра — та, каторая — адбіваюцца каласкі». Ну, ён і кажа: «Бацька, дак ета — у засяку, дак ета ўжо даўная, залеташняя шчэ». — «Нічога. Бяры яе, насыпай у мяшкі, вязі, пашы

і сей». Ну, ён пабраў мякіну тую, павёз, успахаў на кані, пасеіў жа ж. Ну, разьвёў ён... Пытаюць: «І дзе ж ты, Іван, набраў зярна етага сабе? Град жа атсёк...» А ён кажа: «Мне бацька падсказаў». — «Ну, а йдзе твой бацька?» А ў шкатулцы сядзіць бацька, схаваў жа ён. «А ну, раз такоя дзела, дык давай тады яго сюда, хай жыве на сьвеці».

К нам сабіраліся старухі, і гаманілі. Пра ўсячыну гаманілі. А тады шчэ расказывала адна прычту. Старык быў, ну, бацька быў. У сына жыў. Нявестка, сын жанаты, пацан у яго. Ну, ён бацьку таму — ні даюць есьць. Бацька той пітаўся толькі крошкамі, што сьвіньням мяшаюць у карыце. То ён і пітаўся тымі крошкамі. Ну, тады сын той кавыряіцца — нашоў карынку такую, зь дзерява, і кавыряіцца, у етым, у карынкі той. Ён і кажа: «Ты глядзі, маладзіц, як наш малы еты наш... спецыяліст! Ён будзя якісь спецыяліст. Ты бачыш — ён што-та дзелая! У яго што-та палучаіцца». Ну, і пытаюць: «Дзімка, што ты дзелаіш?» А ён кажа: «Карытца дзелаю». — «А нашто яно?» — «А як ты будзіш стары, дак тады табе есць даваць буду. Вот». — «А, дак знаіш што, маладзіца, дак давай ты там бацьку есьць, ідзе й мы сядзім». Ну, і бацьку за стол пасадзілі. Ну, ета адно. Другое — тожа. Быў старык, тожа ў сына жыў і ў нявесткі. Яны не паладзілі. Дак ён насклаадаў... Тады ж грошы насілі ў сахвах старыкі. Такіе во мяшочкі. Тут зашыта, тут зашыта. А во — дзірка такая. У адной у етай грошы ляжаць, а ў етай — табак іс сьпічкамі. Піпка. Піпка етая такая выразаная... зь дзерава, із сука. Ну, ён куря яе... А тутака што? Ня ладзяць. Нявестка ні любя сьвёкра етага. Нявесткі ж — і дочкі рэдка такія бываюць, каторыя што — бацькоў любяць. Ну, яны ўзялі да ета... старыка апракінулі ўжо. Не сталі карміць, не сталі даваць есьць. Старык той рассердзіўся. Пайшоў да закляў етыя свае грошы. Над рякой дзерава стаяла. Дак ён — за яго, закляў грошы етыя, і — у дупло туды, у дзерава ўкінуў. І дзерява тое падгніло, і ўпала на рэчку, і паплыло. А другія жылі — ідзесь ужо ў другой дзярэўні. Ні ў той. Дакяны...

Тожа быў малы. І бацька еты стары. Ну, дак што дзелаць? Ужо стары дзед — не мажэ ўжо ні сядзець, ні ляжаць. Дак яны зьдзелалі калыску яму, павесілі, ну, й калышаць. Завесяць яго, штоб мухі не кусалі. Калышаць дзеда таго, харашо глядзелі. Ну, тады пашла яна вады, нявестка. Пашла вады, і ета, дрэва падплыло к етаму, к досцы, ідзе ваду бяруць. Брусам называўся ён. Ну, яна падышла. А тады прыбягае ды кажа: «Іван! Прыплыло дзерава, дак паедзім да яго разрэжым!» Ну, ён пайшоў. Давай разрязаць тоя дзерава. Разрэзалі. А там — грошы. Яму аб'явіўся глас: «Хто бацьку й матку калыша ў калысцы — той дзеньгі палучая». Вот» *(паводле аповеду Варвары Уладзіміраўны Давыдзенка).*

«Бувало, гэто шчэ посьлі Адама, як сьвет почынаўся, ніхто гэтаго ня помніць, тоды, як людзі по много жылі, дак людзей так не хувалі, як цяпер. А бувало возьмуць як — як ужо зьдзелаіцца стар ён, ня можэць работаць ужо, ні есьці — дык возьмуць санычкі, ды на санычкі яго пасодзюць, ды завязуць у большэй роў, ды й пусьцяць с санычкамі туды. Ён покуль даляціць, дык і заб'ецца. А там яго птушкі разнясуць, ці вода знясець.

Усё гэдык сыны возілі бацёк. Як состарієцца бацька, сын на санычкі бацьку ды ў роў.

Алі гэтак раз повёз сын бацьку, а за ім побег яго сынок. Прівёз ён яго к рову, ды толькі хоцеў пусьціць бацьку ў роў, із санычкамі, а сын тэй, яго ўжо, кажэць: «А не, тата, не пускай санычак!» — «Зачым так?» — «А як жа: як ты зьдзелаесься гэткім, дык і я повязу цябе ў роў, дык мне ж не на чым будзець везці цябе!» Ну, тэй тоды за бацьку, ды домоў, і стаў яго доглядаць, аж покуль помёр. С тых пор і не сталі возіць старыкоў у роў на санычках. Досыць!»

«Ты вот гаворыш пра лопаўшчыну. Слухай-ка суды, я табе што скажу. Мне

вот цяперака, глядзіт-ка, гадоў семдзесят, да й шчэ й с хвосцікам семдзесят: ну, а як мне було годоў дванаццаць, дак дзед мой покойный расказаваў нам, дзяцям, што зь яго дзедом-прашчуром ужэ, значытца, нашым, быў такій злучай. «Ехаў я, — кажа, — раз з Веткі ў Зыбкую, вёз товар на парі коней. Ну, вёз, вёз... — дзело ўжэ к поўдню потходзя, коні позаморілісь. А тогды ж ня то, што цяпер, усюдах свет волный стаў, тогды ж такія пушчы ў нас былі, што Божа! Божа! (Яшчэ на нашай памяці край гэты славіўся разбойніцтвам. — Е. Р. Раманаў). Вот ён, дзед, думая сабе: проеду шчэ трохі, тут знакомый москаль жыве, коло яго і попасу. Звестно, боязно, ну, дай думая — зайду, квасу попрашу, размочу скорынку хлеба, сам трохі понашчусь. Цяперака, слухай-ка суды, проехаў ён там колькі, пріяжджая к той сяліцьбі. Отпрог коней, спутаў, усё, як трэба, і пошоў у хату, — так побоч дорогі стояла. Пріходзя ён, значітца, у хату, а там гроб стоіт, корыто з дубовой колоды, як во і цяперака ў іх дзелаюць. Перад богамі свечка восковая гарыць, а Максім, хозяін, значытца, стоіць на ўколенцах і Богу молітца. А ззаді два сыны яго стояць: одному годоў, знаць, с пяцьдзесят, а другому, так годоў сорок. І одзін доўбню дзержа. Во дзед прышоў і стаў у порозі. А Максім усё Богу молітца, усё Богу молітца. Тыя сыны ждалі-ждалі ды гавораць: «Ну, бацюш, кончай!» Той помоліўся, устаў, стаў з дзедом здоровацца: «Ах, слава Богу, — гавора, — што цябе Бог нанёс!» — «Ну, зачым? Што тут у вас?» «А ты хіба ня бачыш?» Сыны кажаць:

«Яму ў лопаўшчыну пора, — ужэ восемдзесят годоў прожыў!» — «Ах, сынкі мое, — кажа старік той, — я ж крэпок шчэ, я ж работаю!» — «Ну, да! Што с твое работы? Мы во як б'ёмся, а ні на нас, ні ў нас! Ну, пора, бацюш! Ты на свеці нажыўся, дай людзям жыць!» — да й за доўбню. «Ах, сынкі мое, дорогія: мне ж ешчэ двух годоў нема до восемдзесят! Брат Пятрок, — на дзеда кажа, — поговорі ты ім, можа, цябе послухаюць!» Праўды, тут і дзед умяшаўся: «Што вы ето, кажа: старык шчэ жыць хоча, а вы ў лопоўшчыну. Гляньця на Бога: ён жа ж тыкі корміў вас, поіў! Ну, хоць два годы дайця сроку, нехай до восемдзесят дожыве!» Так-сяк, так-сяк, сталі ўгаварываць — і ўговорылі тыкі. «Ну, — кажа, — бацюш: молі Бога за Петрока, — даём табе строку два годы. Ну толькі колі не памрэш сам, тогды ўжэ не просісь!» Сычас домовіну тую вон, доўбню вон, уціхомірылісь і нічого. І жыць сталі. Праўды, што дзед у тых сторонах ужэ ня быў болі, не прывялось. Дак во яна якая лопоўшчына! *(Вылеўская воласць, Гомельскі павет).*

## МАЦІ ЎСЯГО СВЕТУ

Адно з самых прыгожых нашых святаў — Увядзенне Дзевы Марыі ў храм.

Сярод усіх хрысціянскіх імёнаў, якія даюць сваім немаўляткам-дзяўчынкам мамы і таты, няма, відаць, больш улюбёнага і папулярнага імя, чым гэтае: Марыя.

Велічна і годна гучыць імя Маці Божай. Ма, мамачка, мама — самыя першыя словы-склады, вымаўленыя аднойчы ў празрыстым маленстве, застаюцца гэткімі ж дарагімі да апошніх момантаў.

Спалучэнне трох слоў «Маці Божая Марыя» гучыць як адзін назоў-імя: Маці ўсяго свету.

Маці Божая зведала самы фантастычны і самы дзівосны лёс, які толькі можа зведаць зямная жанчына. Дзіця абетаванае, народжанае ў Ганны і Іакіма, Марыя была прысвечана Богу літаральна з моманту нараджэння.

Іакіма і Ганну зневажалі і абсмейвалі знаёмыя, суседзі — у іх доўга не было дзяцей, што лічыцца пакараннем за грахі ў яўрэйскай сям'і. У адно са святаў Іакім прыйшоў з ахвярай у храм: прынёс найлепшую авечку са свайго статку. Ды

святар адмовіўся прыняць яе, кажучы, што Іакім недастойны перад Богам... У вялікім горы Іакім пайшоў у пустыню, доўга маліўся там аб нараджэнні дзіцяці. У гэты ж час Ганна гуляла ў садзе, убачыла на дрэве гняздо з птушанятамі. «Нават птушкам Бог дае дзяцей, толькі ў мяне — няма нікога», — падумала Ганна.

...І ўрэшце Бог пачуў іх малітвы. І прыйшла ў свет Прасвятая Багародзіца.

У Дзень Увядзення Марыя, якой споўнілася ўсяго 3 гады на той час, Сама і з дапамогай Сілы Божай узнялася на 15 высокіх прыступак Іерусалімскага храма, і першасвяшчэннік Захарыя па загадзе Святога Духа ўвайшоў з Ёю ў Святое Святых.

Спазнаўшы любоў і ласку зямных бацькоў, іх вялікую веру ў Бога, Марыя нарадзіла і з годнасцю ўславіла імя Богачалавека, Свайго Сына Ісуса Хрыста.

У календары хрысціянскіх святаў Маці Божай Марыі прысвечана ці не найбольшая іх колькасць: Стрэчанне, Благавешчанне, Успенне, Раство Маці Божай, Пакроў, Увядзенне. Святкуюцца дні, звязаныя з цудамі, што адбываліся з дапамогай і з'яўленнем шматлікіх абразоў (у розных краінах свету іх налічваецца каля 800: Маці Божая Фёдараўская, Агнявідная, Вострабрамская... Сама ікона — Маці Божая з Сынам — найвялікі сімвал любові.

Па старым звычаі, часавую прастору вясковыя жанчыны і цяпер пазначаюць святамі Багародзіцы: «перад Другой Прачыстай», «за тры дні да Пакрова»... Узгадваюць пры гэтым прастольныя святы сваіх вёсак, пасёлкаў ды аброчныя «Свечы»: «У Габраўцы «Свяча» была — Пакравея. І на Скачку дзяржалі ікону Пакравею. Красівая была. Усё ў нас спраўлялі Пакроў...»

Абразы Маці Божай — у асаблівай пашане ў вернікаў, у Ёй бачаць найпершую і Найвялікую Памочніцу, Заступніцу. Маці Божая творыць цуды. Просіць аб здароўі людзей — духоўным, цялесным перад Сваім Сынам. Аб Яе з'яўленні складаюць легенды. Яе святое імя прамаўляюць каля агню «Свечаў», у горы і радасці. Да яе звяртаемся штодзень: «Прасвятая Багародзіца, уратуй нас!»

## ЦУДЫ

Мацер Божую бачыла я на іконе, зь верацяном. На верацяне прала. Сядзіць, верацяно ў руках. Ісус Хрыстос возьлі Іе малінькі сядзіць. Так Ён зь дзецьмі гуляў і гуляў. Возьме глею, зьлепіць з яго, пасадзя на руку: «Ляці, ляці, птушачка!» І ляціць у Яго. А тые дзеці тожа пачалі так рабіць, а ў іх не палучаецца. Яны тады зьляцца... Так яны тады Яму во так во плёснуць пад руку. Дык у Яго крошачкі падымаюцца і ляцяць. Ён жа — Бог.

Тады ўжо Мацяр Божая гавора Ісусу Хрысту: «Ты б адрэзаў дошчачку». Ён адрэзаў. Мацер Божая і кажа: «Маленькая дошчачка». Ён тады ўзяў дошчачку і расьцянуў іе. Ён жа ўсё можа».

*(Ад Параскевы Гарбузовай, в. Бабічы. Чачэрскі раён, Гомельскай вобласці.)*

## УРАТАВАННЕ ІСУСА ХРЫСТА

Яны як ужо беглі — Восіп і Марыя. А Яна ж дажа і не знала, што такое ў Ял... І вот яны пайшлі. А Ёй раджаць трэба. І яны зайшлі ў хлеў. А за імі начальнікі гналіся, штоб Ісуса Хрыста са сьвету зжыць. Восіп з Марыяй схавалі Яго ў ясьлі к коням. Коні ж ядуць: «фур-фур» сена — хто куды, і дзіцёнка стала відна. Яны ўзялі Яго ў другія ясьлі пераклалі, там, дзе карова стаяла. Карова як есьць — яна ўсё ў грудок, у грудок... сена не раськідае. Так яны Ісуса Хрыста і спасьлі. Так за тое карове такая жызьнь, што карову кормяць, і летам і зімой глядзяць. А конь калі й галодны ходзе...

## ЛЮБЫ ПРАЗЬНІК БОЛЬШЫ ЗА НАС САМІХ

Любы празьнік большы за нас саміх...

На Благавешчаньне ўраньні печы не топяць. А мужык-герой: «Ідзі, — кажа, — распаляй у печы», — на жонку. Яна ўстала, у печы распаліла... І хата пайшла гуляць — згарэла. Празьнік бальшы — Благавешчаньне. Абед зьвечараваруць — гадзінаў у 6, 7. Ураньні ідуць у цэркаў. Сьнедаюць. Скаціну кормяць.

... Я па Мінску хадзіла, не ўпадабала ніводнай цэрквы так, як нашу...

*(Ад Антаніны Суман, 1914 г.н., у Мінску нар. і жыла ў в. Слабада, Крупскі раён, Мінскай вобласці.)*

## Я САМА БАЧЫЛА МАЦЕР БОЖУЮ

Мацяр Божжая нічога не кажа. Я сама бачыла Мацер Божжую. Вот, ужо каля пяцідзесяці гадоў. Ляжала мая мама, пасёлак Гацкі. Ну, і ў яе шчака так напухла, аж чорная такая. Ну, я пайшла, жыта жалі. Жыта жалі, так я пайшла к адной маладзіцы тут. Гавару: «Бабачка, паспытай ты — ці ат скулы, ці ат чаго паспытай...» Я пайшла, паспытала. Яна гавора: «Дзетка ты маё, роднае. Я пашапчу, і ні атказу вам. А ты едзь, ідзі к мамцы, туды ўжо, малачко і насеньне пар, во ета, лянёвае, што ітчэш, прыкладай. Ну, я ўсю ноч пракладала. А шчака чорная, што... і к раньню вот такі пузырочак жоўты выскачыў, што стала выцягаць усё ета. Ну, я тады нагрэла ёй, удзьвёх, чыгуночкі такія. Гавару: «Ну, мам, я пайду, у міне тут сьвякруха зь дзіцямі, удвух». Ну, я йду. У нас мосьцік там, кудой мне йціць. А туды, вот як вам сказаць, ат міне і да той вон хаты ababкі стаяць. Во-о-н, да тые, што вокнамі сюды (прыкладна 100 м. — **Л. Р.**). Там ababкі ў нас стаяць. Я — зір: с ababкі вышла жэншчына. С ababка, зь левага боку вышла. Яна вышла. Я стала й стаю: ці мне назад іціць, ці мне — што дзелаць? Гасподзь Адзін зная, што дзелаць. Я стаяла, стаяла, хацела й перахрысьціцца... да думамі перахрысьцілась, думамі. Ні наклала ні хрэста, а думамі. Яна выйшла, сюды так... спаднічка такая. Вісокая. Тонінькая-тонінькая Яна. Ножкі тые малінькіе такіе, тонінькіе. Віх, неяк віх, і падымалась... Паднялась, паднялась... Я ж ні брашу, а праўду кажу. Паднялась і паляцела, і паляцела на ўсход Сонца. У нас там завецца Асіньнік, і Падглея. І паляцела, і паляцела. Я ўсё стаяла, пакуль Яна ні стала відна. Спаднічка такая разаватая была, шырачэнная-шырачэнная! А Яна тонінькая... У кліньнячка, відна, пашыта, ці што. І яна, спаднічка ета, прыхлюпла. А ножкі малінькіе такіе... Прышла я дамоў, да баюсь сьвякрусе расказаць, што так. Ета было скрысеньне. У скрысеньне мы ж на работу не ходзім, не жном... У нас бачыў адзін. Ён ішоў з Лісімкавіч. Яшчэ... гадоў мне было, можа, дзесяць, дзьвінаццаць. Так ён прыйшоў да й кажа: «Бачыў Мацер Божжую, босую, зімой!!!». Так і я ж бачыла: Яна ж была ні абуўшы, ні адзеўшы, а босінькая.

*(Ад Ганны Бусаўцавай, 1917 г.н., в. Нісімкавічы, Чачэрскі раён.)*

## ШТО ПАРАДЗІЛА ДЗЕВА МАРЭЯ БОЖЖАГА СЫНА

Што парадзіла Дзева Марэя Божжага Сына...
Як нарадзіўся Ісус Хрыстос із Дзевы с Панны,
штоб жа да Яна не дазналась Божжые тайны.
Малае дзіця, вaздухам накрыт...
Прасьпявала два ангілы, зь нябёс лятучы,

зь нябёс лятучы, зь цёмные ночы, ясные зьвёзды.
Як нясьлі Суса Хрыста — крыжамы палі,
яны Дзеву, яны Марэю сільна спужалі:
— Ня пугайсь, Дзева Марэя, —
то ангільскій глас.
Бяры, мая дзіця, Нараждзеннае
на рукі й ат нас!
Па ангілу Гаўрылу рекі пацяклі,
па Хрыстоваму васілёчку сады зацьвілі.
Зацьвіло то ўсякае дрэва, разныя цьвяты.
Вазрадавалісь старыя людзі, малыя дзеці... — э!
А мы етаму хазяіну шчадравалі!.. — э!
З Новым годам, сьвятым Ражаством паздраўлялі!
Добры вечар, добрыя людзячкі!
З Новым Годам паздраўляем!

*(Ад Вулляны Саломеннай, 1932 г.н., в. Неглюбка, Веткаўскі раён.)*

## АБ ЯЕ АДЗЕННІ

У каждым сяле — другое... Калісь расказвалі старые людзі, і я скажу. Калі Мацер Божжая хавала Ісуса Хрыста, дык яна бегла, хадзіла па сёлах. Во, прыйдзе сюда, Яе тут надзенуць у такую адзежу, штоб Яе, знаць, не разабралі. Прыходзя. Напрымер, у Шэйку, у Шэйцы Яна ўжо ў такой адзежы. Прыходзе ў Пацёсы — такую адзежу адзяе, як у Пацёсах. Вот таму, знаць, і адзежа была няроўная. А дзе Яна якую надзявала, такая адзёжа была.

*(Ад Еўфрасінні Чварковай, 1915 г.н., пас. Ляды, Веткаўскі раён.)*

## ПА ЛЕСЬВІЧКАМ, ПА ЛЕСЬВІЧКАМ ІШЛА

У нас быў празьнік прыстольны — Ведзяньньё.

Іакім і Анна былі няплодныя. І яны былі — у васьмідзесяці гадах. Іакім быў пры цэркві. Бацюшкам. І яны ўсё журыліся, што ў іх німа насьледства. Плакалі ўсё... Гасподзь услышаў іхнія малітвы, услышаў і паслаў ангела саабшчыць, што ў іх найдзіцца младзенец. Явіўся ў цэркаў ангел і сказаў Іакіму. Іакім не паверыў: «Аткуль жа ў нас будзя младзеніц? Мы ўжо ў вялікіх лятах...». І не ўверыў. Гасподзь яму язык атабраў. Не паверыў, покуль... І яны ўжо... «Як родзіцца ў Міне дзевачка, дак тады ўжо мі Богу іе пажэртвуем». Яна радзілася, Мацяр Божжая. І тры гадочкі Ёй стала — і яны пажэртвавалі Яе Богу і павялі ў царкву.

І павялі. А царква — етай манастыр быў вялікі. І Яна — па лесьвічкам, па лесьвічкам ішла... І там вазрасла. Там расла. І вірасла. Ёй сказалі: «Дзева, выходзь замуж!» Ужэ ёй разрашалі. Яна пашла, сказала: «Я замуж не пайду. Не пайду!» І жыла Яна там, у цэркву хадзіла, малілася...

## ІКОНЫ СНЯЦЦА

Мне вот... шчэ раскажу, пабачыла я Мацяр Божжую. Езьдзіла ў Карму глядзець Івана Кармянскага. А наша ета ікона, во, Мацяр Божжая Паслушніца, тамака. Забралі іе, забралі ат нас у цэркву. І там людзі знаймаліся. І я прыехала. Тут увашла, у баковачкі. Тут ета наша ікона стаіць. Я так прастаяла, праплакала ўсё

ўрэмя. І плачыцца мне, і плачыцца мне, і плачыцца. На ўкаленках стаяла, плакала. І цьвятоў туды прынясла. Так я ўжо плакала, так мне жалка! У горы так пражыла, такая сьляпая, сладказьлёзная.

І прыехалі мі з цэрквы, толькі так — прыцемкам. Міне ў сон кінула, я лягла. Лягла і заснула.

Вішла, — заснула, — вішла, я, як ціпер гляджу, вот так вішла, як на Баршчоўку дарога. Вот так як хата. Так як шкап, і той шкап — так дарога, дарога... Па правую сторану людзі стаяць — рэдзенька, рэдзенька так... А па ету — густа стаяць так. І я так ішла, як па беразі. Ізь етыя стараны, с правые, яўляіцца Жэншчына, Мацер Божая. У белай адзёжы. І — цьвятоў мне ўручыла, цьвятоў... Вот етыя — «тарэлачкі», што красіва, і етыя — «цыбовачкі», зялёнінячкія. І лісьцячкі вот такія. Вот як ціпер гляджу. Яна мне дала етыя цьвяты ў руку. І я ўзяла й дзяржу. Яна па еты бок — етым людзям што-та сказала. Ідзець. Што-та, расказала... Пайшла. А я дзяржу цьвяты, думаю:«Яна ж прыдзя, у міне забярэ! Назад...» І пайшла, пайшла далёка. І я прашнулася... Во што я паплакала па Ёй, па іконі, во яна мне явілася. Іконы сьняцца — ета к скорбі.

*(Ад Марыі Пузікавай, 1916 г.н., в. Дубраўка, Добрушскі раён Гомельскай вобласці.)*

## ПЕНА НА ВАДЗЕ

Маракі плылі, а к ім Мацер Божая плыла па вадзе. І яны гавораць: «Чаго ты плывеш? Ты ж утонеш». А Яна ўсё раўно махае рукой: «Я не ўтану». А к ім падплыла і сказала: «Скажыце сваім жонам, штоб не сьціралі ў празьнікі, а то Я задыхаюсь этай пенай».

## ЯК КЛАДЗЕШСЯ СПАЦЬ...

Як кладзешся спаць, сабе гаворыш і дзіцёнку:

Хрэстам сьцялю,  
хрэстам лажу,  
хрэстам укрываю.  
Хрэст у галавах,  
хрэст у нагах,  
ангелы па баках.  
Прачыстая Маці,  
сьцеражы Ты міне, майго дзіцёнка  
зь вечара да поўначы,  
з поўначы да раньня,  
сьцеражы Ты міне ўвесь дзень!

Тры разы перахрышчу падушку, і тры разы нада сказаць етыя словы. Матка міне вучыла так гаварыць. Ка мне прыходзіла адна маладзіца, гавора: «Дзіцёнак не сьпіць». І я навучыла іе етым словам.

*(Ад Марыі Сержантавай, 1917 — 2002 г. Нарадзілася і жыла ў в. Барталамееўка.)*

## ІКОНА ТРАЕРУЧЫЦА

Пераплывала Яна рэчку. А беглі... а Хрыста шукалі, штоб Яго згубіць. Адной рукой трудна, адной рукой дзіцёнка дзяржаць, а другой... Так Ей Гасподзь даў трэцьцюю руку.

*(Ад Соф'і Грамыка, 1928 г.н., в. Глыбаўка, Веткаўскі раён.)*

## У БАРАЗЁНКІ ПРЫСЬВЯТАЯ МАЦЬ З ХРЫСТОМ ЛЯЖЫЦЬ

Самы першы зажын, — і ў калхозе так, — штоб бабы чыстыя, штоб яны шчыталіся не грэшныя. І перадзявалася ў чыстае... Баба была — Проська Амерыканчыха. Яна ва ўсё чыстае — сарочкі накрапляныя, навышываныя, красівенькія, ва ўсём празьнічным, чыстым надзявалася. І ідзець яна, бярэ серп, лустачку хлеба, соль, тряпачку чыстую... Ідуць на паласу. У нас прэдседацель. Дак сьперва ідуць з этай жэншчынай, гавораць: «Давайце паглядзім, ці можна жыта жаць». Яны павядуць яе, абойдуць, і яна скажа: «Нада яшчэ нядзелю падаждаць. А што ж мы, зглумім хлеб, і ўсё...» Адсюль, із райкома націскалі, штоб ужэ пахвала была ім. А яны, у нас такія былі мужчыны ёмкія, гаворацъ прэдседацелю: «Нам нада зьдзелаць так, штоб хлеб у нас быў. І вес, і качаства, і людзям жа будам даваць, дак малоць будуць. А што ж мы пераглумім, няхай яшчэ нядзелю стаіць». Сярпамі жалі... Перва жыта зажыналі. І тады прыходзяць, глядзяць: ці можна, ці няльзя. Возьмуць жэншчыну і скажуць: «На зубу не раздаўліваецца, не раскусіш — можна жаць». Прыходзяць... Штоб баразёнка была. Кажуць: «У баразёнкі Прысьвятая Мацъ з Хрыстом ляжыць». Вот яны ўсягла прыходзяць, скажуць ужэ, што «да, можна жаць». Яна бярэ серпік, хлеб кладзе, соль у баразёнку і гавора: «Госпадзі, я вам кладу хлеб з сольлю, а вы нам ураджай давайце, штоб ён не згніўся, штоб ён не паваліўся, штоб мы яго воўрэмя ўбралі, штоб даждзямі не залівала». А тады серп бярэ, атрэжа тры жменечкі... Дзелае вязьмо. Вязенца зьдзелае, яна перахрысьціцца: «Госпадзі, памажы!» І пачынае жаць. Снапок нажне і завяжэ. Другія завязываюць, а яна не з гуза. Эта ўжэ зажалі яны. Трапачку тую і хлеб астаўляюць. І назаўтра ўжо ідуць жаць. І прэдседацель: «Зажалі жыта. Заўтра можна іціць жаць». Соль на хлеб. І трапачку з мужчынскае сарочкі, ці з рукава... Казалі, мужчына — глава ўсяго. Усё тое кладуць, ці вароны з'ядзяць, ці пціцы, ці сабакі... хто з'есць... І снапок той паставяць... А мы, дзеці: «Мы пойдам Божжага хлеба... Вой, пабягім, хоць бы вароны не з'елі!» Прыбягім, украдзім тый хлеб... А пакуль прыдзем, мурашкі поўзаюць па тым хлебе. Нет! Тога мы хлеба і прынясем. У нас маленькі быў Ягорка. І абізацільна тому прынясем: «Ягорка, на!» А ён прыдзя і раскажа: «З Божжага хлеба я ўжэ з'еў, баба!» Баба: «Ая-я-яй! Хай бы пціцы з'елі».— «Ай, баба, мы ўжэ з'елі. Не кажы матцы». А трапкачом, трапкач быў, так яна сячэ ім непаслухаў.

*(Ад Варвары Грэцкай, 1925 г.н., в. Закружжа, Веткаўскі раён.)*

* * *

Во прыходжаім жаць. І гаворацъ: «Ой, нашлі, нашлі сьцежачку!» І я тую сьцежачку бачыла. І нізенька-нізенька будзе, во ў два пальчыкі, так іціць-іціць-іціць... Так відна — падрэзаныя етыя... што пянёчкі, а саломы не відна, дзе ж яна дзелася? Тады хапаем іржэўнік, тую саломку з карэньчыкам, і жнем. Рукі во баляць... Тады ўжо зажонам Мацер Божай рукі парым... Памагала. Папарыш — дык памажэ.

*(Ад Ніны Марозавай, 1925 г.н., в. Стаўбун, Веткаўскі раён.)*

З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

ВЕРА ХАЦКЕВІЧ

# А ПРЫЧЫНА — ВЯДОМАЯ

У слоўнікавым артыкуле «Медны коннік» Л. М. Малінінай (Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986) адзначана: «Па невядомай прычыне паэт не пераклаў 16 радкоў рус. тэксту (ад слоў «Евгений тут вздохнул сердечно» да слоў «И внуки нас похоронят» і 5 заўваг Пушкіна да паэмы). Прычына — чаму ў купалаўскім перакладзе няма гэтых радкоў — простая і вядомая: іх не было ў пушкінскім арыгінале, які быў афіцыйна прыняты ў 1935—1947 гг. у якіх бы выдавецтвах ні выдаваліся творы А. С. Пушкіна. Л. М. Малініна мела на ўвазе наступныя радкі:

Евгений тут вздохнул сердечно
И размечтался, как поэт:
«Жениться? Ну... зачем же нет?
Оно и тяжело, конечно,
Но что ж, он молод и здоров,
Трудиться день и ночь готов;
Он кое-как себе устроит
Приют смиренный и простой
И в нем Парашу успокоит.
Пройдет, быть может, год другой —
Местечко получу — Параше
Препоручу хозяйство наше
И воспитание ребят...
И станем жить — и так до гроба
Рука с рукой дойдём мы оба
И внуки нас похоронят...»

Справа ў тым, што «Медный Всадник» А. Пушкіна друкаваўся па гэтак званай ПК — пісарскай копіі, якую зрабіў для Пушкіна перапісчык і якая была здадзена на цэнзуру Мікалаю I і з яго заўвагамі вернутая Пушкіну назад. Заўважым, што «Медный Всадник» ва ўсіх выданнях, пачынаючы з «Современника» 1837 года, і да сучасных дзён (акрамя чатырох выданняў П. Е. Шчогалева, пра якія мы потым раскажам), не ўтрымлівала вышэй адзначаных радкоў, і вось па якой прычыне.

Уносячы стылістычныя і сэнсавыя папраўкі ў пісарскую копію (ПК), незалежна ад розных падкрэсліванняў і да т.п. Мікалая I, Пушкін пачаў перапрацоўваць развагі Яўгенія (радкі 40—62 па нумарацыі акадэмічнага выдання, радкі 136—158 па агульнай нумарацыі паэмы). Ён выправіў восем радкоў гэтага тэксту, зрабіўшы з іх сем, а потым трыма вертыкальнымі лініямі выкрасліў увесь астатні тэкст думак-мар Яўгенія пра сямейнае жыццё з Парашай — усяго 14 радкоў, ад слоў «Жениться? Ну... зачем же нет?» да слоў «И внуки нас похоронят». Так як гэтыя радкі не былі нічым замененыя, Жукоўскі іх не ўвёў у пасмяротнае выданне, апускалі іх і ўсе наступныя рэдактары «Медного Всадника», акрамя, як

мы ўжо адзначалі, 4-х выданняў, адрэдагаваных П. Е. Шчоголевым. Шчоголеў адкінуў пісарскую копію і прапанаваў крыніцай для друкаванага тэксту лічыць ЦА — цэнзурны аўтограф. «Текст «Медного Всадника» в этом автографе представляет ту дефинитивную, окончательную редакцию, в которой Пушкин хотел видеть свою повесть в печати».

«Эта именно редакция — плод свободного творчества поэта...». Прапанаваны Шчоголевым тэкст, які ўзнаўляў ЦА 1833 г., быў уключаны ў тры першыя выданні «Полного собрания сочинений Пушкина в шести томах», выдадзеныя ў 1930—1931; 1931—1933 і 1934 гг. Ва ўсіх гэтых выданнях том II, які ўтрымліваў паэмы, рэдагавалі С. М. Бондзі, Б. В. Тамашэўскі, П. Е. Шчоголеў. У Беларусі маем такое выданне: «А. С. Пушкин. Избранные сочинения. Государственное издательство Белоруссии. Сектор худож. Лит-ры. Минск, 1936 (отв. за выпуск И. С. Бурдыко)». Хаця ў архівах Я. Купалы не захавалася экземпляра, з якога паэт зрабіў пераклад «Медного Всадника», мы перакананы, што ён рабіў гэты пераклад па афіцыйных крыніцах, г.зн. па выданнях беларускіх і рускіх, якія друкаваліся па ПК.

А што датычыцца ўрыўка з 15 радкоў, якія Шчоголеў імкнуўся ўвесці ў карыстанне, то яны знайшліся больш чым праз дзесяць год пасля перакладу Купалы. У 1948 годзе выйшаў у свет V том «вялікага акадэмічнага выдання» Пушкіна, дзе ўпершыню быў устаноўлены дэфініцыйны тэкст «Медного Всадника», так як у бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве знайшлі лісток з перапрацаванымі Пушкіным радкамі «мечтаний» Яўгенія (радкі 143—155). Гэты лісток меў афіцыйны «жандармскі» нумар (чырвоным колерам) 39, што сведчыць аб знаходжанні лістка ў кабінеце Пушкіна, калі апісвалі яго спадчыну.

Пасля паступлення гэтага лістка ў Румянцаўскі музей ад сына Пушкіна Аляксандра Аляксандравіча ён надоўга згубіўся. Толькі ў 1947 годзе гэты лісток выпадкова знайшлі ў Ленінцы і далі нумар ПД 968. Тэкст лістка, які абследаваў і апісаў С. М. Бондзі, увялі ў акадэмічнае выданне з 1948 г., але Бондзі прапануе дзве рэдакцыі, бо лісток недапрацаваны, і з іх рэдактар выбірае адну, гаворачы і пра існаванне другой.

Што датычыцца 5 заўваг Пушкіна да славутай паэмы, то яны перакладзены Я. Купалам і змешчаны на апошняй старонцы вокладкі «Меднага Конніка». (Кніжка, на якой абазначаны 1938 год на знешняй вокладцы, на ўнутраной — 1937.)

Вельмі пажадана, каб вучоныя, рэдактары ставіліся да перавыданняў твораў Янкі Купалы таксама абачліва, як ставяцца рускія даследчыкі да спадчыны А. Пушкіна, бо Янка Купала і Аляксандр Пушкін — часціны славянскай і агульначалавечай культуры.

## ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ

*Кузьма КАМЕЛЬ*

# ЭПІГРАМЫ

### АЛЕСЬ ПІСАРЫК

Распісаўся ён аднак.
І пляцецца ж кош радковы.
А які з яго казак,
Скажа Рыма Казакова.

### АНАТОЛЬ СЫС

Ад самоты не раскіс.
Ён цяпер жыхар вясковы:
Злез з Пегаса Толя Сыс,
Каб узбіцца на карову.

### ПАВЕЛ МІСЬКО

Там, на слуцкае вярсце,
Ён свайго шукае шчасця.
Кошык зноў з лазы спляце.
Але што ў яго пакласці?

### ЛЕАНІД ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Крытык мой, ты мне не верны,
Чыстая душа мая.
Напісаў для А. я вершы,
А для Б. пісаў не я.

### ГЕНРЫХ ДАЛІДОВІЧ

Настаўнік,
майстра,
гаспадар...
Як для пушчанца — чым не гонар!
Распальваў так кахання жар,
Як бацька свой кавальскі горан.

### КАСТУСЬ ЖУК

Сказалі мне міліцыянты,
І як патрапілі у сук:
— Каб не Міцкевіч
наш Канстанты,
Ці быў бы ваш Канстанты Жук?

### УЛАДЗІМІР СКАРЫНКІН

Лятач,
аматар крыл найноўшых,
Бег у паэзію бягом ён.
Сябе ў паэзіі знайшоўшы,
Быў згублен недзе за Бягомлем.

## ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ І ПАДПІСЧЫКАЎ:

***на II паўгоддзе 2003 года адкрыта льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

***Ведамасны льготны індэкс — 00727;***
***падпісная цана на 6 месяцаў 2003 г. — 16 800 руб.***

*Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.*
*Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.*
*У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 284-80-12;
намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў літаратуры, грамадскага жыцця і культуры — 284-49-91.

Стыльрэдактар М. І. Гусева. Камп'ютэрная вёрстка С. І. Стараверава.

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 05.08.2003 г. Фармат 70х108$^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк. арк. 19,60. Ул.-выд арк. 18,95. Тыраж 1633 экз. Зак. 1611.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

